УДК 821.161.3-32
ББК 84(4Беи)
М25

**Маракоў, Л.**
М25 Непамяркоўныя : апавяданні / Леанід Маракоў. 2-е выд.— Мінск, 2012. — 244 с.

Непрыдуманыя, амаль дакументальныя, а шмат у чым і аўтабіяграфічныя апавяданні Леаніда Маракова, сабраныя ў кнізе «Непамяркоўныя», па часе ахопліваюць ледзь не ўсё XX стагоддзе. Напісаны яны свежым, лёгкачытэльным стылем і ў сваёй аснове маюць вострыя, дынамічныя сюжэты. Сюжэты нібы прыдуманыя самой гісторыяй, самім жыццём. Жыццём-палётам над безданню...

**УДК 821.161.3-32**
**ББК 84(4Беи)**



# НЕПАМЯРКОЎНЫЯ

# «ПОМНИ СЛУЧАЙ С ИВАНОВЫМ»

Іваноў злавіў сябе на тым, што думае па-руску. Абрусеў за якія паўгода. Памяць дзяцінства бярэ сваё, на тое яна і памяць.

Бацька пакінуў Расію на адным з караблёў французскай эскадры, які адплываў ад Севастопальскага прычала ў лістападзе дваццатага. Яшчэ першай пасля перавароту вясной, калі яму перадалі, што азвярэлае мужыччо разрабавала і спаліла пад Мсціславам іх родавы маёнтак, бацька пачаў шукаць смерці. Ён хацеў загінуць у баі, душачы гэтую чэрнь, пускаючы ў распыл дзясяткі, сотні чырвоных. Ваяваў смела, з адметным майстэрствам, набытым яшчэ ў германскую. Чырвоныя ўцякалі ад яго палка, як ад чумы. Ведалі — каб даць адпор *зводнаму*, трэба мець шматразовую перавагу. Афіцэры палка, у якім не было шараговых, нават параненыя, забіралі з сабой у магілу па некалькі будзёнаўцаў.

Толькі ўсё было марна. Парадак адольвае, паралізуе натоўп, ды шматлікая маса бярэ верх над парадкам.

Прынамсі, ці варта казаць пра парадак у той час. Краіна ляцела немаведама куды, як ашалелы ад болю падстрэлены конь. Людскія натоўпы ў падраных шэрых шынялях хвалямі перакочваліся то з захаду на ўсход і з усходу на захад, то з поўдня

на поўнач і з поўначы на поўдзень. Розныя сцягі луналі над гэтымі шэрымі масамі, але ачмурэлыя, перакрыўленыя ад злосці раты выяргалі адно і тое ж: «Смерць! Смерць! Смерць!» І калі б хто спыніўся ды прыслухаўся да гэтых воклічаў, зразумеў бы: смерць пагражае ўсім. Толькі спыніцца і задумацца было таксама смяротна небяспечна: цябе адразу раздушыў бы і змёў азвярэлы натоўп. Шмат хто не чакаў, калі іх растопчуць, — пускаў сабе кулю ў лоб. І бацькава рука неаднойчы цягнулася да пісталета. Апошні раз — на тым французскім караблі, што пакідаў Севастопаль. Гэта быў не зыход, гэта быў крах. Канец усяго: веры, надзеі, жыцця.

Тады, на параходзе, бацька не застрэліўся. Ён выняў пісталет, але ўбачыў жонку з сынам, якія падымаліся на палубу, і апусціў руку: без яго на чужой зямлі кволая, хваравітая Наталі і васьмігадовы Міця не выжывуць.

З ім і дзякуючы яму — выжылі. Як, дзе і колькі вандравалі? Па якіх турэцкіх, грэчаскіх, арабскіх берагах? Завошта і чаму? Чаму сам Бог выракся іх? Час, вядома, лечыць, аднак асобныя раны, найперш душэўныя, — і абвастрае. Ён зразумеў гэта не сёння і не ўчора, зразумеў, гледзячы на бацьку ды маці. З гадамі да іх так і не прыйшлі спакой, раўнавага і лагода. Яны, бедакі, стараліся і выгляду не падаць, што іх нешта гняце, але выходзіла кепска: выдавалі вочы. У вачах затаілася безвыходная неадольная туга. Ён не адразу зразумеў, што гэта туга па радзіме. Сам ён ужо быў еўрапейцам, якім, кажуць, не ўласціва настальгічная меланхолія. Яна ўласцівая славянам, найчасцей — усходнім. Яны найбольш схільныя катаваць сябе.



Ён назіраў гэтую невылечную хваробу ў бацькоў. Шкадаваў іх, а дапамагчы не мог. І рады быў, калі даведаўся, што бацька нешта піша, хутчэй за ўсё — успаміны. І, дарма што малады, зразумеў: для бацькі, а значыць, і для маці — гэта адхланне, душэўная палёгка.

Ну а сам ён? Напіша калісь пра сваю жыццёвую дарогу, пра сваё напачатку ціхае, утульнае, а потым неспакойнае, ваеннае дзяцінства? Наўрад. Дый ці было яно?

У школу, адразу ў трэці клас, Міця Іваноў пайшоў у Францыі. З шасці гадоў яго вучылі лаціне, нямецкай і, вядома ж, мове Напалеона. Ад усіх гэтых Monsieur Dimitri, commençons notre leçon par ce que nous avons appris hier. Et bien, continuons la conjugaison des verbes du troisiême groupe...[1] у хлапчука пад вечар галава ішла кругам.

Бацька жартаваў, кажучы маці: «І нашто яму французская? Я разумею — гадоў сто таму, калі Банапарта праводзілі да Парыжа. А цяпер?»

І ўсё ж даймалі яго мовамі недарма.

У пятнаццаць ён захапіўся Гётэ, а ў сямнаццаць быў студэнтам Берлінскага ўніверсітэта. Вучыўся лёгка, вольнага часу хапала, і зноў, як і ў Францыі, заняўся сваім любімым бегам. Праз год эмігранта заўважылі трэнеры, і на чацвёртым курсе «француз» стаў чэмпіёнам універсітэта. Неўзабаве яго цішком уключылі ў маладзёжную зборную і нават пачалі рыхтаваць (з перспектывай змены грамадзянства) да чарговай, Берлінскай алімпіяды.

[1] Мсье Зміцер, пачнём з паўтарэння ўчарашняга матэрыялу. Такім чынам, працягнем спражэнне дзеясловаў трэцяй групы... (*фр.*)

Але ішоў 1933 год. Мяняўся час, мяняліся норавы. Не абмінулі перамены і яго.

На вакацыях, перад апошнім курсам, Міцю запрасілі ў старасвецкі двухпавярховы будынак. Адтуль ён выйшаў іншым чалавекам. Пасля зноў вучоба, дакладней — навучанне. У спецшколе. Два гады па шаснаццаць, а часам і па дваццаць гадзін у дзень. Навучанне, падчас якога ён не раз мог аддаць Богу душу.

Але ўсё некалі канчаецца. Мінулі і тыя два гады. Пасля яшчэ год, пад канец якога ён апынуўся тут — у Амурдальлагу.

Легенда спрацавала ідэальна. Іваноў атрымаў свае паўтара за хуліганства, і на той час, калі падзеі пачалі свой ліхаманкавы бег, траціна тэрміну засталася ззаду. Ён разумеў, што праграма яго засылу разлічаная надоўга, але калі раней яму толькі здавалася, то цяпер быў перакананы: ведалі б *там*, што гэта такое — паўтара года ў Амурдальлагу, — пашукалі б іншы варыянт укаранення. Суткамі галадаць, не спаць, не гаварыць у сне, трываць боль, здзекі, не паказваючы, што ты можаш даць адпор, — гэтаму яго навучылі яшчэ *там*. Але спакойна назіраць, як забіваюць за акраец хлеба, як катуюць і гвалцяць, ён так і не навучыўся.

У тую ноч *шакалы* абралі сваёй ахвярай суседа Іванова па нарах, малалетку. Юнак быў худы і слабы. Раніцай яго пераводзілі ў інвалідны лагер, і гэтая ноч была для хлопца апошняй у іх бараку. Звалі гаротніка, як і яго даўней, — Міця.

Шакалаў было трое. Па адпрацаванай схеме з розных бакоў яны накінуліся на хлопца і ў лічаныя секунды звязалі. Спачатку да Міцюні палез галоўны. Звер, ён і ёсць звер: не ведае літасці. Не ведалі і шакалы...



Раніцай, калі вертухай гучна скамандаваў: «Пад’ём!», — трое ў цэнтральным сектары не падняліся. Не напалохаў іх і злосны рык: «Прыстрэлю!» Яны ўжо нікога не баяліся.

Пасля таго, як высветлілася, што ўсе трое зняволеных памерлі ад пералому шыйнай часткі хрыбетніка, у лагер прыбыла следчая брыгада энкавэдыстаў. Вінаватых не знайшлі, і чатырох западозраных — іх нары былі найбліжэй да нараў забітых, — а заадно і дзяжурнага па бараку пастанавілі расстраляць. Дзяжурным быў Іваноў.

Уночы ён не спаў і, калі задоўга да світання іх падымалі, заўважыў, што будзяць зэкаў навічкі з трэцяга ўзвода. Камандзір, мабыць, вырашыў: пара новаму кантынгенту прайсці хрышчэнне — першы ўдзел у расстрэле.

Навічкі... Бог зноў за яго. Цяпер па дарозе *туды* галоўнае — нічога не выпускаць з-пад вока: ні слоў, ні рухаў. Паратунак у руху. На шляху *туды*. *Там* будзе позна. *Там* — шанцу няма. Шанец — толькі па дарозе да месца расстрэлу.

Супакоіўся, стаў дыхаць раўней: у ланцужку асуджаных удалося стаць апошнім. У разведшколе такую сітуацыю адпрацоўвалі. І ён ужо ведаў: апошні — гэта на яго карысць, яго дадатковы шанец. І ён той шанец не ўпусціць.

Іх вялі доўга. Першагодкі знарок марудзілі. Не проста гэта — упершыню забіваць. Пляліся нага за нагу. Дзесяць салдатаў, памкамузвода і пяцёра зэкаў усё далей адыходзілі ад лагера.

Краем вока Іваноў адсочваў адлегласць між сабой і малодшым лейтэнантам. Нечакана той паклаў руку на кабуру і стаў нервова па ёй пастукваць.

Калі яны зноў апынуліся за нейкія тры крокі адзін ад аднаго, памкамузвода выняў пісталет. Іваноў глыбока ўдыхнуў, выдыхнуў і — спружыніста скочыў. Спрактыкаваныя рукі, як і ўначы, калі ён бараніў Міцю, дзейнічалі маланкава. Ад удару локцем у лоб лейтэнанцік толькі няўцямна мэкнуў. Левай рукой Іваноў прыціснуў да сябе за шыю абмяклае цела, а правай вырваў пісталет з рукі. «ТТ», — навобмацак пазнаў зброю, якой дасканала авалодаў за два гады спецшколы. «Малайчына, а з ТТ — проста Бог», — казалі пра яго. Паглядзім, на што ж Бог здатны.

Калі салдаты ачомаліся і пачалі страляць, першыя кулі прыняло на сябе цела лейтэнанта. Адступаючы з гэткім адмысловым шчытом ад канвою, Іваноў убачыў, як астатнія смяротнікі скарысталі збянтэжанасць аховы і кінуліся наўцёкі. Ды дзе там! Страляючы ў яго, канваіры не забыліся і на іх.

А Іваноў адыходзіў усё далей і далей. Нарэшце адкінуў выратавальны груз і скокнуў у кусты ядлоўцу. Трохі прабег, павярнуў налева, потым яшчэ раз крута ўзяў убок і, калі апынуўся крокаў за трыццаць справа ад стралкоў, стаіўся.

Першагодкі разгубіліся без камандзіра — за Івановым не пагналіся, а ўсчалі бязладную страляніну па кустах. Потым, пэўна, хтосьці з іх узяў ініцыятыву на сябе: стрэлы заціхлі. Двое пайшлі дабіваць параненых, астатнія рушылі да таго месца, дзе бачылі Іванова ўсяго хвілю таму. Эх, лепш бы ім не чапаць яго...



Сілуэты апошніх двух, што яшчэ не паспелі сысці са сцежкі, ён нейкі час разглядаў праз мушку пісталета. Прыцэліўся, двойчы націснуў на курок. Стралкі, быццам хто выцяў іх знячэўку адным бізуном, узмахнулі рукамі і ўпалі, як падкошаныя, у снег.

«Засталося восем», — адзначыў Іваноў.

Маладыя ахоўнікі нечым нагадалі яму будзёнаўцаў: іх ён бачыў аднойчы з-за бацькавай спіны ў час раптоўнага бою. Будзёнаўцы гэтаксама бязладна мітусіліся па полі. Толькі тады на месцы дзесяці забітых вырасталі сотні новых. Цяпер новых не відаць.

«Трэба спяшацца», — падумаў Іваноў, але не пабег, ціха звярнуў са сцежкі. «Яшчэ восем», — паўтарыў, як заклён.

Стралкі, хоць і першагодкі, неўзабаве скемілі — зэк збочыў. Пакуль яны шукалі тое месца, Іваноў ужо стаяў на адлегласці трапнага стрэлу ад апошняга ў іх ланцужку. І зноў, не спяшаючыся, прыцэліўся. У лесе было ціха, і яму падалося, што стрэл грымнуў як выбух гранаты. Салдат упаў. Куля трапіла яму ў спіну і, відаць, перабіла хрыбетнік. Ён ужо не дыхаў, а між дрэў яшчэ доўга ляцеў яго перадсмяротны крык.

Сем стралкоў пападалі на зямлю і, як іх вучылі, распаўзліся, займаючы кругавую абарону.

«Малайцы! — пахваліў Іваноў. — Цяпер можна адысці». Але не адразу скрануўся з месца — прысеў паназіраць, што будзе далей. Сцішыліся і стралкі, прыслухоўваліся: мо ўцякач зварухнецца, выдасць сябе?

Вытрымкі ў іх хапіла ненадоўга. Неўзабаве салдаты асмялелі, пачалі перагаворвацца. Іваноў жа па-ранейшаму не высоўваўся, чакаў, пакуль падставяцца яны. Турбавала думка: ці далёка адышлі ад лагера? Ці чуваць там стрэлы? Калі чуваць, дык трэба ўцякаць далей, калі не — можна крыху адпачыць, перавесці дух.

Схамянуўся, убачыўшы, што салдат, які вылучаўся сярод іншых ростам і які перш трымаўся за лейтэнантам, а потым — у сярэдзіне групы і таму застаўся жывы, нібы кідае яму выклік: раз за разам падымае галаву, прыкладае да вачэй бінокль, выстаўляе напаказ сваю смеласць, сваю перавагу над усімі — перавагу новага камандзіра. «Ох, дарма, хлопча!» — не сказаў, а падумаў — і прыцэліўся. Куля прашыла салдаціку горла, і ён не паспеў нават крыкнуць.

«Шэсць, — машынальна падрахаваў Іваноў. — Лічы, палова».

Стралкі зноў затаіліся.

«Трэба пашумець, — разважыў Іваноў, — бо так і праляжаць да прыходу падмогі». І, ломячы галлё, пабег праз кусты.

— Вертухаі-і-і! — разлягаўся рэхам ягоны крык.

Гэта, як і думаў, вярнула першагодкам адвагу, і яны кінуліся за ім.

«Ужо весялей, — выдыхнуў Іваноў. — Пагуляем навыперадкі, паглядзім, хто каго». І пабег — не напрасткі, а ўлукаткі, далей ад сцяжыны і ад лагера.

Стралкі былі маладыя, трэніраваныя, ды ўсё ж не чэмпіёны Берлінскага ўніверсітэта — неўзабаве адсталі. «Спякліся салдацікі, — спінай адчуў Іваноў. — Цяпер — затаіцца і чакаць».



Мінулі доўгія хвіліны, перш чым паказаліся задыханыя стралкі. Яны стаміліся ад бегу і ад страху і ўжо не пільнаваліся, не азіраліся па баках. Вёў іх адно шал пагоні, нецярплівасць паляўнічых.

Іваноў зноў прыцэліўся. Рухавы жывы ланцужок выклікаў і ў ім азарт, неадольнае жаданне перастраляць усіх. Падняў пісталет. І, калі шэры шынялёк трапіў на мушку, стрэліў. Потым яшчэ і яшчэ... Трое ад ягоных стрэлаў упалі, астатнія самі бухнуліся ў снег, а Іваноў усё ціснуў і ціснуў на курок, не заўважаючы раптоўна павіслай цішыні.

«Нервы, — схамянуўся нарэшце. — Нервы, як і памяць, — не схаваеш».

Уцямілі і стралкі, што ў яго не засталося патронаў. Падняліся, рушылі ўперад. Паляўнічыя даганялі здабычу.

Іваноў рыўком сціснуў да болю кісці рук, супакойваючы нервы. Азірнуўся. Няўжо ўсё, канец? Не! Здрадлівых дрыжыкаў у целе не адчуваў, галава працавала цвяроза. Мільганула думка: ён жа не ў полі — у лесе, вакол дрэвы. Мо яны — апошняя надзея? Мо яны памогуць, схаваюць, уратуюць?

Елкі стаялі густа, адна пры адной, гэтак, што можна, бадай, пераскочыць з дрэва на дрэва. Што ж, паспрабуем — больш і праўда нічога не застаецца.

Іваноў палез на бліжэйшую елку. Палез лёгка, як малпа. «Дарвін не памыляўся адносна паходжання чалавека. Дарвін не памыляўся», — не вельмі дарэчы ўсплыла думка. Але розум адкінуў яе. Іваноў падумаў пра іншае. Караскаючыся на елку, ён раз-пораз паўтараў, нібы суцяшаў сябе: «Трое. Іх толькі трое. Трое — гэта не васьмёра і не сямёра». І нібыта падахвочваў іх: «Няхай

падходзяць хлопцы, няхай. Ён зверху прасочыць за імі, добранька прасочыць! А ўжо яны за ім — як Бог дасць».

Стралкі не спяшаліся, ішлі павольна. Досыць, набегаліся. Надышла іх чарга. Цяпер яны адвядуць душу, пацешацца.

Абступілі елку, на якую толькі што залез уцякач. І калі адзін з іх на імгненне апынуўся спінай да Іванова, той скочыў. Інтуіцыя нешта падказала стралку, змусіла яго павярнуцца, але ўратаваць не змагла. Іваноў ударыў ручкай ТТ салдата ў скронь і кінуў яго на другога, бліжэйшага, а сам сігануў да трэцяга, ірвануў таго за вінтоўку. Беспамылкова разлічыў, што той учэпіцца ў яе мёртваю хваткай, скарыстаў гэта, змяніў цэнтр цяжару і павярнуў яго перад сабою.

І не памыліўся.

Другі стралок адапхнуў ад сябе мёртвага таварыша, згледзеў ненавісную фуфайку і імгненна ўскінуў вінтоўку. Націскаючы курок, бачыў, як фуфайку перад ім засланяе шынель. Ён разумеў, што адбываецца, аднак спыніцца не мог: палец зрабіў сваё. Куля пранізала стралка, але не закранула Іванова.

«Гэта ўжо не гены і не Дарвін, — падумаў ён. — Гэта — Бог!»

«Фініш, дружа», — прачытаў у вачах Іванова апошні жывы стралок і, нічога не цямячы ад жаху, выпусціў вінтоўку і кінуўся наўцёкі — у лес, за дрэвы, абы-куды, толькі б далей ад гэтай незразумелай, д'ябальскай істоты, якая нясе смерць.

Але ён таксама не быў чэмпіёнам Берлінскага універсітэта. Паляўнічы рабіўся здабычай.



Іваноў не адразу спыніў стралка. Не было жадання. Расхацелася. Падзейнічаў ягоны крык. У крыку, поўным жаху, прагучала нешта да болю знаёмае, роднае. Ён крыкнуў — не, жаласна прастагнаў: «Мамачка, ратуй!» Няйначай зямляк. А мог забіць земляка. Яшчэ імгненне таму. А цяпер вось не хоча. Але і адпускаць — нельга.

Ускінуў вінтоўку, прыцэліўся, гукнуў рэзка і патрабавальна:

— Стой!

Крыссё шыняля перастала матляцца, уцякач — ужо не стралок, а ўцякач — замёр, нібыта ад стрэлу.

— Гэтак будзе лепш! — сказаў Іваноў досыць гучна не то сабе, не то яму. — Ад мяне не ўцячэш. Як ад лёсу. Можа, пагамонім, га?

І пайшоў да салдата. Той пакорліва чакаў.

Вартавы на бліжэйшай да лагерных варот вышцы першы заўважыў зэка, які дробна перабіраў нагамі ўздоўж калючай агароджы. «Уцякач!» — скеміў. Ад хвалявання забыў пра першы папераджальны стрэл, прыцэліўся і націснуў на курок.

Зэк спатыкнуўся, паспрабаваў, нібыта нечым здзіўлены, азірнуцца, але не змог — асунуўся ў снег.

Калі да нерухомага ўцекача падбег начальнік аховы, вусны пераапранутага ў зэкаўскую фуфайку першагодка з дзіўным для тутэйшых мясцін імем Змітрок яшчэ варушыліся.

— Ён чамусьці назваў мяне будзёнаўцам, спытаў па-нашаму, як завуць, і адпусціў... — выдыхнуў Змітрок апошнія ў сваім жыцці словы на роднай мове.

І праз дваццаць, і праз трыццаць гадоў кожнага ахоўніка-навабранца, які прыбываў у Амурдальлаг, вялі на мясцовыя могілкі да слупка, надпіс на якім рэгулярна аднаўляўся, — каб папярэдзіць:

«ПОМНИ СЛУЧАЙ С ИВАНОВЫМ».

## АПОШНІЯ ВАКАЦЫІ ВАЛЕРЫЯ МАРАКОВА

Была позняя раніца. У скляпку Авербаха сядзелі двое — Валеры і Тодар. Выпілі па куфлю піва і ўзялі яшчэ. У галовах пасля ўчарашняга ўсенароднага свята — угодкаў Кастрычніцкай рэвалюцыі — пачало святлець, і Тодар спытаўся:

— Ты хоць памятаеш, што нагаварыў учора пры адыходзе?

Валеры, само сабою, памятаў, але Тодарава змоўніцкая насцярожанасць рассмяшыла, захацелася пагуляць з агнём, прыкінуцца і сапраўды ачмурэлым.

— Ну-у... — пачаў няпэўна. — Не надта... А што?

— І ён яшчэ пытаецца! — Тодар абурана развёў рукамі. — Такімі рэчамі, брат, не жартуюць. За такія слоўцы могуць і...

— Ціха, не шумі, — перапыніў сябра Валеры, убачыўшы, што таму не да жартаў. — І не глядзі на мяне як на вар'ята. Памятаю я ўсё! І разумею, што пра *гэта* — лепш маўчаць. Але ж нехта мусіць ведаць! Нехта павінен ведаць усё! Таму і кажу. Табе, не каму іншаму. Помніш Мікалая? Вайскоўца, камандзіра, таго, што ўсё пытаўся: куды паэт Уладзімір Жылка знік? Дык вось, слова сваё Мікалай стрымаў. Перад ад'ездам на поўдзень, на новае месца службы, зрабіў што абяцаў...

Валеры азірнуўся, адхінуў крысо пінжака, і Тодар убачыў маленькі, на далонь, нібы цацачны, пісталет. Паспеў заўважыць на ручцы манаграму — кшталту вялікай лацінскай літары *N*.

— Браўнінг! — ледзь варухнуў вуснамі Валеры.

У Тодара перацяло дыханне: шэпт яму падаўся крыкам. Хацеў штосьці сказаць, але не змог: нібыта ўчэпістая рука схапіла яго за горла.

«За адно неасцярожнае слова энкавэдысты людзей у турму кідаюць, а за гэта... Пашкадуеш, што й нарадзіўся», — падумаў Тодар, але ўголас нічога не сказаў.

Валеры, зірнуўшы на сябраў скамянелы твар, спрабаваў яго супакоіць:

— Не хвалюйся, апрача нас, ніхто ж не ведае.

Але Тодар усё не мог ачомацца ад пачутага і ўбачанага. Урэшце прашаптаў:

— Ты і праўда звар’яцеў! Уяўляеш, што будзе, калі яго знойдуць? Яны цябе жыўцом згнояць!

Валеры спахмурнеў. Тодар, вядома, кажа праўду. Ды толькі згаджацца з ім сёння не хацелася. Гэтая не надта цяжкая, амаль дзіцячая цацка-забаўка нешта перамяніла ў ягонай свядомасці. Цяпер ён абаронены! Ён можа пастаяць — і пастаіць! — за сябе.

— Не згнояць! — сказаў ціха, але цвёрда. І паўтарыў: — Цяпер не згнояць!

Тодар дацяміў, пра што гаворыць Валеры. І да яго прыбягалі думкі, каб неяк раздабыць зброю. Але — як прыбягалі, так і збягалі. А Валеры, ці бачыш, наважыўся. Наважыўся і дамогся. І рады, зразумела, — як жа, браўнінг у кішэні. Дзівак! Хіба гэта ўратуе? Хутчэй наадварот — паскорыць пагібель. Маладзён! Усё-ткі шэсць гадоў у такім узросце — вялікая розніца. У параўнанні з ім Валеры — зусім юнак. Вось і наўме хлапечае...



Валеры ж гэтую хвіліну-другую Тодаравага одуму-маўчання зразумеў па-свойму. Не адказвае сябра — значыць, згаджаецца з ім, разумее і падтрымлівае, мо нават проста зайздросціць. І з той жа цвёрдасцю, перакананасцю ў голасе сказаў свайму добраму і надзейнаму таварышу, амаль што брату:

— Я ўсё абдумаў і пралічыў. У Менску мяне не будзе, з’язджаю ў Бабруйск. Буду працаваць у школе настаўнікам. Можа, хоць на нейкі час энкавэдысты забудуцца, што быў такі Валеры, які калісьці ў лісце свайму сябру Васілю напісаў: «Хай скрыгочуць здраднікі Айчыны // З іх бяссільнай злосцю у вачах, // Наша мэта — дарам не загіне, // І не згаснуць сілы у грудзях!» Нібыта правільныя, як *яны* казалі, словы, а на допыты за іх тры месяцы цягалі. І запомні галоўнае: калі мяне не стане — я не знік і не атрымаў дзесяць гадоў без права перапіскі. Проста не даўся жывым. Так потым і раскажаш...

Калі б Валеры ведаў ці здагадваўся, пра што цяпер думаў Тодар, моцна пакрыўдзіўся б на сябра. Ён, вядома, маладзейшы, але ж гэта загана, якая хутка праходзіць. Дый не сляпы ён і не глухі. Бачыць, што чыніцца. Усе яны, хто азваўся ў родным слове, — ворагі. Усе! Нават дзядзька Янка. Замахнуліся і на яго. Купала так ні разу і не загаварыў пра гэта. Але затое не маўчала цётка Уладка. І ён, Валеры, добра ведае, чаму ў дзядзькі Янкі трошкі скрыўленая ніжняя губа. А што да маладосці... Мо акурат таму, што малады, ён і не будзе пакорліва чакаць, пакуль аднае цёмнае начы загуркоча чорны «варанок» пад вокнамі. Мо гэта

якраз ягоная перавага — маладосць. Яна дасць яму цвёрдасць і смеласць дзейнічаць. Абараніць сябе. Гэта, вядома, невялікае геройства. Ну, а калі б так зрабіў яшчэ хто? А калі б кожны, усе?

Валерыю быў час ісці, але, бачачы, што Тодар па-ранейшаму ўсхваляваны, не супакоіўся, ён пасядзеў яшчэ крыху. Нарэшце падняўся і, як і раней, ціха паўтарыў:

— Запомні: жывым не здаўся. Кажу гэта табе, бо, хочацца верыць, цябе не возьмуць. Вунь якія дыфірамбы пяе табе партыйны Андрэй-Салавей: «Бярыце прыклад з Тодара. Тодар перабудаваўся ўжо». Нібыта забыўся, што ты калісьці сам выйшаў з камсамола і «хадзіў пад месяцам высокім і яшчэ пад грозным ГПУ».

Паклаў на стол колькі рублёў, яшчэ раз паглядзеў на сябра, махнуў рукой і падаўся да дзвярэй.

Больш Тодар яго не бачыў. Але не забываў. Не мог забыць. Пасля той раніцы нават спаць баяўся: раптам у сне возьме і скажа што «не тое»? І ўсё часцей наведваў скляпок Авербаха. Пасля трох куфляў «цёмнага» спалася спакайней.

А Валеры, як і казаў, з'ехаў у Бабруйск. Вёў заняткі, правяраў сшыткі, увечары сёе-тое пісаў (спрабаваў сябе ў новым жанры — драматургіі), а душою, насуперак перасцярозе, іврваўся ў Менск, дзе была маці, дзе засталіся сябры і калегі. І, дачакаўшыся вакацый, адразу ж пасняшаўся на менскі цягнік.

Маладосць паварочвалася заганаю: юначая нецярплівасць брала сваё, штурхала да легкадумнасці. Дый як было не паехаць? Колькі можна баяцца? «З'езджу! У адведзіны! Туды і назад!»



Спахапіўся ўжо ў Менску, на вакзале. Спахапіўся, бо, падышоўшы да дзвярэй вагона, каб спусціцца па прыступках на перон, заўважыў чатырох у скуранках. З ходу сцяміў: энкавэдысты. Яны стаялі купкай, але, як шматгаловы змей, паглядалі ў розныя бакі. Пасажыры — пераважна падлеткі — тоўпіліся на пероне, гаманілі, шумелі, штурхаліся. Вакацыі! Але гэтую чацвёрку ніхто ні разу не зачапіў. Нават выпадкова. Быццам вакол іх была нейкая непрабіўная, зачараваная прастора. «Мёртвае поле», — нібыта ўспомніўшы нешта з Уэлса, нечакана адзначыў Валеры.

Энкавэдысты яго яшчэ не ўбачылі, і ён меў шанец вярнуцца ў вагон і паспрабаваць неяк схавацца. Але зрабіць гэта перашкодзіла логіка. Калісьці на следстве логіка яго не падвяла. Зараз таксама разважыў лагічна: «А можа, гэта і не па маю душу? Мяне ж нядаўна арыштоўвалі і, разабраўшыся, як *яны* казалі, адпусцілі. Навошта ж арыштоўваць толькі што вызваленага?»

Ды гэтым разам логіка Валерыя якраз і падвяла. І не проста падвяла — загубіла. Чацвёра ў скуранках чакалі акурат яго, прыехалі на вакзал па ягоную душу. Праз хвіліну ён зразумеў гэта і паспеў яшчэ горка пасміхнуцца з самога сябе і са сваёй разумнай чалавечай логікі. Знайшоў, няўдача, у каго шукаць паслядоўнасці. У ваўкоў адно наўме — хапаць і шкуматаць. Так і ў гэтых...

Калі Валерыя акружылі, зрабіць што-небудзь было позна. Адно пашкадаваў, што не ўзяў у Менск пісталета. Гэтак схібіць! Абяцаў жа сабе і Тодару жывым не здацца, забраць з сабой у магілу хоць аднаго энкавэдыста. А выйшла наадварот. Не ён — яго забралі. Гэта школьныя вакацыі зусім

збілі з панталыку маладога настаўніка беларускай мовы і літаратуры, класнага кіраўніка 7 «Б» класа Бабруйскай школы-інтэрната для дзяцей-сірот. Забегаўся, замітусіўся, расслабіўся з дзецьмі. Думаў: пастукаюць у дзверы, ён адчыніць і, пераканаўшыся, што прыйшлі па яго, дастане з кішэні пісталет. Меркаваў чамусьці, што акурат гэтак і будзе: па яго прыйдуць. А яны не прыйшлі і не пастукалі. Яны чакалі на вакзале, сярод дзяцей.

Валеры не ведаў, што другая чацвёрка ў Бабруйску гэтай самай пароюю стукае ў ягоныя дзверы. Не ведалі і энкавэдысты, што, калі б прыйшлі туды днём раней, напароліся б на кулі.

Не ведаў, нават і ў думках не дапускаў і сябра Валерыя, ціхі абачлівы Тодар, што роўна праз год яго як контррэвалюцыянера расстраляюць у тых самых казематах, дзе і Валерыя.

Не ведала пра расстрэл Тодара і яго жонка Яніна. І ў найстрашнейшым сне ёй не магло прысніцца, што дзіця, якога яна чакае, народзіцца ў канцлагеры.

Не ведаў і Андрэй-Салавей, што хвалебныя оды бальшавікам не ўратуюць яго ад «всевидящего ока». Арыштуюць паэта-камсамольца таксама не ўначы і не дома, як гэта звычайна рабілася, а нядзельным ранкам. Яго знойдуць разам з сябрам на рыбалцы. Стоячы па калені ў вадзе, Андрэй перадасць вуду таварышу і скажа: «Мікола, трымай! Праз гадзіну вярнуся».

Пасля гутарак у «амерыканцы»[1] з наркамам унутраных спраў БССР Наседкіным тая гадзіна

[1] Унутраная турма НКВД, названа гэтак за сваю «амерыканскую» архітэктуру — у выглядзе круглай вежы дыяметрам некалькі дзясяткаў метраў.



расцягнецца спачатку на дзесяць гадоў, потым — яшчэ на сем.

З турмы Андрэй выйдзе толькі пасля смерці чалавека, рэжыму якога ён прысвяціў сотні палымяных радкоў. Невылечна хворы, пражыве пасля вызвалення (як і ягоныя таварышы, таксама былыя лагернікі, паэты Язэп Пушча і Гірш Камянецкі, літаратурныя крытыкі Мікола Аляхновіч і Сцяпан Баркоўскі) усяго некалькі гадоў. Апошняе, што вырвецца з высушанага сухотамі цела, будзе ўсё тое ж палымянае: «Калі б Ленін быў жывы!»

Не ведаў Андрэй Александровіч, што сам ён выжыў толькі таму, што Тодар Кляшторны, Валеры Маракоў і іх сябра Васіль Каваль за год катаванняў у «амерыканцы» так і не «ўспомнілі» ягонага прозвішча.

Праз год атрымаў сваю дзясятку і Андрэеў сябра па той памятнай рыбалцы — Мікола Хведаровіч. Таксама — за памяць. У турме ён прачытае словы, надрапаныя ў дзень расстрэлу паэтам Міхасём Чаротам, і захавае іх для нашчадкаў:

Прадажных здрайцаў ліхвяры
Мяне заціснулі за краты.
Я прысягаю вам, сябры,
Мае палі,
Мае бары, —
Кажу вам — я не вінаваты!

Няма чалавека — няма праблемы. Няма паэтаў — няма памяці — няма гісторыі — няма народа! Вось гэтую гісторыю разам з народам *яны* і вынішчаюць. Калі — мячом, калі — агнём.

# ГАННА ЦІМАФЕЕЎНА

— Таварышы камсамольцы! — падняў руку, заклікаючы да асаблівай увагі, сакратар Жлобінскага гаркама камсамола — таварыш з гучным, але зусім не камсамольскім прозвішчам Сенатараў. — Задумайцеся, якое высокае слова я зараз сказаў: камсамольцы! А гэта ж — малодшыя браты камуністаў! Надзейная змена і апора партыі! Будучыня нашай краіны! І таму... — зрабіў паўзу сакратар і строга агледзеў клас. — І таму я заклікаю вас не адмоўчвацца, не сядзець з абыякавым выглядам, не ўхіляцца ад адказу на складанае, падкрэслю, пытанне. Вы абавязаны шчыра і адкрыта выказаць сваю думку. Даць ацэнку прыхвасням паўзучай контррэвалюцыі! І тым, хто разам з імі! Імем роднай Камуністычнай партыі я патрабую...

Аня сядзела за першай партаю (на ёй была сукенка ў дробны сіні гарошак — модная тады матэрыя) і не бачыла выступоўца, не бачыла нічога навокал. Здрадлівыя слёзы, як ні стрымлівала іх, пацяклі з вачэй і засцілі белы свет. Вузкія плечыкі ўздрыгвалі.

«За што?! — абуралася яна. — Што я каму благое зрабіла?»

Толькі летась Аня скончыла Менскі педагагічны тэхнікум, ці, як называў іх альма-матэр яе аднакурснік, паэт і рэдактар студэнцкага рукапіснага часопіса «Крыніца» Валодзя Гуцька, што падпісваў свае вершы псеўданімам Дудзіцкі (нарадзіўся ў



вёсцы Дудзічы), — «царскасельскі ліцэй»: амаль усе навучэнцы паходзілі з вёскі, а большасць выкладчыкаў яшчэ за царом Мікалаем вучыла моладзь. Па размеркаванні Аню паслалі сюды, у Жлобін. У школе-дзевяцігодцы вучыліся ў асноўным дзеці чыгуначнікаў. Настаўніцкі калектыў сустрэў маладую каляжанку вельмі прыязна. Ганне даручылі класнае кіраўніцтва выпускным 9 «А». На камсамольскім сходзе абралі сакратаром школьнай ячэйкі. Узрадавалі ў дадатак нечаканай, але вельмі прыемнай інфармацыяй: для настаўнікаў іх школы раз на год (вядома ж, у час адпачынку) праезд па чыгунцы ў любы пункт Савецкага Саюза — бясплатны. Значыць, збудзецца даўняя, яшчэ з маленства, Аніна мара — пабываць на поўдні, паплаваць у Чорным моры. Там, дзе чакала свайго прынца Асоль.

А зусім нядаўна адбылася падзея, пасля якой у Ані і зусім быццам крылы выраслі: яна выйшла замуж. За сваё першае каханне — аднакласніка Лёню Маракова, дарэчы, сябра Валодзі Гуцькі-Дудзіцкага.

Лёня, як і абяцаў, не забыўся на яе. Па сканчэнні ўніверсітэта, як толькі атрымаў дыплом, прыехаў да яе ў Жлобін. І не проста прыехаў, а з прапановаю рукі і сэрца. Прапанова была выказана крыху напышліва, але элегантна, шляхетна — ну, акурат «царскасельцам». Яна не стрымалася — рассмяялася, гледзячы на яго, збянтэжанага і нечакана знямелага, а потым — расплакалася. Ад шчасця. Ад бязмернай радасці, што перапоўніла ўсю яе істоту. Плакала, а душа спявала: «Божа, і навошта ж мне гэтак многа адной? Няхай усім-усім будзе таксама хораша і лёгка!»

Тут, у Жлобіне, зладзілі сціплае — вядома ж, камсамольскае — вяселле. Сціплае, але гарэзлівае і прыгожае. З песнямі, скокамі, гульнямі і жартаўліва-сімвалічнымі падарункамі.

Пад вечар у хату нечакана ўваліўся ўвесь Анін клас. Смяяліся, спявалі хорам: «Наш паровоз, вперед лети, в коммуне остановка! Иного нет у нас пути — в руках у нас винтовка!» Смяяліся, не задумваючыся над сэнсам слоў, якія спявалі. А спявалі і танцавалі да ранку. Здавалася, жыццё цудоўнае і будучыня без хмурынкі. І на табе — удар у спіну. Бяда, што звалілася невядома адкуль. Вось ён, выходзіць, які прыпынак! Вось куды дармовы паравоз ляціць!

«За што?!» — паўтарала, апусціўшы галаву і намагаючыся стрымаць слёзы.

— Прашу, таварышы камсамольцы!

Сенатараў зрабіў паўзу, чакаў, хто захоча выступіць. Не дачакаўшыся, прадоўжыў, і ў голасе загучалі пагрозлівыя ноткі:

— Калі клас такі несвядомы і не выяўляе жадання выказацца, дык пытанне, на якое мы абавязаны сёння ж даць адказ, я стаўлю наогул без абмеркавання. Дык вось: хто за тое, каб выключыць з камсамола цяпер ужо былога класнага кіраўніка 9 «А» і сакратара ячэйкі і пакуль яшчэ — удакладняю, пакуль! — настаўніцу геаграфіі Ганну Цімафееўну Рабкову, прашу падняць рукі!

Выпускнікі па-ранейшаму моўчкі таропіліся вачыма ў парты.

— Што такое? — Сенатараў павысіў голас, зрываючыся на крык. — Як гэта разумець? Хіба я кепска растлумачыў? Для тых, да каго не дайшло, — нагадваю. Ваша настаўніца Ганна Цімафееўна Рабкова стала жонкаю Леаніда Змітравіча Маракова. Можа быць, не падумаўшы, пагарачыўшыся? Не, больш чым усвядомлена! Яна ўсё ведала і цудоўна разумела, з кім звязвае свой лёс. Хто такі Леанід Маракоў? Недачулі? Паўтараю! Ягоны бацька летась быў асуджаны як адзін з кіраўнікоў антысавецкай рэлігійнай арганізацыі. А старэйшы брат Валеры — заўзяты нацыяналіст, які прабраўся нават у Саюз пісьменнікаў, — арыштаваны месяц таму.



І зноў ніякай рэакцыі. Рукі выпускнікоў быццам прыліплі да партаў.

«Не здаюцца, — падумала Аня. — Шкадуюць мяне. А сябе пад удар падстаўляюць».

Цярпенне ў Сенатарава лопнула.

— Змова! Усю школу заразай запаланіла! — ужо лямантаваў ён. — Давядзецца на бліжэйшым бюро гаркама паставіць пытанне пра камсамольскую арганізацыю школы ў цэлым! Разабрацца, што тут у вас адбываецца.

«Не, так няможна! — спалохалася не за сябе — за вучняў Аня. — Калі не прагаласуюць — возьмуцца і за іх. Могуць і атэстаты не выдаць. Як не выдалі Косцю Вашыне і Сяргею Астрэйку». Косцю (сябра разгромленага літаб'яднання «Узвышша», які меў у друку ўжо даволі вядомае імя — Лукаш Калюга) падставіў плюгавенькі, але галасісты і «нядрэмны» Айзік Кучар: на супольным сходзе навучэнцаў назваў яго ўзвышэнскім лазутчыкам і пачынаючым нацдэмам. На Астрэйку ж данёс іншы, ананімны сексот. Сяргей быў вялікі аматар пажартаваць. Абрэвіятуру СВБ на значку *Саюза ваяўнічых бязбожнікаў* ён расчытаў як *Саюз вызвалення Беларусі*. Дорага каштаваў Сяргею гэты жарцік: выкінулі з тэхнікума разам з Косцем. Не выдалі ім дыпломаў,

хоць абодва ў газетах і часопісах друкаваліся. Між іншым, неўзабаве друкаваць іх перасталі. «А за Гулівера ж, як называлі хлопцы Косцю (рост болей за два метры!), сам Кузьма Чорны заступаўся. На супольнай фатаграфіі выпускнікоў Сяргей і Косця ёсць, а дыпломаў у іх — няма! Няма дыпломаў! А няма дакумента — няма чалавека. Так і з маімі выпускнікамі можа здарыцца. Што ж рабіць? Што?»

Нечакана Аня ўспомніла свайго настаўніка матэматыкі Аляксандра Пятровіча Круталевіча. Вясёлы, няўрымслівы быў чалавек! Вучыў іх, будучых настаўнікаў, не толькі іксам і ігрэкам, але і таму-сяму іншаму. Не здавацца, пераадольваць цяжкасці, шукаць выйсце з усякіх, нават самых тупіковых сітуацый. «Выйсце ёсць заўсёды!» — казаў Аляксандр Пятровіч.

Таксама нечакана, сама сабою, прыйшла думка: «Трэба выйсці, не бянтэжыць вучняў. Пры мне яны нізавошта не прагаласуюць. Дарагія хлопчыкі і дзяўчынкі, амаль што мае равеснікі. Бедныя, як вам цяжка! Так, я павінна выйсці! Зараз жа выйсці!»

Аня ўстала і пайшла да дзвярэй.

Сакратар гаркама праводзіў яе з адкрытым ротам і ўзнятымі ўгору брывамі.

Спахапіўся, заверашчаў:

— Вось бачыце! — зларадна ўхмыльнуўся і паказаў пальцам на зачыненыя Аняй дзверы. — На злодзеі шапка гарыць! Цяпер да вас дайшло, каго шкадавалі, каго не рашаліся выключыць? Так-так, яна не вартая таго, каб з-за яе ставіць пад пагрозу сваю будучыню. Спадзяюся, вы ўцямілі гэта? Тады вернемся да пастаўленага пытання...



Але яшчэ амаль дзве гадзіны спатрэбіліся Сенатараву, каб запалохаць вучняў і прымусіць прагаласаваць за выключэнне іх настаўніцы з камсамола. Ён ужо не мог адступіць, не дабіўшыся свайго. Страх падганяў сакратара, прымушаў шукаць усё новыя довады і аргументы, каб зламаць вучняў. Ён ажно спацеў ад раптоўнай думкі: што будзе, калі не ўдасца пераканаць? Вынікі могуць быць жахлівыя. Можа і ён загрымець следам за дзеверам жаўтаротай настаўніцы!

Гэты жах і падганяў яго, змушаў не здавацца. Ён змагаўся ўжо не за перамогу рэвалюцыйнай справядлівасці, а за самога сябе, за сваю ўласную будучыню. Біўся аддана і заўзята. Успомніў і пра фашысцкую пагрозу, і пра імперыялістычнае акружэнне, і пра абвастрэнне класавай барацьбы, і пра тое, што кадры вызначаюць усё і, такім чынам, яны павінны быць крыштальна чыстымі.

Урэшце галодныя, стомленыя і зняможаныя напышлівымі і грознымі словамі вучні здаліся — прагаласавалі за выключэнне.

— Вось і малайцы! — з палёгкаю ўздыхнуў сакратар гаркама. — Даўно б так! Сапраўднымі камсамольцамі сябе паказалі!

«Ды ўжо ж, паказалі!» — спустошана думаў Віталік, улюбёнец Ганны Цімафееўны і першы вучань у класе, які сядзеў за другой партаю. Гэта ён задумаў і наладзіў «культпаход» на вяселле класнай. «Камсамольцамі, але — не людзьмі!»

Аня выскачыла са школы і памчалася дахаты. Зусім не як настаўніца, а як незаслужана, бязвінна пакрыўджаная школьніца: бегла не азіраючыся, нібы за ёю гналіся. Суцешыць яе ў маленькай

кватэры-падменцы не было каму. Лёня паехаў у Менск — злягла маці: не прайшоў без следу арышт мужа і старэйшага сына. Зачыніўшы за сабою дзверы, Аня дала волю слязам — плакала няўцешна, нібыта і сапраўды была маленькай, усімі пакінутай школьніцай.

Пазней, бліжэй да ночы, яна ўсё ж прымусіла сябе супакоіцца і ўзялася за план заўтрашняга ўрока. «Работа — найлепшы лекар», — успомніла параду добрага і мудрага Антона Юр'евіча Лёсіка, які чытаў у тэхнікуме курс літаратуры. З удзячнасцю падумала: настаўнік назаўсёды застаецца са сваімі вучнямі. Калі ён сапраўдны настаўнік — як Антон Юр'евіч. Добра было б стаць такой настаўніцай і ёй. Значыць, трэба працаваць. Працаваць, вучыць дзяцей нягледзячы ні на што!

Новая, дадатковая, спушчаная зверху толькі на мінулым тыдні тэма была неабсяжнай, адказнай і вымагала процьмы часу: эканамічна-палітычнае становішча Злучаных Штатаў Амерыкі. «Ворагаў трэба ведаць!» — абгрунтавалі сваю нечаканую пастанову таварышы. «Ворагаў трэба ведаць! Ворагаў трэба ведаць!» — звінела ў галаве. Але паступова Аня захапілася, ачулася ад непамернага гора і роспачы, што абрынуліся на яе. Забылася, заблукала ў джэклонданаўскай суровай Алясцы, у фантастычных нью-ёркскіх хмарачосах, у бяскрайнім каўбойскім Тэхасе. Ужо далёка за поўнач перачытала «Дары вешчуноў» О'Генры і зусім супакоілася: «Свет не канчаецца на Жлобінскім гаркаме камсамола, — сказала ледзь не ўголас. — Дый амерыканцы ніякія не ворагі нам і ўсяму прагрэсіўнаму чалавецтву».

Але раніцай, збіраючыся ў школу і ўспомніўшы, што яна ўжо былы класны кіраўнік, былы сакратар



ячэйкі, а неўзабаве стане і былой настаўніцай з воўчым білетам, Аня зноў засмуцілася. Як і ўчора ў класе, яе ахапілі роспач і страх. Няўжо яна не зможа працаваць? Няўжо ёй забароняць вучыць дзяцей? Як тады жыць? Што будзе з мужам? Лёню таксама звольняць з працы і арыштуюць, як арыштавалі бацьку і брата? Пытанні неадчэпна лезлі ў галаву. Аня не знаходзіла сабе месца. Дапамог Лёня. Падумаўшы пра яго, яна засаромелася сваёй слабасці, узяла сябе ў рукі, хуценька сабралася і выправілася на работу.

Да канца сваіх дзён Аня не забудзе таго сонечнага майскага ранку. Не забудзе, як ішла ў школу — з адчуваннем, быццам ідзе на свой першы ўрок. Не забудзе, як уваходзіла ў клас і як стаяла каля дошкі, быццам няшчасная, бездапаможная практыкантка. Не забудзе, як палалі ў яе шчокі, як крышылася і выслізгвала з пальцаў крэйда, прападаў голас, блыталіся думкі. О, як ёй хацелася скокнуць у адчыненае за два крокі ад яе акно!

Напісаны звечара план ляжаў перад Аняй, але яна нібы забылася пра яго. Не стала нікога і выклікаць, каб замацаваць пройдзенае на мінулым уроку. Адразу распачала новую тэму. Расказвала грунтоўна, нават, здавалася, захоплена, а погляд быў скіраваны туды, у выратавальнае акно.

Вучні слухалі моўчкі, але наўрад ці чулі, што яна казала. Яны сядзелі, як напярэдадні на сходзе — апусціўшы галовы. Ім было сорамна. Страшэнна сорамна. Узняць вочы на Ганну Цімафееўну ніхто з іх не адважыўся.

У тую пятніцу, 29 мая 1935 года, як і па ўсёй краіне, у Жлобінскай чыгуначнай школе канчаўся

навучальны год. Неўзабаве для выпускнікоў прагучыць апошні званок. Але гэта не радавала. Яму, 9 «А», не хапіла двух дзён, каб скончыць школу без агіднага, пакутлівага пачуцця ўласнай здрады.

Аня абвяла вачыма клас. Ёй было шкада гэтых дзяўчат і юнакоў. Ёй хацелася думаць, што зробленае імі — не здрада, а слабасць. І сама ж яна — слабая істота: вабіла акно. Лёгка здацца, зламацца, уцячы. Цяжэй — змагацца...

— Трэба змагацца! — не заўважыла, як прамовіла не сама сабе — галасна.

— І будзем змагацца! — падтрымаў яе Віталік.

Адзін з трыццаці шасці выпускнікоў 9 «А».

Адзін.

## «ЛАСТАЎКА»

Платон апрытомнеў у камеры. Балела, ішла кругам галава. Паспрабаваў устаць, але не змог. Боль маланкай пранізаў цела. Застагнаў, апусціў галаву на падлогу. Глядзеў на шэрую голую сцяну, намагаўся ўспомніць, што ж адбылося за гэтыя апошнія некалькі гадзін.

...Ён зноў у сваёй дваццаць чацвёртай. Ляжыць пластом. Відаць, яго білі і пасля таго, як страціў прытомнасць. Следчыя рызыкавалі: верхавод контррэвалюцыянераў мог захлынуцца сваёй жа крывёю. «Напэўна, і захлынаўся», — Платон перавёў позірк на руку. Набрынялы крывёю абшлаг кашулі яшчэ не высах, і Платон скалануўся: учуў саладжавы пах, якога так баяўся ў дзяцінстве — ад убачанай кроплі крыві яму рабілася блага. А зараз ад яе паху апрытомнеў, ажыў. Ажыў ад болю, які запаланіў усё яго змардаванае, скалечанае цела.

Платон ляжаў і глядзеў на абрыдлыя шэра-брудныя сцены. Там, за сценамі, — воля. Сонца і прастора. А тут — смурод і шэрая імгла. А галоўнае — яго недабітая, непагашаная памяць, якая да таго ж мае зусім непатрэбную ўласцівасць самаўзнаўлення. Яна не проста не дае забыцца, зноў і зноў вяртае яго ў пекла мінулага, адкуль ён, здавалася, нарэшце выйшаў. Яна куды больш падступная. Памяць дзеіць насуперак яго жаданню. Ён не хоча і ўсё-ткі намагаецца ўспомніць, што

было з ім учора, а можа — усё яшчэ сёння, у гэтую доўгую восеньскую ноч.

Следчыя стараліся. Пэўна, падціскалі тэрміны. Магчыма, і нервы здалі. Падследны ўпарта маўчаў, і ім замігцеў рэальны шанец самім трапіць у камеры.

Стажор пераміргнуўся са сваім настаўнікам Быхоўскім і ззаду ўдарыў Платона нагой па пячонцы. Падследны ўтрымаўся, але адчуванне, што з яго цела вырвалі кавалак мяса, заставалася да гэтай пары. Падбадзёраны пахвалою Быхоўскага: «Мастак!», стажор дадаў Платону размашыстым справа. Патрапіў куды мецiў: нос у Платона захрабусцеў. Пераноссе было перабіта, і ненавісны з маленства пах крыві затуманіў свядомасць.

Тады ён знепрытомнеў першы раз.

Дзесьці ўжо не тут Платон усвядоміў, як добра яму і спакойна. Але адысці ў немату яму не далі. Вядро з вадою стаяла ля акна нездарма. Забіваць прыгаворанага не збіраліся. Тым больш цяпер. Яны ажывілі Платона, адцягнулі ў кут і прыхінулі да сцяны.

— Давай драматурга. Няхай хоць раз сам возьме ўдзел у канцэрце. Гледачом будзе гэты герой, а мы — сціпла, артыстамі. — І следчы са стажорам зарагаталі.

Калі прывялі *першага Народнага*, Платон яго адразу не пазнаў. Не жывы класік, а жывы нябожчык. На збітым да чарнаты твары блішчэлі чырвоныя ад лопнутых сасудаў вочы. Некалі прыгожая цёмна-русая чупрына ператварылася ў шэрую капу саломы. Народны глядзеў і не бачыў Платона. Ці бачыў ён наогул што-небудзь?



Здаецца, яго найбольш займала адчыненае акно за спінай следчага. Платон зразумеў, пра што думае драматург.

Быхоўскі нібы прачытаў думкі старога і пачаў па-сяброўску.

— Сядай, Іосіфавіч, не бянтэжся.

Стажор памкнуўся быў зноў паказаць сябе, дапамагчы дзеду сесці — паўтарыць свой ужо адпрацаваны, як ён лічыў, удар, але следчы позіркам спыніў яго.

«Як сабака, — падумаў Платон, — без слоў разумее. Добрую змену сабе Быхоўскі падрыхтаваў».

— Дык вось, — з той жа здзеклівай прыязнасцю працягваў следчы, — твая надзея, тваё заўтра, твой красунчык Платон красунчыкам ужо не будзе. Дый ці справядліва гэта? Паглядзі на мяне. Усё жыццё, з дня ў дзень, служу барацьбе за святую справу — і на табе: «нос картошкой, хрен гармошкой, уши торчком». Жанчыны нават кветкі баяцца ад мяне прымаць. Несправядліва неяк у нябёсах размеркавалі. Цяпер усё будзе інакш, па справядлівасці. Твайму красунчыку, думаю, дзеўкі перастануць надакучаць. Глядзіш, з галадоўлі і нас, убогіх, заўважаць... Максімыч, — звярнуўся Быхоўскі да вучня таксама па бацьку, — заснуў, ці што? Запрасі дзеда прысесці.

Стажор зразумеў, чаго ад яго хочуць, але не разлічыў: Народны праляцеў міма табурэткі і ўпаў грудзьмі на стол Быхоўскага.

— Ай, Максімыч, — дакорліва сказаў той, — малады, а з нервамі не ўсё ў парадку. — І, ссоўваючы старога на табурэтку, ужо ў адрас Платона дадаў: — А ты, маўчун, глядзі і запамінай, як праз

цябе — толькі праз цябе! — пакутуе твой бог, твой настаўнік!

Зноў вачыма Быхоўскі падаў знак стажору — той умомант вырваў табурэтку з-пад Народнага артыста і, перш чым стары грымнуўся на падлогу, паспеў ударыць яго нагой у спіну. Натхнёны поспехамі Максімыча, кінуўся да Народнага і следчы. Але раптам наткнуўся позіркам на здранцвелага ў куце Платона і, нібыта апамятаўшыся, адапхнуў раз’юшанага стажора:

— Кліч Ігната з хлопцамі. Можа, у маўчуна пасля «ластаўкі» развяжацца язык.

Праз колькі хвілін у кабінет убеглі трое.

— Гэтага, што ў куце залёг? — спытаў першы з іх — Ігнат.

Следчы адмоўна хітнуў галавой.

— Старога? — паказаў Ігнат пальцам. — Ён жа загнецца. — Але сутыкнуўся з жорсткім поглядам следчага і кіўнуў: — Зробім!

Адзін са спецыялістаў па «ластаўцы» ўдарыў старога кулаком у жывот, а другі схапіў за сівыя валасы і пацягнуў яго галаву да ног. Пачуўся хруст.

У Платонавых вачах паплыў туман. Ён яшчэ бачыў, як на цела, сагнутае падковаю, паставілі крэсла і стажор, задаволены тым, што сцяміў, куды трэба сесці, заўсміхаўся. Стары хрыпеў. Калі следчы ступіў да яго і адвёў для ўдару нагу, Платон прашаптаў:

— Звяругі!

На здзіўленне, ягоны шэпт пачулі адразу.

Паднятая нага рэзка апусцілася. Яшчэ праз імгненне следчы апынуўся каля Платона і з ходу замалаціў нагамі па ім — то правай, то левай. Лупіў і хрыпеў:



— Мала табе было, мала?! Ну дык зараз дастане! Трымай, нацдэмаўскі вырадак, трымай!

Спыніўся, толькі калі ўбачыў, што падследны на ўдары не рэагуе — нават не ўздрыгвае. Быхоўскі плюнуў, перавёў дых і са злосцю рыкнуў на спецыялістаў па «ластаўцы»:

— Чаго вылупіліся?! Ламайце гада!

І яны зламалі. Зламалі Народнаму хрыбетнік. Але Платон гэтага ўжо не бачыў.

Ён ляжаў нерухома. Ён зноў адыходзіў туды, дзе шмат святла і сонца. «Дзякуй Богу, — выдыхнуў ледзь чутна. — Канец. Цяпер — на волю, да сваіх».

Платон не ведаў, што гэта быў яшчэ не канец. Канец надыдзе апоўначы, калі яго павалакуць на расстрэл. Апошняе, што ён пачуе ў сваім трыццацічатырохгадовым жыцці, будзе бурчанне ка́та, які агрызнецца на аднаго з наглядчыкаў:

— Ты ж плёў, што ён да ночы сканае! Ну і сука!

Кінутыя ў камеру глыбокай ноччу двое з апошняй партыі арыштаваных «контррэвалюцыянераў», як і шмат хто з навічкоў, лічылі, што апынуліся тут выпадкова. Напісаны імі ў сааўтарстве верш «Першы снег» нядаўна надрукавала адна з цэнтральных газет. Гэта было прызнанне! І хлопцы не сумавалі: удзень усё высветліцца, стане на свае месцы, і іх выпусцяць. Яны падбадзёрвалі сябе анекдотамі, жартавалі. Чакалі раніцы.

Але да ночы скончыліся і анекдоты, і жарты. Душы запаланіў сум, а неўзабаве і хандра.

Нарэшце пачало віднець. Паволі перад імі на сцяне праступалі, праяўляліся напісаныя крывёю словы.

*«Людзі, даруйце, калі чым вінаваты перад вамі. Гісторыя яшчэ скажа праўду пра нас. Платон Галавач».*

Двое навічкоў не верылі сваім вачам. Вачам не верылі, а душою разумелі: нічога не высветліцца, не стане на свае месцы, іх не выпусцяць. Ніколі. «Першы снег» для іх будзе апошнім.

Ачуліся ад бразгату цяжкіх жалезных дзвярэй.

— На выхад! — скамандаваў канваір.

Двое маладых паэтаў ішлі не на допыт — у вечнасць.

Вечная памяць бязвінна загубленым.

Вечны праклён іх кáтам.

## ЗЯЛЁНЫЯ ВОЧЫ

Хрыпаты прыкмеціў яе адразу. Дагледжаныя густыя чорныя валасы нават пасля васьмі дзён пакутлівай дарогі нібыта казалі: не было ні этапу, ні вагона-цялятніка, ні выпрабавання голадам. Стому выдавалі толькі вялікія зялёныя вочы. Але і стомленыя, яны прыварожвалі, гіпнатызавалі, ненавідзелі. Улавіўшы іх позірк на сабе, ён адчуў: па спіне прабег халадок. «Паглядзела, нібы змяюка перад тым, як уджаліць. Пагарджае». У Хрыпатага заняло дух: пагарда і нянавісць у такой дозе яго толькі ўзбуджалі. «Ад пагарды даўжэйшы шлях да асалоды, але саладзейшая сама ўцеха», — працытаваў сябе. Яшчэ ён узбуджаўся, калі бачыў кроў, але гэта — потым...

Усю ноч начальнік Рашоцінскага лагпункта НКВД Краснаярскага краю трыццацівасьмігадовы Ізмаіл Віктаравіч Храпін, ці, як зняволеныя звалі яго між сабою, Хрыпаты, не мог заснуць. Толькі пад раніцу знясілены ад працяглага ўздзеяння алкаголю арганізм здаўся.

Спачатку зеленавокая была далёка, але, пачуўшы ягонае «Падыдзі!», нечакана паслухалася, пайшла да яго. Яшчэ трохі... і яна ўжо побач. Ён глядзеў на яе пышныя валасы, палаючыя вочы, зваблівыя вусны. Абняў. Удыхнуў водар маладога цела. Прашаптаў:

— Не бойся, распранайся, усё добра, усё будзе добра, усё будзе.

Зялёныя вочы прыжмурыліся, і ў гэтым позірку ён прачытаў тую ж нянавісць, што і тады, за першым разам. Не вытрымаў, выбухнуў:

— Скідай шмоцце, сце-р-р-ва, — расцягваў словы. — Зараз жа!

Яна адвяла вочы, расшпіліла верхні гузік кофты. Маўчала.

«Спрытна, — усміхнуўся Хрыпаты. — Што ні кажы, вопыт. Вопыт, як і талент, не прап'еш. Толькі талент даецца ад роду, а за вопыт трэба папацець, панапінацца». За тры гады службы тут яму нямала давялося папацець і панапінацца, перш чым навучыўся браць сваё адразу. «Вось і гэтая цыцастая зараз запрацуе...»

Яна крыху адступіла, зняла кофту. Адчула, як яго прагавітыя вочы абмацвалі праз ліфчык яе грудзі. Павярнулася спінай:

— Расшпілі.

Паволі, п'янеючы ад асалоды, Хрыпаты ступіў да зеленавокай.

Зэчка раптам размахнулася і шпурнула ў яго кофту. Кофта была ў ліпкай, як клей, слізі. Кофта абярнулася скурай! Праз сілу аддзёршы яе ад твару, ён убачыў перад сабой вялізную чорную змяю. Галава змяі-гадзюкі рухалася. Аддалялася. «Дзякуй Богу!» — выдыхнуў Хрыпаты. Але змяя стаілася, потым павярнула назад. Затрымцела джала.

— Ш-ш-ш-ш... — пачуў начлагера гук, які паралізуе ўсё жывое. Разявіў у жаху рот.

Змяя кінулася. Упілася ў яго вусны. Адарвала кавалак ніжняй губы. Адскочыла. Выплюнула. Запырсканая крывёй, прашыпела:



— Яшчэ пацалуначак? Хочаш-ш? Хо-очаш!

Прачнуўся Хрыпаты ад свайго ж крыку. Першым, як заўсёды, убачыў Фелікса.

— Ізмаіл Віктаравіч, — спытаўся служка спакойна, бы нічога не чуў, — гарбату несці?

— Прыдурак, тупіца! Кожны раз тое самае! Блага мне, ёлупень...

Начлагера не паспеў дагаварыць, як Фелікс знік за дзвярыма.

«Не жылец», — падумаў сам сабе Хрыпаты. Неахвотна ўстаў, падышоў да вядра з вадой. Зачарпнуў у далоні — вада ледзяніла. Расцёр твар. Прахрыпеў:

— У-у-х! Каб цябе разарвала!

Холад ажывіў. Ён успомніў зялёныя вочы — чалавечыя вочы, што ззялі на вялізнай змяінай галаве. Прымроіцца ж такое!

Зноў бязгучна з'явіўся Фелікс. Ён стаяў на парозе з падносам і, не міргаючы, адданым сабакам, глядзеў на гаспадара.

Хрыпаты прысеў за стол ля акна. Махнуў:

— Давай!

Слуга падляцеў, падаў сняданак: хлеб, сала, капусту, пляшку гарэлкі. Наліў.

Выпіўшы шклянку, начлагера амаль зусім ачуняў:

— Ну, што там, расказвай.

— Новенькіх размеркавалі... — пачаў быў Фелікс.

— Ды я не пра гэта, — спыніў яго Хрыпаты.

— А-а... — сумеўся Фелікс. Скеміў, чаго ад яго хочуць, дадаў: — Чарнявую на кухню ўладкаваў. Каб не застудзіла свае чары. У тайзе цяпер, самі ведаеце...

— Добра-добра, досыць, — супакоіўся начлагера. — Ідзі, дай паесці.

Калі Фелікс выйшаў, Хрыпаты наліў яшчэ, хукнуў, выпіў, паглядзеў на ежу, але заядаць не стаў: пасля такога сну нічога ў горла не лезла. Перад вачыма стаяла чарнявая. Падумаў: «Трэба праведаць», — і, кульнуўшы трэцюю шклянку, зняў з цвіка кіцель.

Нырнуўшы ў пякуча-марозную раніцу, начлагера прайшоў вахту і апынуўся перад пляцам, на якім трэніраваў некаторых «асабліва разумных». Пазаўчора адзін такі грамацей, заходнік, Язэпам звалі, тут і сканаў.

— Вырадак! — успомніўшы, мацюкнуўся Хрыпаты. — Упартае быдла трапілася. Ледзь сам праз яго не сканаў: цэлую гадзіну на гэткай халадзіне.

Праклінаючы грамацея, начлагера перайшоў пляц, абагнуў сталоўку і апынуўся ля дзвярэй на кухню. Увайшоўшы ў падсобку, натрапіў на зеленавокую: тая ля дзвярэй шаравала днішча вялізнага рондаля. Краем вока яна ўгледзела начлага, але галавы не падняла, не спыніла работы, вышкрабала прыгар. Хрыпаты не прывык заставацца незаўважаным — адфутболіў рондаль, зароў:

— Вочкі падымі! — Не ўбачыўшы вочак і не пачуўшы адказу, дадаў: — Устаць, сцерва!

Зеленавокая не выцягнулася, як належала, у струнку, а павольна паднялася і пачала паводле статуту:

— Зняволеная...

— Адставіць! — перапыніў Хрыпаты, убачыўшы звычайную рэакцыю на свае словы. — Працуй, не мітусіся. — Але нечакана ступіў да яе, схапіў за падбародак, прасіпеў: — У дзевяць прыйдзеш да мяне. Уцяміла? У дзевяць. Дзевяць нуль пяць буду лічыць спазненнем. Ты ўжо ведаеш, што спазненне ў нас — як непадпарадкаванне, як крок улева або ўправа. Ведаеш? Добра, працуй. І памятай — у дзевяць.



Учора, калі зеленавокая пачула пра смерць Язэпа, яна зразумела: знікла апошняя надзея! Надзея быць побач з мужам. Зразумела і — перастала цвяроза ўспрымаць свой стан. Баязліва-мітуслівыя зэчкі і зэкі, злыя і крыклівыя вертухаі — усё было як сон. І толькі пачуўшы хрып начлагера: «Устаць, сцерва!» — ачулася. Гэтым агідным словам яе ніхто ніколі не зневажаў. Нават у «амерыканцы». Цяпер усе яе думкі былі толькі пра Хрыпатага: яна адпомсціць. І за Язэпа, і за сябе. Яна заб’е яго! Як? Пакуль — не ведае, але заб’е. Абавязана забіць!

Вярнуўшыся са сталоўкі ў барак, у размове зэчак улавіла гуллівую заўвагу, што начлагера ўвечары цвярозы не бывае, і нечакана супакоілася: можа, менавіта гэта ёй і дапаможа. Яна не прапусціць такі шанец. Цяпер яна, здаецца, ведала, што рабіць.

Вертухай прывёў зеленавокую акурат у дзевяць. Галоўны халуй начальніка лагера Фелікс сустрэў іх у сенцах і, з’едліва ўсміхаючыся, дыхнуў на яе забойчай сумессю махоркі і самагону:

— Надта не выпінайся, мне што пакінь. Я ж... — дадаў цішэй, — не начальнік — разлічуся.

Зачыніўшы за ёю дзверы, пстрыкнуў пальцамі і, звяртаючыся да стралка, дадаў:

— А вочы якія, га? Так бы і выразаў на памяць!

«Але, — пачухаў той патыліцу, — ты і на такое здатны».

Калі зеленавокая ўвайшла, начлаг ляжаў на ложку. «Храпе, кныр», — павесялела. Хваляванне ўляглося, і ўжо амаль з усмешкай паўтарыла пачутую ў лагеры прыказку: «Любіць літара "х" храпучага, хрыпатага, падобнага да храка, начхрэна Храпіна. Нічога, — сказала сама сабе, — сёння ты храпеш апошні раз».

— Свалата! — прамармытаў у сне начлагера і заціх.

Зеленавокая прыслухалася. Крокі? Здаецца, сюды ідуць. Кінулася ў ложак, прытулілася да Хрыпатага.

І ў час. Фелікс вярнуўся праверыць, што там у гаспадара. Ці дастанецца што-кольвек на яго долю? Асцярожна прачыніўшы дзверы, убачыў ідылічны малюнак: парачка злілася ў абдымках. Прабурчэў:

— Ага, гэты пакіне. Ды няхай! Прайдуся па бараках, якую з новенькіх выцягну.

Зеленавокая раз-другі дакранулася да пляча Хрыпатага, зразумела, што той у глыбокай п'янай коме, і ў думках падзякавала Богу: першая частка задачы вырашылася сама сабой. Асцярожна, стараючыся не трывожыць, пачала сцягваць з яго гімнасцёрку.

— З жанчынай зручней мець справу распранутым, — паўтарала на той выпадак, калі ён прачнецца.

Начлагера хроп і голы. Зеленавокая выцягнула з галіфэ рэмень і звязала яму рукі. Пашукала вачыма па сценах, угледзела прызначаную ці не для сушэння бялізны вяроўку і абматала ёю нogі. Падумала, што для такога бугая гэтага будзе замала, і прывязала яго яшчэ і да ложка.



Хрыпаты застагнаў, прачнуўся. Зеленавокая дачакалася здзіўленага «Дзе-э?» — і заткнула яму рот яго ж рукавіцай. Начлагера вылупіў вочы — не разумеў, што адбываецца. З дапамогай конаўкі сцюдзёнай вады канчаткова прывяла яго да памяці.

Ён адразу дапяў — звязаны. Ірвануўся, але, быццам прыціснуты нечым цяжкім, ледзь адарваў галаву ад падушкі. Зноў тузануўся, паспрабаваў разарваць путы, замычэў.

«Сцерва! Звязала так, што ні рукою, ні нагою... Ціха, ціха, спакойна, — цверазеў Хрыпаты. — Вырвацца! Галоўнае — вырвацца, выратавацца. Задобрыць суку. Прасіць, маліць, абяцаць... Толькі б вырвацца! — Ён круціў галавой, стагнаў. — Дзе ж Фелікс? Дзе гэты прыдурак? А сцерве я лаханку выверну...»

— Слухай, нелюдзь! — пальцы зеленавокай аплялі горла Хрыпатага. — Калі мяне згвалтавалі ў «амерыканцы» і потым адчула, што нашу дзіця, я паклялася: заб'ю сябе. Заб'ю! Але абавязкова захаплю з сабой такога, як ты, вылюдка. Калі ж надарыўся шанец убачыць мужа, я загадала сабе: чакаць! Трываць і чакаць. Любой цаной дачакацца сустрэчы. Я спазнілася толькі на дзень...

Хрыпаты ўбачыў у яе руцэ нож. «Фелікс, неданосак, не прыбраў», — пранеслася ў галаве. Ён з жахам зразумеў, што задумала зеленавокая. Зноў ірвануўся, захрыпеў, з рота, з-пад рукавіцы, засачылася пена, але путы не выпускалі, скавалі намёртва.

Яна адцягнула яго адростак і паласнула нажом.

Рукавіца, як пыж са стрэльбы, вылецела з перакошанага ад болю рота, і нечалавечы крык аглушыў зеленавокую. Акрываўленымі рукамі яна схапіла Хрыпатага за горла. Не для таго, каб абарваць гэты крык ці задушыць вылюдка, — хацела бачыць ягоныя вочы.

— Цяпер, нелюдзь, ты ўжо нікому нічога не загадаеш. Жыў жывёлінай, жывёлінай і здохнеш, — прашаптала, не заўважаючы, што Хрыпаты ўжо не хрыпіць.

У калідоры пачуліся крокі, гаворка. Нехта набліжаўся. «Не спіцца шакалу, — пазнала яна голас галоўнага халуя. — І гэтая гніда квапілася на мяне: “Я — не ён, я разлічуся”». Падбегла да дзвярэй, затаілася: «Не ты — я разлічуся!» У пакой уваліўся Фелікс, і яна кінулася на яго. Нож толькі слізгануў па ўкормленай шыі: вертухай, які забег у пакой услед за Феліксам, адкінуў яе ўбок. Зеленавокая наляцела на рог стала і страціла прытомнасць.

Яна ведала, на што ішла, і зараз, калі яе вялі да лагернай ямы-магільніка, была спакойная: яна ж ідзе да яго, да свайго, як у іх кажуць, чалавека — да мужа. Нібы дзве маленькія далёкія зорачкі, свяцілі ёй уначы яго родныя вочы.

«Нас больш, чым нелюдзяў, — думала яна. — І калі за жыццё кожнага з нас заплаціць сваім жыццём адзін з вылюдкаў, то раней ці пазней застанемся толькі мы. Нас будзе мала. Мажліва, вельмі мала, але — свет стане іншым».



Следчая брыгада, накіраваная на станцыю Рашоты для высвятлення абставін забойства начальніка лагернага пункта, да месца прызначэння прыбыла толькі праз тыдзень: непагода затрымала.

Старшы следчы оперчэкісцкага аддзела сядзеў за сталом Хрыпатага, глядзеў праз акно на драцяную агароджу, пастукваў пальцамі па асабістай справе зэчкі, якая забіла начлагера, і думаў: а яна ўсё ж дамаглася свайго — засталася побач з мужам назаўсёды.

# AN OLD MAN

Ён зразумеў: такі бег яму не пад сілу. Калі б ведаў раней, што стралкі так зацята будуць гнацца, можа, і не рызыкнуў бы змагацца за волю, не наважыўся б на ўцёкі. А цяпер...

Цяпер безуважнае да ўсяго цела імкнула наперад, насустрач яркім і калючым сонечным промням. Яны разбіваліся аб галіны дрэў, ператвараліся ў зоркі. Зоркі сляпілі. Дзень абарочваўся ноччу. Ноч — пеклам. Сэрца вырывалася з грудзей, хапатлівае дыханне перацінала горла, ногі наліваліся свінцом. Ён зрабіўся зверам. Загнаным зверам, якога заставалася дабіць.

«Такі бег не для мяне», — яшчэ раз пранеслася ў галаве. Але цела, вытрымліваючы нечалавечыя нагрузкі, працягвала ляцець.

«Гэта Бог дапамагае! — падумаў уцякач, хоць і не верыў у Бога. — Бог — ёсць! Інакш чаму, ушчэнт знясілены, я бягу? Адкуль сілы?»

Уцякач пачуў аддаленыя высокія гукі. Спужаўся: што гэта? Мо здалося? Не, гэта — брэх! Па ягоным следзе пусцілі сабак! Што ж, няхай яны яго разарвуць. Гэта цяпер не найгоршы для яго варыянт. Але сабакам наўрад ці дадуць яго загрызці. Стралкі захочуць падоўжыць паляванне, пагуляць, пацешыцца. Яны не звыклі бегаць, але калі нехта іх змушаў, пасля моцна шкадаваў аб гэтым. Хлопцы доўга цешылі душу. Яны ўмелі забіваць паволі, расцягваючы асалоду.



Успомнілася, як жывымі ўтоптвалі ў зямлю трох яго таварышаў. Тады ён мусіў стаць чацвёртым: калі яны кляліся адпомсціць, іх было чацвёра. Не, пра гэта лепш не думаць.

І ён бег. Ногі — свінец, сэрца — звон, дух — агонь, вочы — зоркі, ззаду — смерць. І ён імчаў і імчаў наперад.

Успомнілася, як яго шаснаццацігадовы «хрэснік», з якога здзекаваўся лагерны завадатар-уркаган, позіркам маліў: дзядзечка, дапамажыце. І ён кінуўся на іх — завадатара і ягоных шакалаў. Можа, гэта была б апошняя для яго бітва. Але нечакана ўвайшоў камандзір і прыстрэліў бандыта, які махаў «пікай». Атрымаў сваё і заступнік: месяц гніў у камеры без нар і парашы. Парашай была ўся гэтая смуродная камера-карцар. Не атрымліваў і 300 грамаў таго, што называлі тут хлебам. І ўсё ж выжыў: хлопчык нейкім цудам перадаў яму сухары. Ён выжыў і не зрабіўся юдам — застаўся чалавекам. А чалавек заўсёды імкнецца да волі. Таму ён цяпер і бяжыць. А смерць яму не страшная — яна для яго тая ж воля.

Брэх аціхаў.

«Я не мог далёка адарвацца, — падумаў уцякач. — Можа, падводзіць слых?» Ён і раней заўважаў, што пасля таго, як баксёр — так уркі называлі начлагера — кулакамі «адагрэў» яму абмарожаныя вушы, час ад часу пераставаў чуць.

Зноў брэх! Не, ён не аглух. Сабакі — побач! Ён павінен бегчы!

І чалавек бег навыперадкі са смерцю. Ён хацеў жыць. Хацеў вырвацца на волю.

Раптам абарвалася дыханне. Што гэта? Ён падае? Ляціць уніз? Так, у бездань! Ён сарваўся ў бездань!

«Канец!» — успыхнула свядомасць, працінаючы цела, якое неслася ўразнос, і чалавек праваліўся ў небыццё.

А слых уцекача не падмануў — сабакі выбеглі да абрыву, але ўніз не скочылі. Ні скакаць, ні бегаць-даганяць яны, на яго шчасце, не прывыклі. Ды іх гэтаму і не вучылі. Навошта? Сабакі былі лагерныя, а з іхняга лагпункта яшчэ ніхто не ўцякаў. Уцякаць не было куды: навокал тайга. Цяпер, стомленыя і злыя, сабакі хацелі дамоў, у вальеру.

Свядомасць паступова вярталася да ўцекача. Ён расплюшчыў вочы. Над ім было рэдкае для тутэйшых мясцін чыстае неба. Падумаў: гэта сон, ён дома, з мамай. Прыйшоў бацька з работы. Маці збірае на стол. Бярэ на рукі самага маленькага — яго — і корміць з лыжачкі. Ён нервуецца, яму хочацца быць вялікім. Ён плача, і маці супакойвае, гладзіць па галаве. Кажа бацьку: «Гэты ў нас самы няўрымслівы».

Так, няўрымслівы. Няўрымслівы і нецярплівы. І яшчэ — здольны прымусіць цела рабіць тое, што, здавалася, яму было не пад сілу. Вось і цяпер адзін з усяго лагера адважыўся на ўцёкі. Адзін за ўсю яго гісторыю. Таму, пэўна, і ўдалося вырвацца з клеткі. Хоць не — ён яшчэ не вырваўся, ён толькі спрабуе.

Перад уцекачом зноў узнікла мама. «А можа, я ніколі і нікуды не з’язджаў?» — спытаў сябе.

Яго з новай сілай ахутаў холад, заледзянела спіна. «Не, гэта не дом, — спахапіўся, — гэта халодная чужая зямля. Зямля, якая ніколі не бывае цёплай. Чужая!»

Падцягнуў пад сябе калені, устаў. Хістала. Адчуў боль у плячы. Асцярожна дакрануўся да раны — кроў быццам запяклася, не сочыцца. Пашанцавала — здаецца, нічога не зламаў.



Бездань, у якую ён зваліўся, была глыбокім катлаванам. Калі і дзеля чаго яго выкапалі, чаму кінулі — уцякач не ведаў. Ведаў іншае: недзе далей ці бліжэй ад гэтай глыбачэзнай ямы ёсць шмат — такіх і меншых, дзе ляжаць сотні, тысячы бязвінна забітых, а крыжа над імі — ніводнага, і ніколі не будзе. Мільёны загнаных у зямлю. Мільёны, якіх больш няма.

«Цямнее. Пара выбірацца, — падумаў. — Недзе ж павінен быць выхад наверх».

Прыслухаўся. Ціха. Стралкі не пабеглі за сабакамі да абрыву, інакш спусціліся б сюды і знайшлі яго: яны — не сабакі; яны тыя, хто спускае сабак.

Калі ўцякач выбраўся з катлавана, ужо змяркалася, але неба заставалася чыстым, і ён мог арыентавацца па зорках. «Так, Бог ёсць», — зноў паўтарыў і рушыў у ноч.

Шэсць сутак чалавек прабіраўся праз тайгу. Шэсць бясконца доўгіх сутак. Ён павінен быў ужо выйсці да вёсачкі, праз якую іх некалі гналі. Тут, ля апошняй хаты, маладая красуня кінула яму клуначак з сушанымі ягадамі і хлебам. Толькі на гэтую краем вока ўбачаную дзяўчыну ўцякач цяпер і спадзяваўся. Тады, злавіўшы клуначак, пачуў словы, ад якога здрыгануўся: «Тата!» Гэта было як удар прыкладам: у дваццаць восем яго, нібы старога, назвалі татам.

Напэўна, таму і стралкі не беглі на поўную сілу. Думалі — стары спячэцца сам. А старому — дваццаць восем. І ён не спёкся, ён уцёк!

Дзе ж тая вёсачка? Няўжо збіўся з дарогі? Калі збіўся — смерць!

І ён ішоў. Ішоў упарта і тупа. Ведаў: галоўнае — не спыняцца, інакш голад і смага зробяць яго хворым, вар'ятам. А гэта таксама — смерць.

І ўцякач брыў далей. Брыў, пакуль не перастаў разумець, бачыць, адчуваць.

І тады ён упаў, закалаціўся ў істэрыцы, зарагатаў, закрычаў, завыў. Розум не вытрымаў напружання. Чалавек пераставаў быць чалавекам.

Яго разбудзіла смага і пах вады. Ці гэта яму здалося? Ён не піў два дні. Устаў і пайшоў, з усіх сіл прымушаючы сябе верыць: гэты пах, гэты подых свежасці — не насланнё. Недзе недалёка — вада, вялікая вада. Недзе недалёка — воля! Ён вырвецца з клеткі, абавязкова вырвецца.

Неўзабаве ён убачыў нешта казачнае, неверагоднае і каторы раз паўтарыў: «Бог ёсць!» Перад ім разлягаўся акіян. «Спаў за якія дзвесце крокаў ад яго і не чуў, — здзівіўся ўцякач. — Відаць, са слыхам зноў не ўсё ў парадку. Ці гэты акіян недарэмна назвалі Ціхім?»

Ён ніколі не бачыў акіяна. Хараство, якое адкрылася вачам, заварожвала. Бясконцая, зіхатлівая марская роўнядзь супакойвала, цепліла надзею. Чалавек стаяў і глядзеў, амаль не дыхаў. Быў шчаслівы — ён памрэ не ў клетцы, у той вялікай клетцы, дзе прайшло ўсё ягонае жыццё. Ён памрэ хоць і на чужой зямлі, але без дапамогі катаў — вольным чалавекам, не рабом. Ён памрэ — не рабом! Памрэ з думкай пра выратаванага хлапчука, пра маці, пра сваю любую і недасяжна далёкую Радзіму. Чаго яшчэ жадаць асуджанаму на смерць?



«Божа, што гэта? Што там удалечыні? Карабель? Міраж?»

Уцякач глядзеў на ўсе вочы, але далёкі сілуэт няўмольна расплываўся: арганізм траціў апошнія сілы, свядомасць зноў пакідала яго.

Уздоўж берага павольна і бязгучна плыў невялікі ваенны катар. Вось ужо чуваць галасы, можна згледзець людзей. Двое фатаграфавалі ўзбярэжжа. Адзін з іх замяніў стужку і зноў навёў апарат на бераг. У аб'ектыў трапіла скурчанае нерухомае цела.

Навёў рэзкасць. Нібы апёкшыся, чалавек на катары апусціў фотаапарат на грудзі і закрычаў:

— Captain! There is somebody! What? No, any frontier-guards. An old man[1].

[1] Капітан! Там нехта ёсць! Што? Не, не пагранічнікі. Нейкі стары (*англ.*).

# І ЁН ІХ ПАЗНАЎ

— Гэта апошні раз! Апошні! Больш туды ні нагой! — пераконваў сябе чалавек у споднім, укленчыўшы перад абразом. І апраўдваўся: — Хто я?! Ніхто! Усё вырашаюць яны! Яны і ёсць звяры! Я толькі выканаўца. Паслугач! Цень! Усё яны, яны... Якой бясконца доўгай была гэтая ноч! *Іх* прыводзілі і прыводзілі. Здавалася, таму не будзе канца! І я страляў! А што было рабіць?! Калі не я — знойдуцца іншыя. Але тады і мяне... Таксама — у патыліцу! А я хачу жыць! Я павінен жыць! У мяне дзеці, *іх* дзеці. Расстраляных.

У дваццаць дзявятым, калі *гэта* здарылася першы раз, ён надумаў шукаць іх дзяцей і па магчымасці ўсынаўляць. Слава, Лена, Святлана, Зіна... Яны не ведаюць, што ён — забойца. Любяць яго, чакаюць з надзеяй: «Тата заўсёды нешта смачнае з работы прынясе». Калі б дзеці ведалі, што тое смачнае прызначалася іх бацькам. «Не хвалюйцеся, перадамо», — супакойвалі праз маленькае акенца людзей, якія прыносілі перадачы. А самі сабе казалі: «Іх ужо Бог накорміць».

Гэтая кастрычніцкая ноч трыццаць сёмага яго даканала. Такога яшчэ не было! Дзевяць чалавек — дзевяць паэтаў! — і ўсіх забіць мусіў ён!

З імі, вядома ж, следчыя папрацавалі, праз «амерыканскі канвеер» прапусцілі. Гэта калі стомленага ад катавання вязняў энкавэдыста падменьваў другі, пасля трэці, чацвёрты.



І паэты падпісвалі ўсё, што ад іх патрабавалі, прызнаваліся: так, яны ворагі народа. Маўклівага народа, які праз гэтае зацятае маўчанне і выракся іх, сваіх сыноў. У гісторыі «амерыканкі» не было непадпісантаў. У першы, дзясяты або соты дзень, пры памяці ці ў бяспамяцтве, але тое, пра што тут «прасілі», вязень рана ці позна падпісваў. Тыя, што не маглі зараз ісці, трымаліся даўжэй за іншых.

Для паэтаў ужо не існавала ні рана, ні позна. Наперадзе была смерць, і кат думаў, што ўсё будзе як заўсёды. Пачнуць дамагацца справядлівасці, прасіць паратунку ў Бога, крычаць пра сваю невінаватасць. Але паэты паміралі моўчкі. І гэта было жудасна. Яны маўчалі і глядзелі. Глядзелі праз яго, як сляпыя. Нібы перад імі была пустата. Здавалася, яны пакінулі ўжо гэты свет. Няхай бы крычалі, супраціўляліся, няхай бы прасіліся, плакалі — было б лягчэй, было б як звычайна. Але яны маўчалі, і кат пачаў злавацца. Занерваваўся. Так можна і прамазаць. Прамажаш — страляй зноў, марнуй лішні патрон. А гэта разбазарванне, шкодніцтва. Могуць спісаць. А спісваюць іх такія самыя, як яны...

І тая ноч яго даканала. Здарылася тое, чаго раней з ім ніколі не было: не вытрымалі нервы.

На трэцім асуджаным у яго здрыганулася рука — паэт пасля стрэлу ўпаў, але не заціх — задыхаўся, глядзеў, ненавідзеў.

На сёмым схібіў пісталет — асечка.

Перад дзявятым кат дарэмна расціраў анямелы палец, той самы, што цісне на курок, — яго як адняло. Давялося страляць з левай.

«Дзякуй Богу, пацэліў! О, жах! Што кажу?! Значыць, дзякуй Богу, што забіў?! Божа, ратуй!» — закрыў ён рукамі твар.

Была глыбокая ноч, і чалавек у споднім не заўважыў, як ягоны шэпт паступова набраў сілу і нарэшце перайшоў ледзь не ў крык:

— Я павінен жыць! А каб жыць, я павінен забіваць! У гэтай краіне ёсць толькі два варыянты: альбо ты забіваеш, альбо забіваюць цябе! І калі ты не забіваеш фізічна, дык забіваеш сваім рабскім маўчаннем, рабскім жаданнем выжыць! Я таксама раб. Бо я забіваю ад страху быць забітым. Краіна разабойцаў-рабоў, іх ахвяр і маўклівага народа!

Спінай адчуў холад. «На мяне глядзяць»! — падказаў розум. Павярнуўся. Заспанымі вачанятамі на яго глядзела самая маленькая — Зіна.

Яна абмачылася і на мокрым не магла заснуць. Іншага месца ў дзіцячым пакоі не было, і дзяўчынка ціхенька пайшла ў татаў. Таты ноччу звычайна не бывае. Тата прыходзіць пад раніцу.

Малая ўвайшла і са здзіўленнем глядзела на яго. Не плакала. Ён не разумеў, чаму ўсыноўленыя ім дзеці расстраляных ніколі не плачуць. Сваіх дзяцей у яго не было, але ён добра памятаў, як плакаў сам. Гадоў да дзесяці, з прычыны і без прычыны, не даваў маці спакою. Гэтыя ж дзеці, нават моцна пабіўшыся або апёкшыся, ні разу не пусцілі слязы, нібы не адчувалі болю. Нейкія нежывыя...

— Божа, пра што я? Ужо ў дзецях мерцвякі мрояцца. Усё! Спішуць! Спішуць і заб’юць! Занадта многа ведаю, занадта шмат награшыў. Занадта... Хоць... — спрабаваў супакоіць сябе кат, — хоць Бог дасюль быў літасцівы да мяне. Можа, і нездарма маліўся ўвесь гэты час. Маліўся, прасіў, тлумачыў. Можа, і нездарма...

Дзяўчынка легла ў бацькаву пасцель і пад ягоны, ужо ледзь чутны шэпт заснула.



А старэйшыя, трынаццацігадовая Лена і на год маладзейшы Слава, прахапіліся ад ягонага крыку: «Я павінен забіваць!»

Прачнуліся і ўжо не маглі заснуць. Анямеўшы ад жаху, яны ляжалі і слухалі споведзь забойцы.

Як зазвычай, кат устаў каля дванаццатай, адаспаўшы сваю норму — шэсць гадзін. Ён быў задаволены. Адпачыў і цяпер зноў зможа працаваць. Галоўнае — рукі не дрыжэлі, і гэта радавала: значыць, не спішуць, стары конь яшчэ спатрэбіцца. Кат ужо не думаў пра свае начныя раскаянні, як, зрэшты, і заўсёды, калі ўдавалася добра адаспацца.

Па кватэры шнырылі дзеці, і ён, бы клапатлівы бацька, паглядзеў, што засталося з ежы. Бач ты, усё падмялі. Але такой бяды, ён прынясе. Вечарам, перад начною зменай...

Ён правільна адзначыў: дзеці шнырылі па кватэры. Не бегалі, не насіліся, а менавіта шнырылі. Асабліва старэйшыя. Шнырылі, шукаючы — чаго? Ён падумаў — як зазвычай, ежы. На гэты раз — памыліўся. Дзеці, найперш Лена і Слава, сноўдалі па кватэры зусім не ад голаду. Гэтай ноччу да іх прыйшла думка пра помсту. Хай ён толькі пойдзе! Яны адразу ж пачнуць рыхтавацца да суда і кары. Можна было б — дый трэба! — абысціся без суда, як без суда знікалі іх бацькі, але спярша трэба даведацца прозвішчы. Свае сапраўдныя прозвішчы! А потым ужо — пакараць смерцю. Пакараць — і квіта! Памілаванню ён не падлягае.

Цэлы дзень на пустцы Лена трэніравала руку — лупіла па затравелых купінах важкаю палкай. І вечарам, калі «бацька» прынёс смачненькае і зноў

пайшоў на работу, прадоўжыла практыкаванні. Налічыўшы добрую сотку ўдараў, супакоілася: годзе, а то, чаго добрага, перастараецца і знянацку заб'е адразу.

Кат вярнуўся, як і звычайна, на досвітку. Упоцемку пад'еў, распрануўся, дастаў схаваны пад ложкам абраз, выцер яго і прыставіў да сцяны. Уздыхнуўшы, укленчыў перад ім.

Гэтага моманту і чакалі Лена са Славам. Чакалі з трывогай: баяліся заснуць. Але хваляваліся дарма: сну не было ні ў адным воку — занадта моцна ўразіла іх пачутае мінулай ноччу. Укленчаны пры абразе цень стаяў перад вачыма. І яны чакалі. Не цярпелася даведацца, хто іхнія бацькі. І галоўнае — пакараць забойцу. Яны пакараюць яго, і гэта будзе іх перамога. Перамога справядлівасці. Але спачатку — прозвішчы...

— Божа! Гэта апошні раз, клянуся! — зацягнуў кат сваю малітву.

Яго мармытанне падштурхнула Лену. Рука ўзнялася, і палка апусцілася на галаву амаль нябачна і ціха.

Кат тыцнуўся тварам у падлогу, і да яго кінуўся Слава. Вяроўка за час чакання ажно ўзмакрэла ў руках і выслізгвала. Усё ж яму ўдалося звязаць чалавека ў споднім. «Чалавека? — перапытаў сябе Слава. — Не, чалавека мы не забівалі б».

Лена шапнула:

— Правер яшчэ раз, ці добра звязаны. Не дай Бог...

Слава паслухмяна зацягнуў тужэй канцы вяроўкі, сказаў з мужчынскай упэўненасцю:

— У мяне не вырвецца! — І дзелавіта спытаў: — Пачакаем, пакуль сам ачухаецца?



— Пачакаем. Хай сам...

Кат не ачуньваў. Як тыцнуўся носам у падлогу, так і ляжаў — хвіліну, другую, трэцюю. Госпадзе, як жа яго разбудзіць? Дакранацца да яго не рашаліся, а ён усё не варушыўся...

Лена паціху схадзіла на кухню, прынесла вады, рукой — не з рота — пырснула на яго. Не дапамагло. Няўжо памёр? Няўжо яна перастаралася і адразу... напавал? Шкада! Не змаглі дапытаць яго, вызнаць свае прозвішчы.

Пабедавалі, ды што рабіць — так выйшла. На ўсякі выпадак счакалі трохі яшчэ і пацягнулі яго ў двор. Праз сад давалаклі цяжкое цела да пусткі і скацілі ў нагледжаную ўдзень канаву. Засыпалі сырой ад ранішняй расы зямлёй.

Абое калаціліся — ці то ад холаду, ці то ад страху.

Вярталіся, калі ўжо віднела. Нікога не напаткалі: у доме з вокнамі на пустку жылі таксама начныя работнікі, і яны гэтай парою адсыпаліся.

Апрытомнеў кат у цемры. Пласт зямлі на ім быў невялікі, і праз тонкую прасціну, якая замінала бачыць ці паклікаць на дапамогу, можна было скупымі глыткамі цадзіць паветра.

Ён спрабаваў варушыцца, вырвацца з нечаканага палону, але моцна звязаныя рукі і ногі не давалі шанцу на ратунак. Гэта азначала — канец. Але моўчкі, як тыя паэты, ён паміраць не збіраўся. Выў, мыкаў, стагнаў. Ды неўзабаве заціх. Дранцвеючы ад жаху, адчуў подых смерці. Да яго набліжаліся людзі.

І ён іх пазнаў.

# СВАЕ І ЧУЖЫЯ

Хведар прайшоў у канец вагона, дзе яшчэ раней заўважыў узяты ў багетную рамку, нібы карціна, расклад руху: та-ак, хуткі «Дортмунд — Базель» прыбывае ў ягоны горад уначы. Добра. Начная цемра не раз ратавала яму жыццё. Павярнуўся, падумаў: «Але ноч — лепшы час і для тых, хто выходзіць на паляванне».

Хведар зайшоў у купэ і зноў апынуўся насупраць пажылой нямецкай пары. Пaглядаючы на жыццярадасных пенсіянераў, якія бясконца ўсміхаліся, ён не мог пазбыцца складанага пачуцця. Мінула толькі тры гады, як скончылася вайна, а для гэтых дваіх яе быццам і не было. Усё роўна як не былі скалечаныя іх лёсы, лёсы іх дзяцей, сваякоў, блізкіх, усёй краіны. Проста, але ахайна апранутыя, падцягнутыя, маладжавыя, радасныя, яны сядзелі, трымаліся за рукі і пяшчотна буркавалі. Шчаслівыя. Маладажоны, дый годзе.

Хведар успомніў бацькоў. Недзе ў лясах Беларусі канае-вымірае яго маленькая вёсачка. Маці стаіць ля акна, пра нешта задумалася. З бярэмам дроў шумна заходзіць у хату бацька, абстуквае ля парога ногі ад снегу.

— У-ф-ф, ну і холад, — вырываецца ў яго. — Бр-р-р!

Ён з грукатам апускае дровы ля печы, але ў агонь не кідае. Ведае: маці любіць рабіць гэта сама.



Чаму маці ў пяцьдзясят выглядала на ўсе семдзесят, а гэтым дваім — мяркуючы па абрыўках фраз — у іхнія семдзесят не дасі і пяцідзесяці? Чаму маці за ўсё сваё жыццё ніводнага разу не бачыла нават халоднага вагона-цялятніка (і дзякуй Богу!), а гэтыя жвавенькія нямецкія старыя імчаць сабе ў купэ-люксе, не заўважаючы ні велюравых крэслаў, ні храміраваных ручак, ні каштоўнай драўніны дзвярэй, ні ўзорыстых люстраў, ні мітуслівага, з дагодлівымі вачыма афіцыянта? Апынíся маці зараз тут, наўрад ці хто здолеў бы пераканаць яе, што яна не ў раі.

Афіцыянт зноў мільгануў недзе справа і чарговы раз кінуў позірк у ягоны бок. Хведар даўно адчуваў сябе няўтульна побач з парачкай, якая акуратна і павольна — па навуцы — нешта жавала, і ледзь прыкметна махнуў афіцыянту. Той, як і чакалася, скупы рух пасажыра прыкмеціў адразу:

— Jawohl, mein Herr[1].

«Пляшку гарэлкі і агурочкаў, — пранеслася ў Хведара ў галаве. — От бы здзівіўся вышкалены “бой”, а дабрадзейная парачка знямела!» Усміхнуўшыся, сказаў:

— Zwei belegte Brote und Tee mit Zitrone[2].

За акном мільгалі дагледжаныя прыгарадныя асабнякі, пастаўленыя радком усцяж дарогі. Гледзячы на іх, зноў вярнуўся думкамі ў сваю вёсачку, у той дзень. Ён абдымае маці, прыціскае да сябе, трымае аберуч — баіцца за яе. Энкавэдысты скончыліператрус і выводзяць бацьку з хаты. Бацька ідзе моўчкі. Ведае: калі скажа хоць слова на

[1] Слухаю, пане (*ням.*).

[2] Пару сэндвічаў і гарбату з лімонам (*ням.*).

развітанне, маці вырвецца з сынавых абдымкаў і кінецца на гэтых, у скуранках. І тады яны забяруць і яе. Дзеці застануцца на хлапчука Хведара. І бацька маўчыць.

Калі энкавэдысты пайшлі, маці вызвалілася з аслабелых абдымкаў сына і выбегла на вуліцу. Дзякуй Богу, «варанок» ад'ехаў даволі далёка і яны не пачулі яе праклёнаў.

Галасіць маці перастала толькі пад раніцу: звязкі не вытрымалі, голас знік, яна хрыпела. Хрыпела, шаптала, праклінала...

Хведар апрытомнеў ад ліслівага, але настойлівага голасу афіцыянта:

— Mein Herr, Ihre Brote und Tee[1].

«Дзякуй», — ледзь не сказаў Хведар на роднай мове, але спахапіўся:

— S-s-sehr schön. Alles so schnell![2]

Накінуўшы на чай, прымусіў сябе зноў усміхнуцца.

Цягнік імчаў і імчаў праз ноч, і з гэткай жа хуткасцю беглі-набягалі ўспаміны...

Бальшавікі набліжаліся да Менска. Моцна рызыкуючы, Хведар усё ж заехаў да маці. Ён мусіў развітацца. Што будзе з ім, як павернецца ягоны лёс — не ведаў і не ўяўляў. Для маці ж ён сыходзіў назаўсёды. Малодшыя дзеці румзалі. Расплакалася і чатырнаццацігадовая Вольга. Яна заставалася за старэйшую...

Пара насупраць паднялася, папрасіла ў яго прабачэння за турботы і пачала завіхацца над валізамі. Яны былі такія ж, як і гаспадары: чысценькія, бліскучыя, без адзінай драпіны.

[1] Пане, вашы сэндвічы і гарбата (*ням.*).
[2] Вялікі дзякуй. Усё так хутка! (*ням.*)



Цягнік паступова запавольваў ход. Аднекуль зверху прагучала:

— Frankfurt am Main. Nächste Station Darmstadt[1].

Суседзі выйшлі, і Хведар паспяшаўся да акна. Пару сустракаў усмешлівы малады чалавек. Сын, зразумеў Хведар, пачуўшы нават праз шкло вясёлае: «Ich dachte, die Eltern hatten mich ganz vergessen»[2].

Адзін рукаў пінжака ў маладога чалавека быў пусты і ўкладзены ў бакавую кішэню. Хведар раптам падумаў: хай бы і ў яго не было рукі, толькі б апынуцца разам з бацькам, маці, сям'ёй. Уздыхнуў: жалезная заслона не прызнае і такой платы. І Хведар адступіўся ад акна, каб не сурочыць, не перашкодзіць чужому шчасцю.

Чаму для яго няма спакою? Вайна скончылася, для ўсіх настаў мір. А ён усё ваюе. Уласна кажучы, не ён. Ваююць з ім, хочуць забіць за тое, што адмовіўся паміраць за Радзіму. Не! За Радзіму ён аддаў бы ўсё! Але — за сваю Радзіму! А за гэтую, якая забіла ягонага бацьку? Забіла мільёны сваіх сыноў? За такую радзіму ён не хацеў ваяваць і не будзе! Ён хоча хадзіць па роднай зямлі свабодным чалавекам, а не поўзаць па ёй рабом. І ён змагаецца за Радзіму! За сваю Радзіму. Свабодную, незалежную, вольную! А змагацца ён умее толькі пяром. І, пэўна ж, някепска ўмее, калі на яго ідзе паляванне. Некалькі апошніх месяцаў адчуваў за сабою хваста: «таварышы» знайшлі, каго шукалі.

[1] Франкфурт-на-Майне. Наступная станцыя — Дармштат (*ням.*).
[2] Думаў, што бацькі зусім на мяне забыліся (*ням.*).

Набліжалася станцыя. Хведар узяў саквояж і накіраваўся ў хвост цягніка. Са свайго трэцяга вагона ён павінен прайсці да апошняга, а потым назад. І галоўнае — запомніць твары тых, хто сустрэнецца па дарозе.

Вяртаючыся, у чацвёртым вагоне Хведар убачыў таго, каго шукаў, — амаль сутыкнуўся з ім. Хведар не ведаў яго ў твар, але адчуў: гэта — «свой», таварыш. Свой, які горшы за чужых, горшы за самых заклятых ворагаў. «Па мяне прыйшла смерць», — падумаў пабляднелы, аднак здолеў усміхнуцца. Не разгубіўся і таварыш:

— Kommen Sie durch... Bitte[1], — бадзёра сказаў на добрай нямецкай мове.

Размінуліся, захоўваючы на тварах усмешкі. Хведар — ад нервовага напружання: «Прафесіянал, цяжка будзе адчапіцца». Таварыш — і сапраўды прыкрываючы ўсмешкаю разгубленасць ад нечаканага сюрпрызу: «Во гад, яшчэ і праверкі наладжвае!»

Хведар пайшоў у свой вагон, а таварыш у нерашучасці затрымаўся. Ён мусіў зблізіцца з «аб'ектам» усутыч, каб не згубіць яго ў вакзальнай мітусні. Цяпер карты зблытаныя — застаецца прасачыць, як ён выйдзе з вагона, а далей дзеяць па абставінах. Не самы надзейны варыянт, але гэта лепш, чым яшчэ раз сутыкнуцца з *рэдактарам* і ўжо напэўна засвяціцца. Ён падышоў да акна і прыліп тварам да шыбы, — цягнік прытарможваў.

Хведар ведаў, што яго будуць сустракаць на выхадзе з вакзала, але як туды прайсці, абмінуўшы чацвёрты вагон? Раптам спахапіўся: «Плашч! Гэтай

[1] Праходзьце... Калі ласка... (*ням.*)



пранізлівай лістападаўскай халадэчаю такім лёгка апранутым сядаў у цягнік я адзін, — мільганула думка. — Яны будуць выглядаць найперш мой плашч». Абмацаў кішэні: пуста. Каралеўскім жэстам кінуў плашч, які служыў яму яшчэ і талісманам (таму і не хацеў расставацца з ім нават глыбокай восенню), на крэсла. Успомніўшы афіцыянта і такога ж ліпуча-ветлівага праваднiка: «Ja, ja, Sie haben ganz Recht»[1], схаваў небяспечную цяпер адзежыну пад сядзенне. Выняў з саквояжа паперы і кінуў туды, услед за плашчом, і яго. «Немцы могуць дагнаць: "Mein Herr, Sie haben etwas vergessen"[2]. У гэтых педантаў нават калі што і захочаш забыцца — не забудзешся. Не дадуць! Во краіна! Добрую рэч проста так пакінуць нельга».

У тамбуры Хведар апынуўся побач з маладжавай, як і нядаўняя суседка, бабуляй. Ветліва падставіў руку і дапамог ёй выйсці з вагона. Некалькі кампліментаў — і Хведар атрымаў згоду правесці яе да таксі. Пакуль ён з бабуляй, да яго, бадай што, не палезуць.

«Прафесіянал» не звярнуў увагі на старую даму з сынам: яму патрэбен быў «плашч». А той не з'яўляўся.

Неўзабаве паўз чацвёрты вагон прайшлі апошнія пасажыры, а «плашча» ўсё не было. Начны паляўнічы захваляваўся, сарваўся і пабег. Не было *рэдактара* і ў шостым купэ трэцяга вагона. Звыкла абшнарыў патаемныя закуткі. Пад адным з крэслаў знайшоў плашч і саквояж.

[1] Так, так, ваша праўда (*ням.*).
[2] Пане, вы забыліся (*ням.*).

«От сука, перахітрыў! — прасіпеў, адкрыўшы саквояж. — Але проста так не знікнеш: нашы падстрахаваліся — сустракаюць і на вакзале. Там маскарад не пройдзе, яны ведаюць пісаку ў твар».

Падстрахоўшчыкі — іх было двое — і сапраўды ўгледзелі Хведара на выхадзе з вакзала. І ён улавіў у масе сустрэчных іх учэпістыя позіркі. Пасадзіўшы бабулю ў таксі, нахіліўся да яе, каб пажадаць: «Gute Fahrt»[1], і ў бакавым люстэрку аўтамабіля ўбачыў тое, што мусіў убачыць: яго вядуць. Непажаданую ўвагу ён чуў за вярсту. Ні сабе, ні каму іншаму ён бы не растлумачыў, якім такім шостым пачуццём валодаў, што амаль са стопрацэнтнай дакладнасцю мог вызначыць наяўнасць ці адсутнасць шпегаў.

Вось і цяпер. Убачыў двух у люстэрку і зразумеў: «свае»! Як і на Радзіме, «свае» тут дзяліліся на два лагеры: на тых, што забіваюць, і тых, што ўцякаюць ад забойцаў.

Хведар быў з другіх, і ён пабег. На Радзіме ўцякаць не было куды. Тут, дзякуй Богу, не Радзіма.

Толік, чакаючы Хведара, ужо некалькі хвілін назіраў за спектаклем з бабуляй. Прыкмеціў ён і двух таварышаў. Прачыніўшы правыя дзверцы «мерседэса», Толік зняў пісталет з засцерагальніка, але ўсё ніяк не мог вырашыць: пільнавацца да канца Хведаравага наказу ці рызыкнуць і дзеяць згодна з абставінамі? Не, рэдактар загадаў заставацца ў машыне, што б ні здарылася. І ён застанецца. У любым выпадку будзе чакаць, пакуль Хведар не падыдзе сам. І вось тады... Тады ў яго і з'явіцца шанец сцвердзіць, што з лагера

[1] Добрай дарогі (*ням.*).



«для перамешчаных асобаў»[1] шэф забраў яго недарэмна.

Хведар падбег да машыны, якая нецярпліва кранулася з месца, і нырнуў у адчыненыя дзверцы. Як толькі апынуўся побач з Толікам, страх, што халадзіў грудзі, адступіў: ён — не адзін, побач сябра, ужо лягчэй.

— Давай, газуй! Трэба адарвацца!

Болей нічога не паспеў сказаць — заняло дух: Толік ледзь не ўвагнаў у дно педаль газу і прымусіў «мерседэс» павярнуцца амаль на месцы. Праз хвіліну машына вылецела на дарогу. Ды так рэзка, што рэдактара зноў прыціснула да сядзення.

Яны ўжо былі даволі далёка ад вакзала, калі Хведар азірнуўся і ўбачыў, як да тых дваіх падбег паліцэйскі. Ён жэстыкуляваў, паказваў на «мерседэс» і нешта крычаў.

«Не трэба было гэтак рэзка зрывацца з месца», — уздыхнуў Толік.

Праз хвіліну тыя трое ўжо беглі да «фольксвагена», прыпаркаванага воддаль ад стаянкі таксі.

— Толік, паварочвай у першы ж завулак! Хоць у гэты, злева! — загадаў Хведар.

— Налева нельга — аднабаковы рух і не ў наш бок. Налева пойдзем за горадам. Тут недалёка... — пракрычаў Толік.

«Недалёка — гэта праўда,— падумаў Хведар. — Але тут і не разгонішся. Зрэшты, на такой вулачцы не надта рвануць і сябрукі родныя з паліцэйскім».

[1] Ад англ. Displaced Person — выгнаннік, уцякач, эмігрант.

Але ён памыліўся. Да таго часу, як яны з Толікам перасеклі гарадскую мяжу і пачалі забіраць улева, «фольксваген» амаль дагнаў іх.

За горадам паліцэйскі таварышам стаў непатрэбны. Ім быў патрэбны *рэдактар*, пажадана — са спісамі і адрасамі супрацоўнікаў і аўтараў антысавецкага часопіса, што стаў ім косткаю ў горле. І адзін з таварышаў стрэліў паліцэйскаму ў галаву.

Хведар не бачыў гэтага, але пачуў. Зразумеў — стрэл не апошні, і крыкнуў:

— Гані!

Стрэлка спідометра легла на абмежавальнік шкалы і застыла. «Фольксваген», здаецца, трохі адстаў.

Толік разумеў, што на такой хуткасці ў непраглядней цемры яму не ўпісацца ні ў адзін паварот, але вецер, які ўварваўся ў кабіну, пасля таго як куля другога стрэлу разбіла задняе шкло, прымушаў яго па-ранейшаму ціснуць на педаль.

Мінуў нейкі час, і фары «фольксвагена» перасталі сляпіць Толіка праз бакавыя люстэркі: пагоня адстала. Неўзабаве дарога, па якой яны мчаліся, выведзе на аўтабан, а там — шукай ветру ў полі.

І яны, пэўна што, уратаваліся б, калі б...

Падлеткі, якія пры дарозе ганялі мяч, за дзень прытаміліся. Але, нягледзячы на стому і на халаднаватае надвор'е, дадому ім не хацелася. Надумалі адпрацаваць яшчэ трапнасць удару. Не ў вароты, а па «мішэні». Яе доўга шукаць не давялося: паблізу свяціўся знак «Вызвалі дарогу», які яўна прэтэндаваў на ролю «дзявяткі». Праўда, таўстун Карстэн, празываны «Мамчын сынок», нешта прабурчэў наконт бацькоў і чым гэта можа скончыцца, але ў запале яго не пачулі.



...Гельмут падыходзіў да мяча апошні. Папярэднія снайперы «мазалі» адзін за адным, і здавалася, знак нехта зачараваў.

Гельмут, найстарэйшы, галоўная надзея каманды, мусіў трапіць у мішэнь. Ён разумеў гэта і таму не спяшаўся. Падышоў да мяча, паправіў яго, паглядзеў на знак, цяжка выдыхнуў, прамармытаў штосьці — відаць, заклён — сабе пад нос і толькі пасля гэтага разбегся — і ўдарыў. Сілы ўклаў дарэшты, нават на нагах не ўтрымаўся. Упаў і не бачыў, як мяч урэзаўся ў верхнюю частку бляшанага трохкутніка, знёс яго, зрыкашэціў і разбіў ліхтар, што асвятляў знак.

Усе кінуліся да Гельмута. Абдымалі, віншавалі, захапляліся: вось гэта ўдарчык! У той момант Гельмуту і ў галаву не магло прыйсці, што праз шэсць гадоў на яго гэтаксама пасля забойнага (як потым напішуць газеты) удару наваліцца амаль уся зборная Германіі ў фінале чэмпіянату свету.

Пра знак, прынесены ў ахвяру футболу, на радасцях забыліся. Ішлі дадому, смяяліся, балбаталі — ці ім да знака было? І бацькам пра яго ніхто не сказаў. Гельмут, папраўдзе, спахапіўся, але таксама прамаўчаў. «Навошта? Сёння — позна ўжо, а заўтра нядзеля, выхадны, самі ўсё і паправім».

...Толік, адарваўшыся ад пераследнікаў, нарэшце дазволіў сабе адпусціць педаль газу, перадыхнуць, але толькі на імгненне. Ён наўрад ці зразумеў, што здарылася. Ён яшчэ не паспеў расслабіцца, таму нават і не скалануўся.

Хведар жа ўбачыў машыну, што імчала на іх, але здолеў адно прыкрыць твар рукамі...

У «BMW», што ўрэзалася ў «мерседэс», вярталася па аўтабане дадому сям'я: бацька, маці і сын. Усе трое, як і два пасажыры другой машыны, дадому не трапілі — засталіся на месцы аварыі. Удар пры сутыкненні быў неверагоднай моцы, і ўсе пяцёра загінулі амаль імгненна.

Двое таварышаў, якія падаспелі да месца аварыі раней за іншых, глядзелі на машыны, што счапіліся ў смяротных абдымках, і гадалі: іх апярэдзілі ці гэта проста выпадковасць? Калі першае, то цяпер і яны сталі тымі, хто ўцякае, аднак у адрозненне ад рэдактара ім давядзецца ўцякаць і ад сваіх, і ад чужых.

У моргу, уважліва прагледзеўшы дакументы ўсіх, хто загінуў у аўтакатастрофе, малады следчы, не верачы сваім вачам, здзіўлена развёў рукамі:

— Неверагодна! Пасажыр з «мерседэса»-парушальніка і двое з «BMW» яшчэ за пару гадзін да аварыі ехалі ў адным цягніку, нават у адным вагоне...

## ЯБЛЫНЯ

Вось ён і дома! Добра, што ў іх была свая хата. І, дзякуй Богу, пасля яго арышту не ўзялі маці і жонку старэйшага брата з сынам. Сям'я контррэвалюцыянера! Арыштаваўшы «злачынцу», энкавэдысты зазвычай высылалі і ўсю яго радню. Але гэтым разам сям'ю не кранулі. Яны часам праяўлялі літасць да дзяцей, якіх, бы на здзек, называлі *цветами жизни*.

— Хай растуць, можа, камсамольцамі стануць, — сказаў іх галоўны, неяк адольваючы цяжкасці няроднай для яго мовы.

Так і засталася хата за імі. І яму было куды вярнуцца. І вось ён зноў дома.

Іх сад! Дыхаць паветрам роднага саду! Хіба не пра гэта ён марыў усе бясконца доўгія апошнія гады? Сад некалі пасадзіў на пустцы-аблозе ягоны бацька. Казачны, як выявілася, сад. Ён жыў, рос разам з імі. Радаваўся і сумаваў, ратаваў ад спёкі і браў удзел у гульнях.

Бацька першы паставіў тут хату, ля якой пачалі сяліцца-будавацца ягоныя сябры-маракі, аднапалчане па руска-японскай. Вуліцу так і назвалі — Марская. Потым яна выцягнулася, расступілася ўшыркі, стала Велікаморскай.

Але спачатку быў сад!

Вялікі яблыневы сад. Была ў ім і любімая яблыня. Ранетаўка. Самая зялёная і стройная — апярэдзіла сяброўак у гонцы да неба. За доўгія

гады, пакуль ён хадзіў пад руляй карабіна, яна разраслася, папрыгажэла, але і пастарэла. Пастарэў і ён. Глыбокія зморшчыны рабілі яго твар суровым, сляды на скуры напаміналі пра лагернага хірурга, які «па-жывому» выразаў гнайнікі на ягоным целе. І шнары, што засталіся пасля *таго* катавання, калі іх, трох кіраўнікоў паўстання ў Нарыльскім канцлагеры, аддалі ў рукі садыстаў. Тыя білі іх смяротным боем. Да ўласнай знямогі. Калі стомленым забойцам здалося, што зэкі не дыхаюць, сканалі, яны не павалаклі целы да лагернай ямы-могільніка — кінулі там, дзе забівалі, за баракам. Стаяла зіма, і за ноч усё засыпала снегам. Выкопваць спруцянелыя целы ніхто не збіраўся.

Ачуняўшы, не адразу зразумеў, дзе ён: на тым ці на гэтым свеце. На тым не магло быць холадна, там заўсёды лета, заўсёды цёпла. Значыць, ён яшчэ тут, жывы, і яго прыйдуць дабіваць. Ён не баяўся болю, але ад усведамлення, што перабітыя косці зноў будуць крышыць, страціў прытомнасць.

Калі прыйшоў да памяці, першае, што пачуў, быў стук уласнага сэрца: «Я чую, я дыхаю, я жывы». Але радавацца не спяшаўся: ён нічога не бачыў. «Снег! — здагадаўся. — Мяне засыпала снегам». Паспрабаваў сціснуць у кулак пальцы правай рукі: на левую, якую знявечылі яшчэ ў «амерыканцы», не спадзяваўся. Пальцы не слухаліся, але рука зварухнулася. Падцягнуў яе да грудзей і з усяе сілы (хутчэй гэта была і не сіла нават, а нешта іншае, што прыходзіць, калі сілы ўжо няма) саўгануў уверх. Рука з нечаканай лёгкасцю адолела перашкоду. Вось чаму ён можа дыхаць! Снег толькі прыцерушыў яго. Цяпер



апусціць руку, сцерці рэшткі снегу з твару. «Святло! — ужо не стрымаў радасці. — Жывы!» Прыслухаўся — цішыня. Паспрабаваў прыўзняцца, але пачуліся галасы, і ён заціх.

— Товарищ лейтенант! Тут кто-то из этих... Ну-у, вчерашних... Кажись, шевелится.

— А что, Чезаев не всех добил?

— У него вроде штык сломался...

Ён успомніў: яму ж павінны былі зрабіць «контрольный укол» — праткнуць грудзі. Значыць, штык зламаўся раней, чым чарга дайшла да яго.

— Товарищ лейтенант, добить гада?

— Стой! Посмотрю, что за умелец такой по части выживания объявился. Не тот ли, кого вы последним кончали? Да-а, молодцы... Ладно, чего стоишь, как присох, неси лопату...

Ён падумаў: «Зараз даб'юць. Не пашанцавала — дзень! Двойчы так шанцаваць не можа: і каб выжыў, і каб ноч».

Яго падчапілі рыдлёўкай, адарвалі ад мёрзлай зямлі і пацягнулі да барака. Боль здушыў, і ён зноўку знябыўся.

«Глядзі, усё яшчэ жывы, — здзівіўся, апрытомнеўшы на нарах. Ён не ведаў, радавацца гэтаму ці не. За доўгія гады зняволення яму не раз выпадала бачыць, як жывыя зайздросцілі мёртвым. — Але чаму не дабілі? Можа, — такое ўжо здаралася, — лагерны лекар у імя савецкай навукі папрасіў, каб яму аддалі жывы труп?»

— Ну, дружок, руку спасу, а пальцы — уж прости, поздно обратился, — загаворваў доктар нясцерпны боль. — Да что там пальцы! Скажи спасибо, что живой остался. Считай — все тело

у судьбы отвоевал. — І, агледзеўшыся па баках, цішэй дадаў: — А как там, у Бога? Есть он, Бог, или нет? Я в последнее время что-то усомнился...

— А я не сумняваўся ў табе, мая любая яблыня. Ты — мой Бог. І я зноў з табою, — гаварыў чалавек, стоячы ў цені вялікага разгалістага дрэва. — Але ці памятаеш ты мяне? Ці памятаеш хлапчука, які заўсёды намагаўся ўзлезці на самую верхавіну? Нібы там яблыкі смачнейшыя. Бацька гаварыў, што ў цябе асаблівыя плады, іх смак — гэта смак Радзімы. Ён меў рацыю. Я помню яго словы і цяпер. Гэта яны зараджалі нас з маленства пачуццём свабоды, абуджалі мару, умацоўвалі веру.

Вера... Тым разам, калі іх забівалі, думаў — усё, яна пакідае яго. Шкадаваў, што не нажыў дзяцей: было б каму прадоўжыць пачатае, але не завершанае ім. Цяпер ён ведае: у яго ёсць пляменнік — родная кроў! — якога даўно называе сынам. І, значыць, ёсць шанец, што іх справа будзе прадоўжаная.

Ён успомніў, як жудасна крычаў яго аднакурснік Сяргей Белановіч. Сяргей баяўся болю. Яшчэ ў дзяцінстве ён няўдала скокнуў з дрэва, і лекары без анестэзіі зашывалі рану на яго назе.

Той ноччу, калі іх забівалі, Сяргей прасіў катаў прыстрэліць яго. А памёр пад ім, пад сваім сябрам, захлынуўшыся ўласнай крывёю.

Сёння дваццаць дзявятае. Перад паўстаннем яны пакляліся: хто ацалее і вырвецца першы, зробіць *гэта* на працягу тыдня. Ацалеў ён адзін. І засталося два дні. Дакладней, трыццаць пяць гадзін. Ужо менш.

Усе гэтыя гады ён уяўляў, як падыдзе да *яго*, а той знямее, вырачыць ад страху вочы, бо адразу ж пазнае, хто прыйшоў. Падыдзе, скажа: «Юда, успомні Сяргея», — і ўсадзіць нож у яго чыста паголеную — акуратыст! — шыю.



Цяпер ён зразумеў: помсціць не за бацьку, святара, які быў асуджаны па выраку юды да трынаццаці гадоў лагераў. Не за братоў, якіх па яго ж указцы расстралялі ў 1937-м. На допытах, каб змусіць братоў збіваць адзін аднаго, каты зрабілі іх інвалідамі. Але яны вытрывалі ўсё. Не засталося сілаў толькі для аднаго — ісці на расстрэл. Змардаваныя целы каты валаклі.

Ён прыйшоў помсціць не за сябе, не за сябра Сяргея — ён прыйшоў помсціць за ўсіх з таго свету.

Ён, вядома ж, нядужы. У лагеры адабралі здароўе. Але нож, які навастрыў зэк яшчэ царскай закваскі, яго рука ўтрымае.

Заставаліся тры пытанні: калі? дзе? як?

Калі? Вырашылі даўно, прызначылі вось гэты, невытлумачальна жорсткі тэрмін: сем дзён па выхадзе на волю. У яго засталося трохі больш за суткі. Дзе? Добра было б у тым самым будынку, у якім юда іх калісьці судзіў. Не адразу, а паступова, за дзесяць гадоў, перасадзіў усю сям'ю, вынішчыў пад корань. Як? Гэта ён ведаў.

* * *

Раніцай, перш чым пайсці з дому, ён пастаяў ля сваёй яблыні. Тая за ноч расквітнела, нібы памаладзела, і на імгненне яму здалося, быццам яна ўсміхаецца. Ён зразумеў: яблыня з ім развітваецца, яна ўсё ведае. Неўзабаве ён зробіць тое, што павінен зрабіць, і коштам будзе ягонае жыццё. Што ж, ён згодзен. Жыццё хворага ін-

валіда — за жыццё забойцы сотняў і сотняў. Ён да гэтага гатовы. Бывай, яблыня. Бывай, жыццё...

Увайшоў, убачыў і здзівіўся: суддзя за мінулыя гады амаль не пастарэў. Няўжо жыццёвыя сілы ахвяр і сапраўды пераходзяць да ката? Колькі ж ты, юда, збіраўся пражыць, калі столькіх панішчыў?

У першае імгненне суддзя яго не пазнаў. І толькі прыгледзеўшыся, зразумеў: прыйшоў той, хто не павінен быў прыйсці, не павінен быў выжыць. Бо ён зрабіў усё, каб гэтага не здарылася. Відавочна, зрабіў замала.

«Час! Галоўнае — цягнуць час», — падумаў суддзя і пачаў гаварыць, тлумачыць, клясціся. Потым стаў крычаць. Спадзяваўся — можа, пачуюць.

— Успомні Сяргея, — было апошнім, што ён пачуў.

Мсціўца паглядзеў на суддзю, які знерухомеў у крэсле, перахрысціўся: «Калі б усе, каго ты выправіў у ГУЛАГ, і тыя, што здолелі вырвацца з краіны-клеткі, пачулі, што юда здох, тысячы агнёў-салютаў запаліліся б адразу па ўсім свеце».

* * *

Усю ноч ён спаў наўздзіў спакойна і прачнуўся не па-лагернаму позна — недзе а восьмай. Маці стаяла каля ягонага ложка. Плакала.

— Уладзік, тут прыйшлі, — сказала ледзь чутна.

Ён не спалохаўся. Ён даўно перастаў баяцца. Маленькая, белая, цёплая ад далоні таблетка чакала яго.

— Амін! — прашаптаў Уладзімір і, зірнуўшы на яблыню ў акне, паднёс пакалечаную правую руку да вуснаў.

## НАСТАЛЬГІЯ

Памежнік доўга і ўважліва разглядаў Міхасёў пашпарт.

— Philipp Traison, — прачытаў, злёгку схіліўшы галаву набок, як гэта робяць, калі нібыта і згаджаюцца, але не вераць.

«Ну-у, калі старлей яшчэ на першай старонцы, а мяне ўжо ліхаманка ўзяла — гэтак да Радзімы я не даеду», — нявесела падумаў Міхась і загадаў сабе расслабіцца, усміхнуцца.

— З Францыі. Віза да... дваццаць пятага, — з паўзамі, быццам завучваючы на памяць, чытаў далей памежнік. — Зразумела, — удакладніў нешта для сябе, — зразумела. — Vous allez au festival?[1] — раптам перавёўшы вочы з пашпарта на Міхася, нечакана спытаў па-французску.

«Вушам не веру, — здзівіўся Міхась. — Гаворыць амаль без акцэнту! Нібыта ў Францыі і нарадзіўся. Цікавы старлей, цікавы». Але не разгубіўся, адказаў падпсаванай акцэнтам скорагаворкай:

— Фестывал, мір, дружба. — І пасля невялікай паўзы дадаў: — Je suis le correspondant de «l'Humanité Dimanche»[2].

— О, таварыш — журналіст. І не абы-які, а наш, камуністычны, — нібы зарадаваўся дасведчаны па-

[1] На фестываль? (*фр.*)

[2] Карэспандэнт «l'Humanité Dimanche» (нядзельны дадатак да газеты французскай кампартыі «l'Humanité») (*фр.*).

межнік. — Вельмі прыемна! Сардэчна запрашаем у першую ў свеце Краіну Саветаў! Жадаем плённай працы...

«Так-так, — у думках перапыніў Міхась старшага лейтэнанта, — у гэтай першай у свеце заўсёды і ўсім толькі і жадалі, што плённай працы. Плённай і рабскай, амаль без аплаты. І цяпер, праз чвэрць стагоддзя, жадаюць таго самага. Час тут, няйначай, спыніўся. І калі ж у гэтай краіне пачнуць жадаць пленнага, скажам, адпачынку? Урэшце — проста добрага адпачынку і больш-менш прыстойнага заробку? А потым ужо чалавек паглядзіць (у залежнасці ад аплаты, вядома), ці трэба яму напружвацца, вылузвацца са скуры».

Памежнік выйшаў з купэ, і Міхась з палёгкай уздыхнуў. Напружанасць спадала. Неўзабаве цягнік рушыў. «Быццам толькі таго і чакалі, калі пойдзе старлей, — падумалася Міхасю. — А чаму — быццам?» — адказаў сабе пытаннем, на якое ўжо ведаў адказ.

Да Мінска цягнік зрабіў некалькі прыпынкаў, кожны з якіх, думалася Міхасю, будзе для яго апошнім. Але ўсё абышлося. «Не такая ўжо я, відаць, важная птушка, каб цягнікі дзеля мяне спынялі», — жартаваў ужо супакоіўшыся.

Пасля Мінска цягнік, нібыта набраўшы другое дыханне, пайшоў без прыпынкаў. Міхась глядзеў на бясконцы лес за акном, і яго зноў апаноўвала застарэлая, хранічная хвароба. Прычына была самая што ні ёсць рэальная: цягнік нядаўна мінуў станцыю, на якой ніколі не спыняўся — вельмі ж яна малая. Але для Міхася гэта была найдаражэйшая станцыя ў свеце — станцыя ягонага дзяцінства. Тады, у пачатку дваццатых, сямі-васьмігадовымі



хлапчукамі яны прыбягалі сюды ледзь не кожны дзень. Да станцыі, або, як яны казалі, да жалезкі, ад іх вёсачкі было зусім блізка — кіламетр ці трохі болей. Гудкі паравозаў трывожылі іх дзіцячыя душы, клікалі ў невядомую далеч. Ім здавалася, што ў цягніках, якія праносіліся міма, ідзе нейкае сваё, зусім іншае, чым у іх, жыццё. Таямнічае, загадкавае, сапраўднае. Спадзеючыся зазірнуць у вокны вагонаў, яны ўзлазілі на невысокі плот, што адгароджваў жалезку ад астатняга свету, і віселі на ім гадзінамі: вельмі ж хацелася ведаць, што там — за каляровымі фіранкамі.

А потым Міхась бег у свой лес — так ён называў гаёк каля іх дома. Хадзіў па ім, быццам хацеў упэўніцца, што, пакуль яго не было, усё тут засталося на месцы. Ён гаварыў са сваім гаем, расказваў яму пра жалезку, якая гэтак трывожыць душу.

У гаі яму было лёгка і спакойна. Ціхі пошум дрэў закалыхваў, нібы матчына песня, навяваў сны. І ён засынаў, трапляў у казку. Але чамусьці ў гэтай казцы яму кожны раз чуўся ўсё той самы заклён: «Некалі ты здрадзіш мне, не вернешся са станцыі, з’едзеш вельмі далёка. Так далёка, што вяртацца будзеш доўгія гады».

І аднаго разу Міхась сапраўды сеў у цягнік, які адзіны спыняўся на іх станцыі. І той завёз яго ў зусім не блізкі свет.

Ён і сёння да драбніц памятае, як пакідаў Радзіму. Як трывожна білася сэрца. Усе гэтыя доўгія гады расстання ў ягонай свядомасці мноства разоў пракручваўся адзін і той жа фільм, які бясконца запускала настальгія. Маці глядзіць услед цягніку. Ён высоўваецца з акна, крычыць: «Мама, ідзеце

дахаты, холадна». Але маці ўсё стаіць і стаіць. Яе ўжо не відаць. Яна ператварылася ў кропку, але кропка не знікае. Ён успомніў: «Добрая, бедная мама, хіба ж не чорная сіла злога свету, мама, нашую радасць скасіла?»

Калі цягнік мінаў станцыю дзяцінства, Міхась ледзь стрымаў сябе, каб не выскачыць, не падацца ў той, цяпер ужо спелы лес, каб зноў ап'янець ад яго водару, трапіць у забыты казачны свет дзяцінства. Свет мамы.

Ён успомніў сябра — Яўгена Калубовіча. Той у гасцёўні свайго дома ў Кліўлендзе часцяком раскладваў на стале карту роднай Гомельшчыны і ўяўляў сабе, нібыта едзе ў цягніку. Ноч, а ён не спіць, стаіць ля акна і шэпча: «Лес і лес, і нідзе яму няма канца! Няма маёй тузе канца!»

Гэтая застарэлая хвароба — настальгія! Усе мінулыя гады яна не давала Міхасю спакою. Шмат каго з ягоных сяброў звяла ў магілу. Большасць загубілі сябе алкаголем. Але былі і тыя, каго туга па Радзіме і роспач ад усведамлення немажлівасці яе ўбачыць не зламалі, не прымусілі шукаць забыцця ў віне. Яны як мага імкнуліся пабываць на Радзіме. Дакладней, прарвацца да яе — пад чужым прозвішчам, з чужым пашпартам, грамадзянствам, нават тварам. І прарываліся. Прынамсі, перасякалі яе мяжу. Але больш іх ніхто ніколі не бачыў. Нібыта на тым баку яны правальваліся ў бездань, траплялі ў іншае вымярэнне, немаведама куды.

Міхась быў з гэтых, з адчайных. Але, у адрозненне ад іх, да сустрэчы з Радзімай рыхтаваўся доўга і старанна, прадумаў усё да драбніц і быў пэўны, што здолее здзейсніць задуманае. «У гэтай краіне галоўнае — не быць па-за законам», — паўтараў сабе не раз. У васемнаццаць, калі яго забралі проста з лекцыі ў інстытуце, ён упершыню зведаў, што значыць быць па-за законам. «Тры гады прымусова-папраўчых работ», — пачуў прысуд, як папярэджанне з таго свету. У лагеры пакляўся: зробіць усё, каб хай і фармальна, але ладзіць з законам. Цяпер ён — Traison, а не Лешчанчук. Цяпер ён — у законе. Прынамсі, паводле дакументаў.



Міхась Лешчанчук не здагадваўся, што памежнік, які сустракаў яго, быў капітанам контрразведкі. Але і той, хвалюючыся, зрабіў шэраг памылак: па нявопытнасці перабраў з французскай мовай, не звярнуў увагі на нервовасць карэспандэнта.

Ноч, стома, перажытыя хваляванні нагадалі пра сябе. Міхась адкінуў коўдру і прылёг. Дзве польскія студэнткі (яны таксама ехалі на фестываль), якія паглядвалі на яго крадком, напалоханыя былі словамі *złośliwego wójka kaprała*[1]: «Пашпарты!», ужо супакоіліся. Цяпер яны хіхікалі, шапталіся, відавочна пасмейваючыся з залішняй (як ім здалося) строгасці памежнай праверкі.

«У гэтых дзяўчатак прасвятленне яшчэ наперадзе, — з горыччу падумаў Міхась. — Можа, толькі праз шмат гадоў яны зразумеюць, што не жылі, а існавалі: замужжа, дзеці, работа, татальная эканомія, змаганне за пристойны быт і, нарэшце, старасць, унукі. Унукі... Толькі яны, магчыма, і пажывуць».

Міхась перастаў чуць грукат колаў і неўпрыкмет занурыўся ў сон-успамін.

У канцы свайго мізэрнага, як лічылі зэкі-старажылы, трохгадовага тэрміну ён паступова ра-

[1] Злога дзядзькі капрала (*польск.*).

забраўся, хто ёсць хто ў лагеры. Высновы былі нечаканыя. «Палітыкі» групаваліся не па нацыянальнай прыналежнасці, а паводле інтэлекту, адукацыі, характараў. Беларускі інжынер-нацдэм паступова аддаляўся ад земляка-рабацягі, які прыбыў з ім у адным этапе і быў залічаны да палітычных за расказаны ў цэху на перакуры анекдот пра вусача, і — сыходзіўся з украінскім пісьменнікам, рускім навукоўцам, польскім ксяндзом. Агульначалавечае брала верх над нацыянальным, інтэлект перамагаў зямляцкія сувязі.

Заўважыў ён, што і ахова вылучала разумнікаў і здзекавалася з іх асабліва старанна. Часам выратоўваў надта адукаваных новы начальнік лагпункта. Ён прыбыў на замену зверу-садысту, які лютаваў тут да яго і быў зарэзаны зэчкай.

Калі скрываўленую, непрытомную дзяўчыну валаклі з дома начлагера ў ізалятар, азвярэлы ад злосці вертухай не заўважыў, што ў баразне-следзе на снезе засталася ляжаць маленькая манетка-медальён разам з абарванай кужэльнай ніткай. Міхась падняў яе. Адзіны, хто гэта бачыў, быў салдат, што прывёў зэчку ў дом начлага. Бачыў і змаўчаў.

Разбудзіла яго праваднíца. Прачыніўшы дзверы ў купэ, спытала:

— Чаёк несці?

Яму страшэнна захацелася адказаць на роднай мове: «Вядома!», але... ён не павінен разумець пытанняў і рэагаваць на іх.

Калі праваднíца пайшла, Міхась расплюшчыў вочы. Студэнткі, седзячы насупраць яго, несціхана пра штосьці перамаўляліся, жэстыкулявалі, нібыта і не клаліся спаць. Маладосць! Калісьці і ў яго



ноч пралятала як імгненне. Доўгімі ночы сталі потым, у «амерыканцы». І пазней, у канцлагеры, на пагрузцы лесу. Тыя бясконца доўгія ночы назаўсёды застануцца ў ім невылечным болем. Болем за тых, хто надламаўся, скалечыўся, загінуў, навечна застаўся ў чужой зямлі.

Праваднíца зноў зазірнула ў купэ.

— Quatre thés, s’il vous plaît[1], — папрасіў яе Philipp.

— Што-што? — перапытала, быццам не пачула.

— Четыры. Два для дзевачка і два для pour le vieux monsieur[2], — Міхась пастараўся захаваць прыдуманы для сябе акцэнт.

Студэнткі пераглянуліся, запярэчылі:

— Mais monsieur n’est pas du tout vieux[3].

«Ты глядзі, якія палячкі, — адзначыў сам сабе Міхась. — Як лёгка на французскую пераключыліся! Пэўна, выдатніцы».

Праваднíца паставіла на столік чай, паківала галавой:

— Вясёлы таварыш-француз, проста жартаўнік, — і выйшла.

Philipp Traison паклаў на стол прызапашаныя шакаладкі, пячэнне, яшчэ сёе-тое ў каляровых упакоўках і, усміхнуўшыся, запрасіў:

— Servez-vous, jeunes filles![4]

Дзяўчаты застылі ў нерашучасці, але ўсмешка мсье Philipp’а, бліскучыя, прывабныя абгорткі і цу-

[1] Чатыры чаі, калі ласка (*фр.*).
[2] Старога мсье (*фр.*).
[3] Пан зусім не стары (*фр.*).
[4] Моладзь, прашу! (*фр.*)

доўны водар, што зыходзіў ад іх, перамаглі: моладзь накінулася на прысмакі.

«Добрыя дзяўчаткі, — зноў адзначыў Міхась. — І што здзіўляе: лад — звыродлівы, проста фашысцкі, а людзі — лагодныя, душою чыстыя, адукаваныя».

Неўзабаве студэнткі зусім асвойталіся і з апетытам уплятаді пячэнне.

Міхась жа з настальгічнай упартасцю налягаў на чай. Даўно ён не піў такога чаю — колеру слабой кавы і смаку саломы. Быццам прыз у лагеры атрымаў — за перавыкананне сутачнай нормы адгрузкі драўніны. «Сапраўды, час тут спыніўся».

Паступова раніца перайшла ў дзень, і цягнік гэтак жа спакваля запаволіў ход: Масква!

На пероне тых, хто сустракаў, было больш, чым тых, хто прыехаў. «Не абы-якая гасціннасць. Сацыялістычная. Чэкісцкая», — зазначыў Міхась. Выйшаўшы з вагона, амаль адразу ўбачыў «сваю» шыльдачку: «Philipp Traison, journaliste»[1]. Яе трымала маладая прыгожая жанчына. Цёмна-сіні гарнітур надаваў яе мілавіднаму твару пэўную строгасць. Пры з'яўленні Philipp'а гэтая строгасць змянілася спачатку лёгкай разгубленасцю, а потым — усмешкай. Побач з красуняй стаяў больш сур'ёзны таварыш. «Сябра, — здагадаўся Міхась. — Што ж, пакуль я тут, сябра ЧК — мой сябра. Гэта добра, што ён аб'явіўся адразу. Заўсёды лепш глядзець ворагу ў твар, чым адчуваць яго подых патыліцай».

Philipp Traison падышоў да тых, хто яго сустракаў, і весела адчаканіў:

[1] Філіп Трэазон, журналіст (*фр.*).



— Salut communiste au peuple russe de la part du peuple français frère[1]!

Красуня-перакладчыца адразу ж узялася за справу:

— Bonjour, camarade Philipp. Je suis votre interprète Ludmila Chevtsova. C'est votre collègue, confrère de profession, journaliste d'«Izvestia» Egor Rovesnik[2].

«Равеснік, — паўтарыў сам сабе Міхась. — Недзе я чуў гэтае прозвішча. Можа, у якім іхнім фільме? Прозвішча, відавочна ж, з легенды. І гучыць — як пароль. Сапраўды брат. Брат з Лубянкі».

— Monsieur Philipp, je vous propose d'aller maintenant a l'hôtel, — прадоўжыла перакладчыца. — Certainement vous avez besoin de vous reposer après le voyage. Et demain, dès le matin — au boulot! Tout d'abord c'est le Kremlin. Ensuite vous avez la rencontre avec des collègues à la rédaction... Le soir vous allez au Bolchoi... Comme vous voyez, nous avons reglé votre emploi du temps jour par jour. On a fait le maximum pour que notre invité ne s'ennuie pas[3].

— Добра! — выпаліў Міхась, задаволены тым, што сённяшні вечар праўдзе адзін і з'явіцца маж-

[1] Камуністычнае прывітанне рускаму народу ад братэрскага французскага! (*фр.*)

[2] Добры дзень, таварыш Філіп. Я перакладчыца Людміла Шаўцова. А гэта — ваш калега, сабрат па прафесіі, журналіст «Известий» Ягор Равеснік (*фр.*).

[3] Ёсць прапанова, таварыш Філіп, паехаць зараз у гатэль. Вам, вядома ж, трэба адпачыць з дарогі. А заўтра, адразу з раніцы — у бой. Спачатку — Крэмль. Потым — сустрэча з калегамі ў рэдакцыі. Увечары — Вялікі тэатр. Наогул, мы кожны дзень вам распісалі. Пастараліся, каб госць не сумаваў (*фр.*).

лівасць — можа, апошняя — узважыць усе «за» і «супраць». — Soit, que ce soit ainsi! Tout de même, deux jours dans le train, c'est quelque chose. C'est vrai, je suis un peu fatigué. D'accord. Donc, c'est décidé. Alors...à l'hôtel! Où est notre Jaguar?[1] — скончыў Philipp Traison пытаннем і ўжо з усмешкай.

Людміла задаволена адзначыла новы для сябе сінонім — як яна вырашыла — слова *машына* і паказала рукой на выхад з вакзала:

— Je vous en prie![2]

Ад'язджаючы ад прывакзальнай плошчы і глядзячы з задняга сядзення навюткай «Победы» на спрэс чырвоны ад сцягоў, плакатаў, транспарантаў і заклікаў Беларускі вакзал, Міхась раптам успомніў, якім бачыў яго ўпершыню. Шэрым, халодным, з бесперапынным брэхам сабак і крыкамі канвою: «Выходи! Быстро! Строиться!» Як яму за тры гады абрыдлі гэтыя праклятыя загады! «Мізэрны тэрмін», — зноў успомніў фразу, што ўелася ў памяць. А перабітыя, застуджаныя рукі і ногі цягам многіх гадоў удзень і ўначы нагадвалі пра яго.

— On y est. C'est notre hôtel[3], — вярнуў Міхася ў рэальнасць голас перакладчыцы.

Сам сабе, нібы папраўляючы Людмілу, сказаў: «Не, я яшчэ не прыехаў. Я толькі на пачатку дарогі».

Гатэль быў недалёка ад вакзала. Ягор Равеснік выйшаў з машыны першым і паспяшаўся адчыніць

[1] Так і зробім. Усё ж двое сутак у цягніку. І праўда стаміўся. У гатэль дык у гатэль. А дзе ж наш «Ягуар»? (*фр.*)

[2] Прашу! (*фр.*)

[3] Прыехалі! Вось і гатэль (*фр.*).



дзверцы французу. Міхась скрывіўся: жанчыны паранейшаму ў іх не шануюцца.

Яны прайшлі ў хол, і перакладчыца, спрабуючы загладзіць дрэннае ўражанне ад неджэнтльменскага ўчынку свайго таварыша, жэстам запрасіла Міхася прысесці.

— Attendons un peu. Egor va nous apporter la clef de la chambre réservée[1], — задаволеная маленькай помстай, усміхнулася.

«Дык ён, выходзіць, мовы не ведае, — здагадаўся Міхась, пазіраючы на разгубленага чэкіста. — Вось табе і калега».

Ягор паглядзеў на занятых гутаркаю француза і перакладчыцу, зразумеў, што яму адвялі ролю швейцара, але запыніўся толькі на хвілінку. Напяўшы на твар дзяжурную ўсмешку, пайшоў да адміністратара.

Неўзабаве ён вярнуўся.

Людміла задала госцю колькі дзяжурных пытанняў пра Парыж, чым прымусіла таго даволі моцна пахваляваццца: у Парыжы Міхась быў толькі праездам. Але хутка падышоў Ягор і выцягнуў яго з небяспечнага становішча.

— А вось і ключы, — з задавальненнем перапыніў гутарку «французаў». А сам падумаў: «Нічога! Пасля фестывалю ты ў мяне, разумніца такая, не тое што гаварыць — стагнаць па-французску будзеш».

Удваіх яны праводзілі Міхася да нумара і адчынілі перад ім дзверы. «Быццам на ланцугу вядуць. Пад канвоем. Няўжо баяцца, што вось адсюль, з хола, вазьму і ўцяку на самыя шырокія ў свеце

[1] Пачакаем крыху. Ягор зараз ключы ад забраніраванага нумара прынясе (*фр.*).

прасторы?» — усміхнуўся Міхась, апускаючыся на шыкоўную нават па амерыканскіх мерках канапу.

Пасля бясконцых кампліментаў і шматлікіх напамінаў пра тое, што «заўтра пачнём актыўна працаваць dès 9 heures[1]», Міхасю нарэшце дазволілі зачыніць за сабою дзверы.

— Фу-у, — расслабіў ён гальштук. — За адну хвіліну пятнаццаць разоў пачуць тое самае! Не, так да Радзімы я не даеду, — зноў паўтарыў, але гэтым разам — з усмешкай.

Прачнуўшыся ўсё яшчэ па-лагернаму роўна ў шэсць, Міхась перш-наперш (па амерыканскай ужо звычцы) падышоў да вялізнага, «царскай» архітэктуры, акна. Перад ім да самага небакраю ляжала вуліца Горкага. Вуліца, названая імем таго, хто некалі першы сказаў: «Калі вораг не здаецца — яго знішчаюць». Пад гэты заклік разам з мільёнамі невядома адкуль узніклых ворагаў спрабавалі знішчыць і яго, Міхася. Спрабавалі знішчыць, хоць ён і здаваўся (слова лішняе баяўся вымавіць), і ворагам ніколі не быў. Галоўнае — сказаць, гукнуць, кінуць лозунг, усчаць паляванне. А ўжо навесіць на чалавека цэтлік ворага і адправіць яго на той свет было справай вопыту і тэхнікі. Вопыт жа, як вядома, рэч нажыўная.

І гэты першы ў свеце пралетарскі пісьменнік цiснуў яму некалі руку. Уручаў білет сябра Саюза... Ад успамінаў пра мокрую ад поту далонь сухотнага старога Міхасю стала млосна, захацелася хутчэй памыць рукі.

[1] Ужо з дзевяці (*фр.*).



Не марудзячы, прыняў цёплы душ, пагаліўся, апрануўся. Зірнуў на гадзіннік: восем, мабыць, час снедаць. Ён набраў нумар, запісаны Людмілай:

— Добры дзень. Калі ласка, гарбата і булка з чорна ікра. Шмат. Люблю ваша ікра.

Хвілін праз дзесяць яму прынеслі шклянку гарачага чаю і два вялізныя бутэрброды з ікрой. «Каштуюць, напэўна, тыднёвага заробку таго, хто прынёс», — падумаў Міхась, выкідаючы сэндвічы ва ўнітаз. У чай ён паклаў дзве пілюлі з пачка, на якім было напісана «Analgin», памяшаў і выпіў. Потым змыў ва ўнітазе ўпакоўку. Паглядзеў на гадзіннік. Запомніў час.

Праз чвэрць гадзіны набраў нумар дзяжурнай па паверсе і папрасіў выклікаць доктара.

Дзяжурная без стуку зайшла ў ягоны пакой. Убачыўшы, што француз ляжыць у сутаргах на падлозе і трымаецца за жывот, з крыкам «Ой-ё-ёй!» пабегла ўніз па дапамогу.

Не прайшло і некалькі хвілін, як у нумар уваліліся адміністратар, доктар, калега Ягор, перакладчыца Людміла і дзяжурная. Ягор першы ўбачыў на падлозе шклянку. Зняўшы са спінкі ложка ручнік, абгарнуў ім руку і падняў мажлівую прыладу забойства. Панюхаўшы і з усіх бакоў абгледзеўшы яе, калега не знайшоў нічога асаблівага. Падышоў да тэлефона, набраў некалькі лічбаў.

Машына «хуткай дапамогі» даляцела да крамлёўкі за лічаныя хвіліны. Яшчэ праз які час «француза» аглядалі два свяцілы ў акулярах.

«Так, на прамыванне», — ледзь не кіўнуў Міхась, пачуўшы, што, адышоўшыся ўбок, гавораць пра яго лекары.

— Цяжкі выпадак. Гэта ж трэба — за адзін раз столькі ікры з'есці. Таварыш сказаў, што француз адным махам два вялізныя бутэрброды праглынуў. Грамаў па дзвесце. Кажа, хацелі дагадзіць, — расказваў свайму старэйшаму калегу лекар, стоячы спінай да Міхася.

— Хацелі як лепей, а выйшла — горш не прыдумаеш, — падрахаваў загадчык аддзялення.

— Доктар, нашага госця надоўга забіраеце? — спытаўся Ягор, падышоўшы да Міхася.

— Ну-у, у гэтым выпадку спяшацца нельга. Думаю, дні тры-чатыры, не менш, паляжаць таварышу давядзецца. Калі, вядома, тут толькі атручанне.

Палата, як ён і меркаваў, была аднамесная. Наяўнасць суседа Міхася не спыніла б, але ўсё ж замінка. Прыслухаўся: цішыня. Прайшло ўжо даволі часу, як яго пакінулі ў спакоі. «Бадай што, можна ўстаць», — падбадзёрыў сябе, падымаючыся з ложка.

Падышоў да дзвярэй і сцішыўся. Нешта крокаў не чуваць. Няўжо калега пакінуў яго на волю лёсу? Не, ходзіць нехта, пільнуе. «У хлопцаў усё згодна з планам. Маім планам».

Сёння пятніца. Ягор сказаў, што яны з Людмілай наведаюць яго заўтра раніцай. А потым прыйдуць толькі ў панядзелак: у выхадныя шмат работы. Адно слова — фестываль!

«Гэта добра, што фестываль, без мяне турботаў стае, і ў гэтыя дні я тут не галоўная фігура. Такім чынам, у суботу, недзе з дванаццаці, усё і пачнецца».

Але да самага вечара Міхасю не ляжалася, не сядзелася і не спалася. Нецярпліва хадзіў па палаце: хутчэй бы ляцеў час. Гэтага моманту ён чакаў трынаццаць гадоў. І — стаміўся чакаць. Стаміўся чакаць, стаміўся жыць на чужыне, стаміўся без Радзімы.



Ужо сцямнела, калі Міхась не вытрываў: «Не! Да ранку я тут не застануся. У гэтым логаве для хворых юдаў за ноч і звар'яцець можна».

Ён падышоў да дзвярэй, прачыніў іх і ціха папрасіў:

— Вада...

Убачыўшы, што адгукнуўся ўжо другі ахоўнік, разважыў: «Першы адстаяў шэсць гадзін. Значыць, на ўцёкі ў мяне будзе амаль чвэрць сутак. Не, цэлая чвэрць сутак! Дастаткова».

Ахоўнік, не знайшоўшы медсястры, якая некуды адышлася, бесцырымонна пакорпаўся ў яе стале. Дастаў некалькі маленькіх шкляначак, напоўніў іх з графіна з надпісам «вада». Паставіўшы ўсё гэта на невялікі падносік, пайшоў да Міхасёвай палаты. Увайшоўшы, здзіўлена паглядзеў на пусты ложак:

— А дзе ж наш...

Наступнае слова, якое ахоўнік хацеў быў сказаць, — «госць» — прагучаць не паспела. Удар па галаве нечым цяжкім асляпіў яго, і ён ніцма распластаўся на падлозе.

Міхась перавярнуў ахоўніка на спіну, абшукаў. Здзівіўся: «Ты глядзі — нічога! Ніводнай паперкі. Калі яны гэтак усё ўлічваюць, да Радзімы я сапраўды не даеду», — прыпомніў сваю малітву. Але адразу ўзяў сябе ў рукі: «Супакойся! Адлік пайшоў, але сабакі пакуль не спушчаны».

Абвёў вачыма ахоўніка і нечакана заўважыў на падлозе невялікі карычневы партманет. «Ёсць! — узрадаваўся. — Напэўна, выпаў, калі пераварочваў».

Міхась адкрыў партманет, і першае, што патрапіла на вочы, была невялікая чырвоная кніжачка. Срэбрам на ёй было выбіта: «Комитет государственной безопасности СССР». «Добры дакумент, — усміхнуўся, — той, што й трэба».

Распрануўшы гэбіста, ён запхнуў яго пад ложак, а касцюм акуратна склаў пад коўдрай.

Міхась разумеў, што яго прывезлі «ў непрытомнасці», і таму медсястра не можа ведаць, наколькі добра француз гаворыць па-руску. Дачакаўшыся яе, ён амаль без акцэнту спытаўся:

— А дзье camarade[1], што ваду даваць?

— Камарад? Ваду? А-а... — нарэшце ўцяміла медсястра. — Не ведаю. Яны калі хочуць прыходзяць, калі хочуць адыходзяць... — Схамянуўшыся, што нагаварыла лішняга, змяніла тэму: — Хутка вы ачунялі, таварыш Філіп. Малайцом!

«Па-першае, — запярэчыў ёй у думках Міхась, — я яшчэ не ачуняў, не апамятаўся, і наўрад ці калі тое здарыцца. Быў бы пры памяці, дык не апынуўся б тут. Сядзеў бы ў сваім Саўт-Рыверы і піў бы яе, горкую...»

— І ведаеце... — зноў пачуў прыемны голас. — Добры сёння дзень, папраўдзе — вечар: цёплы, зорны. Хоць, вядома, для вас ён не найлепшы. А вось у мяне дзяжурства на зайздрасць — усяго два хворыя: Мікалай Пятровіч Карпін у пятай палаце і вы...

«Што?! — заняло дух у Міхася. — Мікалай Пятровіч Карпін? Карпін?! Не, — стараўся суняць хваляванне, — не можа быць! Не той...»

— Падчас фестывалю і хварэць ніхто не хоча, — гаваркая медсястра ахвотна спавядалася

[1] Таварыш (*фр.*).



замежнаму госцю. — Мікалай Пятровіч ляжыць ужо даўно. Кажуць, безнадзейны. Як бы гэта вам растлумачыць?.. Адным словам, у яго цела гніе. А чаму — зразумець не могуць. Каго толькі не запрашалі! Нават з-за мяжы. Я чула, што ўсё цяпер залежыць ад... — ледзь не ляпнула медсястра напалову забароненае слова «Бога», але паспела праглынуць яго. — Нядаўна Мікалая Пятровіча зноў узнагародзілі. Высокія таварышы прыязджалі, віншавалі. Дзіва што: вядомы ў дзяржаве чалавек, ганаровы чэкіст.

«Чэкіст? Узнагародзілі? Той! Безумоўна! За медалёк мог палову лагпункта ў распыл пусціць».

— Нешта я занадта разгаварылася, — шчабятала маладзенькая медсястрычка. — Вы, пэўна, нічагусенькі не зразумелі...

«Зразумеў я, галубка, усё зразумеў. Табе, вядома, і ў галаву не прыходзіць, што нейкі француз можа ведаць Мікалая Пятровіча. Так, нармальны француз яго не ведае. Але ж я гэтага ірада ведаю. Карпін, кажаш, высокія таварышы... Вось дык сустрэча! Так, ён быў высокі таварыш, адзін з найвышэйшых! Адзін з найгалоўнейшых катаў! Выходзіць, і праўда бывае, што на лаўца і звер бяжыць. Не, тут без Усявышняга не абышлося. І адзін шанец з мільёна — выходзіць, таксама шанец».

Усміхнуўшыся, Philipp Traison адказаў:

— Я ўсё зразумеў і вельмі добра. Et maintenant[1] ест такое j'ai une petite idée[2]: выпіт чуць-чуць за дружбу нашы краіны. За маладост. За фестывал.

Медсястра толькі нядаўна скончыла вучэльню і ніколі ў жыцці не бачыла жывога іншаземца, па-

[1] А цяпер (*фр.*).
[2] Маленькая прапанова (*фр.*).

гатоў — француза. Ёй адразу прыйшлі на памяць «Тры мушкецёры» — любімая кніжка дзяцінства, яе галоўныя героі. Адважны д’Артаньян, крывадушная Мілэдзі. А можа, гэты француз які нашчадак самога кардынала Рышэлье?

Са шчырасцю, уласцівай маладым і ўражлівым, і пад гіпнозам «французскіх» вачэй яна прынесла невялікую бутэлечку-колбачку з надпісам «спірт».

«Дзякуй, — памянуў у думках Міхась Бога за шанцаванне. — Гэтае пітво будзе якраз дарэчы».

Выпіўшы «чуць-чуць», дзяўчына павесялела, замітусілася:

— Я зараз, хутка, — кінула і выбегла з палаты.

Праз хвіліну прынесла сваю сціплую вячэру: бутэрброд і два няспелыя зеленаватыя яблыкі. Але, як бы выходзячы з гіпнозу, крыху апамятаўшыся, развяла рукамі:

— Дык вам жа нельга...

— Усё о’кэй, о’кэй! Цяпер un toast[1], як гэта... Так! Тост за самую belle, значыць, прыгожую.

Пасля трэцяга «чуць-чуць» вочы медсястры затуманіліся, і яна заснула. Міхась уздыхнуў: «Пачаў ужо думаць, што рускі спірт нейтралізуе сонныя спецлекі». Асцярожна паклаў дзяўчыну ў свой ложак і накрыў коўдрай. Край яе зноў апусціў да падлогі і прыкрыў «гэбэшніка», які ляжаў у непрытомнасці пад ложкам. Адзеўшы шэры касцюм работніка бяспекі, які прыдаўся яму якраз, Міхась агледзеў сябе ў люстэрку і выйшаў з палаты.

Запыніўся ля століка дзяжурнай па паверсе, узяў з верхняй шуфлядкі ключ і адчыніў шкляную

[1] Тост (*фр.*).



шафку, што стаяла ў куце. Дастаў шпрыц і некалькі ампул: цяпер наведаемся да паважанага Мікалая Пятровіча, былога начальніка БАМЛАГа.

Успомніў, пры якіх абставінах убачыў Мікалая Пятровіча ўпершыню. Той толькі што ўзначаліў сетку канцлагераў, пабудаваных уздоўж БАМа, і першы раз аб’язджаў свае ўладанні. Заехаў і да іх, у самы аддалены (і таму, здавалася, забыты ўсімі) невялічкі лагпункт. Абурэнню Мікалая Пятровіча не было межаў, калі ён даведаўся, што новы начлагпункта скасаваў начныя змены, за якія даводзілася плаціць масавым траўматызмам, павелічэннем захворванняў і смяротнасці. У тую ж ноч па загадзе Мікалая Пятровіча на работы пагналі ўсіх вязняў: і тых, хто адмахаў змену, і хворых. Пагналі і Міхасёвага сябра і аднакурсніка, які задыхаўся ад запушчаных сухотаў, — Алеся Васілевіча. Алесь так і не дацягнуў уранку назад, да лагера, упаў за некалькі метраў да брамы. Упаў і не падняўся.

У тую ноч траўмаваных не было. Былі памерлыя — адзінаццаць чалавек. Перад тым як кінуць іх у выкапаную за лагерам яму-магільнік, вязням на «ўсялякі выпадак» пратыкалі штыком грудзі. Правяралі...

Мікалай Пятровіч спаў, як і большасць катаў, неспакойна. Усё ж грызе кожнага мярзотніка гэтае прадчуванне: рана ці позна яго пакараюць, прымусяць плаціць па заслугах. Былы гаспадар БАМЛАГа цяжка дыхаў, стагнаў, нешта бурчэў.

«Да, жалок тот, в ком совесть не чиста», — міжволі прыгадаліся Міхасю пушкінскія словы. Падышоў да ложка.

Твар былога начальніка БАМЛАГа нагадваў кавалак недаваранага мяса. Нечакана, быццам адчуўшы нейчую прысутнасць, ён расплюшчыў вочы. Жоўтыя, колеру гною. Хацеў нешта спытаць. Але ўбачыў шпрыц. Зразумеў, хто глядзіць на яго. Хацеў закрычаць, ды заміж «Ратуйце!» Міхась пачуў ціхі, жаласны піск. Так пішчаць пацукі, уцякаючы з карабля.

— Пазнаў? — спытаў Міхась былога начлага, які так і ляжаў з разяўленым ротам. — Пазнаў! Бачу, калоцішся. Адчуваеш — прыйшла твая чарга. Бог цябе не забыў. Мяркуючы па ўсім, ты ўжо вісіш над катлом. Але не зараз, ірад, не зараз ты захлынешся ў ім, згарыш у пекле. Хоць бы таму, што я не хачу пэцкаць аб цябе рукі. — І Міхась адкінуў шпрыц.

Мікалай Пятровіч паспрабаваў падняць галаву, але яна толькі тузанулася і павярнулася набок. На Міхася патыхнула рэзкім смуродам. Перамагаючы млосць, ён выйшаў з палаты.

Спусціўся на першы паверх. Як разабрацца з вахцёрам, ведаў, але нічога рабіць не давялося: той соладка спаў на працоўным месцы, апусціўшы галаву на рукі. Міхась асцярожна прачыніў дзверы. Прыслухоўваючыся, гэтаксама павольна зачыніў іх і апынуўся перад невялікай дагледжанай алеяй. За дзве перабежкі дасягнуў паркана, пераскочыў цераз яго і — вырваўся на волю. «Нарэшце пайшоў адлік, якога я так доўга чакаў. Нарэшце разбяруся з праклятай настальгіяй. Значыць, шэсць гадзін, — Міхась зноў вызначыў сабе тэрмін. — Не так ужо і мала».

Агледзеўся: на вуліцы ні душы. «Такія мясціны ў іх бязлюдныя, нават у час фестывалю». Ціха



і ў бальніцы. На ўсякі выпадак яшчэ нейкі час ішоў крадком, прыслухоўваючыся, і толькі потым наддаў хады.

Аўтобус, набіты людзьмі, у асноўным рабацягамі з другой змены, быў прапоўз міма. Ды раптам кіроўца злітаваўся, затармазіў. Адчыніліся пярэднія дзверцы. Міхась падумаў, што, пэўна, уціснецца на апошнюю прыступку. Неяк уплішчыўся, і дзверцы натужліва зачыніліся. Нехта (відаць, таксама хацеў улезці) грукнуў па іх кулаком. Але аўтобус ужо рушыў з месца. «Стукай, стукай, — буркнуў кіроўца сабе пад нос, — шмат вас, такіх стукачоў».

Ён і не здагадваўся, што патрапіў у цэль.

У большасці сваёй пасажыры стомлена маўчалі, а ў Міхася шчасна блішчэлі вочы. Ён ніколі не думаў, што ў страшэннай аўтобуснай задусе можна быць шчаслівым. Яму здавалася, што ў гэтым натоўпе ён сапраўды знік, растварыўся, зрабіўся сваім. Стаў такім, як і яны, як усе савецкія людзі, і цяпер яго нельга адрозніць. І, значыць, нельга знайсці.

Тым часам аўтобус, не запавольваючы бегу і прапусціўшы тры прыпынкі, выехаў на даволі вялікую плошчу, павярнуўся і заціх.

— Кіеўскі, канцавы, — пачуў Міхась бадзёры голас кіроўцы.

Нібыта ачуняўшы ад сну-наслання, пасажыры загаманілі, заварушыліся. З рыпам расчыніліся дзверцы. Выскачыўшы з аўтобуса, Міхась рэзка ступіў управа — прапусціў рабацяг, якія рынулі з жалезнага нутра. Адышоўшы яшчэ крыху, ён зрабіў выгляд, быццам завязвае шнурок, і разгледзеўся. Амаль усе ягоныя спадарожнікі кіраваліся да

прыгарадных цягнікоў — ім трэба было дабірацца далей электрычкай. «Цікава, — усміхнуўся Міхась, — колькі трэба заплаціць амерыканцу, каб прымусіць яго вось так кожны дзень ездзіць на работу па дзве-тры гадзіны з перасадкамі і ў штурханіне? Няма такіх грошай у Амерыкі. Таму і на машынах усе».

Некалькі чалавек рушылі да метро. Не марудзячы, Міхась далучыўся да іх. Паказаў кантралёру, які сядзеў перад эскалатарам у шкляной будцы, пасведчанне чэкіста (не стаў губляць дарагі час на размен «чырвонцаў» з энкавэдысцкага партманета) і, не чакаючы, пакуль той яго разгледзіць, ступіў на прыступкі.

Без прыгод даехаў да Беларускага. Вакзал гудзеў, уцягваючы ў сябе шматлюддзе з падышоўшых электрычак. Міхасю на нейкі момант здалося, нібыта і ён толькі што прыехаў. Быццам не было красуні-перакладчыцы, калегі Ягора, сур'ёзных дактароў, бесцырымоннага ахоўніка, непаседлівай маладзенькай медсястры.

У далёкай ад уваходу касе Міхась спытаў білет на бліжэйшы цягнік да Мінска і, каб суняць здрадлівае хваляванне, папрасіў: «Ніжнюю паліцу, калі ласка». Пакуль касірка бубнела: «Якія ўсе разумныя, у апошні момант ды яшчэ ніжнюю дай», — і ўпісвала ў білет месца і нумар вагона, ён азірнуўся па баках і супакоіўся: «Людзей процьма. Я тут як іголка ў стозе сена. Паспрабуй адшукай тую іголку».

Зірнуў на гадзіннік. Да адыходу цягніка заставалася дзесяць хвілін. Вырашыўшы, што ад касы найбяспечней ісці адразу на перон, Міхась запытаўся ў нервовай касіркі яшчэ абы пра што:



«А з якой каляіны? З першай? І нумарацыя з хваста?» Прадоўжыў ужо сам сабе: «А як, дарэчы, наконт майго "хваста"?» Неўпрыкмет агледзеўся: здаецца, няма.

У тамбур Міхась ускочыў за хвіліну да адыходу цягніка, калі праваднiца ўжо апускала сталёвы ліст, што накрывае прыступкі. Яна ляпнула дзвярыма і павярнулася да яго, каб сказаць нешта рэзкае, але, убачыўшы белазубую ўсмешку і ветлівы пагляд, разгубілася:

— Э-э... Пройдёмте, товарищ.

Міхась адчуў сябе вінаватым і вырашыў папрасіць прабачэння.

— Даруйце, — сказаў як мага мякчэй, — заўсёды некуды спяшаюся, ну і, вядома, заўсёды спазняюся.

А сам сабе падумаў: «Фразачка надта ж знаёмая: "Пройдёмте, товарищ". Хаця — не, тады мяне называлі грамадзянінам ці адно па прозвішчы».

Суседзямі па купэ аказаліся інтэлігентная сямейная пара інжынераў, якая ехала да бацькоў у Беларусь, і мужчына ў цывільным, хутчэй за ўсё адстаўны палкоўнік-падпалкоўнік. Мала-памалу пазнаёміліся, і ў Міхася адлягло ад сэрца: яго прынялі. «Я — як яны, як усе. А быць як усе, не вылучацца — у гэтай краіне галоўнае».

Надумаў прайсціся па вагоне. Збоку ад уваходу ў прыбіральню вісела люстэрка. Запыніўся перад ім: які ён у цывільным чэкісцкім адзенні? Так, сапраўды, усякая уніформа (а на людзях пэўнага кола і цывільнае глядзіцца як уніформа) робіць усіх безаблічнымі.

Вяртацца ў купэ Міхась не спяшаўся, выйшаў у тамбур і затрымаўся ля акна. У цемры праплывалі

неабсяжныя расійскія палі, і яму падумалася: «Эх, Расія, бязмежная Расія! Чаму табе заўсёды было мала сваёй зямлі?!»

Усе ўжо леглі, калі Міхась вярнуўся ў купэ. Лезці на верхнюю паліцу давялося вобмацкам. Ён зняў касцюм чэкіста і накрыўся шарсцістай коўдрай. Амаль адразу заснуў. Двое сутак напружання нагадалі пра сябе.

Прачнуўшыся ў свае шэсць раніцы, Міхась убачыў, што палкоўнік таксама не спіць. Шэптам павітаўшыся, той пацiху спускаўся ўніз.

У гэты самы момант падала голас праваднiца, разбудзiўшы i сямейную пару:

— Таварышы! Хутка Мінск. Пад'ём! — грукала ў дзверы зусім не ў фестывальным настроі.

Слова «пад'ём» канчаткова разбудзіла і Міхася. Такое ўжо яно, гэтае слова, — пад'ёмнае. Хоць яго часцей падымалі хвосткім, як бізун: «Устаць!»

Ад такіх успамінаў трывожна забілася сэрца. У думках загадаў сабе: «Тут ты жывы, пакуль у натоўпе. Дык і пільнуйся гэтага натоўпу!»

Спытаў у інжынераў, ці далёка ім дабірацца, і, пачуўшы адказ, знарок здзівіўся:

— Няўжо? І мне на Старажоўскую. Проста дзіва нейкае: нам зноў разам! Тады ёсць прапанова ўзяць таксі ў складчыну.

Таксі на вакзале не было, а ў аўтобус яны селі толькі ў трэці — два мусілі прапусціць. У цісканіне Міхась зноў ажыў. Калі праязджалі паўз Чырвоны касцёл, нарэшце ўсвядоміў, што ён — на Радзіме. «Дзіўны касцёл, нават бальшавікі яму анігадкі. Стаіць сабе ціха і чакае свайго часу». Успомнілася: «*Вось і Менск — старажытнае места*».



Міхась развітаўся з інжынерамі, сказаў, што яму таксама блізка, і пайшоў па вуліцы, як да свайго дома. Неўзабаве ўбачыў «Победу» з шашачкамі і зноў падумаў, што Бог па-ранейшаму з ім.

— На аўтавакзал, — сказаў кіроўцу, сядаючы на задняе сядзенне.

Шафёр быў, вядома, здзіўлены, што пасажыр сеў ззаду (ездакі ў таксі звычайна любілі «разгрузіць» душу), але выгляду не падаў: ці мала дзівакоў па свеце бадзяецца.

За нядоўгую дарогу да аўтавакзала таксіст атрымаў незвычайна вялікія грошы і, паўтарыўшы сам сабе: «Дзіўны таварыш», нервова заўсміхаўся, нават забыўся захапіць вакзальных кліентаў і хуценька паехаў.

Міхась адстаяў у чарзе з гадзіну, але білет узяў. Апошні. «Так, сёння мне сапраўды шанцуе, — нявесела ўсміхнуўся. — А час тут усё ж спыніўся».

Міхась папрасіў кіроўцу прытармазіць. Выскачыў, праводзіў вачыма аўтобус. Агледзеўся: у які бок ісці? Ага, трэба брацца правей. Чыгунка ў тым баку.

Вечарэла, калі Міхась падыходзіў да сваёй станцыі. Яна не змянілася. Тыя ж белыя сцены і шэры дах. Апрача двух школьнікаў, якія абагналі яго, на пероне нікога не было.

Калісьці вось гэтак жа гойсаў тут і ён з сябрамі. Цяпер тых сяброў няма. Ён застаўся адзін. А гойсаць працягвае.

— Міша! — закрычаў нехта за спінай, і ў яго абарвалася сэрца. Ён, пэўна, павярнуўся б, але тут пачуў:

— Чаго, мам?

— Чай ідзі піць. Батон маслам намазала і цукрам пасыпала, — высунуўшыся з акенца касы, крычала маладая паўнатварая жанчына. — І Ваську свайго кліч.

«Так, я дома», — радаваўся Міхась, кіруючыся да лесу. Гэтую думку падказала простая аналогія: маці гэтаксама запрашала яго ных сяброў да стала. У той краіне, дзе ён жыў апошнія гады, суседскіх дзяцей да стала «за кампанію» не клікалі.

Стомлены, знерваваны, ды яшчэ ў поўнай цемры, Міхась кепска арыентаваўся ў колішнім сваім лесе і да іхняга гарода выйшаў не адразу.

Святла ў доме не было, як і па ўсёй вёсцы. Вёска спала. Міхасю дужа карцела адчыніць дзверы роднай хаты, пабачыць маці. Божа, як яму хацелася абняць яе — найдаражэйшага ў свеце чалавека! Але ён перасіліў сябе і вырашыў дачакацца раніцы. Не выключана, што акурат у цемры затаіліся, чакаюць таварышы ў скуранках.

Міхася абудзіла амаль забытае «ку-ка-рэ-ку!». Ён саскочыў з сена і з асалодаю глыбока ўздыхнуў:

— Вось я і дома!

У ранішняй, срэбнай ад расы імгле Міхась убачыў любімы гай, поле, іх старую хату. Усміхнуўся: «Божа, няўжо гэта праўда? Няўжо дабраўся? Няўжо гэта не сон?»

Так, гэта быў не сон.

Салдаты з чырвонымі пагонамі пакрысе акружалі іхнюю хату. І хоць адлегласць паміж ім і чырвонапагоннікамі была досыць вялікая, ён усё ж пачуў:



— Взвод, в ружьё!

Пачуў, але сэнсу гэтых слоў спачатку не ўцяміў. Ён — дома! Гэта — галоўнае! І ён — шчаслівы! Што яму гэтыя тхары, якія бегаюць па загуменні?! Толькі б убачыць маці! Бедная мама! Дарма ён не пастукаўся ўначы. А цяпер — усё!

Міхась яшчэ раз агледзеўся навокал. Аблажылі так, што і мыш не праскочыць.

— Вылюдкі, я ненавіджу вас! — закрычаў на ўсю моц лёгкіх.

Ад раптоўнай роспачы Міхась ірвануўся з месца і пабег на злом галавы. Асліплены нянавісцю, імчаў проста на салдатаў.

Разгубленыя чырвонапагоннікі анямела глядзелі на вар'ята, які прыбліжаўся да іх з крыкам «ур-р-а!». Маёр-гэбіст, быццам нешта прадчуваючы, прыплюшчыў вочы і крыкнуў:

— Не страля-а-ць!

Але лейтэнант, які падкраўся з узводам пад хату з боку гаю, адначасна з ім скамандаваў:

— Агонь!

Два загады зліліся ў нешта невыразнае, ды сяржант, які ляжаў побач з камузвода, лепш пачуў свайго непасрэднага камандзіра.

Аўтаматная чарга прашыла Міхасю спіну. Ён здолеў прабегчы яшчэ колькі крокаў і ўпаў. Ён амаль што не дыхаў. Але — бачыў. Бачыў схіленую над ім маці. Яна абдымала яго, цалавала, плакала.

— Родненькі ты мой, родненькі, — зноў і зноў паўтарала. — Толькі не памірай.

Але Міхась паміраў. Спачатку перастаў чуць, потым — бачыць. Ён зразумеў, чаму, пераступіўшы мяжу з Радзімай, падаеш у бездань. Ён шаптаў:

«Мама, добрая бедная мама... Ты прымі і прабач свайму сыну».

Без Радзімы Міхась не змог, ён абраў смерць.

Настальгія — мацнейшая за розум.

Маёр глядзеў, як старая, сівая ажно да сінечы жанчына гладзіла па галаве свайго сціхлага сына, чуў, як яе голас паступова пераходзіў з галашэння на крык. Салдатам, якія падыходзілі да іх, ён зрабіў знак — старую не чапаць, а сам, дастаўшы папяросу, закурыў. Каб супакоіцца. Трэба ж было гэтаму здарыцца: упусціў аднаго з вядучых супрацоўнікаў «Вызвалення». Такое не даруюць.

Неўзабаве Міхасёва рука спаўзла з матчынага пляча і ўпала долу. У разнятай далоні маёр убачыў нітку з медальёнам. Што гэта? Яго як варам абдало. Ён ясна пачуў стук свайго сэрца. Гэты серабрысты, з бронзавай акантоўкай кружок ён ужо дзесьці бачыў. Вядома, бачыў! Дзе, калі, у каго?

І ён успомніў. Успомніў вялікія зялёныя вочы, якія палалі нянавісцю.

## ГОСЦІ

Яны ўвайшлі без стуку. Дый навошта стукацца: калі бабуля варыла што — дзверы не зачыняла. У хаце не было сенцаў ці вітальні, і з двара госці адразу траплялі ў кухню.

Не падаў голасу з будкі і белы ў рыжыя плямкі Тузік, маларослы прадстаўнік адважнай дварняцкай пароды. Адчуў: на гэтых гасцей лепей не гаўкаць і адвагу сваю не паказваць. Яны — у ботах. А як балюча ўпіваецца ў цела бот, Тузік памятаў добра. Не так даўно паспытаў. Забег падсілкавацца чым на недалёкую — адразу за іх Козыраўскім пасёлкам — чыгуначную станцыю Мінск-Паўднёвы і трапіў на вочы міліцыянеру — лютаму ненавісніку сабачага роду. Адразу атрымаў левай штуршковай. Адляцеў метры на тры. З таго часу накульгвае, а калі бачыць боты, пачынае дыхаць часта-часта, як у летнюю спёку.

Госці не пастукаліся, але без шуму не абышлося: загрукатаў, зляцеўшы з прыступак, драўляны, на колах-падшыпніках Санькаў «танк». Так бабуля называла ўнукаў самакат, які ён сам і змайстраваў. Санька ганарыўся, што ягоныя «колы» найхутчэйшыя на ўсёй вуліцы, і часам выкочваў самакат з гаража-хлеўчыка для прагонкі нават зімою.

Першым увайшоў пажылы, са сплюснутым, нібыта з-пад прэса, тварам і густымі чорнымі бровамі, моцнага целаскладу мужчына, відочна

старэйшы і векам, і рангам. Гэта ён адфутболіў «танк» з дарогі, кінуўшы:

— Чортавы бульбашы! Заставяць уваход розным барахлом, ногі папераломваеш!

Яшчэ з парога ён галодным бегатлівым позіркам павёў у бок керагаза: што там гатуюць недабітыя буржуі?

Другі — малады, цыбаты, з гладкімі, адно ў светлым пушку, шчокамі — ступіў на парог нерашуча: гэта было яго баявое хрышчэнне. Вось так уломлівацца ў чужое жытло яму дагэтуль не даводзілася — таму і быў трохі збянтэжаны, скаваны. Ён, быццам школьнік, прысаромлены за нешта благое, утаропіўся ў падлогу. Новы, відаць, толькі што атрыманы казённы цёмна-зялёны гальштук збіўся набок, а вялікія, як у свінні, вушы (была б яго воля, ён, вядома, не стрыгся б так коратка) адтапырыліся, нібыта хацелі пачуць нешта няўлоўнае. У ім змагаліся два пачуцці. Першае — цягнула назад: пайсці, збегчы, не корпацца ў чужых рэчах, у чужым жыцці. Другое — штурхала ў спіну: не бойся, дзейнічай. Гэта ж сям'я ворага народа! А здавалася — і сыноў у расход пусцілі, і гаспадара на катаргу ўпяклі, а што гэта дало? Старая карга жыве сабе, гадуе ўнука і яшчэ невядома чаму вучыць. Добра, хоць народ не спіць, сочыць, піша. Днямі невядомы таварыш далажыў: шыкуюць з нейчае ласкі недабітыя нацыяналісты.

Старэйшы прыжмурыўся ў цёмнай безваконнай кухні:

— Ты, гаспадыня, не зіркай спадылба. Мы ж не бандзюкі з вялікай дарогі. Сама ўсё ведаеш, не ўпершыню правяраем. Таму варушыся, паказвай,



што прыхавала, пакуль савецкая ўлада на нейкі час пра тваю сямейку забылася.

Худая старая з вялікімі шэра-блакітнымі вачыма, якія выдавалі былое хараство, з пабітымі сівізною валасамі, сабранымі ззаду празрыстым шырокім грэбенем у куксу, гледзячы не на гасцей, а як бы ў нікуды, ціха прамовіла:

— Дзверы адчыненыя, праходзьце, шукайце, калі што забылі...

— Ты прапаганду не разводзь! Глядзі, дагаворышся! — перапыніў яе, працягваючы тыкаць, старэйшы. — І ў хату вядзі, не стой слупам!

Гаспадыня саступіла ўбок, і госці (малодшы крыху павагаўся, выцер аб галіфэ раптам спатнелыя далоні, быў, пэўна, сапраўды збянтэжаны такім непаважлівым абыходжаннем са старой жанчынай) прайшлі вузкім калідорам у пакой, што служыў адначасна і спальняй, і гасцёўняй.

— Няблага жывём, — пракаментаваў старэйшы, агледзеўшы пакой. — А які абраз! І колькі ж такі цуд каштуе? Не маўчы, гаспадыня, да цябе звяртаюся. Пазалочаная, відаць, рэч, на сотні, а то і на ўсю тысячу пацягне? — упіўшыся вачыма ў пазалоту валасоў Маці Божае, разважаў уголас старэйшы.

— Для мяне ёй цаны няма, — перапыніла яго падлікі гаспадыня. — Ад бацькі засталася.

— Ты нам мазгі не пудры! — закіпеў аматар антыкварыяту, але, убачыўшы, што старая рашуча падышла да абраза, нібы рыхтуючыся яго бараніць, падаўся назад. — Э-э... З Маці Божай можна і пасля разабрацца. Вунь у куце, — падказаў малодшаму, — транты звалены. Можа, пад імі што цікавае ляжыць. Паварушы змяіны клубок, прывыкай.

«Безыменныя, — падумала гаспадыня. — Як і тады, калі мужа, а пасля сына бралі: баяцца назваць адзін аднаго па імені».

Малодшы падышоў да трантаў. Ступіў на дошкі, пад якімі гаспадар яшчэ ў дваццатыя зладзіў спрат. Тады ў ім схавалі невялікі, але сапраўды каштоўны абраз — падарунак своечасова збеглай ад бальшавікоў радні (яго павялічаная копія вісела цяпер на сцяне). Пазней у спраце знайшоў сховішча самаробны шматхвалевы радыёпрыёмнік, які настройваўся звычайна на нестандартныя дзевятнаццаць метраў радыё «Вызваленне», даваенныя і нават дарэвалюцыйныя кнігі, некалькі цудам не сканфіскаваных («забыліся» прыператрусе ў суседзяў) часопісаў «Маладняк», «Полымя», «Узвышша», «Наш край», сямейныя і іншыя фотаздымкі. Некаторыя з іх не прызначаліся для чужых вачэй. Так, на адным гаспадар быў сфатаграфаваны ў кампаніі пяці ўдзельнікаў І Усебеларускага кангрэса — Аляксандра Вазілы, Міхася Гольмана, Ігната Дварчаніна, Язэпа Мамонькі, Кастуся Езавітава. Сфатаграфаваліся каля будынка тэатра, у якім праходзіў кангрэс. Першых чатырох арыштавалі праз дзень, пятага схапілі пазней. На другім фотаздымку старэйшы сын гаспадара і Янка Купала сядзяць за шахматнай дошкаю-столікам, а за імі назіраюць сябры-заўзятары, у недалёкай будучыні — «ворагі народа»: паэты Міхась Чарот, Алесь Дудар, Уладзімір Хадыка, Васіль Каваль.

Малодшы нейкі час марудзіў, не адважваўся чапаць чужога адзення — старых palітонаў, падзёвак, якія ратавалі бабулю з унукам, калі на двары лютаваў мароз ці круціла завея. Але вагаўся нядоўга: перасіліў сябе, праглынуў камяк, што быў падступіў да горла, і працягнуў руку да вопраткі. Аднак браў асцярожна, нібыта баяўся: а раптам там і сапраўды затаілася якая змяюка ці пацук? Незнарок злавіў пагляд старэйшага, зразумеў: трэба дзейнічаць смялей, актыўней, больш рашуча — і параскідаў адзенне па падлозе. Прыгледзеўся да дошак, на якіх толькі што ляжалі транты. Не заўважыўшы нічога падазронага, зрабіў крок назад, і спрат зноў апынуўся ў яго пад нагамі.



«Добра стаіць, — цягнуў шыю з-пад бабулінага локця Сашка. — Няхай бы гэтак і стаяў...»

Але «вучань» быў хлопец малады, энергічны, да таго ж ён усё для сябе ўжо вырашыў, зрабіў свой выбар — ступіў да акна, да Сашкавага ложка, даваеннага, яшчэ нэпаўскіх часоў.

Спінкі ложка былі аздоблены бліскучымі нікеляванымі шарыкамі памерам з невялікі яблык. У левай — ля акна — стойцы Санька зрабіў свой спрат. Там ён хаваў нацельны крыжык, тузін польскіх і нямецкіх манет, восем царскіх папяровых рублёў, кукарду ад палявой афіцэрскай фуражкі пачатку стагоддзя, дзіцячы бранзалецік, адмыслова зроблены з кавалачкаў дрэва і белага металу невядомым турэмным ювелірам, дзедавым сябрам і аднадумцам (на ўнутраным баку бранзалета была гравіроўка: «Жыве Беларусь!»). Але самым небяспечным са схаванага ў тайнічку Санька лічыў згорнуты ў трубачку аркушык паперы з клятваю, пад якой яны з сябрамі падпісаліся.

*«Мы, Піянеры Савецкага саюза* (так, «Піянеры» з вялікай, а «саюз» з малой свядома напісаў Санька) *— А., Ц., С. і Л., — ствараем тайнае таварыства, задача якога — канструяванне міні-верта-*

*лёта для падарожжаў па зямным шары і азнаямлення з жыццём іншых народаў... Клянёмся...»*

А. — гэта Аляксандр — сам Санька, кіраўнік арганізацыі.

Ц. — Цімка, дружбак з дома насупраць, намеснік па гаспадарчай частцы. У іхнім хляве, што стаяў у глыбіні саду, было ашчадна складзена мноства розных дошчачак і брускоў, два-тры фанерныя шчыты, алюмініевыя трубкі рознай даўжыні і дыяметру, жалезныя нарожнікі, іншыя патрэбныя рэчы, — Цімкаў бацька быў вядомы ў наваколлі майстар.

С. — другі Санькаў сябрук Сяргей, які жыў у Мурманску, але ўсё лета праводзіў з камандаю на «чыгунцы»; ён быў сынам вядомага палярнага лётчыка і таму адказваў за праектаванне «аб'екта».

Л. — Людка, найхарашэйшая на іх вуліцы дзяўчынка, першае Санькава каханне. А плюс да ўсяго актыўная змагарка за справядлівасць. Калі яна выпадкова стала сведкай расправы над Тузікам, дык пабажылася адпомсціць ужо згаданаму ненавісніку чатырохногіх. І адпомсціла. Міліцыянер хадзіў на работу паўз яе дом. У пустую каробку з-пад абутку Людка паклала цагліну. Міліцыянер быў вялікім аматарам па-футбольнаму памахаць нагамі і заехаў ботам па каробцы, што ляжала на сцежцы. Ох і роў бугай у міліцэйскай форме! Да станцыі кульгаў, захлынаўся мацюкамі. «Гэта табе за Тузіка!» — прыгаворвала, грозячы яму ўслед кулачком, Людка.

«Жах!» — скалануўся Санька, успомніўшы тэкст клятвы, але, як замесці след, скеміў імгненна.

— Тут сплю я, — падышоў да ложка. — А гэтую падушку мне бабуля падарыла нядаўна, на дзень нараджэння, — падказаў трасунам «патрэбны кірунак».



— А-га-а! — зацягнулі госці дуэтам, павёўшыся на прынаду. — Падушка як мае быць!

— Ну і як? — падміргнуў Саньку малодшы. — Не мулка спіцца на абноўцы? Нешта ж яна вельмі цвёрдая.

Ён падкінуў падушку, злавіў, пакруціў, сціснуў, абмацаў па ражках. Не выявіўшы нічога падазронага, кінуў на падлогу, узяўся за сяннік. Не знайшоўшы кампрамату і ў ім, пацiснуў плячыма і павярнуўся да старэйшага:

— Нічога. Падушка як падушка, і ў сенніку — адна салома.

— Шукай-шукай! — загадаў той. — Не веру, каб у бярлозе белагвардзейскага афіцэра нічога каштоўнага не знайшлося! Адчуваю, хаваюць крамолу. Глядзі, як падазрона ў малога вочкі бегаюць.

Добры, сабачы нюх быў у старэйшага. Ён, напэўна, часта знаходзіў тое, што шукаў. У дадатак і вока пільнае меў: адразу ўгледзеў, калі Санька занепакоіўся. Але гэтым разам ён дарэмна палез у камоду з бялізнаю. І заўсміхаўся, абрадаваўся рана — маўляў, во дзе прыхавана золата! А між іншым, бальшавікі сумленна вычысцілі хату яшчэ ў дваццатым, нават заручальны пярсцёнак у гаспадыні з пальца здзерлі.

— Першая паліца — не паказчык, — каментаваў сваё шуканне ў камодзе, навучаючы заадно жыццю калегу-навічка. — Другая... Другая — такс-сама. А вось і знайшлі! — выняў, рады, некалькі дзядулевых лістоў, прысланых з Сібіры. — Я ведаў, што ў гэтым доме калі не золата, дык «палі-

тыка» абавязкова знойдзецца! Ужо цяплей. Лісты — у папку. З імі пасля разбяромся. Пайшлі далей. Камода — пустая... Цяпер — сервант. Стары — можа, з сакрэтамі. Памажы, — паклікаў напарніка. — Адсунем... Заднюю сценку, здаецца, не чапалі. А што ў шуфлядах? Відэльцы, лыжкі... А ўверсе? Кубкі, падшклянкі. Срэбныя ёсць? Не маўчы, старая, да цябе звяртаюся! — падвысіў голас. — Адкуль? Ты мне пытанняў не задавай. Глядзі, асмялела! Забылася, як... — хацеў асвяжыць яе памяць, але, паглядзеўшы на памочніка, перадумаў. — Я з табою пасля разбяруся! У іншым месцы... А тут што? Талеркі? І ўсё? — рэзка павярнуўся да напарніка. — Чорт бы іх пабраў! — Але не спыніўся, пачаў аглядаць пакой. — Ану прайдзіся, а я паслухаю. Можа, якая маснічына пра гэтую сямейку што раскажа.

Наконт маснічын ён слушна скеміў. Але, калі ягоны вучань наступаў на «патрэбныя», тыя не рыпелі, бо хадзіў ён не па голых дошках, а па раскіданым па ўсёй хаце адзенні.

«На месца рэчы трэба класці», — параіў яму Санька ў думках.

Цыбаты абтупаў усю падлогу — дошкі маўчалі.

— Няма часу, яшчэ два дамы наперадзе, — сказаў раптам старэйшы, зірнуўшы на гадзіннік. — Шкада, сцены не прастукалі, хоць шпалеры, здаецца, не мянялі. Узняць бы яшчэ падлогу не пашкодзіла, ды час падціскае. Нічога, не апошні раз.

Госці вярнуліся ў вузкі калідор, прайшлі ў кухню. Керагаз не гарэў. Старэйшы, незадаволены вынікамператрусу, сыходзячы, здумаў яшчэ раз укалоць старую:



— Бачу, гаспадыня не запрашае гасцей да стала? Мы да яе па-добраму, па-чалавечы, а яна, значыць, во як. Ясна! Гарбатую магіла выпрастае.

Бабуля маўчала. Санька хацеў быў адказаць за яе, як след адказаць, ды заадно спытаць пра дзедавы лісты, але яна прыціснула ягоную галаву да сябе.

Госці пайшлі да веснічак. Выгляд у іх быў заклапочаны, але не расчараваны: можа, у іншых дамах што каштоўнае знойдзецца?

Бабуля прысела на ўслон ля парога, цяжка задыхала. Санька ведаў, што будзе далей. Яна пагладзіць яго, скажа: «Схадзі, унучак, у сад, пагуляй». А сама горка заплача, пачне стагнаць, біць маленькімі сухімі кулачкамі сябе па каленях і пасля доўга-доўга будзе нешта шаптаць сама сабе, прыгаворваць.

Так і сталася.

Санька выйшаў у двор, падняў самакат. Адштурхнуўся, пакаціў па лядовай дарожцы. Ля арэляў спешыўся, падышоў да любімай яблыні. Пагладзіў яе. Спытаў:

— Бачыла? Яны трэслі хату, палохалі, хацелі, каб я здаўся, усё расказаў. А здацца — значыць здрадзіць Людцы, сябрам. «Няма нічога горшага за здраду», — успомніў бабуліны словы. — Не дачакаюцца! — запэўніў яблыню.

Падбег Тузік, пацёрся, прасіў прылашчыць яго. Санька пагладзіў сябра: «Нічога, адаб'емся». Разгледзеўся. Дзень быў цудоўны: снег, лёгкі марозік, халаднаватае, але яркае сонца. Злеплены заўчора, у адлігу, снегавік па-змоўніцку падміргнуў яму: не бойся, гэта ж наш сад, мы тут гаспадары.

Да Новага года заставалася багата часу — цэлы вечар. Яны яшчэ паспеюць аздобіць ёлку. Цац-

кі падрыхтавалі загадзя: увесь апошні тыдзень клеілі з паперы розных жывёлін, птушак, рыбак, гномікаў, выразалі сняжынкі. Усё расфарбавалі. Нават Дзеда Мароза бабуля пашыла.

— Усё будзе добра, — прашаптаў Санька ці то сабе, ці то яблыні, адчуваючы, як ад холаду яго бяруць дрыжыкі, як пачынае трымцець і калаціцца ягонае худое цела, як злы мароз сціскае ледзянымі пальцамі сэрца.

Тады Санька не разумеў, што гэта быў не холад, а — страх.

## БАЦЬКА І СЫН

Ён узяў сына на рукі і спыніў таксі. Яму, вядома ж, не да шыку, ды такой бяды! За гады, праведзеныя ў лагеры, атрымаў сякую-такую кампенсацыю — павінна хапіць, каб пражыць на волі, не рупячыся пра грошы... адзін дзень. Сёння гэты дзень настаў — дзень нараджэння сына. Так і сказаў таксісту:

— У нас з мальцам свята. Будзем гуляць. І ты з намі. Дапазна. Згода?

— Гуляць дык гуляць, — пагадзіўся той. — Якія пытанні?

Бацька вярнуўся напярэдадні. Аднаму Богу вядома, чаго яму каштавала трапіць дадому акурат пад гэты дзень. І цяпер, ушчэнт змучаны, побач з сынам ён пакрысе ачуньваў.

Яны раскашавалі на заднім сядзенні. У нейкі момант бацька нахіліўся, ціха сказаў:

— Валік, мой маленькі выратоўца, які ж я шчаслівы, што бачу цябе.

Сын не разумеў, як ён зрабіўся бацькавым ратаўніком, але адчуваў сябе на сёмым небе: татка вярнуўся! Ён не ведаў і не мог ведаць, што ў час папярэдняга следства ва ўнутранай турме НКВД два вылюдкі катавалі бацьку. Перад імі была пастаўлена задача: «Адбіць нацдэму мазгі, каб уласную маці не пазнаў!» І яны пастараліся. Шматлікія кровазліцці затапілі памяць, і калі б не вядомы ленінградскі хірург, які быў арыштаваны па справе лекараў

і сядзеў разам з бацькам, наўрад ці пазнаў бы ён каго, наўрад ці наогул вярнуўся з лагера. Хірург быў і някепскім псіхолагам — апякуючыся бацькам, ён нястомна паўтараў: «Памятайце — дома вас чакаюць». Гэтая мабілізацыйная тэрапія дапамагла.

— Татка, на скрыжаванні давай павернем направа, там, на рагу, ёсць цір, — крануў сын бацьку за плячо.

— Спыніся пакуль, браток, — сказаў бацька, і таксіст прытармазіў ля невялікага, кшталту гаража, будынка. — І пачакай.

Сыну не цярпелася пастраляць з «амаль сапраўднай вінтоўкі». Ён першым выскачыў з машыны і кінуўся ў расчыненыя насцеж дзверы.

— Рады вас бачыць, маладыя людзі, — вітаў іх пажылы чалавек з мыліцай замест левай нагі. — Мяне завуць Анатоль Сцяпанавіч. А вы можаце і не гаварыць пра сябе нічога. І так бачу: бацька з сынам прагуляцца выправіліся. Якія вінтоўкі выбераце? «Пад абрэз» ці «па цэнтры»? Раю «пад абрэз». Яны лепш прыстраляныя.

— Што ж, — усміхнуўся бацька, — нясіце прыстраляныя. І сыну, калі можна, падстаўку падбярыце па росце.

— Усё зробім, не турбуйцеся. Трымайце вашу зброю. А пістонаў колькі насыпаць?

— Татка, можа, болей возьмем? Хочацца і вятрак запусціць, і танк падбіць, і карабель, і ў самалёт пацэліць. У самалёт найцяжэй. Аднойчы спрабаваў — нічога не выйшла. Бачыш, якая маленькая пад ім кропачка? Збіць самалёт — мая мара.

— Гэта не мара, сынок, гэта хутчэй задача. Мара — гэта нешта іншае. Напрыклад, я мару, каб ты вырас сумленным чалавекам. Адважным, шчырым, добрым. Каб памятаў, дзе нарадзіўся. А пістончыкаў мы купім колькі захочаш. І не спяшайся, добранька мецься. Але дай Бог, каб такія практыкаванні табе ніколі не спатрэбіліся, — дадаў цішэй.



Валік пачуў, але не ўспрыняў апошніх бацькавых слоў. Успрыняў іншае: «добранька мецься». Тут ён пастараецца, татку за яго не будзе сорамна. Мецproperties ўся не спяшаючыся, стаіўшы дыханне. І ў яго, наўздзіў, амаль усё атрымалася.

— Ну, вы, хлопцы, даяце! — ахаў Анатоль Сцяпанавіч. — Усё пазбівалі. Нават і не помню, калі ў маім ціры такое надаралася апошнім разам. План продажу пістонаў выканалі. Можа, была не была, па другім крузе пройдзецеся?

— Не, — пакруціў галавой бацька. — Па крузе — не трэба. Круг — гэта кола, ланцуг, безвыходнасць. Таму толькі наперад! Дзякуй вам за ўсё, але — паедзем далей. Так, Валік?

— Так, татка! — кіўнуў сын і з гонарам падумаў: «А самалёт я ўсё-ткі збіў».

— Заходзьце яшчэ! Добрым людзям заўсёды рады, — развітаўся Анатоль Сцяпанавіч, праводзячы іх да машыны.

— Куды цяпер, панове снайперы? — спытаўся таксіст, адчыняючы дзверцы.

— А давай, татка, у парк паедзем, — прапанаваў Валік. — Хлопцы расказвалі — там новыя атракцыёны паставілі.

— Жаданне імянінніка — закон! — усміхнуўся бацька. — Давай, дружа.

— Няма праблем. Даляцім за дзесяць хвілін, — запэўніў таксіст.

Але бацька астудзіў ягоны імпэт:

— Гнаць не трэба. Я ў гонках пражыў усё жыццё. Хопіць! Едзь паціху.

— Як загадаеце, — паціснуў плячыма таксіст і падкрэслена мякка рушыў з месца.

Святочная атмасфера парку захапіла сына. Ён перабягаў ад аднаго атракцыёна да другога і пытаўся:

— Татка, а тут пакатаемся? А на вунь той білеты возьмем? А туды паспеем? А там не зачыніцца?

Бацька радасна ківаў галавою:

— Паспеем! Не зачыніцца!

На «чортавым коле» Валік затрымаўся надоўга.

— Спадабалася на горад з вышыні глядзець? — пацікавіўся бацька, калі па просьбе сына яны ўзнесліся пад неба трэці раз.

— Вельмі! — запэўніў сын. Але нечакана прызнаўся: — Я, татка, вышыні баюся, але з табой мне ані не страшна! От і выхоўваю сябе.

— Ты ў мяне малайчына! — абняў бацька сына. — Цяпер мы разам, а разам мы — сіла, і табе няма чаго баяцца.

Доўга каталіся на розных кружылках, машынках, паравозіках ды лодачках, а пасля сын зноў пацягнуў бацьку да «чортавага кола».

— Татка, давай яшчэ раз. Хачу пераканацца, што цяпер дакладна не спужаюся.

— Давай! — падзівіўся бацька сынавай упартасці, але, згадаўшы, што гэтакім быў і сам, з усмешкай падумаў: «Можа, таму і выжыў».

Уволю накружыўшыся — у Валіка ўжо ногі падкошваліся, — вырашылі перадыхнуць і падсілкавацца.

У рэстаран зайшлі ўтрох — запрасілі і кіроўцу. Пастукалі ў дзверы — замкнёна: да шасці вечара там быў перапынак, але таксіст дамовіўся са швейцарам, і іх пусцілі, з ходу падалі абед.



Бацька еў асцярожна, як бы з недаверам: адвык ад нармальнай ежы. Там, у сібірскіх лагерах, яна й не снілася, і памяць спакваля слабела: забываўся смак белага хлеба, пах смажанага мяса, водар спелага яблыка.

Таксіст жа ўмінаў, быццам перад гэтым пасціў цэлы тыдзень. Не адставаў ад яго і Валік.

— Татка, я пасля марожанага не падымуся. Давай возьмем яго з сабой!

— З сабой прыхопім мандарыны, а марожанае можаш не есці. Шмат салодкага — толькі пашкодзіць.

Наступны прыпынак падказаў таксіст, якому перадаўся іхні настрой:

— Жонка днямі ў «Дзіцячы свет» заходзіла. Казала, туды імпартныя цацкі прывезлі. Прыгожыя — слоў няма. Але дарагія...

— Нічога, прарвёмся, — пагладзіў бацька сына па галаве, убачыўшы, як заблішчэлі ў таго вочы. — Адзін раз жывём. Едзем!

Пад заморскія цацкі ў краме адвялі асобную секцыю.

— Ух ты! — здзіўляўся сын, азіраючы паліцы. — Бачыш, татка, колькі ўсяго?

— Не траць марна часу, выбірай, што падабаецца, — падахвоціў бацька.

А Валік не можа выбраць: разгубіўся. Да аднаго памкнецца, да другога. Давялося бацьку прыйсці яму на дапамогу.

— Ты ж ужо не малы, нешта адпаведнае і нагледжвай.

Выходзіў Валік з «Дзіцячага свету», і ягоны твар ззяў ад шчасця. Пра такія цацкі і марыць не мог, і зараз нават на хвіліну не хацеў з імі разлучацца — ану як абарвецца гэты чароўны сон? — і нёс усе набыткі сам.

— Надарвешся ж, давай хоць што вазьму, — ішоў бацька за сынам.

— Не хвалюйся, татка, — адказваў ганарліва Валік. — Я дужы.

Кіроўца сустрэў іх вясёлым «О-го-го!».

— Складвай свае набыткі, — адчыніў перад Валікам дзверцы. — Эх, мне б такога татку!

— Такі ёсць толькі ў мяне, — пахваліўся Валік.

Бацька забраў у яго вялізную, з карычневага велюру малпу, ярка-чырвоную — ніколі такіх не даводзілася бачыць на дарогах — «Татру» з прычэпам, камплект кітайскіх ракетак для бадмінтона і настольнага тэніса. Заняў імі правую палову задняга сядзення. Сам сеў спераду. Спахапіўся, спытаў у таксіста:

— А ў цябе дзеці ёсць?

— Двое. Пагодкі. Гэткія ж архараўцы, як і твой.

— Валік, — павярнуўся бацька да сына, — няўжо пакінем архараўцаў без падарункаў? Кажы шчыра: чаго не шкада?

Шкада было ўсяго, але яшчэ больш хацелася быць падобным да таткі.

— Можа, ракеткі гэтыя? Хай гуляюць.

Таксіст пачаў быў адмаўляцца, але бацька і слухаць не стаў:

— Калі мы з Валікам надумалі, назад ходу няма. Пытанне закрыта. А цяпер паварочвай — паедзем на вуліцу Маякоўскага. Адразу за рынкам — ве-



даеш? — лазня. Там і прытармозіш. — Павярнуўшыся да сына, патлумачыў: — Святое для нас з табой месца. Яшчэ да вайны мой бацька — твой дзед — вадзіў у гэтую лазню мяне з братамі.

Лазня для мужчын — перш-наперш парылка. І яны, абодва мужыкі — вялікі і малы, неўзабаве апынуліся ў ёй. Нягледзячы на падарванае ў лагеры здароўе, парыўся бацька зацята, нібы апошні раз, чым заводзіў іншых наведнікаў: яны ледзь не ў чаргу выстраіліся па венікі.

— А сынок увесь у татку, — падахвочваў лазеншчык бацьку, пазвоньваючы бляшанкаю з мокрымі медзякамі. — Вочы вялікія, сінія, нос арліны...

Яму было няўцям, чаму пасля ягоных слоў гэты «азартны папаша» раптам перастаў усміхацца, спахмурнеў. А той думаў: «Не ўсё ты, братка, ведаеш. Не дай Бог хлопцу паўтарыць маё жыццё: лагеры, этапы...»

Пасля лазні бацька папрасіў таксіста завезці іх на Вайсковыя могілкі. Сыну патлумачыў:

— Паедзем наведаем дзеда.

На гэтых могілках Валік яшчэ не быў. Бацька ўзяў сына за руку і павёў яго між кустоў і помнікаў у далёкі закутак. Там, стоячы над грудком з жалезным крыжам, ён, быццам забыўшыся на розніцу ў гадах, распавядаў сыну пра дзеда, які, аказваецца, быў дэлегатам Першага Усебеларускага кангрэса.

Валік здзіўлена паглядзеў на бацьку:

— Якога такога кангрэса?

І бацька прадоўжыў:

— Тады ўпусцілі, можа, адзіны для нашай краіны шанец стаць вольнай, — казаў Валіку, хоць

той па-ранейшаму кепска разумеў, пра што ідзе гаворка.

Расказаў бацька і пра тое, што іх дзед уваходзіў у кіраўніцтва падпольнай царкоўнай антыбальшавіцкай арганізацыі, якая дзейнічала ў Мінску ў сярэдзіне трыццатых гадоў.

— Антыбальшавіцкай — гэта супраць бальшавікоў, татка, камуністаў? Хіба былі такія арганізацыі?

— Арганізацыі ў поўным сэнсе слова не было, — нібыта для самога сябе нешта ўдакладніўшы, тлумачыў бацька, — але сёе-тое рабіць людзі спрабавалі. За гэта пасля і адпакутавалі. Быў такі працэс — «дваццаці пяці». На ім судзілі і твайго дзеда. Увогуле ён быў незвычайны чалавек. Вярнуўшыся з лагера, вымушаны як не штодня адзначацца ў міліцыі, усё адно па-ранейшаму слухаў забароненае радыё «Свабода».

— А я помню, як дзед настройваў прыёмнік, — ажывіўся Валік. — Гук быў ціхі-ціхі, і я амаль нічога не разбіраў. Ён і ў шахматы, і ў шашкі навучыў мяне гуляць. І маляваць. А яшчэ ён любіў чытаць вершы Лермантава. Помніў іх са школы. Уяўляеш, татка, — са школы! Я забываю вершы праз тыдзень, а дзядуля памятаў усё жыццё! Як сёння чую ягоны голас:

> Белеет парус одинокий
> В тумане моря голубом!..
> Что ищет он в стране далекой?
> Что кинул он в краю родном?

— Так, дзед быў дабрэннай закваскі, дарэвалюцыйнай, — падтрымаў бацька Валіка. — А наконт памяці ты не хвалюйся. Памяць разаўецца. Гэта я табе пэўна кажу. Галоўнае — больш чытай, думай, аналізуй. І спортам займайся. У цябе павінна быць дужае, вынослівае цела. Слабыя целам часта і духам слабыя. Хоць бываюць і выключэнні... — Пасля невялікай паўзы дадаў: — Паехалі, нешта цяжка мне тут дыхаецца.



Бацьку і праўда было блага. Зноў навалiліся роспач, нежаданне жыць. Спрабуючы ўзяць сябе ў рукі, ля машыны ён раптам прапанаваў:

— Паехалі ў дом-музей Янкі Купалы.

Але ў музей чамусьці не пайшоў, хадзіў па парку, пра нешта думаў. Валік трымаўся побач. Калі падышлі да моста цераз Свіслач, бацька спыніўся.

— На тым баку вуліцы, вунь там, насупраць, шмат гадоў таму стаяў інтэрнат педагагічнага тэхнікума, — павярнуўся да сына. — Незвычайная, скажу табе, была навучальная ўстанова. Выкладчыкі ні ў чым не саступалі прафесарам з універсітэта. Уласна, яны і былі ўніверсітэцкімі прафесарамі. Тут вучыліся і мае браты — твае дзядзькі. Вучыліся і многія беларускія пісьменнікі. Большасць з іх пасля былі расстраляныя. Выжылі адзінкі. У школе ты будзеш вывучаць іх творчасць. З дзесяці супрацоўнікаў газеты, у якой брат тады лічыўся рабкорам, дзевяцярых арыштавалі і неўзабаве, асудзіўшы, забілі. Але аднаго не зачапілі, нават наадварот. Яму даручылі адказнае заданне — набраць новы штат рэдакцыі і ўзначаліць яго. Падобнае адбывалася амаль ва ўсіх выданнях: пакідалі жывымі, нібы на развод, аднаго-двух. Цяпер яны заслужаныя людзі, лаўрэаты. Але годзе пра благое, — падсумаваў бацька, падыходзячы да машыны. — Ёсць прапанова. Адсюль ужо недалёка

да возера, — паказаў рукой. — Як ты глядзіш на тое, каб паплаваць?

— Татка, ты ж ведаеш, купацца я заўсёды гатовы!

«Ведаеш...» Ён зноў, як і ад слоў лазеншчыка, уздрыгнуў. Адкуль яму было пра гэта ведаць? Ужо калі неяк наладзілася з ліставаннем, прыйшла вестка, што ў іхнім вялікім доме хлопец застаўся адзін: халодным снежаньскім ранкам туберкулёз звёў у магілу маці, неўзабаве пасля нервовага зрыву злегла бабуля. Шэфства над імі ўзялі суседзі — муж і жонка.

Сеў, крануў кіроўцу за локаць.

— Паехалі, дружа. Напаследак — да возера.

Возера спаткала іх прахалодай і свежасцю. Адразу неяк вальней стала дыхаць.

Бацька распрануўся, зайшоў у ваду, паплыў. Азірнуўся на бераг. Крыкнуў:

— Валік, не лезь — вада халодная. Лепш потым у басейн з’ездзім — там паплаваеш.

Апошні раз бацька плаваў шмат гадоў таму, аднак разумеў: у такой вадзе не толькі ў сына, але і ў яго ў кожную хвіліну могуць пачацца сутаргі. Аднак не стрымаўся: ён зноў тут, у возеры свайго маленства! Некалі разам з братамі плавалі ў ім навыперадкі. Ён быў самым малодшым і на фінішы, зразумела, заўсёды апынаўся апошнім. Але не здаваўся — упартасці яму ставала. І аднаго разу ледзь не дагнаў братоў, але... у апошні момант ногі адмовіліся яму служыць. Браты прыйшлі на падмогу.

І вось — у яго зноў адзеравянелі ногі. Здрадліва перасталі слухацца. Перавярнуўся на спіну, ды — патрапіў у вір. Жалезнымі абцугамі той абхапіў яго



і цягнуў на дно. Ён з усіх сіл запрацаваў рукамі, нырнуў, вынырнуў, яшчэ раз нырнуў...

Валік адчуў бяду: «Навошта татка гэтак далёка заплыў? Яго ўжо і не відаць». Валік кепска плаваў, яшчэ толькі вучыўся, але, не раздумваючы, кінуўся ў ваду.

— Татка, татка! — крычаў. — Вярніся! Я баюся!

Сынаў голас патроіў бацькавы сілы.

«Выплыць! — загадаў сабе і зноў даў нырца. — Выплыць! — крычала ўсё ў ім. — Я павінен вырвацца з гэтае пасткі!»

Роспачна замахаў рукамі. І раптам адчуў — вір паслабляе свае абдымкі, і ногі нібы вяртаюцца да жыцця. І ўсё ж не так ногі, як рукі, што доўгія гады валілі лес, уратавалі яго. І ён паплыў да сына.

— Валя, назад, назад! — крычаў яму.

І сын паслухаўся, спыніўся. Але да берага не павярнуў: не мог, аслабеў.

Падхапіў яго бацька, калі ён ужо захлынаўся.

Валіка адхаялі, але ачуньваў ён марудна. Пяць дзён і начэй маленькія рукі сціскалі падушку — трымаліся за татку.

Бабуля сядзела на краёчку пасцелі.

— От малайчына! — узрадавалася, калі ён расплюшчыў вочы. — Як ты, унучак?

Валік не адказаў. Убачыў на процілеглай сцяне бацькаву фотакартку ў драўлянай рамцы. Ражок рамкі чамусьці быў абвязаны чорнай стужкай.

Ён яшчэ не разумеў, што гэта значыць, і з неўразуменнем паглядзеў на бабулю. Але тая нічога не сказала.

Міне шмат гадоў, перш чым Валік уведае праўду: чалавек, якога ён называў таткам, быў яго дзядзькам — малодшым братам бацькі, расстралянага праз два месяцы пасля нараджэння сына.

І яшчэ адна таямніца раскрыецца Валіку: дадзеную ў лагеры землякам-вязням клятву — адпомсціць кату — бацькаў брат стрымаў. Дарагой цаной абярнулася помста: каб не здавацца жывым, дзядзька наклаў на сябе рукі. Гэта адбылося на трэці дзень пасля ягонага вяртання з лагера.

Тры дні пабыў ён на волі. Тры дні. Адзін з іх быў аддадзены пляменніку. І Валік не забудзе таго дня ніколі.

## ДЗВЕ КАПЕЙКІ

— Добры дзень, — як заўсёды няспешна, выразна прамаўляючы кожнае слова, але гэтым разам быццам са здзекам, павіталася настаўніца. — Сёння панядзелак, першы дзень тыдня. Мы добра правялі выходны і з новымі сіламі пачнем вучобу. Але пачнем, на жаль, з разбору надзвычайнага здарэння, якое адбылося ў суботу.

4 «Б» насцярожыўся. А настаўніца, вытрымаўшы паўзу, працягвала:

— Вы хочаце ведаць, што за надзвычайнае здарэнне? А няхай пра гэта скажа сам герой — у двукоссі, вядома ж. Ён сярод вас. Хачу яго папярэдзіць: мы ведаем усё! Спадзяюся, ён яшчэ не да канца страціў сумленне і ў яго хопіць смеласці і прыстойнасці выйсці да дошкі і расказаць сваім таварышам пра тое, што яго штурхнула на такі агідны ўчынак, які ганьбіць клас, школу.

Вучні застылі ад гэткага незвычайнага пачатку ўрока. Сцяўся і светлавалосы, яснавокі, ціхі, з дзявочым тварам чацвёрачнік Лёша Малінкін. «Відаць, нехта гуляў з запалкамі і падпаліў дом? Не, напэўна, адбылося нешта страшнейшае. Можа, у тым доме засталіся людзі? — гадаў Лёша, гледзячы на настаўніцу. — Вунь як перажывае, калоціцца ўся».

— Мы чакаем! — сарвалася на крык настаўніца. — Чакаем роўна адну хвіліну! — падняла ўказальны палец. — Калі той, хто гэта ўчыніў, не

ўстане і не раскажа ўсё сам, як і павінен зрабіць сапраўдны савецкі школьнік і піянер, няхай не крыўдуе. Час пайшоў!

Вучні пачалі азірацца, круціць галовамі. Круціў галавою і Лёша: «Хто ж гэты злачынец? Хто? Што за вораг зашыўся сярод нас?» Але ніхто з-за парты не падымаўся, не выходзіў да дошкі.

— Хвіліна мінула! — абвясціла настаўніца. — Я папярэджвала. Цяпер хай нахабнік літасці не чакае. — Яна раптам ляснула далонню па стале і закрычала: — Малінкін, устань! Падымі галаву! Глядзі на мяне! У цябе сумленне ёсць? Ды як ты мог? Як ты, вучань найлепшага па ўсіх паказчыках класа, мог зрабіць такі агідны, скажу болей — жудасны ўчынак?!

Спачатку Лёша нічога не зразумеў. Пры чым тут ён? За што на яго крычаць? У чым ён вінаваты, што такое жахлівае ўчыніў? Але раптам да яго дайшло. Ён успомніў! Успомніў, што адбылося з ім у суботу.

«Так, — апусціў Лёша галаву, — я вінаваты. І ўсё гэтыя фотаздымкі... Але адкуль даведалася настаўніца? Цётка ж тая сказала, што ва ўсім разабралася і нікому нічога паведамляць не будзе. Хто ж данёс класнай?»

Памяць паслужліва вярнула яго на два дні назад, у суботу. Раніца пачыналася добра. Мама, сыходзячы на работу, пакінула Лёшу, як і абяцала, шэсцьдзесят шэсць капеек. Дваццаць пяць — на праяўляльнік для фотапаперы, трыццаць — на фіксаж і адзінаццаць — на яго любімы гематаген. Лёша недзе чуў, што гематаген павялічвае запас крыві ў арганізме, і калі ён будзе, скажам, паранены, дык з такім запасам даўжэй пратрымаецца. Ён не ўяўляў, дзе яго могуць параніць, але чамусьці думаў, што некалі гэта абавязкова здарыцца.



Стужку праявіў колькі дзён таму. Тры вялікія пачкі фотапаперы прыслаў на дзень нараджэння з Мурманска стрыечны брат Сярожа. Заставалася набыць хімікаты, каб надрукаваць здымкі. Па дарозе ў «Культтавары», дзе быў аддзел фотатавараў, Лёша зайшоў у аптэку і купіў батончык гематагену.

У магазіне агледзеў паліцы фотакутка. Было ўсё: і праяўляльнік, і фіксаж. Узяў па пакецiку таго і другога. «Стоп, што гэта? — позірк запыніўся на новай лічбе на цэнніку фіксажу. — Чаму трыццаць дзве капейкі? Ён жа каштаваў трыццаць. Трыццаць! Я ж добра памятаю».

— Цётачка, — звярнуўся Лёша да прадаўшчыцы, што стаяла ў зале, — а чаму фіксаж падаражэў?

— У нашай краіне ніколі нічога не даражэе, — падышла да яго прадаўшчыца. — Ты абы-чаго не пляці, — узяла ў рукі пакецік, пакруціла, зірнула на адваротны бок. — Зразумела. За трыццаць быў расійскі, а гэты — з Азербайджана, — кінула фіксаж на паліцу. Вярнулася да выхаду з залы і стала ў праходзе за касаю.

Магазіны самаабслугоўвання толькі ўваходзілі ў моду, і разам з імі, як насланнё, з'явіліся мажныя цёткі-кантралёркі, што правяралі пакупнікоў на выхадзе. Тут жа, каля касы, яны бесцырымонна абшуквалі іх.

Западозрыць і абшукаць маглі кожнага. І кожны, пакуль цётка прамацвала яго кішэні, стаяў і, апусціўшы галаву, маўчаў. Зрэшты, не высоўвацца, не падымаць галаву яго прывучыла жыццё.

Гэтак цяпер стаяў Лёша. На імгненне ён ачуўся, пачаў быў нешта гаварыць, але ўбачыў разяўлены

ў крыку рот настаўніцы і з перапалоху зноў знямеў, адасобіўся ад класа, успамінаў...

Ён тады доўга, як непрыкаяны, хадзіў па магазіне. Думаў: «Што рабіць? От не пашэнціла дык не пашэнціла! Каб ведаў, што фіксаж падаражэе, абышоўся б і без гематагену. Хацеў жа спачатку купіць глюкозу за шэсць капеек. Чаму не купіў? Засталося б яшчэ на газіроўку з сіропам, і засталіся б гэтак патрэбныя дзве капейкі. Што ж рабіць? Дома і акенца ў ванным пакоі завесіў, і тры ванначкі для праяўляльніка, фіксажу і вады падрыхтаваў. І старую чарцёжную дошку на ванну паклаў: Павел Іванавіч, сусед-пенсіянер, падказаў, як абсталяваць часовую фоталабараторыю. “Без фіксажу, — казаў Павел Іванавіч, — не абысціся: фотакарткі пажаўцеюць”. Ага, прыдумаў! У мяне ж ёсць гематаген! Добра, што па дарозе яго не з’еў. Пакладу на паліцу трыццаць капеек, а замест дзвюх, якіх не стае, пакіну гематаген. Праяўляльнік аплачу ў касе, а фіксаж пранясу так, не паказваючы. Калі ж заўважаць, скажу, што замест дзвюх капеек пакінуў гематаген за адзінаццаць».

Лёша не схаваў фіксаж за пазуху, як гэта зрабіў бы кожны зладзюжка, а паклаў у нагрудную кішэньку кашулі. Ён не ведаў, што праз тонкую паркалёвую тканіну пакецік не толькі відаць, але нават назва яго чытаецца.

Касірка паглядзела на Лёшу, усё зразумела і хацела была спытаць: «Што ў цябе там, прызнавайся?», ды перадумала. «Цікава, — вырашыла праверыць, — гэтая экс-спартоўка, кабыла ў спадніцы, Алімпіяда Іванаўна Баран (прыдумаў жа Бог спалучэнне!) заўважыць зладзюжку ці не? Калі не, я адразу скажу загадчыцы, як пільна Алімпіяда нясе службу, як хвацка злодзеяў прапускае. Эйш ты, дзелавая знайшлася, працаваць вучыць, заўвагі робіць. Я, ці бачыце, марудна пакупнікоў абслугоўваю! Ды якая твая сабачая справа?! Пасядзела б сама цэлы дзень на касе».

Мажная, шырэйшая за дзверы, блізарукая Алімпіяда Іванаўна паглядзела на Лёшу зверху ўніз, нічога падазронага не заўважыла, і ён накіраваўся да выхаду. Ішоў няспешна, каб не выдаць сябе.

«Ага, Бараніха, — узрадавалася касірка, — прапусціла-такі несуна. Не дагледзела».

— Трымайце злодзея! — усхапілася з крэсла, пабегла да дзвярэй і загарадзіла Лёшу дарогу. — Прызнавайся, — торкнула хлопчыку ў грудзі, — што ўкраў?

— Баліць... — прамямліў Лёша, міжволі зрабіўшы крок назад. «Так і мусіла скончыцца, — апусціў галаву. — Зло павінна быць пакарана. А я зрабіў зло».

— Баліць, ці бачыце, яму! Ах, якія мы датклівыя! Пацерпіш! — раўнула касірка. — Ану, пакажы, што ў цябе ў кішэні? — Яна зноў торкнула Лёшу ў грудзі. — Во ў гэтай!

— Ф-фіксаж, цётачка, — з перапалоху заікнуўся Лёша. — Я за яго заплаціў. Замест дзвюх капеек, якіх нехапала, паклаў на паліцу гематаген, а ён каштуе адзінаццаць.

— Які яшчэ гематаген?! Што ты вярзеш? — схапіла касірка Лёшу за руку. — Пайшлі, у іншым месцы разбяромся!

— Ён і гематаген недзе ўкраў, — учапілася за Лёшаў каўнер Алімпіяда Іванаўна. — Трымай байструка, Верка, мацней трымай! Вядзі да загадчыцы! І міліцыю трэба выклікаць! Злавілі нарэшце

зладзюгу! Гэта ён усё лета магазін абкрадаў! За яго мы свае кроўныя выкладвалі.

Лёшу прывалаклі ў кабінет загадчыцы, але той на месцы не было — выйшла да сяброўкі ў суседні магазін «Садавіна-гародніна».

Прайшло пяць, потым дзесяць хвілін, але гаспадыня ў кабінет не вярталася. Параіўшыся, касірка і кантралёрка надумалі выклікаць міліцыю. Руплівая абаронца справядлівасці Алімпіяда Іванаўна патэлефанавала на 02, і цяпер абедзве моўчкі сядзелі, пільнавалі Лёшу і чакалі падмогі.

Міліцыя доўга не з'яўлялася, але да тэлефона жанчыны больш не падыходзілі. Яны былі не супраць, калі чаканне задоўжыцца і да абеду: сядзець у кабінеце — не трудзіць ногі ў зале.

У Лёшы паціху нагортваліся слёзы. Ён ні разу ў жыцці не сутыкаўся з міліцыяй, але чамусьці, калі чуў гэтае слова, да горла падкочваў камяк.

Алімпіяда Іванаўна выйшла з кабінета — яе паклікалі ў залу, а касірка па-ранейшаму ёрзала на крэсле. Убачыўшы прыбіральшчыцу, якая праходзіла міма, паклікала:

— Валя, я тут схаджу ў адно месца. Прыглядзь за гэтым...

З мокрай анучаю ў адной руцэ і жалезным вядром у другой у кабінет увайшла невысокая сівавалосая жанчына ў старэнькай шарсцяной сукенцы — падобную Лёша бачыў на бабулі.

— Ну што, хуліган, папаўся? — спытала, быццам вітаючыся. — Шмат украў?

— На дзве капейкі... — паліліся ў Лёшы слёзы.

Пры гэтай, у «бабулінай» сукенцы, жанчыне ён адчуў сябе спакайней, расслабіўся і заплакаў. «Пры ёй можна», — вырашыў.



— Мужчыну сорамна плакаць, — падышла да яго прыбіральшчыца. — Не румзай. Першы раз украў?

— Я не краў — абмяняў. — У Лёшы па-ранейшаму цяклі слёзы. — Заміж дзвюх капеек пакінуў гематаген.

— Гематаген? — перапытала прыбіральшчыца. — Заміж дзвюх капеек? Ну, ты даеш! — усміхнулася. — Во абмен! Ну і ну. Але ж тут разбірацца не будуць. Яны даўно некага ловяць. Праўда, пакуль што крадзяжы былі толькі ў школьным аддзеле: то аловак знікаў, то гумка, то сшытак. Слухай, а давай я цябе адпушчу? За дзве капейкі табе тут жыццё могуць пакалечыць. Толькі ты ўжо, калі ласка, нейкі час не прыходзь сюды, не паказвайся.

— Ніколі не прыйду і не пакажуся! І фатаграфаваць болей не буду! — зноў захныкаў Лёша.

— Ну, добра, добра, годзе раўці. Слязьмі гору не паможаш! Толькі нервы сапсуеш, а яны, кажуць, не аднаўляюцца. Лепш сігай вунь у тыя дзверы, і чым хутчэй, — махнула прыбіральшчыца анучай у бок цёмнага калідора. — Пакуль нікога няма.

Лёша перастаў плакаць. Выпрастаўся. Выцер вочы. Паглядзеў на сваю ратаўніцу.

— Уцякаць? Ніколі! Уцякаюць баязліўцы, — успомніў словы аднаго з герояў Жуля Верна. — Не хачу быць баязліўцам.

— Ну вось, — развяла жанчына рукамі, — ужо ідуць. Давядзе цябе твая ўпартасць.

Увайшоў міліцыянер, і яна змоўкла. Лёша прыгледзеўся: не, гэта не міліцыянер, а міліцыянерка, адно што твар у яе нейкі квадратны. Лёша ўжо разбіраўся ў званнях і, зірнуўшы на пагоны, вызначыў: цётка — старшы лейтэнант. Веку — мамінага, але мама не тоўстая.

— Ну што, папаўся? — павярнуўся да Лёшы квадратны твар.

— Дык я... — хацеў растлумачыць хлопчык, што да чаго, але твар не даў яму сказаць, перапыніў:

— Пайшлі! У мяне ў кабінеце пагаворым. Там вы ўсе больш гаваркімі робіцеся.

Дзіцячы пакой міліцыі быў праз два пяціпавярховікі ад магазіна. За нядоўгую дарогу Лёша зразумеў, што нездарма ў яго пры слове «міліцыя» займала дух і заплятаўся язык. Лейтэнантка вяла яго, моцна сціснуўшы руку. Лёша трываў боль. Няхай усе думаюць, што ідзе мама з сынам, а не злодзея цягнуць у турму садзіць.

Кабінет лейтэнанткі быў на першым паверсе. Праз закратаванае акно Лёша ўбачыў, як на голым пляцы між дамамі хлопцы ганяюць мяч. Ён уздыхнуў: «Хутчэй бы ўсё скончылася».

— Ага, мілы, бачу, у футбол захацелася пагуляць?! Раней трэба было думаць, раней! Да таго, як пачаў красці. А цяпер табе будзе не да футбола, — прыгразіла лейтэнантка. — Сядай! Краіна павінна ведаць сваіх герояў. Таму зараз ты скажаш, як цябе завуць, дзе жывеш, хто бацькі і ў якой школе вучышся. — Лейтэнантка дастала паперу і аўтаручку. — Не маўчы, расказвай, не саромейся. Ведаем мы такіх сарамлівых. Урэшце, прызнаешся ці не — вялікага значэння не мае. Рана ці позна мы ўсё роўна даведаемся. Але лепш сумленна, як на споведзі, сам усё раскажы. Тады, можа, і адпушчу, не выклікаючы бацькоў. І ў школу паведамляць не буду. Зраблю выключэнне. Ты ж, здаецца, першы раз папаўся?

— Так, — ціха пацвердзіў Лёша і закашляўся. Міліцыянерка курыла, а фортка была зачыненая, і ў яго пяршыла ў горле. Лейтэнантка незадаволена паглядзела на Лёшу, але цыгарэту патушыла.



— Можа, хопіць прыкідвацца, кашаль з сябе выціскаць? — адступіла на крок ад хлопчыка. — Думаеш расчуліць? Не выйдзе! Не такіх артыстаў бачылі! Расказвай, што і як украў. І не цягні. Калі я з кожным зладзюжкам па дзве гадзіны важдацца буду...

Лёша, румзаючы, распавёў усё, як было. Пра гематаген, хімікаты і фоталабараторыю. Паабяцаў, што папросіць у мамы дзве капейкі і занясе іх у магазін.

— Добра, — кіўнула лейтэнантка. — Будзем лічыць, што расказаў праўду. Хацелася б спадзявацца, што болей у тваім жыцці *такое* не паўторыцца. Напішы вось тут, дзе птушачка, сваё прозвішча — і можаш ісці дадому. І не хвалюйся, усё застанецца між намі. Абяцаю. А ў магазін я патэлефаную. Каб не было да цябе прэтэнзій.

— Але... — Лёша хацеў сказаць, што за фіксаж заплаціў, а замест дзвюх капеек пакінуў гематаген, якія да яго могуць быць прэтэнзіі, ды язык не паварочваўся. Лёша баяўся. Баяўся пракуранага пакоя, квадратнага твару, кратаў на вокнах.

Выйшаўшы на вуліцу, адразу кінуўся бегчы. З усіх сілаў, быццам уцякаў ад пагоні, ад страшнага шэрага будынка, ад сябе, ад лёсу. Ён яшчэ не ведаў, што гэта толькі пачатак, першая, але ніяк не апошняя яго сустрэча з несправядлівасцю.

Лёша доўга не мог адамкнуць дзвярэй — дрыжэлі рукі. Нарэшце адчыніў, увайшоў у хату. Адчуў, што моцна стаміўся. Мамы яшчэ не было. Ён прылёг на тахту і неўпрыкмет заснуў.

Маці прыйшла з работы, паглядзела на сына, які ціха пасопваў, асцярожна пагладзіла па галаве: «Зноў у футбол набегаўся». Распранула, перанесла на ложак, накрыла: «Спі, сынок».

Лёша сніў футбол. Фінал чэмпіянату Еўропы. Увесь матч ён адбіваў пенальці, якія чамусьці бясконца прызначаліся ў ягоныя вароты. Білі славутыя Рыва і Рывера, Факеці і Анастазі. Білі, але забіць не маглі. Лёша выстаяў. Сам Джаіч яго пахваліў.

Так ён праспаў да раніцы. Футбольныя зоркі выцеснілі страшныя падзеі з ягонай свядомасці. Мозг нібы ратаваў дзіцячую псіхіку ад перагрузак. І хлопчык зусім забыўся на суботняе здарэнне. Начыста. Быццам нічога такога і не было.

Цяпер ён успомніў! Усё ўспомніў! Якім дарагім стаўся для яго гэты праклятый фіксаж.

— Зараз мы будзем цябе судзіць! — даляцеў да Лёшы голас настаўніцы. — Ты злодзей, Малінкін! Самы сапраўдны злодзей! І судзіць мы цябе будзем строгім таварыскім судом. Лепшы ў школе клас ацэніць цябе па заслугах. Ты, Лёша, патэнцыйны злачынец. У такіх толькі адна дарожка, слізкая, — у турму. Лёгкага жыцця захацеў? Я разумею, украсці — не зарабіць. Але лёгкага жыцця ў цябе не выйдзе! Павер! Хто выступіць першы? Не чую! Аксаначка? Малайчына! Скажы, што ты думаеш пра Малінкіна!

— Аляксей, ты хоць разумееш, што натварыў, які зрабіў брыдкі ўчынак? — завучана пачала Аксана. — Ты ўкраў у нашай роднай сацыялістычнай дзяржавы. Ты ўкраў тое, што ствараецца самаадданай працай савецкіх людзей! Ты...



Што гаварылі далей Аксана і іншыя аднакласнікі, Лёша чуў і не чуў, ён думаў пра сваё. І ў нейкі момант думкі тыя сышліся на адным: мост! Недалёка ад дома-музея першага з’езда РСДРП, куды іх кожны год адразу пасля летніх канікулаў вадзілі на экскурсію, ёсць мост. Высокі. Ён з яго скокне! Бо не мае права жыць. Ён — злодзей! Ён — горшы за ўсіх!

Празвінеў званок. Класная спехам падагуліла:

— Такому не месца ў нашых шэрагах! Тваё месца, Малінкін, у спецінтэрнаце для малалетніх злачынцаў!

Ад гэтых слоў у Лёшы пацямнела ўваччу. Сам не свой, ён ірвануў да дзвярэй. Пранёсся па калідоры. На лесвіцы спатыкнуўся, выцяўся аб парэнчы. Было балюча, але не закрычаў, стрываў. Куляй вылецеў са школы. Ужо добра-такі адбегшыся, спыніўся, агледзеўся: дзе, у якім баку дом-музей? Ага, там! І зноў памчаўся, мала што ўспрымаючы і заўважаючы.

Ён не бачыў, як загарэўся, запалаў, закрычаў чырвоны сігнал святлафора. Ён не бачыў... Пачуў толькі скрыгат тармазоў грузавіка, што імчаў на яго. Ратуючыся, падскочыў, пракаціўся па ягоным капоце, па лабавым шкле, зноў упаў на капот і адляцеў убок, на газон узбоч дарогі.

Лёша ляжаў, глядзеў у неба, не дыхаў. Стаіўся. Баяўся. Зноў — баяўся.

Кіроўца «ЗІЛа» выскачыў з машыны, падбег, жахнуўся:

— Божа! — нагнуўся да хлопчыка. — Чаго ж ты пад колы кідаешся?

— Я не хацеў, — спалохана вымавіў Лёша, — даруйце.

Шафёр агледзеў малога:

— Што баліць?

Лёша прашаптаў:

— Галава крышку.

Збіраліся людзі. Хлапчук дрыжэў. Зноў яго будуць абгаворваць, судзіць. Наструніўся, паспрабаваў устаць.

— Малайчына, хлопец, — узяў яго на рукі кіроўца. — Давай я табе памагу, добра?

— Ага, дзядзечка, — прашаптаў Лёша. — Забярыце мяне адсюль. Зараз мяне будуць судзіць. Калі ласка.

Кіроўца асцярожна прыціснуў хлопчыка да грудзей, папрасіў:

— Расступіцеся, таварышы! Дайце прайсці! Адвязу хлопчыка дадому. Ён мой сусед. Не хвалюйцеся, хлопец не траўмаваны. Абышлося, дзякуй Богу. Дайце ж прайсці, кажу.

Ён асцярожна апусціў Лёшу на сядзенне справа ад сябе, выключыў «аварыйку», націснуў на педаль газу, паволі крануўся. Даехаўшы да бліжэйшага святлафора, павярнуў на сваю вуліцу. «Калі што, “хуткую” з кватэры выклічу», — супакоіў сябе.

Дома кіроўца прайшоў у дзіцячы пакой, паклаў Лёшу на сынаў ложак:

— Ляжы спакойненька. Зараз прынясу ліманаду. Любіш «Апельсінавы»?

— Не-а, — трызніў хлопчык. — Я люблю масты! Масты!

У Лёшы было няйначай зрушэнне мазгоў, яму стала горш, ён страчваў прытомнасць.

Кіроўца кінуўся да тэлефона.

— Алё! «Хуткая»?! — з палёгкаю ўздыхнуў: дазваніўся з першага разу. — Здарылася няшчасце! Хлопчык трапіў пад машыну! Што? Гадоў дзесяць. Як завуць? Не ведаю! Чаму не ведаю? Ды што вы ўсё распытваеце, дарэмна час траціце! Тэрмінова прыязджайце! Хлопчыку зусім блага! Дарагая кожная хвіліна!



Было ў ягоным голасе, відаць, нешта такое, што вымусіла дзяжурную неадкладна выслаць машыну па ўказаным адрасе.

Доктар і медсястра не сталі чакаць ліфта — узбеглі на трэці паверх.

— Дзе хворы? — спытаў доктар. — Там? — паказаў рукою на расчыненыя дзверы ў дзіцячы пакой і, не чакаючы адказу, кінуўся туды. — Герой, прывітанне! — ён не столькі вітаўся, колькі глядзеў: пры памяці хлопчык ці не. — Якія ў цябе моцныя мышцы! — узяў Лёшу за руку. — А куды ты так спяшаўся? Іра, пульс нізкі! Дай мне, калі ласка...

У гэты момант у кватэру ўбегла жонка кіроўцы:

— У школу суседзі патэлефанавалі. Сказалі... Божачкі, што тут здарылася? — закрычала, убачыўшы ля сынавай пасцелі доктара і медсястру. Не пачуўшы адказу, кінулася ў дзіцячы пакой. — Сынок! — паклікала. Але тут жа, не зрабіўшы і кроку, асунулася ля дзвярэй на падлогу.

Сэрца настаўніцы, якая з ранку гэтак зацята змагалася з упартым малым злодзеем, новага напружання не вытрывала.

# АРЭЛІ

Мужныя бальшавікі бегалі па плошчы, раскідвалі ўлёткі. Заклікалі да звяржэння, знішчэння, рабавання. Дынамік тэлевізара хрыпеў і захліпаўся. Залп «Аўроры» разнёс кінескоп.

Я кінуўся да тэлевізара, вырваў шнур. Давялі, даканалі, дасталі, гады, што рвуцца з гразі ў князі. Хапіла па горла! У пячонцы сядзяць са сваёй агітацыяй! Атрымайце ж і вы! Агітацыя дык агітацыя!

План, як раскідаць, рассеяць, распаўсюдзіць (папярэдне ўмудрыўся надрукаваць, і гэта, магчыма, цягне на асобны аповед) у цэнтры мільённага горада стос улётак з заклікамі да змагання з камуністычнай дыктатурай, да звяржэння злачыннага рэжыму і пры гэтым не быць злоўленым, я распрацаваў летам 1972 года, калі дачытваў апошнія старонкі дзевяцітомнага Збору твораў Івана Буніна. І да сёння не зусім разумею (бо «Акаянных дзён» там не было), якім чынам навёў мяне класік на думкі аб пратэсце і злачыннасці далейшага маўчання. Можа, таму ён і класік?

Дату для выканання акцыі — гадавіну Кастрычніка — выбраў не выпадковую. Хацелася падражніць звера акурат у дзень яго нараджэння. На даху ГУМа змайстраваў прыладу, да якой быў неабыякавы з маленства, — арэлі. Звычайныя: дошка на двух жалезных, паралельна змацаваных трохкутніках («пазычыў» іх у блізкім дзіцячым



садку, няхай даруе мне малеча, усё ж на святую справу ўзяў). Цяжкія арэлі давялося разабраць (балазе, яны былі скручаныя, а не звараныя) і падняць не за адным разам. На адзін канец дошкі — бліжэйшы да краю даху — паклаў стос лістовак. Прыціснуў іх (а што, як вецер падхопіць?) чвэрткаю цагліны, прывязанай да трохкутніка асновы, — каб знячэўку па галаве каму не пацэліла і не давялося адказваць адразу па некалькіх артыкулах крымінальнага кодэкса — нават з гэтым азнаёміўся на ўсялякі выпадак. Не забыўся і пра пальчаткі: на кнігу вядомага француза пра дактыласкапію і бертыльянаж напароўся яшчэ за год да таго, апынуўшыся ў адной з бальніц Гомеля. Калі бліжэйшы да краю даху канец дошкі пойдзе ўніз, мой груз павісне на вяровачцы, а лістоўкі пасыплюцца долу. З другога боку — процівага: вядро з вадою. Падрыхтаваў яго загадзя: збоку, крыху вышэй донца, прабіў цвіком дзірачку і заткнуў зрэзанай пад конус белай гумкай (Made in Hungary, між іншым! — падарунак багатай маскоўскай цёткі). Заставалася дачакацца, калі на праспекце будзе найбольш народу, — гадзіны пік.

Хвіліны чакання паўзлі страшэнна марудна, але ўсялякая пакута некалі канчаецца. Зірнуўшы чарговы раз уніз, вырашыў, што большага наплыву людзей на скрыжаванні, бадай, не будзе, і асцярожна выняў гумку-затычку.

Тонкім струменьчыкам палілася вада. Хутка вядро пачне падымацца. Закалацілася сэрца: час ратавацца! Кінуўся ўніз. «З месца гістарычных падзей пажадана знікаць як мага хутчэй», — успамінаў недзе прачытанае або пачутае, лічачы адна-

часова і прыступкі, і довады на карысць таго, што трэба спешна даваць дзёру.

Першы. Калі зловяць, дык ніхто пра герояадзінотніка нават не пачуе. Не даведаецца пра цябе яе вялікасць Гісторыя. Застанешся ты ў ёй цёмнаю плямаю — замест таго, каб стаць ахвярай дэспатызму, змагаром за святую справу. (Зноў іхняя лексіка — во як затлумілі мазгі!) Гэта — не кіно, гэта — жыццё.

Другі. Будуць біць — не самі, вядома, знойдуць ахвотнікаў, поскудзь якую зэкаўскую брудную. Чаго добрага, зробяць інвалідам. І да самае смерці застанешся прыкутым да ложка. А табе тое трэба?

Трэці. Забудзь на далейшую вучобу. Якая вучоба ў калоніі для непаўналетніх злачынцаў пад незразумелай назваю — спецПТВ?

Ёсць і іншыя прычыны, па якіх непажадана трапляць у лапы нашчадкаў жалезнага Фелікса, але ўсё ўзяць пад увагу або прадугледзець немажліва. Карацей, апынуўшыся ўнізе, на рагу вуліцы Леніна і ягонага ж імя праспекта (ну няма ў нас сваіх вартых павагі герояў!), я няспешна, як просты савецкі чалавек, сціплы вучань 8 «Б» класа звычайнай мінскай сярэдняй школы, паспяшаўся зліцца з узбуджаным натоўпам, гэта значыць — з масай. Разам з іншымі спрабаваў лавіць улёткі, што падалі з неба. І нават адну ўхапіў. Тэкст ведаў на памяць, але прачытаў яшчэ раз з задавальненнем (не ўголас, вядома, а сам сабе, як тое рабілі ўсе, каго ашчаслівіў):

«Дарагія суайчыннікі! За пяцьдзесят пяць гадоў знаходжання ва ўладзе бальшавіцкі рэжым выявіў сваю поўную нядзатнасць. Узровень жыцця людзей у краіне несупастаўляльны з узроўнем жыцця шараговага заходняга чалавека. Людзі не маюць элементарных свабод, краіна ахінутая жалезнай заслонаю. І пастаўлена яна не для абароны ад знешніх ворагаў. Заслона патрэбная дыктатарскаму рэжыму для поўнай ізаляцыі грамадства, каб народ не ведаў рэальнай, праўдзівай інфармацыі і працягваў жыць і працаваць за бохан хлеба і кавалак каўбасы. Мы павінны разарваць путы, якія робяць чалавека вязнем, рабом...»

Прачытаў, і пад лыжачкаю засмактала. От ужо нахапаўся слоўцаў з розных буржуйскіх «галасоў». Дагуляюся, ой дагуляюся! Змывацца! Неадкладна! За такія тэксты, калі зловяць, і сапраўды мала не будзе.

Шпаркім крокам перайшоў вуліцу, падбег да прыпынку. Хутчэй бы «двойка» пад'ехала. Хутчэй... Стоп! На тралейбус, што ідзе проста да дома, сядаць не трэба. Канспірацыя — адзін са складнікаў поспеху падпольшчыка, ягоны шанец уцячы ад шпегаў, спушчаных уладаю. А таго, хто такое ўчыніў, злавіць і як належыць пакараць абавязкова пастараюцца. Усю кадэбэшную арду кінуць шукаць. І мянтоў на дапамогу падымуць, і дружыннікаў далучаць, і дворнікаў апытаюць, і яшчэ чорт ведае каго прыцягнуць да палявання на паслугача імперыялізму.

Значыць, так: пару прыпынкаў прайду пешкі, пасля сяду на трыццаць сёмы аўтобус, што заварочвае за квартал ад нашага дома, а потым — зноў на сваіх двух. Заадно і ад хваста (а раптам ужо селі?) пазбаўлюся.

Сам здзівіўся, як хутка дабраўся да двара. Схаваўся за альтанкаю: думаў, што рабіць далей.

Дадому — няможна. Там могуць быць госці. Тыя самыя, нязваныя. Зашчымела сэрца. Колькі там часу? Без пятнаццаці шэсць. Хутка мама з работы вернецца. Дачакаюся, а там пабачым...

«Нарэшце! — страпянуўся, згледзеўшы, як мама напрасткі ішла праз двор. — Зайшла ў пад'езд, зараз пакліча», — пракаментаваў, злавіўшы сябе на тым, што гэтак, пэўна, ацаніў бы сітуацыю і наружнік контрразведкі. Вось яно, вясёлае жыццё нелегала!

Праз хвіліну з балкона пачулася:

— Дзіма, ты дзе? Ідзі дадому!

Адразу з-за альтанкі не выйшаў: раптам у мамы за спінаю якая свалата схавалася. Пачакаў — нікога.

— Я тут, мама, — паказаўся са сваёй схованкі.

— Ты зноў нічога не еў! Дзеля чаго я ўвесь ранак ля пліты стаю? Зараз жа за стол!

Мая добрая клапатлівая мама! Адно і турбуецца, каб сын не быў галодны. І абавязкова ўсім суседзям паведаміць, што я вярнуўся.

— Іду, іду, падымаюся, — прамармытаў таропка.

Заходзіў у кватэру і ўсё яшчэ хваляваўся, гадаў: высачылі ці не? Разгледзеўся: сапраўды нікога, адна мама. Здаецца, усё ціха. Што ж, можна і перакусіць.

Павячэраўшы, узяўся за ўрокі. Вучыў, нібыта намагаўся за вечар вызубрыць усю гадавую праграму. Што, калі і праўда ў мяне не будзе гэтага года?

З трывожнымі думкамі лёг спаць. Стомленасць узяла верх над хваляваннем, і неўзабаве я апынуўся, як пісалі ў старых кнігах, у абдымках Марфея.



Прачнуўся сам. Упершыню. У школу заўсёды будзіла мама, але ў пяць раніцы, як гэтым разам, яна, вядома, і сама яшчэ спала. «Не шумець», — загадаў сабе і, асцярожна ступаючы, прайшоў на кухню. Уключыў радыёпрыёмнік. Знайшоў патрэбную хвалю. Ага, вось яно: «Вы слухаеце радыё “Свабода”. Перадаём апошнія навіны». Нечакана сярод іншага прагучала: «Учора каля сямнаццаці гадзін у цэнтры сталіцы Беларусі горада Мінска невядомыя змагары з таталітарным рэжымам раскідалі ўлёткі з заклікам да звяржэння існуючага ладу...»

«Ужо ведаюць, на ўвесь свет перадалі», — міжволі ўсміхнуўся з радасцю і гонарам. Акрыяў духам. Па целе прабегла цёплая і прыемная хваля. «Перамога! — крычаў ува мне шчаслівы голас. — Ты зрабіў свой выбар, адкінуў прэч баязлівасць, пазбыўся путаў. Цяпер ты павінен...»

— Так, цяпер я павінен бегчы, уцякаць без духу, інакш...

«А куды? — перапыніў мяне той самы ўнутраны, але ўжо нярадасны голас. — Уцякаць няма куды. Навокал — сцяна, мяжа, памежнікі, аўтаматы...»

Рыпнулі дзверы. Мама! Напэўна, я дужа хваляваўся і гаварыў уголас.

— Зноў за сваё? — падышла да мяне. — Зараз жа выключы прыёмнік. Трасца б таму дзеду! Падарыў любаму ўнуку на маю галаву гэтую праклятую цацку. Ні ўдзень, ні ўночы спакою няма. Ідзі кладзіся! Не развіднела яшчэ.

Заснуць, вядома ж, не мог, не да сну было. Як там сказалі? «Невядомыя змагары з таталітарным рэжымам»? У салодкіх марах пра сваё геройства пракідаўся ў ложку да ранку.

У клас зайшоў, як заходзіць навічок. Усё выдавала чужым, незнаёмым, нібы бачыў упершыню. Няўжо за тыдзень вакацыяў так ад школы адвык? Ці гэта пасля ўчарашняга вочы на свет па-іншаму глядзелі?

Урок пачаўся з нечаканасці. Не паспела настаўніца абвясціць новую тэму, як адчыніліся дзверы. Дырэктар! За ім увайшоў высокі, стрыжаны амаль пад «нуль» мужчына ў цёмным доўгім плашчы.

«Ходзіць па школе ў верхнім адзенні, — адзначыў я, — і дырэктар на такое недапушчальнае, як сам бы сказаў, парушэнне не рэагуе. За якія заслугі стрыжанаму такі прывілей?»

— Тамара Канстанцінаўна, у вас зараз што па плане? — спытаў дырэктар, акідваючы вачыма клас.

— На адвечнае пытанне «Што рабіць?» пашукаем адказ. А што здарылася? — занепакоілася настаўніца.

Дырэктар павярнуўся і запытальна паглядзеў на чалавека ў плашчы. Той злёгку паківаў галавою.

— А-а, нічога, — супакоіў дырэктар, — нам няма куды спяшацца. Зойдзем пасля ўрока. Трэба абмеркаваць адно пытанне. Дакладней — атрымаць адказ. Не адпускайце пасля занятка вучняў, калі ласка.

«Каму — трэба? — захваляваўся я. — Дырэктару ці таму, каторы з ім? І што за ён? — задрыжэлі ў мяне рукі. — Усё правільна, гэта шпег. Учора яны ўзялі след, а сёння знайшлі, каго шукалі. Кадэбэшнікі сваю справу ведаюць. За ноч вылічылі. Што рабіць? Папрасіцца ў прыбіральню і ўцячы?» — «Зноў ты за сваё, — азваўся голас. — Сам жа казаў — няма куды». — «Значыць, застаецца адно: удаваць з сябе дурня. Маўляў, нічога не знаю, мая хата з краю, сядзеў дома, вучыў урокі, пасля чытаў “Айвенга” Вальтэра Скота, калі трэба — магу змест пераказаць. Пра Буніна, мабыць, прамаўчу — ён жа амаль мой хаўруснік. Нічога, адаб’юся, што-небудзь прыдумаю. Безвыходных сітуацый не бывае, — падбадзёрваў сябе. — Неяк вырвуся з пасткі. Скочу з небяспечных арэляў».

Так, я апынуўся на арэлях. На шалях Феміды. Над безданню. Чый верх будзе? Хто пераважыць? Што? Іхні досвед, прафесіяналізм, вытрымка ці мая маладосць, адчайнасць, вера ў перамогу справядлівасці?

Я чакаў і слухаў стук свайго сэрца. Яно пакуль што білася.

# ДЗЕНЬ ІКС

Адны ідуць займацца гэтай барацьбой, каб стаць чэмпіёнамі. Здань галоўнага героя славутага кінафільма «Геній дзюдо» ўсё яшчэ блукае па матухне Еўропе і бабульцы Азіі. Другія ставяць перад сабой задачы больш сціплыя: з дапамогаю прыёмаў і спецыяльных фізічных практыкаванняў стаць дужэйшымі, спрытнейшымі, упэўненымі ў сабе. Трэція спадзяюцца проста падмацаваць здароўе.

Я надумаўся заняцца дзюдо, бо хацеў навучыцца біцца. Махаць кулакамі я не ўмеў і, зразумела, як толькі мог унікаў кулачнага вырашэння пытанняў. (А ў пятнаццаць такія пытанні ох як часта даводзіцца развязваць.) І ўхіляўся не таму, што быў фізічна слабым — з маленства ў маёй свядомасці сцвердзіўся своеасаблівы тормаз: ты не маеш права падняць руку на іншага чалавека, а тым больш ганарыцца гэтым. Чалавек чалавеку — сябра, а не вораг.

У выніку я часцяком прыходзіў дамоў біты, а тып, што аздобіў мой твар сінякамі (ён быў зазвычай на два-тры гады старэйшы за мяне — з аднакласнікамі кулачных канфліктаў не ўзнікала), сядзеў у дваровай альтанцы і хваліўся, як заехаў салагу з левай, пасля дадаў з правай, а тады яшчэ нагою, нагою...

З кім такое здаралася, ведае, наколькі гэта крыўдна і балюча. І фізічна і, галоўнае, маральна.



А што казаць пра хлапчука, выхаванага на творах Аляксандра Дзюма і Фенімора Купера!

Пасля экзекуцыі я зачыняўся ад мамы ў ванным пакоі, адкручваў кран, каб шумела вада, і заліваўся слязьмі. Сэрца ныла. Я праклінаў сваю баязлівасць, думаў пра самагубства. Выйсця з тупіка не знаходзілася.

А выйсце было, і зусім побач — яго падказаў выпадак.

Аднойчы пасля чарговай сутычкі са звыклым для мяне вынікам я не пайшоў дадому, а падаўся абы-куды па шпалах дзіцячай чыгункі. Сам не ведаю, як забрыў на недабудаваны, яшчэ без трыбун, студэнцкі стадыён.

Чацвёра вясёлых хлопцаў ганяліся адзін за адным па полі, скакалі цераз сябе, садзіліся на шпагат, выконвалі іншыя складаныя практыкаванні, выкрыкваючы пры гэтым незразумелыя адрывістыя словы. Ад душы з нечага смяяліся.

Адзін з хлопцаў падышоў да ўкапанай побач з бегавою дарожкаю лаўкі — хацеў нешта ўзяць з сумкі. Як з-пад зямлі вырасла перад ім купка курцоў — касцяк і краса раённай шпаны. Ён выцер рукавом масцеркі пот з твару, ветліва ўсміхнуўся, але сказаў цалкам сур'ёзна:

— Дарма вы, хлопцы, здароўе не шануеце. А калі не церпіцца легчы ў магілу, дык адышліся б ад стадыёна метраў на сто, каб дымок паспяваў развейвацца, і там бы свае лёгкія на трываласць выпрабоўвалі...

Я разявіў рот ад неспадзяванкі і, здаецца, перастаў дыхаць. Чакаў, што адкажуць некаранаваныя каралі раёна не вельмі паглядnamу бяляваму хлапчыне. Падумалася: «Няйначай адлупцуюць, а то

яшчэ і нагамі прыгладзяць. А шкада, адважны хлопец, але нічога не зробіш — курцоў жа цэлая зграя».

Надзіва, мае прадбачанні не спраўдзіліся. Хлопцы з цыгаркамі штосьці мармыталі, няўцямна пацепвалі плячыма, зіркалі спадылба і... усё!

Вось дык штука! Вось табе і каралі!

— Што, хлопцы, задумаліся? — ужо зусім нахабнічаў бялявы. — Роднай мовы не разумееце?

І тыя моўчкі — ківель-ківель — пасунуліся прэч.

— Чаго глядзіш? — нечакана павярнуўся бялявы да мяне. — Сябрукі твае? Не? А з тварам што? Выхоўвалі? Ясна. Білі, значыць. І не шкадуючы, бачу... Ну, нічога, не хвалюйся, хадзем да хлопцаў. Будзем твой лёс мяняць, як трэнер наш гаворыць. Мой таксама калісьці мянялі. Хадзем, кажу, не бойся!

І я пайшоў...

Спатрэбілася два гады, дакладней, семсот трыццаць сем дзён нялёгкае — да самазабыцця, з крывёю і потам — працы, каб пераламаць маю рашучасць, боязь бойкі. Калі злавіў сябе на тым, што перш чым кулак спарынг-партнёра дастае да майго твару, паспяваю зрэагаваць, ужыць прыём і галоўнай задачай робіцца падстрахоўка нападніка, каб не скруціў сабе карак, ува мне знікла генетычнае нежаданне даваць адпор, на сілу адказваць сілаю, ударам — на ўдар.

І аднойчы настаў дзень Ікс. Да кожнага некалі прыходзіць гэты галоўны ў жыцці чалавека дзень. Але не кожны падрыхтаваны сустрэць яго годна.

Напярэдадні маладзёвага чэмпіянату рэспублікі я спаткаў аднаго са сваіх былых крыўдзіцеляў. Дакладней, не зусім каб аднаго. Людзі (ці як іх назваць?), у якіх стае смеласці напасці на чалавека



толькі тады, калі ведаюць, што не атрымаюць адпору, застануцца беспакаранымі, швэндаюцца па вуліцы не па адным — заўсёды ходзяць хеўрай у кампаніі такіх самых храбрацоў.

Гэтым разам іх было трое. Яны ішлі, сплёўвалі праз зубы, махалі рукамі, мацюкаліся. Прахожыя абходзілі тройцу. А тыя — шчэрыліся! Гэткая агідная, нахабная ўхмылачка.

Убачылі мяне.

— О-о, даўнаваценька мяч не ганялі!

Узрадаваліся. Спыніліся. Рыхтаваліся.

Першы, галоўны, сціскаў-расціскаў кулакі — размінаўся. Другі, мой знаёмец, раздаваў «пасы» нагамі, наглядна паказваў, як ён па старой памяці будзе мяне футболіць. Трэці, відавочна слабейшы за сябрукоў, нядбайна засунуў рукі ў кішэні. Усміхнуўся. Шчарбата прысвіснуў:

— С-сцанюк!

Спачатку, як і некалі, я адчуў дрыжыкі, дыханне стала перарывістым, ціхім, але — сэрца засталося на месцы. Успомніўшы, хто я (што ні кажы — чэмпіён сярод мінчан да шаснаццаці) і хто яны (хуліганнё, як называў іх сусед дзядзька Юзік), задушыў у сабе здранцвенне і як вынік яго — баязлівасць. Пад корань зрэзаў. Вырваў з сябе гадзіну. Скінуў пятлю з шыі. Выйграў першы раўнд. Найцяжэйшы — з самім сабою.

Я не звярнуў, як бы зрабіў раней, у бліжэйшы завулак, не перабег на другі бок вуліцы. Ішоў на іх спакойна і ўпэўнена, нават не думаючы, што буду рабіць далей. Ведаў: у патрэбны момант хтосьці ўладна скажа: «Хаджыме!»[1] — і бой пачнецца.

[1] Каманда пачынаць паядынак у некаторых відах усходніх адзінаборстваў.

Яны запынілі мяне эфектна. Калі я прайшоў міма, дзівячыся, што не чую чагосьці кшталту: «Маляўка, прытармазі!», за спінаю прагучала:

— Ну, шустры! Ты што, аслеп са страху? Назад, шчанюк! Сюды! І рыссю!

Я зрабіў выгляд, што гэткі загад мяне не датычыцца, ішоў далей — даваў ім апошні шанец. Хлопцы яго не скарысталі. Што ж, іх права.

Крыўдзіцель мой, ён жа «футбаліст», завішчэў:

— Ну, падла, зараз ты ў нас прытармозіш! На каленях папаўзеш! Зямлю грызці будзеш!

Добра, думаю, добра. Сасмяглыя — спатоляцца! І павярнуўся да ахвотнікаў пагутарыць на абстрактныя тэмы. Усе трое пёрлі ўжо на мяне, і давялося напружыцца.

Крутнуўшыся да іх бокам, я зрабіў выкід угору правай нагою і трапіў «футбалісту» ў вуха. Не падрыхтаваны да такой сустрэчы, ён страціў раўнавагу, але паспеў ухапіцца за галоўнага. Той адштурхнуў сябрука назад, на мяне. «Футбаліст» размахнуўся і... тут я адхіліўся — ён тыцнуў кулаком у паветра. Інерцыя крутнула яго, ён апынуўся да мяне спінаю, і заставалася толькі скарыстаць тую самую інерцыю. Атрымаўшы дадатковага выспятка, «футбаліст» наляцеў на урну і заціх. «Нешта зусім не страшна, — пранеслася ў галаве. — Пайшлі далей». Ухапіў галоўнага за ногі, адарваў ад зямлі і шпурнуў на «футбаліста». Павярнуўся да трэцяга.

У гэты момант малое гадзянё з-за спіны заехала мне ў сківіцу кастэтам. Хруснулі зубы, было балюча, але — не смяротна. Адначасна з разваротам я падчапіў яго аперкотам справа. Плюгавенькі пацук пакаціўся па асфальце. Заныў, запішчэў, заплакаў.



Усё было скончана. Я не стаў дабіваць іх, накіроўваць на правільны шлях, выхоўваць словам. Няхай самі вырашаюць і думаюць, як быць далей. Калі ж да іх не дайшло і хлопцы захочуць зладзіць матч-рэванш, дык калі ласка. Паядынкі з пэўнага часу я люблю.

І я пайшоў. Спяшаўся. Я ніколі не спазняўся на трэніроўкі. Не спазніўся і гэтым разам.

Наперадзе быў галоўны паядынак — за годнае жыццё. На маёй радзіме за яго трэба змагацца!

# 1975-ы

Ён ішоў не побач, а ззаду, метраў за чатырыпяць ад мяне, акуратна вытрымліваючы дыстанцыю. Я мог уцячы ад яго, а мог і заваліць (як кажам мы, барцы) гэтага канваіра ў цывільным. Але... наперадзе чакалі экзамены, і я мусіў іх здаць. Прытым — здаць на «выдатна». І паступіць у інстытут. Абавязкова паступіць! У нашай сям'і і сярод родзічаў, тых, хто насіў наша прозвішча, няздараў не было. Двое, праўда, не скончылі вучобы, але не па сваёй віне, а з прычыны іх гвалтоўнай смерці.

Цывільны паказаў мне на жалезныя дзверы і ціха, але выразна сказаў:

— На тую вунь кнопку націсні, калі ласка.

«Хоць і фамільярнае *ты*, а ўсё ж — *калі ласка*, — адзначыў я сам сабе. — Кадэбэшнікі — не мянты! Іншы клас. Як кажуць варожыя галасы — вышэйшы».

Я ўтапіў даволі высока размешчаную кнопку званка (відаць, каб дзеці не дурэлі, — дом упіраўся ў агароджу школы-інтэрната), агледзеўся і здзіўлена падумаў: цэнтр горада, звычайны жылы дом і раптам — уваход з тарца. Не прыпамінаю, каб хоць у адным жылым пяціпавярховым доме я калі бачыў дзверы ў тарцовай сцяне.

Адчыніў іх «таварыш», значна старэйшы за майго праважатага, і вельмі ветліва, спакойна павітаўся:



— Добры дзень, Аляксандр Уладзіміравіч. Праходзьце, калі ласка.

«Цікава, — не пераставаў я здзіўляцца. — Што зноў "калі ласка" — гэта зразумела: стыль у іх цяпер такі, цывілізаваны. А вось зварот па бацьку насцярожвае».

Праз невялічкі калідорчык мы прайшлі ў светлы, хоць і шчыльна зашторы пакой.

— Сядайце, — ці то загадаў, ці то запрасіў старэйшы таварыш.

Апускаючыся на крэсла, я заўважыў, як ён зрабіў знак майму праважатаму, і той выйшаў. Але не проста выйшаў, а зачыніў за сабою дзверы і паторгаў за ручку — праверыў, ці зашчоўкнуўся замок.

«Гэтым сведкі не патрэбныя, — не без іроніі адзначыў я. — Нават свае».

— Аляксандр Уладзіміравіч, — пачаў старэйшы, — вы чалавек малады... Дарэчы, не пакрыўдзіцеся, калі я буду зваць вас проста Аляксандрам? Не? Добра. Дык вось, як я ўжо казаў, чалавек вы малады, і ўсё жыццё ў вас наперадзе. І нам, паверце, не хацелася б, каб яно збочыла на слізкую дарожку. Вы без троек заканчваеце школу, наперадзе — інстытут. Увогуле, усё ў вас ідзе, скажам шчыра, добра, нават выдатна. Але ёсць адна сумная акалічнасць. Здагадваецеся, якая? Не? А трэба было б! Вашая дапытлівасць. Гэтая слабасць, ці ведаеце, многіх загубіла. Я разумею: малады, няўрымслівы розум, жаданне ведаць болей за іншых. Усё гэта варта пахвалы! Але жаданне ведаць тое, чаго не трэба ведаць, а галоўнае — спробы несці такія сумніўныя веды ў масы — гэта ўжо не дапытлівасць, а нешта горшае...

Я не ўцяміў, куды ён хіліць. «“Дапытлівы розум, жаданне ведаць больш за іншых...” Што тут кепскага? Каму могуць пашкодзіць лішнія веды? А што значыць — “ведаць тое, чаго не трэба ведаць”? Я проста хацеў знаць праўду, рэальнае становішча. Але ўжо адно гэтае жаданне вас раздражняе. Напэўна, вы якраз дзеля таго і існуеце, каб ніхто праўды не ведаў». Яго словы, а найперш іранічны, з адценнем фанабэрыі пагляд, зачапілі мяне, нават абурылі. І я досыць рэзка і, як на цяперашні мой розум, занадта смела адказаў:

— Даруйце, але, нягледзячы на свой, як вы сказалі, дапытлівы розум, я не разумею, пра што ідзе гаворка...

Маладосць і смеласць — сёстры-неразлучніцы. Яны і цягнулі мяне за язык, штурхалі супраціўляцца хоць бы на словах. Гаварыў я шчыра, хвалюючыся, але, як зараз разумею, суразмоўца палічыў мае словы суцэльным нахабствам. Ён не захацеў нічога тлумачыць, у нечым пераконваць, а раптам выцягнуў шуфлядку стала і дастаў з яе блакітны сшытак. Мой сшытак!

Відаць, ад нечаканасці я раскрыў рот, бо «таварыш» ухмыльнуўся і спытаў:

— Здзіўляецеся, адкуль у нас таемныя нататкі дзекабрыста? У адрозненне ад некаторых хітраваць і маніць не буду. Прынесла сшытак ваша класная кіраўніца, настаўніца гісторыі і грамадазнаўства. Толькі не трэба адразу гарачыцца і думаць пра яе дрэнна. Паверце, яна зрабіла гэта з найлепшымі намерамі. Хвалюецца за вас, перажывае. Так і сказала: «Вядома ж, гэта несур’ёзна, хлопец захапляецца. Але ж такія захапленні могуць завесці вельмі далёка». Добрая ў вас класная, прадбачлівая. Прыйшла загадзя, пакуль не здарылася бяда...



Словы кадэбэшніка да мяне даходзілі як праз вату. Свядомасць адмаўлялася верыць: настаўніца выдала вучня. І каму?! Арганізацыі, ад простай згадкі пра якую адбірае дух! З гэтага дня я засвечаны! Цяпер да магілы павядзе мяне па жыцці нейкая кадэбэшная шасцёрка. Агаломшаны, я маўчаў. Не мог выціснуць з сябе ні слова.

А майму дабрадзею, напэўна, і не надта трэба было нешта пачуць ад мяне. І ён працягваў паблажлівым голасам:

— Мы прагледзелі, Аляксандр, ваш сшытак. Цікавая карціна вымалёўваецца. З артыкулаў, што выходзілі ў Савецкім Саюзе ў «Литературной газете» і іншых выданнях пра паклёпніка і фашысцкага пярэваратня Салжаніцына, вы павыпісвалі толькі ягоныя цытаты. І без ніякіх каментароў. Ну проста no comment. А калі па-нашаму — няма слоў! Так-так, няма ў нас слоў, дарагі Аляксандр Уладзіміравіч! («А казаў жа, па імені будзе называць, па-простаму», — міжволі ўспомніў я.) Краіна вас выгадавала, выхавала, дала адукацыю, а вы замест удзячнасці калекцыянуеце паклёпы на яе, варожыя разважанні здраднікаў і адшчапенцаў. От і Сахараву асобны раздзельчык адвялі. Як загадаеце гэта разумець? Не ведаеце? А я вам зараз раскажу...

Старэйшы таварыш глянуў на мяне і, быццам сапраўды жадаючы мне памагчы, пачаў тлумачыць:

— Вы, бачу, не ўсведамляеце, малады чалавек, што стаіце на краі бездані. Ведаеце, як гэта бывае? Ланцужок тут досыць просты. Спачатку калекцыянуеш пасквілі здраднікаў і адшчапенцаў,

а потым і сам... Пачынаеш з паўтарэння чужой хлусні, а неўзабаве яна робіцца тваёй праўдай, перакананнем. У сувязі з гэтым і хацелася б задаць пытанне: што будзем рабіць, Аляксандр? Як жыць далей? Па-ранейшаму вывучаць «творчасць» так званых дысідэнтаў, а насамрэч — здраднікаў Радзімы, агентаў імперыялізму? Пашыраць іх шкодныя думкі сярод сваіх таварышаў?

Я маўчаў. Аглушылі страшныя для мяне з маленства словы: здраднік радзімы, агент імперыялізму. Нешта падказвала: я на шляху туды, адкуль можна не вярнуцца. Сэрца маё ўжо даўно калацілася, як у злоўленага зайца. Здавалася, што яго гулкія і частыя ўдары чуе ўся краіна, і ўсе навокал, калі мне давядзецца выйсці на вуліцу, пачнуць тыцкаць у мяне пальцам, і грымне голас Левітана: «Вось ён, агент імперыялізму. Радзіма яго выгадавала, а ён — здрадзіў ёй!»

Чэкіст знячэўку сказаў:

— Наконт яблыка і яблыні, дружа мой, вельмі правільная прыказка.

Толькі значна пазней я зразумеў: гэтыя словы былі прамоўлены не выпадкова. Яблык — гэта я, а яблыня — мой бацька, арыштаваны і высланы на доўгія гады толькі за тое, што ў нашай хаце знайшлі кнігі нацдэмаў Максіма Гарэцкага і Язэпа Лёсіка, бацька, які вярнуўся з канцлагера інвалідам; гэта і мой дзед, удзельнік Першага Усебеларускага кангрэса, таксама названы ворагам народа, — ён дванаццаць гадоў праішачыў у шахтах Варкуты, дзе наглытаўся вугальнага пылу і памёр ад раку горла; гэта і мае дзядзькі, бацькавы браты, настаўнікі, аднаго з якіх ноччу ў гэбісцкім склепе



расстралялі адны акупанты, другога — удзень, з-за вугла — іншыя.

Тады я амаль нічога пра тое не ведаў і, вядома, расхваляваўся. Быў усё ж досыць дарослым, каб разумець: з КДБ лепш не звязвацца. І калі там зацікавіліся табою, дабра не чакай. Карацей, было ад чаго запанікаваць.

Бачачы мой настрой, кадэбэшнік павесялеў, заўсміхаўся: яго словы падзейнічалі. І вырашыў суцешыць мяне.

— Ды не хвалюйся ты так, Аляксандр, не перажывай. Мы ж не звяры якія. Разбяромся, паможам. Але і ты павінен пайсці нам насустрач. Спачатку мы хацелі б атрымаць адказы на некаторыя пытанні. Скажам, чым табе спадабаўся Салжаніцын? Дзеля чаго ты гэтак беражліва і акуратна выпісваў і наклейваў ягоныя цытаты? Раскажы, не бойся. Толькі папраўдзе. Тады нам будзе лягчэй табе дапамагчы.

Як можна было не адгукнуцца на такую просьбу? І я зусім шчыра, быццам неразумнае мышаня перад катом, замяўкаў:

— Я люблю матэматыку, фізіку, іншыя дакладныя навукі. Настаўнікі кажуць, я чалавек тэхнічнага складу. І, як вы адзначылі, цікаўны. Заўсёды стараюся дакапацца да праўды. Кожны новы факт мяне быццам падганяе: а чаму так? Чаму не інакш? У падручніку гісторыі, да прыкладу, напісана: 1930-я гады, культ асобы, рэпрэсіі. Адразу ж загараюся: што за культ асобы, якія рэпрэсіі? Класная ж адказвае нешта не вельмі ўцямнае. Фактычна не адказвае на пытанні. Ну, а тут — Салжаніцын. Гляджу і вочы расплюшчваю: у яго ўсё зразумела. Дык вы ж самі ведаеце,

чыталі, пэўна, Салжаніцына. У яго ўсё названа сваімі імёнамі. Кроў, допыты, забойства тысяч, мільёнаў ні ў чым не вінаватых людзей. Генацыд супраць усёй краіны, перадусім — супраць яе інтэлектуальнай эліты. Спробы зрабіць СССР краінай рабоў, краінай-канцлагерам...

— Нават так? О, мой юны сябар, ты далёка пойдзеш. Вельмі далёка! Бадай, далей, чым мы думалі.

Ён не сказаў, далей за каго я пайду. І толькі праз шмат гадоў я зразумеў, што ягоная фраза павінна была мець прыкладна такі працяг: «Далей, чым увесь твой выразаны намі род!» Але тады ён не сказаў гэтага. Відаць, палічыў: для пачатку досыць будзе добра напалохаць бязвусага юнака, па сутнасці, хлапчука. Толькі гаворка павінна быць жорсткай і працяглай. Каб пакінула ўражанне і запомнілася. І яна доўжылася некалькі гадзін. Пытанне ішло за пытаннем. Дробнае — за сур'ёзным, жартаўлівае — за пагрозлівым, наіўнае — за пытаннем з падтэкстам, з намёкам. Не на ўсе з іх мне хацелася адказваць. На асобныя я проста не мог адказаць, бо не меў дастатковых ведаў.

Урэшце «таварыш» палічыў, што «адэпт Салжаніцына» атрымаў дастатковую прафілактычную апрацоўку, прачытаў лекцыю пра пільнасць і адпусціў мяне, сказаўшы на развітанне:

— Добра, ідзі здавай свае экзамены.

* * *

Мама ўжо страшэнна хвалявалася, не знаходзіла сабе месца: дзе я прапаў? Звычайна адразу пасля школы прыходзіў дадому, а тут знік аж да вечара!



— У бібліятэку заскочыў, — апраўдваўся я, хоць і не быў ні ў чым вінаваты. — Зачытаўся і не заўважыў, як час праляцеў.

— Урокі, сынок, трэба рабіць, а не зоркі лічыць. — Мама мела на ўвазе дакладны сэнс гэтых слоў: з восьмага класа я проста загарэўся астраноміяй. — Два дні да экзаменаў, а ў цябе ў галаве абы-што!

Сказаць маме ў той вечар праўду я пабаяўся. Гэбіст сурова папярэдзіў: нікому ні слова! І паўтарыў гэта тройчы. Што, вядома, значыла: і маці ні слова.

Толькі з цягам часу я зразумеў, як мне пашанцавала, што ў той гутарцы не дадумаўся параўнаць таталітарызм Сталіна, адкрыты, крывавы, і іншы, тагачасны — прыхаваны, прыхарошаны, хітры. Аднак нейкія высновы зрабіў і тады. Прыйшла ў галаву думка: пасля ўсяго, што здарылася, мяне з падказкі *адтуль* будуць ганяць на іспытах з асаблівай прыдзірлівасцю. Гэтая пагроза прымусіла штудзіраваць экзаменацыйныя білеты ад першага да апошняга, вывучыць матэрыял, як кажуць, назубок.

Зрэшты, матэматыку і фізіку, да якіх я меў даўнія сімпатыі, зубрыць не спатрэбілася. А вось над гісторыяй давялося папацець. Ды, надзіва, ніхто да мяне не чапляўся, пытаннямі на зарэз не закідваў, і экзамены я здаў без асаблівай напругі. Але толькі атрымаўшы атэстат сталасці ўздыхнуў з палёгкай:

— Праскочыў! Цяпер я свабодны!

Так, побач са словам «праскочыў» сарвалася ў мяне з языка і, як потым стала модна гаварыць, гэтае салодкае слова — *свабода*. Вось так: нават усё вывучыўшы, я лічыў, што не здаў, а праскочыў, і, не зрабіўшы злачынства, радаваўся, што свабодны. Усведамленне прыйшло пазней: ва ўсёй

гэтай дзіўнай логіцы вінаватыя мае перастрахоўчыя гены.

* * *

На другі ж дзень пасля экзаменаў пачаў старанна рыхтавацца да чэмпіянату Мінска па дзюдо. «У школе абышлося, — падумаў я, — а пры паступленні ў інстытут *яны* мяне, безумоўна, "дастануць". Значыцца, для падстрахоўкі трэба перамагчы на чэмпіянаце сталіцы. А там — Рэспубліка, Саюз. Чэмпіёна, можа, і не зачэпяць».

Але чэмпіёнам я не стаў, хоць і дайшоў да фіналу. Змаганне за золата ішло на роўных, а нічыіх у дзюдо не бывае, і па хантэі (меркаваннях суддзяў) перамогу аддалі майстру, а не першаразрадніку. «Калі б ты хоць кандыдатам быў», — суцяшаў мяне трэнер.

Горш за ўсё, што, захапіўшыся чэмпіянатам і трэніруючыся па дзве гадзіны тры разы на дзень, я занядбаў падрыхтоўку ў інстытут. Забыў нават тое-сёе з таго, што, здавалася, вывучыў на памяць і з «абсалютным разуменнем».

Апамятаўся на ўступных экзаменах, але было позна штосьці паправіць. Калі здаваў любімую фізіку, адчуў: на пяць не цягну (трэба ж было яе, родную, хоць крыху пагартаць перад экзаменам), — павярнуўся і выйшаў з аўдыторыі.

— Рабі што хочаш, — крычаў на мяне трэнер, калі даведаўся пра мой пралёт, — але май на ўвазе: сёлета «без інстытута» я нават прызёра горада ад ваенкамата не адмажу. Скрозь недабор!

Праз два дні, абзваніўшы прыёмныя камісіі і адусюль пачуўшы: «На жаль, вы спазніліся, прыём дакументаў закончаны», кінуўся ў Маскву.



Апошнія тры гады я досыць сур'ёзна займаўся астраноміяй, а кнігі І. Шклоўскага, Ф. Зігеля, У. Цясевіча, Б. Варанцова-Вельямінава, Т. Агекяна сталі для мяне настольнымі. У галаве ўвесь час круціліся «Oh, Be A Fine Girl, Kiss Me!»[1] — жартоўныя словы, што дапамагаюць запомніць паслядоўнасць спектраў зорак ад самых гарачых да вельмі халодных — O, B, A, F, G, K, M. Думалася, што схема «прыйшоў, убачыў, перамог» можа быць часам прыдатнаю не толькі для Юлія Цэзара. Пакажу свае веды, прышпілю распрацаваную мною гіпотэзу «разбягання» Сусвету і... ужо якім-небудзь дворнікам у інстытут астрафізікі мяне возьмуць. А далей — пабачым.

Усё ж аказалася куды прасцей:

— Веды па астраноміі ў вас — як у студэнта трэцяга курса, а прапіскі маскоўскай — няма. Вымушаны засмуціць.

Трэба было вяртацца дадому ні з чым. Перад ад'ездам вырашыў прайсціся па Маскве — прагуляцца, супакоіцца. Не заўважыў, як дайшоў да Лужнікоў.

— До начала балета «Звезды на льду» осталось пять минут, — аб'явіў папулярны каментатар Мікалай Озераў. — Напоминаем, в спектакле участвуют... — і назваў маю любімую па рэпартажах з чэмпіянатаў свету сямейную пару.

Было не было! На скрут галавы я рвануў у касы і праз некалькі хвілін з білетам у руках бег да ўказанага трэцяга сектара.

Глядзеў на віртуознае катанне маіх куміраў, шалёна пляскаў у далоні, але думалася пра іншае: пра тое, што не стаў чэмпіёнам, не трапіў у студэнты,

[1] О, будзь добрай дзяўчынкаю, пацалуй мяне (*англ.*).

што не ўдалося ўладкавацца нават дворнікам у інстытут астрафізікі. Адзінае, што выйшла, — засвяціцца ў КДБ. Не самая, скажам шчыра, удалая рэч. Усяго сямнаццаць гадоў, а наперадзе — тупік, глухі тунэль без праменьчыка святла. Вось такі нікчэмны вынік.

Няйначай, гэтая панікласць была напісана на маім твары, бо тры дзеўчынёхі-суседкі пашкадавалі мяне і пачаставалі марозівам. І зараз памятаю — шакаладным, з арэхамі, маім любімым, за дваццаць восем капеек, самым на той час дарагім. Спачатку я адмаўляўся, але яны дружна, у адзін голас, заявілі:

— Бярыце, бярыце, бо прападзе — растане.

Аргумент быў з тых, што пераконваюць, і, прамармытаўшы нешта накшталт: «Няёмка неяк» і «Дзякую», я працягнуў руку па марожанае.

— Няёмка спаць на столі, — сказала адна з дзяўчат, але, паглядзеўшы на мяне, збянтэжылася.

Я чамусьці яшчэ болей засаромеўся і тыцнуўся носам у марозіва, ад чаго суседкі дружна рассмяяліся. Мне нічога не заставалася, як падтрымаць іх. Так і пазнаёміліся.

Пасля стадыёна наша кампанія завітала ў бліжэйшую кавярню, а потым адна дзяўчына прапанавала паслухаць музыку. Мне здалося дзіўным, што такая прапанова зыходзіць ад прадстаўніцы жаночага полу, але, можа, я адстаў ад жыцця? Можа, і праўда ў наш час не заўсёды толькі мужчынскі пол запрашае «на музыку»?

Узяўшы па дарозе шампанскае і кілаграм «Мішак на Поўначы», мы паехалі ў раён Курскага вакзала. У кватэры ладную паліцу займала калекцыя фірмовых кружэлак. Першай на бліскучы, з залацістым лэйблам, японскі плэер «Pioneer» дзяўчаты паставілі паўзабароненую кружэлку «Deep Purple in Rock». Неўзабаве рокеры так нас завялі, што праслухоўванне перайшло ў дыскатэку, а танцы — у начную гулянку. Аднекуль узялося яшчэ шампанскае, пасля — віно...



Прачнуўшыся раніцай, я нейкі час баяўся паварушыцца. Чаму? Ды таму, што быў у ложку не адзін і не наважваўся зірнуць у твар дзяўчыне, што ляжала побач: раптам гэта будзе не тая, з якой так весела ўчора вытанцоўваў?

Ціхенька адзеўшыся, асцярожна прычыніў за сабою дзверы, за якімі да ранку грымела музыка, і з усіх ног кінуўся ўніз па лесвіцы. З дома, у якім былі тарцовыя дзверы, так не ўцякаў. Адтуль, наадварот, ішоў няспешна, не па гадах паважна. Цяпер жа, ад дома каля Курскага вакзала, проста ляцеў. Не аглядваючыся, як лермантаўскі Мцыры. На душы было моташна і неспакойна. Падганяў ацверазелы розум. Ён камандаваў, загадваў, крычаў: «Бягом! Лета канчаецца, а ты яшчэ — ніхто. Ніхто і нідзе! Вось табе і камсамолец, вось табе і спартовец, вось табе і ўсявед-астраном! І КДБ, між іншым, тут зусім ні пры чым!»

* * *

Купіўшы на апошнія рублі самы танны — у агульным вагоне — білет да Мінска, я пайшоў пазваніць цётцы Надзі, мамінай сястры, якая жыла ў Маскве. Не зрабіць гэтага не мог. Не зразумелі б ні мама, ні цётка. Я мусіў зайсці, не тое што пазваніць. Але пасля фіяска ў астрафізічным інстытуце мне было зусім не да цёткі, а пасля

прыгод з маскоўскімі меламанкамі — тым больш. І толькі цяпер, перад самым ад'ездам, спахапіўся: трэба ж хоць патлумачыць, чаму не зайшоў.

Цётка Надзя была багатая і бяздзетная і, пэўна, з гэтае прычыны апантана любіла пляменнікаў і пляменніц. Пачуўшы мой голас, яна страшэнна ўзрадавалася і, як заўсёды, закамандавала:

— Зараз жа да мяне! Возьмеш таксі і скажаш: «Гасцініца "Масква"». Запомніў? Я скажу, каб цябе ўнізе чакалі. Усё зразумеў?

Мне нічога не давалася ў жыцці задарма. У школе, каб атрымаць пяцёрку, старанна вывучваў увесь зададзены матэрыял. І не толькі зададзены, але і пазапраграмны, бо мне чамусьці абавязкова задавалі дадатковыя пытанні. Дый гэтая паездка ў Маскву далася ў знакі. У мамы папрасіць грошай не мог — ведаў, няма ў яе. Значыць, трэба зарабіць. І тры ночы я разгружаў вагоны з посудам. І так ува ўсім. Толькі вершы, бадай што, пісаліся самі сабой, без напругі. Асабліва — пра дзяўчат. Такія, напрыклад:

Две грудки, словно яблочки, румянятся,
Горят, трепещут в поцелуях сладостных,
И каждая друг дружке лаской жалится:
Ох, почему же мир мгновений радостных
Нас опьяняет чувствами и...

Нешта было і пасля «и», але што — забыўся. Даўно, яшчэ ў восьмым класе, пісалася, і, вядома ж, па-руску. Здавалася дзівацтвам складаць вершы пабеларуску ў амаль цалкам абруселым Мінску.

Вершаў у мяне сабралася багата — два тоўстыя сшыткі. Падумваў паказаць іх дасведчанаму чалавеку. Такога не знаходзілася. Затое трапіў на вочы «Алый парус» — літаратурная старонка «Комсомольской правды». Падумаў: дапішу паэму і дашлю, трэба выходзіць у людзі. Але ўсе мае «прекрасные порывы» скончыліся тым, што неяк раз, у паэтычных мроях, я бяздарна забыў абодва сшыткі і няскончаную паэму ў тралейбусе. Выйшаў на прыпынку, а яны паехалі далей. Апамятаўся запозна. І хоць адшукаў той няшчасны тралейбус і пагаварыў з кіроўцам — усё марна: сшыткі зніклі. Страта была незваротная. Тады я сказаў сабе: болей вершаў не пішу! Ніколі! І клятве той заставаўся верны ці не дваццаць гадоў.



Але дзеля чаго я пра ўсё гэта? Ага — цётка Надзя і яе шчодрасць. Ёй толькі рэкні — ашчаслівіць. Ну і няхай! Раскашэліцца — не адмоўлюся. Усё ж родны чалавек.

Цётчын ветлівы, хоць і камандзірскі голас узбадзёрыў мяне. Але на душы было па-ранейшаму тужліва, і пайшоў я шукаць, дакладней — лавіць таксі зусім не ў радасным настроі.

* * *

Не паспела машына спыніцца ля вылізанага да бляску гасцінічнага ганка, як ад дзвярэй, узняўшы рукі, нібыта хацеў абняць, кінуўся да мяне швейцар. Таксіст вылупіў вочы: хлапчуку швейцары «Масквы» дзверы адчыняюць! Ён нават забыўся сказаць дзяжурнае слоўка, якое амаль не залежыць ад атрыманай сумы: «Малават-та».

Праз хвіліну я быў у ліфце, а неўзабаве стаяў ля дзвярэй кабінета з шыльдачкаю: «Дырэктар». На ўсякі выпадак пастукаў.

— Праходзь, Санёк! — цётка сама расчыніла дзверы. — Прысядзь, пачакай хвіліначку. Падпішу

пару паперчын, і паедзем. Хачу цябе папесціць. А то, бачу, варта на пару гадкоў пакінуць без нагляду, як ад усіх маіх ранейшых намаганняў не застаецца і следу: твар маркотны, вочы сумныя, выгляд стомлены. Усміхацца трэба, Санёк, усміхацца! Не паддавацца жыццёвым нягодам! Не ісці за імі! Ты ў мяне разумненькі і не раздураны. У цябе ўсё будзе добра. Цудоўна! От пабачыш. Я ўжо вырашыла. Падумала і прыйшла да высновы: трэба Санька ў людзі выводзіць. У багатыя людзі! Заўсміхаўся? Дзякуй Богу! Хоць зморшчынкі з твайго твару збеглі.

Аздобленая ўсярэдзіне велюрам цётчына «Волга» нечым нагадвала бар з нянашага кінафільма: напарфумаваны «французскі» салон і ў паўляжачай позе на заднім сядзенні — бездакорна «вылізаная» цырульнікам гаспадыня.

Гадзіны тры мы матляліся па крамах і складах Масквы, а цётка ўсё не сунімалася. Нарэшце, калі я ўжо мала што цяміў, сказала кіроўцу:

— Добра, Васіль, едзем дадому. Бачыш, пляменнік з голаду памірае.

«Зноў намёк: правінцыял, саромеецца сказаць». Вядома, паміраць я не паміраў, але пярэчыць не стаў. Спрачацца з цёткаю — марная рэч, яе дабрадзейную, амаль агрэсіўную любоў я адчуваў і раней, таму лепш змірыцца і маўчаць, тым болей што і сапраўды час быў падсілкавацца.

Але цётка Надзя раптам загаварыла іншым тонам і пра іншае. Палічыла патрэбным расказаць, што і як збіраецца рабіць са мной.

— Слухай, пляменнічак, уважліва. Цябе проста сам Бог паслаў. Сёння я вячэраю з вельмі сур'ёзнымі людзьмі. І цяпер папрашу іх, каб прыехалі з дачкою. І гэтым людзям ты павінен спадабацца. Ты ж у нас хлопец відны, і аблічам, і розумам не абдзелены. Такія на дарозе не валяюцца. Наогул, усё павінна прайсці добра. Галава сям'і нядаўна прызначаны паслом у Швецыю. Маці таксама ў Міністэрстве замежных спраў працуе. Ёсць у гэтых загніваючых капіталістаў і мажлівасць вучыцца. Само сабой, на ангельскай альбо шведскай мове. Ты, спадзяюся, не супраць такой перспектывы? I think the language for you is not a... How to say it in English?[1]



Я мала што зразумеў з цётчыных паўнамёкаў, але не адгукнуцца на яе ангельскую не мог:

— Do you mean «an obstacle»?[2] — паспрабаваў падмагчы.

У адказ яна ўсміхнулася:

— The accent is certainly Byelorussia[3].

* * *

Да прыходу гасцей заставалася гадзіна, на працягу якой я старанна адмакаў пад душам. Толькі хвілін за пяць да іх з'яўлення цётка спахапілася і выцягнула мяне з ваннага пакоя.

Сям'я дыпламатаў не расчаравала. Сапраўдны ўзор маскоўскай эліты. Шляхетная, пародзістая постаць бацькі, прыгожая, асляпляльная ўсмешка маці, сімпатычная бялявая — амаль шведка — дачка.

Пасля, за сталом, я звярнуў увагу на адзенне гасцей — швоў амаль не відаць! — і, вядома ж, на

[1] Думаю, мова для цябе не... як сказаць па-англійску? (*англ.*)
[2] Вы маеце на ўвазе «перашкода»? (*англ.*)
[3] Акцэнт, вядома ж, чыста беларускі (*англ.*).

ювелірныя упрыгажэнні маці і дачкі. Брыльянты іхніх завушніц, бранзалетаў і кальне адбівалі сонечныя промні, якія, ударяючыся аб крышталь келіхаў, раз-пораз сляпілі мяне. Я вырас у зусім іншым свеце, і гэтая дэманстрацыя дабрабыту, дастатку, а дакладней кажучы, багацця, уражвала і бянтэжыла. У нейкі момант падумалася, што, можа, пасада пасла ў Швецыі для бацькі — вымушанае паніжэнне, а заадно і ўцёкі ад адказнасці: наўрад ці мог зарабіць усё гэта звычайны, няхай нават немалога рангу, чыноўнік.

Напачатку я адчуваў сябе няёмка, саромеўся, сядзеў за сталом як звязаны. Але паступова скутасць праходзіла.

Цётка і жонка будучага пасла, не змаўкаючы, наўзахапы пераказвалі адна адной апошнія свецкія навіны, розныя, часцей смешныя, гісторыі з жыцця «світы» і маскоўскага бамонду. Весела, нават азартна смяяліся самі і весялілі ўсіх нас. Спакваля я асвойтаўся і рагатаў ці не гучней за ўсіх. І гэтым нечакана парадаваў бацьку сямейства. Ён раптам падняўся і прапанаваў такі тост:

— Сціпласць і прастадушнасць — прыкметы прыстойнасці. Думаю, пакуль у сталіцы ёсць сілкаванне ў асобе чыстай душою правінцыйнай моладзі, у краіны ёсць будучыня! Дык вып'ем жа за нашу годную змену!

Усе з ахвотай асушылі келіхі з «залатым» шампанскім (любімым напоем «шведаў»). Пасля яшчэ і яшчэ...

Час ляцеў непрыкметна. Было далёка за поўнач, калі цётка папрасіла мяне спусціцца ў склеп па клубнічнае варэнне. Я здзівіўся: навошта, стае ж усялякай слодычы? Але цётка амаль падштурхнула да выхаду:

— Не лянуйся, ідзі. Забыўся, дзе святло ўключаецца? Не? Малайчына!

Не было мяне хвілін пяць, можа, крыху болей. А калі вярнуўся з літровым слоікам любімага цётчынага клубнічнага, адразу ж пачуў прысуд.

— Малады чалавек, — голасам спрактыкаванага педагога пачала жонка пасла. — Мы тут без вас, даруйце, параіліся... Чалавек вы не дурны, спартыўны і галоўнае — не-раз-ду-ра-ны, — сказала, расцягваючы апошняе слова. — Ёсць такая прапанова... Дарэчы, — яна ўсміхнулася і падміргнула ці то мне, ці то цётцы, — Насці вы спадабаліся. Яна ў нас таксама дзяўчына як мае быць: і добрая, і гаспадарлівая. Акурат вам да пары. — Дачка пачырванела і апусціла галаву. Маці ж працягвала: — Дык вось, ёсць прапанова трымацца вам з Насцяю разам. А дзе будзеце жыць, я думаю, Надзея Паўлаўна вам ужо сказала... Не-не, адразу можаце не адказваць. Падумайце. Але часу на гэта ў вас мала. Зрэшты, чаму мала? Цэлыя суткі! На жаль, болей мы чакаць не можам.

Я быў агаломшаны. Быццам абухом па галаве! Без мяне мяне жанілі?! Ну, цётка! Вось дык сюрпрыз! Куды там аматаркам «Deep Purple»! І суткі на роздум! Сапраўды прысуд! Прытым без абскарджання.

Не паспеў я не тое каб нешта сказаць, але і ўцяміць, што адбываецца, як бацька сямейства ўстаў з-за стала:

— У гасцях добра, але час нам, Надзя, і меру ведаць.

* * *

Усё ўва мне кіпела. «Не, выбачайце! Гэтая прапанова — пятля! Вядома, добра было б вучыцца ў Швецыі, але ж не такой цаною. Лезці ў няволю, хадзіць на шворцы? Чуць: “Мы тут без вас параіліся і пастанавілі”. Яны, ці бачыце, пастанавілі! Ніхто ніколі за мяне пастанаўляць не будзе!»

Цётка, правёўшы гасцей, вярнулася ў залу і адразу заўважыла мой незадаволены пагляд. Усё ж спытала:

— Ну, і што ты надумаў?

— Я? Нічога! Гэта вы надумалі! — адказаў без ценю іроніі.

Але цётку так лёгка не падманеш.

— Дзіўныя вы, беларусы. Жывяце як жабракі-гаротнікі, мардуецеся, а надараецца мажлівасць выйсці ў людзі — вы на дыбкі: «Не, гэта не маё!» Санёк, я зразумела: для шлюбу па разліку ты пакуль што не саспеў. Шкада! Цяпер — не саспеў, а іншага шанцу можа і не быць. Запомні!

Я маўчаў, хоць сказаць хацелася шмат чаго.

— Разумею, — спрабавала супакоіць мяне цётка. — Свабода — перш за ўсё! І ўсё-ткі, дарагі пляменнічак, шчыра скажу: шкада, што не хочаш ты быць багаценькім Бурацінам. Ну ды Бог з табою! Давай спаць! А заўтра, можа, і праўда станем мудрэйшымі.

Уставала цётка рана, хоць на работу выбіралася недзе а дванаццатай. Гэтая раніца была патрачаная не на цырульню, як заўсёды, а на мяне. Новая бяздонная заморская сумка напакоўвалася дарагімі падарункамі: джынсы легендарнай «Lee», венгерскія



катонавыя байкі, тоўсты, але лёгкі ірландскі світэр, фінская скураная куртка, процьма больш дробных рэчаў і прадметаў, тузін кніг фантастыкі і дэтэктываў. «Адзін дзень Івана Дзянісавіча» Салжаніцына я ўжо сам выпрасіў. Цётка паківала мне пальцам, але кнігу аддала, і я з радасцю і ўдзячнасцю прыціснуў томік да грудзей. Ужо пасля з жудасцю падумаў: «Ох, калі пра гэта даведаюцца там, за жалезнымі дзвярыма!»

Цётка стала класці ў сумку розныя прысмакі і далікатэсы (у бляшанках — каб не разбіліся) і наказала:

— Кладу гэта зверху, прагаладаешся — адразу нешта дастанеш. Не будзеш корпацца, перакладваць рэчы, выстаўляць напаказ, што там у цябе.

І яшчэ ўзрадавала:

— Сумку здасі ў камеру захоўвання, а сам, я разважыла, паспееш пабыць у тэатры «На Таганцы». Часу хопіць. Вось білеты (якія месцы, заўваж!) і грошы на таксі. Не эканом! Ніякага метро — толькі на машыне! Хоць на метро часта дабіраюцца хутчэй, але сёння яно нам не падыходзіць. Ну, усё, з Богам. Васіль, чую, пад’ехаў.

Цётчын кіроўца заўсёды прыпаркоўваўся пад самымі вокнамі яе кватэры, але ў дзверы не званіў. Часам ён мог там прачакаць-праспаць некалькі гадзін, як і ля гасцініцы «Масква». «Салдат спіць — служба ідзе!» — павучаў швейцараў.

Цётка выйшла з машыны раней, на пад’ездзе да работы. На развітанне яшчэ раз нагадала:

— Рамантык, глядзі, не забудзь сумку ў камеры захоўвання! Бо да Мінска галодны паедзеш!

* * *

Відаць, гэтак я адчуваў бы сябе, калі б апынуўся, скажам, у Швецыі — адзінотна і няўтульна. Патрапіў у тэатр нечакана, псіхалагічна не падрыхтаваны, што, як мне здавалася, адразу ж кідалася ў вочы. Стаяў ля сцяны з партрэтамі артыстаў і міжволі дзівіўся. Нельга было не дзівіцца. Тэатр пачынаецца з вешалкі? Не, гэты пачынаўся з фае. З гэтых партрэтаў. З публікі. А публіка была не абы-якая: Акуджава, Вазнясенскі, Міхалкоў, Разанаў... Я пазнаваў іх адразу.

Пачаўся спектакль. Усе артысты ігралі з поўнай, на мяжы душэўных і фізічных сіл, аддачай, але найбольш уразіў Высоцкі. Самы славуты ў краіне бард? Так. Вядомы кінаакцёр? Так. Але ніколі не думаў, што ўсе гэтыя амплуа можа зацьміць Высоцкі тэатральны. Ён насіўся па сцэне, як вар'ят, не шкадуючы рваў свой і без таго сарваны голас.

Пад канец спектакля Высоцкі не гаварыў, а стагнаў. У нейкі момант ён так раз'юшыўся, што Дзямідавай — партнёрцы па спектаклі — давялося яго супакойваць.

— Валодзя, — сказала яна, хоць героя п'есы звалі, вядома ж, інакш, — Валодзя, усё добра.

Ён пакідаў сцэну абсалютна знясілены, пот ручаём цёк па твары. Адзенне можна было выкручваць.

Я тады вымавіў фразу, якую помню і цяпер: «Такія доўга не жывуць». Гвалтаваць арганізм запар дзве гадзіны на мяжы яго магчымасцяў?! Сапраўды хадзьба над безданню. Па самым краі.

Спектакль праляцеў як адно імгненне, але яно зачаравала мяне і аглушыла. Я растварыўся ў ім да астачы і пасля фінальных слоў не адразу зразумеў, дзе сяджу. Толькі бура апладысментаў памагла мне ачомацца.



Калі выйшаў урэшце на вуліцу і зірнуў на падораны цёткаю гадзіннік, спалохаўся — да адпраўлення цягніка заставалася дваццаць пяць хвілін! Ну і цётка, ну і разлічыла! Падбег да краю тратуара і пачаў махаць рукой перад кожнай машынай.

Адна з іх спынілася.

— Да «Беларускага»? — перапытаў таксіст, побач з якім сядзеў пасажыр. — Пяць рублёў!

Пасажыр міжволі пасміхнуўся. Я зразумеў, што мяне абуваюць, але выйсця не было, і вымавіў па-гагарынску:

— Паехалі!

У камеру захоўвання ўляцеў за шэсць хвілін да адпраўлення. Амаль вырваў сумку з металічнай багажнай скрынкі і памчаў да платформы. Дзе ён, мінскі цягнік, на якой каляіне? «Тры хвіліны, дзве», — адлічвала свядомасць.

Перад вачамі мільганула нарэшце шыльдачка «Масква — Мінск». Бегчы да свайго вагона часу не было — ускочыў у бліжэйшы. Праваднiца, якую ледзь не збіў з ног, зрэагавала імгненна і па-беларуску:

— От ужо гэтыя маскалі! Заўсёды позняцца!

Маскалём, думаю, мяне зрабілі абноўлены «прыкід» і фірмовая сумка.

* * *

Я прайшоў у свой вагон і адшукаў пазначанае ў білеце купэ. Адчыніў дзверы і вачам не паверыў: «Люкс! Ну і цётка! От табе на! І не зрабіся пасля такога жыцця агентам імперыялізму!»

У купэ больш нікога не было, але я не засмуціўся. З палёгкаю ўздыхнуў: «І дзякуй Богу! Пасля Масквы, як і пасля спаборніцтваў, належыць адпачыць».

Схадзіў да правадніцы, папрасіў, каб прынесла гарбаты. Неўзабаве пачуў стук у дзверы. Запрасіў:

— Заходзьце, калі ласка.

— Дзякую, — голас быў зусім не падобны на прастуджаны басок правадніцы.

Здзіўлена ўзняў вочы... Як выглядаў я ў тую хвіліну — не ведаю, але народная артыстка СССР Васільева, якая — дайце веры! — увайшла ў купэ, адразу ўзняла ўгору руку:

— Спакойна, малады чалавек, спакойна. Усё добра. Так-так, гэта я. Ды не Госпад жа Бог! Таму закрываем рот і заказваем гарбату.

Госпадзе, гэта сапраўды яна! І гаворыць нешта пра гарбату...

Я сарваўся з месца і пабег да правадніцы: не адну шклянку, а дзве. Ад яе — у вагон-рэстаран. Навошта? Наўрад ці разумеў. Але ўсведамленне таго, што еду ў адным купэ з народнай артысткай, змушала варушыцца. А як жа інакш? Калі такое яшчэ паўторыцца? Можа, і ніколі! Значыць, трэба нешта зрабіць, нешта прыдумаць.

Я выстаяў чаргу, купіў прыгожую каробку «камунарскіх» цукерак і бутэльку шампанскага. Шчаслівы, вяртаўся ў купэ.

Асцярожна, стараючыся не грымець, адсунуў дзверы і зноў аслупянеў: суседка спала. Прылегла, відаць, на хвілінку і неўпрыкмет заснула. Напэўна, стома ўзяла сваё. З карабля на баль — са спектакля на цягнік, у дарогу.



Паклаўшы цукеркі і шампанскае на стол, я таксама прылёг і гэтаксама нечакана для сябе заснуў...

— Малады чалавек, — пабудзіла мяне ўранку славутая суседка, — хутка Мінск.

Пазней, калі я прывёў сябе да ладу, яна, усміхаючыся, сказала:

— Неспрактыкаваны вы, аднак, кавалер: шампанскае так і не адкаркавалі... Жартую... Але, крый Божа — не засмучайцеся! У вас яшчэ ўсё наперадзе! І, паверце, гэта я вам зайздрошчу. Як мне хацелася б зноў апынуцца ў вашым веку! Але гады не вернеш. А ранішняю гарбатай — частую! Я ўжо заказала.

Мы пілі чай, елі цукеркі, гаварылі пра тэатр. Я сказаў, што ўражаны ігрой Высоцкага, укруціў нешта пра «идущего по лезвию бритвы». Яна падтрымала, сказала: «Есть и другие. Олег Даль, например...»

На развітанне папрасіў у яе аўтограф. Народная распісалася на кнізе Іосіфа Шклоўскага «Вселенная, жизнь, разум» — першай, што трапіла пад руку ў маёй сумцы.

Цягнік спыніўся, і мы падняліся. Апошняе, што пачуў ад славутай спадарожніцы, былі словы, якія засталіся ў маёй памяці назаўсёды:

— Ну што, малады чалавек, будзем рухацца наперад?

Яе сустракаў натоўп з тэлекамерамі, а мяне — мой горад. Мой? Не ведаю, ці паверыце, але на гэтым кароткім слове — «мой» — я чамусьці раптам спатыкнуўся. «Ці мой?» — кальнуў сумнеў.

Засяродзіцца на ім не паспеў — перада мною стаяла... мама! Мая бедная мама. Яна прыехала.

Вядома ж, цётка ёй пазваніла: ідзі сустракай свайго сыночка, а то вашыя жабракі па дарозе яго абкрадуць, ён жа ў цябе такі неспрактыкаваны і даверлівы.

* * *

Мама ад таксі адразу ж адмовілася. Нават слухаць не стала.

— Плаціць тры рублі за нейкія пятнаццаць хвілін язды? — абурылася. — Гэта табе не Масква! Пайшлі на тралейбус.

Наўрад ці да месца гаварыць цяпер пра тое, як мы дабіраліся дадому нашым пятым маршрутам. Мне ён абрыдзеў яшчэ з таго часу, калі мама вазіла мяне ў дзіцячы садок. І ехаць недалёка, усяго нейкія чатыры прыпынкі, але ў тралейбусе заўсёды была таўкатня. Быццам ён апошні, і ўсе абавязкова пнуцца ўлезці ў яго.

Ды Бог з ім, з гэтым пятым тралейбусам! Успамінаю пра яго толькі дзеля таго, каб сказаць: пасля такой цісканіны было асабліва прыемна прыйсці дадому, распрануцца, упасці ніцма на тахту або проста на падлогу, на дыван і адпачыць, нацешыцца прахалодаю, цішынёю і спакоем.

Але я не паспеў нацешыцца. Перашкодзіў міжгародні тэлефонны званок. Званіла цётка — але ўжо іншая, «паўночная». Яна, як заўжды, усё ведала і... прыраўнавала мяне да прадстаўніцы, як казала, «маскоўскай гасцінічнай мафіі». Патрабавала, каб неадкладна прыехалі да яе ў госці. Патрабавала катэгарычна і безапеляцыйна, а на развітанне паставіла важкую кропку:

— Запрашэнне я выслала.



Без яго мы не маглі атрымаць пропуск у пагранічную зону.

* * *

Як было пасля такога адмовіцца? І мама здалася:

— Добра, вазьму які тыдзень з водпуску і, пакуль цёпла, з’ездзім, праведаем.

Мяне, праўда, папярэдзіла, ці, лепш сказаць, папрасіла:

— Толькі ты, калі ласка, абяцай, што не будзеш сядзець, як раней, дзень і ноч перад тэлевізарам. Што яна табе далася, гэтая фінская тэлевізія, свабодная, як ты кажаш? Хочаш ведаць тое, што не трэба? Апамятайся, сынок! Не лезь на ражон! У мяне дасюль голас вашай класнай у вушах звініць: «Саша быццам не ў савецкай сям’і выхоўваецца, не ў СССР нарадзіўся і расце...»

«Бедная мама», — уздыхнуў я, як і тады, на вакзале. Прарабіўшы ўсё жыццё на ткацкай фабрыцы, яна была тыповай савецкай жанчынай, передавіком вытворчасці. І разважала, і рабіла ўсё ў адпаведнасці з гэтым сваім, прынятым як належнае, статусам.

Таму ехалі мы не ў «люксоры», а ў народным плацкартным вагоне. Ехалі далёка, на Крайнюю Поўнач, у пагранічную зону.

Слухаючы прыемны перастук колаў, я, здаецца, ці не самазадаволена пасміхаўся: як гэта пільныя служакі з вядомага жоўта-шэрага будынка ў цэнтры Мінска адпусцілі мяне ў такую дарогу? Убачыў сябе гэткім героем, які, выходзіць, можа, дайце веры, пасміхнуцца з гэбістаў, упікнуць: нават яны не паўсюль паспяваюць і не ўсё бачаць і чуюць!

Цяпер, праз гады, мне шкада не тых хлопцаў, а сябе, наіўнага, самаўпэўненага і даверліва-неспрактыкаванага.

Месца маё, само сабою, было на верхняй паліцы. Ды я ўжо меў сякі-такі досвед у гэткіх паездках. Чамусьці ва ўсіх плацкартных вагонах, куды б ні ехаў, гулялі страшэнныя скразнякі. Ведаючы гэта, я, кладучыся галавой да акна, ухутваў яе ручніком. Хапіла мне таго, даўнейшага выпадку...

Пасля восьмага класа, з якога, дарэчы, і ўзяўся па-сапраўднаму за вучобу, мама павезла мяне «на вёску да дзядулі» пад яшчэ не радыеактыўны Гомель. У цягніку мяне гэтак прадзьмула-прасвістала, што пад вечар з тэмпературай сорак я ляжаў непрытомны ў нейкай вясковай бальнічцы. Усе хадзілі ля мяне, войкалі і ахалі, але што рабіць — ніхто не ведаў. У дадатак жа да тэмпературы, якую ніяк было не збіць, мяне ўвесь час ванітавала. Пад канец — з крывёю.

Выжыў, можна сказаць, цудам. Пашанцавала. Якраз тым часам у той вёсцы адпачываў галоўны лекар другой мінскай бальніцы. Прыехаў на радзіму, да маці. І апынуўся доктар для мяне, як у той песні пяецца, «в нужном месте и в нужный час». Праўда, тады было не да песень. Без гэтага не інакш як Богам пасланага чалавека будучаму агенту імперыялізму былі б, безумоўна, капцы. Доктар змагаўся за жыццё «сынка» (зваў мяне так) усімі даступнымі сродкамі. Запалохаўшы мясцовых шышак сваімі сувязямі ў сталіцы, дамогся таго, што на другі дзень «сынка» пасадзілі на верталёт, і я апынуўся ў найлепшай бальніцы Гомеля. Доктар трое сутак не адыходзіў ад майго ложка. І ў выніку мяне не даканалі якім-небудзь няслушным дыягназам і, адпаведна, памылковым лячэннем. І я выжыў.



Пазней даведаўся: прозвішча маё галоўны лекар тады пачуў не ўпершыню. Некалі ён вучыўся ў медычным інстытуце ў адной групе з маёю стрыечнай сястрой. Яны кахалі адно аднаго. На трэцім курсе ад «сяброў» з жоўта-шэрага будынка рэктару прыйшло пісьмо. Неўзабаве сястру, як дачку выкрытага ворага народа, з інстытута выкінулі. Тады будучы галоўны лекар пабаяўся выступіць у абарону свайго кахання — гэта значыла б развітацца з мараю стаць доктарам. Сястра пасля адлічэння доўга хварэла, суткамі не спала, трызніла і ўрэшце страціла розум.

А ў той час, калі лёс звёў яго са мной, доктар, які прайшоў «в'етнамскую», ужо нічога не баяўся. Ён змагаўся за маё жыццё і за свой гонар. Ведаў: з гэтым прозвішчам я ў родзе — апошні. І калі ён не зробіць усяго мажлівага і немажлівага, ланцужок можа канчаткова абарвацца.

У дадатак да ўсяго перажытага я ў той гомельскай бальніцы выпадкова пачуў вымаўленае адным з дактароў: «Пункцыю ўсё ж дарэмна ўзялі. Паспяшаліся, перастрахаваліся, можна было і не браць. А цяпер пасля сарака пяці ён — не жылец. Ранняя старасць».

Тады да сарака пяці мне было далёка, і тая фраза мяне не вельмі насцярожыла. Не жылец дык не жылец. Гэта пра некага іншага, не пра мяне.

Пазней жа, калі памяць вярнула да таго даўняга бязлітаснага прысуду, я сказаў сабе: «Што ж, калі

гэта сапраўды так — трэба спяшацца». І з таго часу ўсё жыццё, як мог, спяшаўся.

Спяшаюся і цяпер, калі пішу гэтыя радкі.

* * *

Наш плацкартны жыў сваім вагонна-дарожным жыццём. Бедныя браткі-беларусы ехалі да сваякоў, якія атрымлівалі шалёныя паўночныя. Хто — у Мурманск, хто — у Манчагорск, а некаторыя шчаслівчыкі — у прымежную зону, да «фінаў». Да шчаслівчыкаў належалі і мы.

Да Ленінграда ўсё было звычайна і проста, як усюды ў Савецкім Саюзе, але, калі паўночную сталіцу праехалі, пачалося нешта незразумелае. Цягнік пайшоў уздоўж граніцы, і на кожным паўстанку нас няспынна правяралі, правяралі, правяралі. Спачатку гэта прымушала ўсіх хвалявацца, потым пачало ўспрымацца спакойна і нарэшце зрабілася прадметам жартаў. У мяне нават узнікла жаданне падкалоць таварышаў у зялёных фуражках. Гэта ледзь не давяло да бяды. На адным з прыпынкаў на чарговае «Вашы дакументы!» я, замест таго каб дастаць пашпарт, выпаліў:

— My name is Mick Jagger, — назваў імя вядомага англійскага рок-спевака. — I am from England. I have no documents on me, but I can sing for you![1]

— Што-што? — не зразумеў жарту салдат. — Ану, пройдзем!

Дзякуй Богу, мама па-сапраўднаму расплакалася і здолела пераканаць прапаршчыка, які падышоў

[1] Мяне завуць Мік Джагер. Я з Англіі. Дакументаў пры сабе не маю, але магу для вас праспяваць! (*англ.*)



на шум, што яе сын па-дурному пажартаваў, і пасля некаторага вагання той дазволіў нам ехаць далей. «Глядзіце за сынам, мамаша», — папярэдзіў, адыходзячы.

«Паўночная» цётка сустрэла нас у Манчагорску, за шмат кіламетраў ад свайго дома.

Дабіраліся да месца на «персанальным» грузавічку яе мужа. Ехалі па бездарожжы гадзіны дзве. Пасёлак, у якім жыла цётка, быў на самай мяжы з фінамі, і, як потым я даведаўся, бездарожжа было толькі з нашага боку.

Цётчын дом мяне ўразіў: новы, светлы, прасторны. Як самаму зморанаму, мне выдзелілі асобны пакой. Такой раскошы не было нават у маскоўскай «гасцінічнай мафіі».

* * *

Спаў я ў тую першую ноч на поўначы, як забіты. Нястачы кіслароду, пра якую гаварыла цётка, зусім не адчувалася. Наадварот, мне здавалася, што яго зашмат: паветра было нейкае пранізлівае.

Раніцай у ванным пакоі пачуў, як за тонкай сцяной, на кухні, мама ўсхвалявана пытала-перапытвала сястру:

— Няўжо здолелі ўцячы? Двое? І што? Злавілі? Зэкі? Палітычныя? Мяжу перайшлі, але фіны выдалі?

Я, агаломшаны, прыціх, замёр.

— Так, і хутка іх павядуць паўз наш дом, — адказала цётка. — Вуліца ж у пасёлку адна.

Вядома ж, даведаўшыся пра такое, я не мог не выйсці падыхаць свежым паветрам. Мне, які начытаўся кніжак пра герояў-памежнікаў і варожых агентаў, што ўсяляк спрабавалі пратачыцца

да нас, хацелася ўбачыць калі не саміх шпіёнаў, дык хоць бы іх памагатых. Жывых, у натуральным выглядзе.

Я стаяў ля веснічак і чакаў. Іх усё не вялі. Набліжаўся поўдзень. Мама выйшла паклікаць мяне палуднаваць. Падышоўшы бліжэй, ціха сказала:

— Гэта, сынок, не звычайныя зэкі. Гэта палітычныя, ворагі народа.

— Тым больш, мама, я мушу паглядзець.

І тут мы ўбачылі працэсію, што набліжалася да нас.

Уцекачоў вялі павольна, нібыта на павучанне іншым. Каб кожны мог іх убачыць, разгледзець, усвядоміць непазбежнасць пакарання. Ахоўвалі двух арыштаваных салдаты і людзі ў цывільным, усяго чалавек дваццаць. Быццам баяліся, што зэкі нават у кайданках паспрабуюць зноў уцячы.

Яны ішлі моўчкі. На тварах роспач, безнадзейнасць. Яны ведалі, куды ішлі, яны ведалі, што будзе далей... Успомнілася тая даўняя фраза, што пасля непатрэбнай, памылковай пункцыі я не жылец, і мне страшэнна захацелася нейкім спосабам падбадзёрыць уцекачоў, падтрымаць: «Я от таксама... Але трымаюся...» Аднак вымавіць што-небудзь не змог.

Шмат пазней даведаўся, што гэтых двух, асуджаных у шэсцьдзесят восьмым за ўдзел у сядзячай дэманстрацыі на Краснай плошчы на знак пратэсту супраць уводу савецкіх войскаў у Чэхаславакію, да ўцёкаў рыхтавала ўся зона. Расказвалі, што знойдзены ў іх маніфест пачынаўся словамі: «Мы, палітычныя зняволеныя СССР, дзяржавы, якая сцвярджае, што нас няма...»



* * *

У пасёлку ішла толькі фінская тэлевізія. Я слухаў незразумелую гаворку, але ў гэтым выпадку перакладу і не трэба было: Леаніда Ільіча ўзнагароджвалі чарговай зоркай героя.

«Добры такі дзядок, — узіраўся я ў экран, — цацкі любіць. Пагляд цёплы. Усміхаецца. Хіба ён можа каго пакрыўдзіць?»

І ўздрыгнуў ад нечаканага доўгага і пранізлівага званка ў дзверы. Цётка адчыніла. Зайшоў мужчына ў цёмна-шэрым гарнітуры. Менавіта ў такім самым сядзеў перад завешаным шчыльнай шторай акном гаспадар незвычайнай мінскай кватэры. Позірк у госця быў добры-добры, як у экраннага дзядулі.

Я не спалохаўся. Ані! Нават не ўстаў з крэсла. Адно кіслароду чамусьці раптам стала сапраўды неставаць.

Пад падушкаю ляжаў «Іван Дзянісавіч».

# ТРЭЦЯЯ СПРОБА

— Яшчэ раз паўтараю, — павысіў голас нампаліт, — хто прыбяжыць першы, атрымае прыз — дзесяць дзён водпуску. Дні праезду дадому і назад не лічацца. Вы, думаю, за гэтыя паўгода пераканаліся: я вас ні разу не падмануў. І ты, Рашыд, калі будзеш першы, трапіш у сваю сонечную Туркменію. І ты, Віктар (з такім імем грэх не выйграць!), калі пастараешся, абдымеш бацькоў у родным Краснаярску. І ў Алега ёсць магчымасць узрадаваць маму і ўвесь Акадэмгарадок пад Новасібірскам. І ў Леаніда з'явіцца шанец апынуцца ў сваім далёкім бульбашным Мінску.

Леанід — гэта я, калі не карэнны, дык закаранелы беларус, што трапіў служыць у алтайскія стэпы выпадкова. У тую нешчаслівую суботу трэнер выдаваў замуж дачку і за святочнымі клопатамі забыўся, як было дамоўлена, забраць мяне з аблваенкамата. Нейкі час я выкручваўся: маўляў, спартовец, барэц, чакаю прадстаўніка СКА ЧБВА[1] і гэтак далей. Але на другі дзень правяральнік з трыма вялікімі зоркамі на пагонах, натрапіўшы на непарадак, абурыўся:

— Што за блатны адлежваецца? Выключэнне? Чэмпіён? У Сібір яго, няхай там пачэмпіёніць!

І паслаў мяне высокі начальнік (няхай Бог аддзячыць таму палкоўніку сібірскім здароўем, каб

[1] Спартыўны клуб арміі Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акругі.



ён яшчэ сто гадоў жыў і дзвесце поўзаў) у тыя мясціны, дзе самалёты як НЛА сустракаюць.

— Дык вось, удакладняю: прыз толькі адзін, — працягваў нампаліт. — Другое і трэцяе месцы не разыгрываюцца. Нагадаю яшчэ, што выйгрыш пераможцы — унікальны. Для нашай роты, як вы ведаеце, паняцце водпуску не існуе. У такую ўжо часць вы трапілі, невыязную, сакрэтную, — пашанцавала, адным словам. Цяпер пра маршрут. Хто хоча, можа бегчы па дарозе — гэта недзе каля чатырнаццаці кіламетраў. Аматарам больш кароткіх дыстанцыяў раю рызыкнуць і рвануць праз поле — ці не напалову бліжэй будзе. Але гэта вам выбіраць.

На маё здзіўленне, спаборнічаць за падарожжа дадому падахвоціліся ўсе. Нават бурат з рускім імем Вася, наркаман з жоўтымі міргатлівымі вачыма, і ягоны сябрук Пеця Заборкін (пра такіх кажуць: піць, курыць, хадзіць і гаварыць пачаў адначасова) прыладкаваліся недзе ззаду.

Я вырашыў бегчы па дарозе. Снегу амаль няма, у боты не наб'ецца. Кірзачы, праўда, цяжкаватыя, затое замік анучаў, якія шторазз збіваюцца пад пяты, ногі грэлі прысланыя з дому цёплыя шарсцяныя шкарпэткі. Што да вагі ботаў, дык яна ў абодвух выпадках велічыня нязменная. Поле ж, у дадатак, хавае яшчэ і загадку: а што там, пад снегам?

Адным словам, дарога!

Падумаў пра канкурэнтаў. Найбольш небяспечным быў Алег з новасібірскага Акадэмгарадка — чэмпіён вобласці ў бегу на чатырыста і восемсот метраў. Ён таксама апынуўся тут выпадкова (а можа, гэта была тая самая выпадковасць, у якой праяўляецца заканамернасць?). Далей ішоў футбаліст Віктар Пераверзеў,

а за ім — прадстаўнік «таварыства сяброў Японіі», жэўжык з цяжкім для вымаўлення імем, якое я вечна забываўся (дарэчы, не ўспомніў і цяпер), блатнаваты, заўсёды заклапочаны сваім здароўем баксёр з Уладзівастока. Астатнія сто салдацікаў, здаецца, застануцца статыстамі. Але — не будзем гадаць, пабачым.

— Раз-два, раз-два, — адлічваў я крокі, выраўноўваючы дыханне. — Ма-ма? Так-так-так! До-ма? Так-так-так!

Беглася лёгка. Адразу ўдалося вырвацца наперад. Імчаў, а ў галаве стукала: раптам сілы на такі тэмп да канца дыстанцыі не хопіць? Астатнія не так шпарка пачалі, а сярод іх жа — чэмпіён Новасібірска.

«Што будзе, тое й будзе! — адчайна адмахнуўся ад трывожных думак, не запавольваючы бегу. — Ма-ма! Так-так-так! До-ма? Так-так-так!»

Футбаліст Віктар, трапны бамбардзір, высланы трэнерам у стэп на перавыхаванне за ўпартасць характару, першы, відаць, вырашыў, што поле яму больш роднае, чым заледзянелы асфальт. Трэба абавязкова перамагчы, каб апынуцца дома. Ён адзін ва ўсім Алтаі б'е і з левай, і з правай, як з гарматы, а трэнераў, накляпаных у інстытутах фізкультуры, на кожным кіламетры па двое. Толькі б вырвацца, дапяць хоць да нейкай занядбанай каманды — там пакажа свае «мюлераўскія» ногі.

Ногі не вельмі грузлі ў снезе, і Віктар спадзяваўся, што так будзе і далей. Вось толькі чабан Рашыд сеў на хвост. Хоць, можа, яно і лепей: з чабаном у стэпе пэўна ўжо не заблудзіш.

Алег узначаліў і вёў групу пагоні за беларусам. Не хваляваўся: «Гэта не васьмісотка, — казаў сам сабе, — але і нахабнік наперадзе — не чэмпіён у марафоне. Адседзімся, а там, перад казармамі, ірванём! Спрынтэр я не апошні. У водпуск паеду не дадому, а ў Ялту, на адбор у зборную Саюза. Яшчэ паспею. Здохну, а ў тройку патраплю! Годзе! Жарты скончыліся».



Безыменны баксёр бег па дарозе, але неўзабаве спалохаўся слізкага асфальту. Успомніў, як раз паслізнуўся на рынгу і, падаючы, атрымаў важкі хук справа. Такі важкі, што пасля ліку «дзесяць!» яшчэ доўга лавіў зоркі на столі. Праз тыя зоркі цяпер і бяжыць.

І ён сігануў у поле, на што да яго наважыліся толькі двое: футбаліст і прыліплы да яго, як цень, Рашыд.

«Азіят, вядома, ад холаду спячэцца, — палічыў безыменны, — а футбаліст — ён жа не баксёр. Як там, на фінішы, будзе — ніхто не ведае».

Усе марылі пра перамогу, а нампаліта (ён ехаў на «Урале» за асноўнай групай) турбавала іншае: «Як выбіць у дывізіі абяцаныя пераможцу дзесяць дзён? Усё залежыць ад генерала-цесця, але той апошнім часам быў знерваваны і непрадказальны: затрымліваўся ягоны перавод у Заходнюю групу войскаў. Трэба нешта прыдумаць. Зрэшты, мароз нават у машыне дастае, і ўсё выдае на тое, што наўрад ці хто наогул дабяжыць да казармы. Вось і першыя здыхлякі галасуюць — у машыну прасяцца. Можа, цесць не спатрэбіцца і прыдумваць нічога не давядзецца?»

Я зразумеў, што найцяжэйшае — кожны чарговы глыток пякельна ледзянога паветра. Зразумеў гэта і арганізм, пайшоў мне насустрач. Горла, нібы залітае навакаінам, знямела і не перашкаджала дыхаць. Група пераследу трымалася ўчэпіста, але

дагнаць пакуль што не спрабавала. «Можа, вытрываю такі тэмп да канца?» — спытаў-абнадзеіў сябе, робячы новы глыток.

«А беларус мацнейшы, чым здаваўся, — разважаў Алег. — Сноўдаўся па казарме, маркоціўся, усё пра нешта думаў, а тут прэ як паравоз. Нібыта падмянілі хлопца. Праблема з ім будзе. Але — не бяды! Галоўнае — захаваць сілы да фінішу. А пасля перамогі — у Крым!»

Баксёр бег за футбалістам. Адчуўшы, што той здае, дагнаў яго і, абыходзячы, крыкнуў: «Я!» Футбаліст зразумеў: «японец», які пакуль штоягоны хаўруснік, дае яму мажлівасць перадыхнуць ад лідэрства, і кіўнуў галавою: «Давай!»

«Снег — не ледзяная дарога, тут меней шанцаў паслізнуцца», — падбадзёрваў сябе баксёр. Ён не заўважаў, што з кожным кіламетрам ногі груслі ў снезе ўсё глыбей.

Мне здавалася, лячу куляй, але, разважыўшы, што пройдзена толькі траціна дыстанцыі, а часу мінула болей за паўгадзіны, зразумеў — паўзу чарапахай. Аднак усвядоміў і іншае: у такі галалёд ды пры мінус сарака гэта гранічная для мяне хуткасць.

Раптам пацямнела. Тройца, што бегла полем, знікла. Як праваліліся. У апошнія хвіліны яны відавочна збавілі тэмп. Ралля пачалася — ці прыняла іх, як тут кажуць, чужая зямелька? Не! Пакуль што — не. Але — прыме. (Так потым і здарылася: забрала за два гады кожнага пятага з нас!)

А я ўсё бег. Бег, каб выжыць. Дагнаць лёс...

Паказалася казарма. З боку поля ніхто не паяўляўся, мае пераследнікі безнадзейна адсталі.

Камандзір роты стаяў каля ўваходу і ўсміхаўся. «Глыкнуў», — здагадаўся я, падбягаючы. Цвярозы, ён безупынна роў, вучыў нас розуму: легчы-ўстаць, легчы-ўстаць, легчы-ўстаць!



— Ну што, спа-рт-смен, — сказаў праз ікоту, — перамог? Думаеш, так усё проста? Не, салдат. Сюрпрыз! Перамога не залічваецца. Глядзі! — Капітан вывеў з-за спіны руку і махнуў акуратна складзенымі анучамі. — Пад матрацам днявальны знайшоў! Малайчына днявальны. Зямляк твой, бульбаш, а — сумленны. Няйначай, у мамчыных шкарпэтках бег? Так? Не лепшае рашэнне прыняў, салдат, не лепшае. Парушэнне формы. І, значыць, парушэнне статута. А што належыць парушальніку статута? Толькі адно — гаўптвахта.

Так скончылася мая трэцяя за першыя паўгода службы-няволі спроба вырвацца з алтайскіх стэпаў на Радзіму.

Вырвацца ўдасца з дзявятай. Праз два гады і трыццаць чатыры дні.

Вырвацца — удасца, а вось дагнаць лёс...

# МЫ ЧАКАЛІ

Асцярожна, як бы баючыся з кім сутыкнуцца, Дзед прачыняў абшарпаныя, змучаныя доўгім жыццём і, пэўна, праз тое незадаволена рыпучыя дзверы раённага шахматнага клуба. Спачатку зазіраў, блізарука мружыў вочы, углядаўся — ці ёсць хто ў холе? Калі хто быў — вітаўся і прасіў прабачэння за турботы. Пасля рабіў асцярожны крок назад, і толькі тады ў дзвярах паказвалася маленькая паненка-прыгажунька — казачная Красачка-Ясачка — ягоная ўнучка Дзіначка. Дзед быў невысокі, але не згорблены, нават падцягнуты, у акуратным, хоць і караткаватым, нібы ватоўка, палітончыку — такія даўно выйшлі з моды. У лютаўскі пранізлівы холад на ім былі лёгкія дэмісезонныя чаравікі, якія ён ціха і старанна аббіваў тут жа, ля дзвярэй. З усмешкаю казаў:

— Вы толькі гляньце, як намяло! Быццам даўней.

Побач з Дзедам патупвала, усміхалася і глядзела на яго з непрыхаванай любасцю Дзіначка. Стары дапамагаў унучцы зняць купленую «навырост» куртачку, папраўляў у яе на шыі хусцінку (што прыхоўвала замыты да шэрасці каўнерык сукенкі) і пераабуваў сваю паненку — мяняў боцікі на самаробныя, звязаныя з тоўстых шарсцяных нітак тэпцікі. Не разгінаючыся, лёгенька ляпаў даланёю па плечуках, нібыта казаў: усё добра, маленькая, я — тут. Пасля сціскаў худыя, перавітыя венамі



пальцы правай рукі ў кулак — не моцна, а сімвалічна: «Но пасаран!» У адказ Дзіна ўздымала свой кулачок, дакраналася ім да Дзедавага, пазмоўніцку, амаль нячутна, шаптала: «Мы — разам, і мы — пераможам!»

Пасля гэтага заўсёднага абраду малая кіравалася — міма партрэтаў чэмпіёнаў свету — на другі паверх у вялікую светлую залу. Там уздоўж сцен стаялі досыць старыя сталы з шахматнымі гадзіннікамі і мноствам розных па форме і часе стварэння крэслаў. (Адно з крэслаў нейкім цудам захавалася з царскай пары.)

Ужо з паўгода ў клубе была завядзёнка, што Дзіна (яна прыходзіла з Дзедам зазвычай за колькі хвілін да пачатку заняткаў) сядала за бліжэйшы ад уваходу стол, на тое самае дарэвалюцыйнае, з высокаю разьбянаю спінкаю дубовае крэсла і чакала саперніка. Яе месца ніхто ніколі не займаў, а партнёраў галоўны трэнер (які ўзяў над дзяўчынкай персанальнае шэфства) падсаджваў да яе кожны раз новых і паводле толькі яму зразумелай чаргі.

Калі галоўны адпускаў будучую чэмпіёнку, як ён яе ганараваў, дадому, вочы ў дзяўчынкі, незалежна ад таго, выйгравала яна ці прайгравала, загараліся, і, сарваўшыся з крэсла, ледзь паспяваючы сказаць: «Дзякую!» і «Да пабачэння!», малая імчала ўніз — да дзядулі. Імчала, быццам не бачыла яго не гадзіну-другую, а шмат дзён.

Нехта сказаў: «Пакуль у нас ёсць той, каго мы любім, мы жывём».

Мы любілі Дзеда і ягоную Красачку-Ясачку.

Вясною, напярэдадні восьмага сакавіка, мне нарэшце заплацілі за кніжку апавяданняў, што вый-

шла год таму. Грошы былі не вельмі вялікія, ды ўсё ж яны дазвалялі, апрача ўсяго іншага, зрабіць тое, што апошнім часам не давала мне спакою: купіць малой (а яна, як зразумеў, гадавалася без бацькоў) нагледжаную ў «шопе» для багатых, так званым буціку, шыкоўную італьянскую «школьную форму». Ад камплекта было не адвесці вачэй: элегантная цёмна-сіняя велюравая максі-спаднічка, такога самага колеру, але з серабрыстай аблямоўкаю экстравагантны жакет і бялюткі, з наймякчэйшай бавоўны, дзіва-блейзер. Ганарару мусіла хапіць і на запалярныя, як рэкламавалі іх на ўпакоўцы два вясёлыя белыя мядзведзі, боты: не мог глядзець, як Дзед марозіць ногі.

Кожнага разу, калі я заходзіў праверыць, ці не апярэдзіў мяне хто з тых разумнікаў, каму не трэба лічыць грошы, гаспадар магазіна, які звычайна сам назіраў за парадкам у зале, не без іроніі ўсміхаўся, але стараўся рабіць гэта неўпрыкмет: прыкрываў, як бы ад кашлю, рот або адводзіў вочы ўбок. І як жа ён здзівіўся, калі аднойчы я падышоў да касы і папрасіў зняць з вешалкі сіні камплект і запакаваць боты. Іранічны пагляд гаспадара перамяніўся на запытальны, а тонкія вусны расплыліся ў ветлівай усмешцы.

— Кхе-кхе, — падаў ён голас з-за спіны прадаўшчыцы — стракаты апранутай, не ў меру напудранай, чымсьці падобнай на сумны манекен у куце.

Прадаўшчыца перастала ўкладваць пакупкі ў яркія аранжавыя пакеты з надпісам «Версачэ» (тавары з гэтым брэнднэймам буцік і прадаваў), павярнулася.



— Іра, — паказаў бос на паліцу, — не забудзь шаноўнаму пакупніку да раскошнай тройкі дадаць і гэты цудоўны бант.

— Дык ён жа не ўваходзіць у камплект... — паспрабавала запярэчыць-удакладніць прадаўшчыца.

— Зірніце, дарагі таварыш, якое цудоўнае спалучэнне! — спыніў, нібыта не чуў яе, гаспадар, ужо звяртаючыся да мяне.

«Вось табе й маеш! — здзівіўся я. — Нават *new russian* на прэзент раскашэліўся, калі ўбачыў, што я выграб з гаманца ўсё чыста, да апошняй капейкі. І слова “таварыш” не забыўся. Відаць, саколік яшчэ той, брэжнеўскай закваскі».

Рэчы былі купленыя, заставалася набрацца адвагі іх аддаць. Дзіна і Дзед — людзі не багатыя, але не без гонару. Наўрад ці прымуць падарункі ад чужога, па сутнасці, чалавека. Давялося пафантазіраваць, прыдумаць прычыну. «Бадай што, скажу так, — урэшце надумаў я. — Рэчы прыслалі сваякі з Амерыкі. Адзенне там капейкі каштуе, так што буржуі не надта сябе абакралі. А вось з памерамі, шкада, сваячкі наблыталі — розныя ў нашых краінах адзінкі вымярэння: у іх там нейкія дзюймы, у нас — родныя сантыметры. Вось і не падышлі абноўкі ні мне, ні пляменніцы. Я вас вельмі прашу, прыміце ад чыстага сэрца! Адмовіцеся — паставіце ў няёмкае становішча. Звязвацца з камісіёнкаю не хацелася б. Я ж, здаецца, сякі-такі вахцёр-пісьменнік, а не мяшэчнік. Можна было б, вядома, аддаць усё гэта і першаму стрэчнаму-папярэчнаму, але чаму я не магу зрабіць прыемнае тым, каму хацеў бы?»

У апошні перадсвяточны дзень, у апошнюю перадсвяточную трэніроўку, завучыўшы гэты тэкст, я наважыўся здзейсніць задуманае.

Усе ўжо сядзелі за сталамі, і вось-вось мусілі пачацца сеансы. Мусілі, але — не пачыналіся. Ніхто не зрабіў і першага ходу: не было малой! Так ужо павялося, што баталіі заўсёды дабраслаўляліся словамі галоўнага трэнера: «Чэмпіёнка гатовая? Што ж, тады — у бой!» Але гэтыя стартавыя словы ўсё не гучалі, і сапернікі чакалі. Чакаў і трэнер. Той жа, каму сёння трэба было гуляць з Дзінаю, — таўстун Паша, празываны Паштэт (ён увесь час нешта жаваў), не адважваўся і за стол сесці, ад хвалявання ён нават жаваць перастаў. Выйшаў і я са свайго пісьменніцкага кабінета — вахцёрскага куточка: карцела ўручыць эксклюзівы ад славутага італьянскага модніка. Усе сціхлі, нібыта згаварыліся, — чакалі: Дзед і Красачка-Ясачка прыйдуць, інакш і быць не можа.

— Хвілінку! — спахапіўся я першы. — Як жа адразу не здагадаўся! Відаць, дзверы заклініла! Ужо дні два, як замок без дай прычыны заядае. Збегаю праверу.

Пераскокваючы цераз прыступку, кінуўся да дзвярэй. Пацягнуў алюмініевую ручку-шар да сябе. Дзверы расчыніліся, але малой з Дзедам за імі не было. Снег, неба, месяц, зоркі былі на месцы, а Дзеда з Дзінай не было. Здалося, што няма і мяне, няма і гэтых рыпучых дзвярэй, няма нашага сто гадоў нерамантаванага клуба, няма нашай планеты, няма нічога! Толькі месяц ды зоркі.

Але ўсё было.

У тое імгненне, калі я гукнуў «Хвілінку!», у бацькі Красачкі-Ясачкі (дзядуля ў старамодным палітончыку, як выявілася, быў яе бацькам!) заціхла сэрца. Надарванае за восем гадоў лагера (за ўвоз у краіну і пашырэнне антысавецкіх вы-



данняў ён атрымаў па поўнай праграме — сталінскую «дзясятку», але прыйшлі «новыя часы», і яго амнісціравалі), яно не вытрывала аўтобуснай душагубкі, выпаленага недасканалым абагрэвам бескіслароднага паветра. Малая ціхенька пакратала татку за вуха, за шчаку: будзіла. Яна была не па гадах дарослая і хутка ўсё зразумела. Успомніла: «Ты ў мяне самая смелая!» Успомніла і не спалохалася, не закрычала. Прыхінулася да татавага пляча і ўзяла яго за руку. Безгалоса заплакала. Ужо ніколі гэтая родная ў сініх венах рука не пагладзіць яе: «Усё добра, мая маленькая, я — тут».

Гэтак яны і ехалі 7 сакавіка 1994 года.

А мы іх чакалі.

# САНЬКА

## 1. Валюша

«Які ў мяне сынок малайчына», — уздыхнула Валюша, гледзячы на Саньку. У гэтым халодным сутарэнні з невыносна агідным пахам праораслай бульбы яны пражылі ўсю восень. Асабліва цяжка даўся апошні месяц. Лістапад ніколі не бывае ў іх краях цёплым, але такога, каб з дня ў дзень халадэча, вецер і ні сняжынкі з неба, — яна не памятала. І чым угнявіла Бога? За што няшчасці адно за адным валяцца на яе галаву? Гэтае гнілое сутарэнне загоніць яе ў магілу. Ды каб жа яе! Сябе не шкада. Вось Санька! За што яму такія пакуты? Сынок, праўда, малайчына, маўчыць, не скардзіцца. Толькі калі яго худзенькае цельца пачынаюць калаціць дрыжыкі, абдымае яе і шэпча: «Мамка, мамка, а ці хутка лета?»

У Валюшы самі сабою пасыпаліся слёзы, нешта няўлоўнае сціснула грудзі. Яна ледзь не заплакала ад крыўды і болю, але стрымалася, хуценька прыкрыла сабе далоняй рот: Санька толькі што заснуў і мог прахапіцца. Сон у яго быў трывожны. Як ні старалася Валюша прытуляць яго да сябе, саграваць сваім целам, гэта не надта памагала: пад раніцу і сама пакрывалася курынаю скураю, а нос і шчокі рабіліся ледзянымі.

Яшчэ задоўга да світання Валюша асцярожна, вобмацкам падымалася па сцёртых, слізкіх ад пле-



сені прыступках наверх і трапляла ў маленечкую куханьку. Не ўключаючы святла, каб не пабудзіць буркліўую гаспадыню, распальвала керагаз і ціхутка ставіла на яго кубак з вадою: гатавала сабе і сыну гарбату. Дзякаваць Богу, выходныя перажылі, цяпер Санька зноў цэлых пяць дзянькоў будзе ў цяпле ў дзіцячым садку.

У садок яны прыязджалі як мага раней — за гадзіну, а то і больш да таго, як першыя бацькі прыводзілі сваіх дзяцей: хацелася хутчэй патрапіць у цяпло. Балазе, ведала Валюша — старому вартаўніку (яму цудам удалося выжыць у галодныя пасляваенныя ў Паўночна-Уральскім канцлагеры) не спалася, і ён чуў іх здаля. Валюша і ў дзверы не паспее пастукаць, а яны, нібы чароўныя, адчыняліся самі, і Вікенцій Львовіч з усмешкай вітаў іх з парога:

— Ну што, раннія пташачкі, змерзлі, пакуль дабіраліся? Хутчэй уваходзьце! Хутчэй!

Яны не ўваходзілі — уляталі. І адразу кіраваліся ў прасторны пакой загадчыцы, уладкоўваліся на невялічкай канапцы, прысунутай ледзь не ўпрытык да батарэі.

Ах, якая цеплыня!

Вікенцій Львовіч адразу ж частаваў іх хатнімі піражкамі з сочывам ці капустай, спечанымі яго гаспадынькай — так ён называў сваю жонку, былую зняволеную таго ж Паўночна-Уральскага (да васьмі гадоў канцлагера асудзілі шаснаццацігадовую дачку «ворага народа» — арганіста Мінскага катэдральнага касцёла). Са старэнькага тэрмаса наліваў у шырокія чайныя кубачкі каву, побач ставіў конаўку з малаком.

Пэўна, якраз хвіліны, праведзеныя разам з Вікенціем Львовічам, і дапамагалі Валюшы пратрымацца выходныя, а папраўдзе — суботу і нядзелю, бо называць выходнымі гэтыя чорныя, халодныя, з пранізлівым пахам гнілой бульбы дні ёй аніяк не выпадала. Можна было б, вядома, пайсці ў кіно ці ў цырк, але для гэтага трэба мець грошы, а іх увесь час нестае. Ні разу Валюша не змагла пратрымацца ад зарплаты да авансу, каб не пазычыць. Не выходзіць у яе з эканоміяй: возьме дый купіць сыну апельсін, шакаладку ці яго любімую бела-ружовую пасцілу. Спахопіцца, а трох, а то і чатырох рублёў — яе аплаты за дзень — як і не было! Так і не навучылася Валюша гарадскому жыццю, раскладванню сямейнага бюджэту на частачкі. Дый які там бюджэт, якая сям'я? Яна і Санька. Быў у іх, як і ў людзей, бацька і муж, ды бяда забрала.

Гэта здарылася пяць гадоў таму. Чужыя — менавіта чужымі Валюша потым іх увесь час і называла — заявіліся да іх у адну з лютаўскіх начэй. Заявіліся, нібы чакалі таго моманту, калі Уладзімір прывязе яе з Санькам з радзільні. Прыйшлі і забралі мужа — яны нават не паспелі Саньку спаць пакласці.

Чужыя нічога не тлумачылі, не патрабавалі, нават не павышалі голасу. Моўчкі абшукалі два іхнія, яшчэ не абжытыя пакоі, нядаўна прыбудаваныя да бацькоўскага дома, — з ложкам, невялікім буфетам, абедзенным сталом і некалькімі табурэткамі — і, звяртаючыся да Уладзіміра, сказалі толькі адно слова: «Збірайцеся».

Сказалі і выйшлі. Культурнымі выстаўлялі сябе, далі час на зборы. Маўчаў, як знямелы, і Уладзімір.



Нейкая супольная таямніца злучала яго і чужых — так падумала тады Валюша. Потым мужавы бацькі патлумачылі: сын не хацеў, каб яна ведала, што арыштаваны ён як палітычны, а значыць, як здраднік радзімы.

«Няўжо трыццатыя гады вярнуліся?» — жахнулася Валюша. Бабка расказвала, як тады, гэтак жа ўночы, энкавэдысты арыштоўвалі дзеда. І больш яны яго не бачылі.

Валюша мужа пабачыла. Даволі хутка. Апошні раз...

Ужо каторы дзень прастойвала яна ля турэмных варот — ажно да цемнаты. Прастойвала дарма: спаткання ёй так і не давалі. Не чуючы спруцянелых ног і заходзячыся ад думкі: як там Санька? — зноў ні з чым вярталася дадому.

Яшчэ здалёк убачыла нейкага мужчыну — ён ляжаў ля іхніх весніц. Раптам ён прыўзняў галаву і пачаў цопаць, бы сляпы, па весніцах рукамі, няйнакш спрабуючы іх адчыніць. Валюша не спалохалася: чалавек хутчэй быў хворы, а не п'яны. Падбегла, нахілілася памагчы яму і — ледзь не асунулася долу: гэта быў Уладзімір!

Ён не змог патлумачыць, што з ім здарылася, — быў не пры памяці. У непрытомным стане яго і ў бальніцу забралі. Потым перавезлі ў другую. Праз колькі часу — у трэцюю, у іншы горад. Там ягоны след і прапаў. Сказалі, што хворы пайшоў на папраўку і яго выпісалі: у сям'і, маўляў, хутчэй акрыяе. Але дадому Уладзімір не прыйшоў... Валюша кідалася куды толькі магла, ездзіла, пісала, шукала мужа, дамагалася справядлівасці: хто збіў яго да страты прытомнасці, за што, чаму яго выпісалі не папярэдзіўшы? Прабілася

ў прыёмную вялікага начальніка з органаў, але той з усмешкаю адмахнуўся: «Ды што вы сабе думаеце? На што намякаеце? З чаго пачалося? З арышту? Э-э, тут, ведаеце, не гестапа, шаноўная. Вашага мужа і пальцам ніхто не крануў. Правялі толькі прафілактычную гутарку. А што вы думалі? Ведаеце, кім быў ягоны бацька?» Валюша ведала — але не апускала рук, шукала, спадзявалася...

Неяк, на трэці год пасля знікнення Уладзіміра, яе выклікалі ў партком камбіната. Яна пайшла на камбінат, калі Саньку толькі-толькі споўнілася два гадкі. А што было рабіць? Неўзабаве пасля прапажы мужа памерла свякроў, і яе далёкія сваякі, што атрымалі дом у спадчыну, прадалі яго. Валюша з сынам апынуліся на вуліцы. Тады яна і пайшла вучаніцай на камбінат. І яшчэ радая была, бо Саньку ўзялі ў камбінатаўскі дзіцячы садок. Праз месяц-другі самастойна стала за станок, старалася, не шкадавала сіл. Неўзабаве яе прыкмецілі, прызначылі брыгадзірам, паставілі старшай над такімі ж, як сама, нядаўнімі вучаніцамі, абяцалі даць пакой у інтэрнаце, накіраваць вучыцца ў тэхнікум. Таму й не спалохалася выкліку ў партком. І толькі ўжо ля самых дзвярэй чамусьці ўкалола яе ў сэрца — не на добрае гэта!

У вялікім светлым кабінеце строга папярэдзілі: не трэба турбаваць, тузаць без дай прычыны адказных савецкіх і партыйных таварышаў. І нечакана дадалі: «Вы што, па вёсцы засумавалі?» Яна не так зразумела, як адчула, што гэта не намёк, а пагроза, і — спалохалася. У вёску, дзе не было нават электрычнасці? Божа барані! У іх Забалоцці не толькі святла ці газу — добрай дарогі няма. Праўда, і савецкая ўлада туды не надта дайшла. Ацалелі неяк хутары. Прытаіліся: у 30-я, у 40-я было не да іх, а ў 50—60-я — таксама. Так і прастаялі — без дарогі, без святла. Усё жыццё — без святла. Вакол — балота, балота, балота. Вяртацца туды Валюша не хацела. У горадзе, нават у гэтым халодным і сырым сутарэнні, была хоць надзея. Маленькая, як акенца ў іхнім пакойчыку, але была.



Вікенцій Львовіч дапамог Валюшы скінуць палітэчка. Раней яна старалася рабіць гэта сама: саромелася выстаўляць на чужыя вочы працёртую сям-там падшыўку. Але потым перастала. Вікенцій Львовіч далікатна ніколі ні аб чым іх не распытваў, расказваў-весяліў іх больш сам. Валюша здзіўлялася, як пасля столькіх гадоў зняволення можна заставацца такім дабрадушным, усмешлівым, у шмат чым нават наіўным, верыць у лепшае заўтра. Побач з ім і яна, Валюша, адчувала сябе больш пэўна, дзякуючы яму не здалася, не зламалася.

— Мой маленькі чалавечак, — як заўсёды з пяшчотнай жартаўлівасцю падступіўся да Санькі Вікенцій Львовіч. — А ці ведаеш ты, чым адрозніваецца добры прадстаўнік чалавечага роду ад злога?

— Ведаю! — тут жа адказаў Санька. — Добры — гэта вы, дзядзька Вікенцій. Добры — той, ля каго цёпла. Мама таксама добрая. А злая — наша гаспадыня. Не дазваляе раніцаю ўключаць святло. Таму мама і пазбівала ў цемры ногі аб прыступкі.

— Піце каву, пакуль не астыла! — паспрабаваў Вікенцій Львовіч адвесці Саньку ад сумных думак. — І пернікі бярыце...

* * *

Цёплыя дзетсадаўскія дні праляцелі для Санькі імгненна.

Познім суботнім вечарам ён ляжаў у сутарэнні на ватніку, што служыў яму матрацам, і глядзеў на маленькую, але вельмі яркую зорачку. Глядзеў і здзіўляўся: ад яе веяла цеплынёю. Праз іх урослае ў зямлю акенца, шыбкі якога за дзесяцігоддзі былі нібы зашмараваныя наждачнаю паперай, не можа пранікнуць не толькі халоднае зіхценне далёкай зоркі, але і зыркі прамень спякотнага сонца. Чаму ж яму цёпла? Санька ўсміхаўся — у сне. Ён любіў, калі неўпрыкмет наплываў сон. Толькі тады і быў шчаслівы. А яшчэ — калі яго цалавала мама і калі на парозе дзіцячага садка іх сустракаў сівы да апошняга валаска дзядзька Вікенцій.

Гэтаю ноччу выпаў снег і неяк адразу аціх вецер, а разам з ім адвалілася і сцюжа. Пацяплела. Яны праспалі з мамай да такое позняе пары. Упершыню яны смяяліся раніцай. Снег на дварэ! Санька быў шчаслівы. З абуджэннем прыйшлі не агідныя дрыжыкі, не люты холад, які цягам ночы быццам мацнеў, каб уранку зусім замарозіць цябе, а цяпло заснежанай раніцы, нечаканае і радаснае.

«Вось каб так заўсёды!» — усміхнуўся Санька, дакрануўшыся да маміных цёплых рук.

«Не раскрывайся, маленькі мой», — упершыню без ценю трывогі ўсміхнулася мама і схавала сынавы ручкі пад коўдру.

Праз дзесяцігоддзі сатрэцца з Санькавай памяці і тое сутарэнне, і яго злая гаспадыня, і яшчэ шмат чаго непрыемнага, чаго пазбываецца чалавечая памяць, абараняючы яшчэ слабы юны арганізм ад усяго нялюдскага, непатрэбнага, што можа прынесці яму шкоду. Не забудзе Санька толькі маміны вочы. Будзе помніць іх і пасля таго, як яны закрыюцца назаўсёды.



«Не раскрывайся, маленькі мой», — папярэджвалі яны ў цяжкія хвіліны жыцця.

## 2. Санька

Вось дык скараціў дарогу — пайшоў напрасткі, цераз парк, не захацеў аўтобуса пачакаць. Вось дык скараціў... Праўда, «дваццаць чацвёрты» даваў кругаля, так што быццам і правільна зрабіў, ды лепей было б яго дачакацца... І навуцёкі пусціўся рана! Да выхаду з парку яшчэ сотня — не меней! — метраў, і мужчына з прылізанымі, бы мокрымі валасамі, які прычапіўся да яго, можа дагнаць. І што дзядзьку трэба? З'явіўся, быццам фокуснік. Не было нікога на дарожцы — і на табе, ёсць. Нібы з-пад зямлі вырас. Заўсміхаўся, адразу пахваліў:

— Які харошы хлопчык, які харошы хлопчык! Мо яшчэ і выдатнік? Угадаў? Паважаю выдатнікаў. Асабліва паглядных.

«Чаму толькі выдатнікаў? — устрывожыўся Санька. — І чаму паглядных асабліва?»

Прылізаны мужчына, апрануты ў нятанны карычневы касцюм, светла-бэжавую сарочку з шырокім модным гальштукам, выглядаў прыстойна і сяточна, але нешта Саньку ў ім насцярожвала. Што? Пах! Мужчына нібы ўвесь, з галавы да ног, быў абліты адэкалонам. І яшчэ — позірк: вочы неспакойна бегаюць, нібы ловяць каго ці шукаюць.

— Хлопчык! — па-бацькоўску паклаў руку на Санькава плячо незнаёмец. Азірнуўшыся па баках і пераканаўшыся, што яны на дарожцы адны, дадаў: — Як ведаў, што цябе сустрэну. Глядзі, што ў мяне ёсць! Шакаладка! З арэхамі, порыстая, не нашая. Акурат табе. Бяры-бяры, не саромейся. Каштаваў такую? Смачная — язык праглынеш! — Рука незнаёмца, слізгануўшы па Санькавым плечуку, апынулася на шыі. — Бяры, пакаштуй...

І вось тады, спалоханы прадчуваннем нечага страшнага, Санька, не прамовіўшы ні слова, кінуўся наўцёкі. І правільна зрабіў. Гэта быў адзіны шанец вырвацца з рук гвалтаўніка і забойцы хлопчыкаў. Яго ўжо даўно шукалі ў горадзе. Санькава мама чытала ў газеце, што злачынец па спецыяльнасці, хутчэй за ўсё, педагог (так думалі ў міліцыі) і валодае здольнасцямі гіпнатызаваць дзіця, ласкавымі словамі заспакойваць яго пільнасць. І калі хлопчык даверліва ішоў на кантакт з незнаёмым, але добрым дзядзькам, злачынец наносіў удар — нечаканы, рэзкі і, як правіла, ззаду. Аднёсшы ахвяру ў кусты, учыняў свой гнюсны здзек-гвалт. Аднаго ў міліцыі не маглі зразумець: навошта злачынец забіраў у сваіх маленькіх ахвяр трусікі? Гэта ж рэчавы доказ супраць яго самога! Адказ быў неверагодна просты: памятка аб чарговай ахвяры! Кожны свой выхад маньяк старанна прадумваў, аналізаваў паводзіны ранейшых ахвяр. І яшчэ ні разу не пакінуў слядоў.

Не думаў ён пакінуць іх і цяпер, як і Саньку — жыццё.

Да агароджы, што акружала парк культуры і адпачынку імя Чалюскінцаў, заставалася зусім трохі, калі ўчэпістая рука незнаёмца дацягнулася да



хлопчыка і схапіла яго за каўнер. Санька тузануўся з апошніх сілаў і адчуў, што вырваўся, а той, што даганяў яго, грымнуўся на зямлю, закашляўся — няйнакш ад пылу — і брудна мацюкнуўся.

Усё ж дарма людзі празвалі яго настаўнікам.

Страх звычайна скоўвае цела. Саньку ж, наадварот, дадаў сілы. Ён сігануў проста на высокі дашчаны плот і ўхапіўся за востра абчасаныя штыкеціны. Пякучы боль працяў далонь — пэўна, у яе ўпіўся незагнуты цвік. Перамагаючы боль, Санька ўсё ж змог падцягнуцца на руках і перакінуць правую нагу на другі бок плота.

Але і незнаёмец не марудзіў. Спрытна падхапіўся з зямлі і паспрабаваў зноў дагнаць вёрткага хлапчука, які ўжо быў на плоце і вось-вось мог скокнуць уніз.

На ўсё жыццё слова *секунда* будзе значыць для Санькі нешта іншае, чым для большасці людзей на зямлі. Секунда для яго стане не імгненнем, а нечым вельмі значным, вартым жыцця. Злачынец дапяў да плота якраз праз секунду пасля таго, як і другая Санькава нага апынулася на тым баку. Плот загайдаўся, і хлопчык ледзь не кульнуўся назад. Выратавала сіла цяжару, бо Санька быў ужо на тым баку і агароджа, гайдануўшыся, скінула яго ў невялікі роў, выкапаны ўздоўж яе, каб не так проста было трапіць у парк.

Санька ўпаў няўдала: звіхнуў левую нагу, а з правай зваліўся новы кітайскі кед. Хлопчык даўно марыў пра такі абутак (лёгкі, носкі, зручны), і ўрэшце маме неяк удалося, прастаяўшы паўдня ў чарзе, купіць жаданую абноўку. Санька хацеў быў падняць кед, але падалося, што плот не проста гайдаецца, а — падае на яго. Абапёршыся на

зямлю каленам вывіхнутай нагі і адштурхнуўшыся здароваю, ён выкаціўся з канавы і ўсхапіўся з зямлі. Падскокваючы і чыкільгаючы, рушыў да аўтобуснага прыпынку. Трэба было б паклікаць на дапамогу — там стаялі людзі, яны пачулі б, але вусны яго нібы склеіліся, анямелі, і Санька, хныкаючы і шморгаючы носам, набліжаўся да прыпынку моўчкі.

Санькаў тварык, збялелы ад болю і страху, раптам пасвятлеў: на прыпынку стаяў знаёмы хлопец з суседняга двара, студэнт універсітэта і, да ўсяго, самбіст. Санька матлянуўся да яго — як да паратунку — і не асцярогся, ступіў на вывіхнутую нагу. Ад рэзкага болю ў вачах пацямнела. Трацячы прытомнасць, хлопчык усё ж паспеў сказаць:

— Памажыце!

Да студэнта-самбіста голас гэты даляцеў. Ён павярнуўся і ўбачыў, як хлопчык, бы падкошаны, упаў на зямлю.

«Спатыкнуўся? Чаму ж не ўстае? — падумаў з трывогай. — Нешта з малым не тое», — і кінуўся да Санькі.

А за плотам бег задыханы злачынец. Лепш сказаць, уцякаў. Гэта была яго першая няўдача. А за першай можа быць і другая, і трэцяя — не выходзіла з галавы. Значыць, рана ці позна яго зловяць! Гэты шчанюк паставіў яму лічыльнік. Не спакусіўся на салодкае, не стаў слухаць пахвальныя словы. Нейкім недзіцячым чуццём адчуў небяспеку і даў дзёру. Яшчэ б адна секунда, усяго адна! Ее якраз і не хапіла. З гэтага моманту час паляціць для яго — у які бок? Хлапчук апіша знешнасць, рост, голас, дасць мянтам зачэпку. А гэтым гіцлям



нічога больш і не трэба — раскручваць клубок яны ўмеюць.

Ён набліжаўся да другога краю парку. Тут алея мінала плот і вяла да прахадной заводу.

— Ф-у-у, — на ўсю сілу выдыхнуў, стараючыся супакоіць дыханне.

Над прахадной стрэлкі гадзінніка пераскочылі з лічбы 16.29 на 16.30. І адразу ж празвінеў званок, абвяшчаючы канец змены. Народ валам паваліў на вуліцу. Гвалтаўнік счакаў, пакуль пярэдняя плынь міне дзве рослыя ўнізе таполі, за якімі ён затаіўся, і, неўпрыкмет далучыўшыся да людзей, згубіўся ў натоўпе. Як заўсёды, паспеў. Адно што раней паспяваў не толькі вярнуцца да канца змены. Паспяваў зрабіць галоўнае. Сёння ж не змог. «Пракляты шчанюк! Няйначай, ён жыве недзе недалёка. Можа выпадкова сустрэць ды пазнаць... Трэба апярэдзіць! Абысці двары, вылавіць яго, пакуль не позна...»

Санька ачуўся на руках у суседа-самбіста.

— Жывы? — пачуў знаёмы вясёлы голас. — Куды ляцеў, як ад шалёнага сабакі ўцякаў? Здаецца, тут такіх не было.

— Цяпер завёўся, — адказаў Санька і, мацней абняўшы свайго ратавальніка, зноў заціх.

Калі сусед унёс Саньку ў кватэру, хлопчык не адразу пачуў прыкры, знаёмы яму пах адэкалону. Не адчуваў яго і сын «настаўніка» — ён да яго прывык.

## 3. Скачок

Санька стаяў і пакутліва думаў. Думкі круціліся ў галаве, набягалі адна на адну, але лягчэй ад гэтага не рабілася. Ясна было адно: «Жорык — лёгкаатлет, увесь год пасля заняткаў на “Дынама” прападаў, яму перад вакацыямі нават сапраўдныя шыпоўкі і касцюм спартыўны выдалі, хваліўся імі на перапынку. Як жа скокнуць далей за Жорыка? Ён і адштурхоўваецца за два-тры сантыметры ад дошчачкі. Практыка — яна і ёсць практыка. Таму і дакладнае пападанне. Як жа махануць далей за Жорыка? Ці здольны я на такое? Наўрад. Але ж і здацца без бою — недаравальна. Думаць трэба, думаць... А калі не проста разбегчыся і адштурхнуцца, а ў скачку яшчэ і сальта крутнуць? Гэта павінна падоўжыць палёт, — разважаў Санька, — і ў выніку — павялічыць даўжыню скачка...»

Ён шмат чаго зведаў у сваім, як яму здавалася, доўгім дванаццацігадовым жыцці. І па гарачым вуголлі босым хадзіў — выпрабоўваў сілу волі. І пад вадою паўтары хвіліны ў ваннай пратрымаўся. І з трэцяга паверха скакаў, як дэсантнік у фільме. І на руках праз школьную спартзалу ад сцяны да сцяны прайшоў — на заклад з настаўнікам фізкультуры. І без тых самых рук на веліку цэлы кіламетр праехаў — вучыўся ўжо іншую раўнавагу трымаць. І яшчэ шмат што рабіў, выпрабоўваючы сябе. Але на сальта замахвацца не наважваўся: а раптам не так прызямліцца і зломіць сабе шыю?

Цяпер таксама баяўся. Але цяпер непадалёку ад скачковай ямы стаяла Лена. Найхарашэйшая ў лагеры дзяўчынка.

На чатыры пяцьдзесят восем — далей за ўсіх — скокнуў Жорык.



— У-ух! — прагучала рэха ўслед.

Лена таксама ахнула і заляскала ў ладкі.

«Толькі — сальта!» — прашаптаў Санька, праганяючы прэч усялякія іншыя думкі. І калі надышла яго чарга, бадзёра выйшаў на старт, моцна, бы ў злосці, тупнуў нагой па зямлі і, колькі ставала сілы, памчаў па дарожцы для разбегу.

І вось яна — яма!

Гоп! — адштурхнуўся і паляцеў. У паветры даў нырца галавою ўніз, пад сябе. Не паспеў сцяміць, ці ўдала ажыццявіў задумку, як урэзаўся плячом у пясок. Нешта хруснула ў целе, але болю не адчуў: па інерцыі перакуліўся цераз сябе і... сеў. От і сальта! І зусім не страшна. А на колькі хоць скокнуў? Павярнуўся паглядзець, але нясцерпны боль — аж уваччу пацямнела — уклаў яго на зямлю. І вакол чамусьці стала ціха-ціха — ані гуку.

Санька ляжаў і глядзеў у неба. Яно было сіняесіняе, як Ленчыны вочы. І раптам на небе ўзнікла рыжая Жорыкава галава. Парушаючы цішыню, яна завохала і заахала:

— За пяць метраў заляцеў! Але так — няможна! Гэта ж не акрабатыка!

Поруч узнікла галава Міхаіла Юльянавіча, лагернага фізрука, былога прызёра алімпіяды па барацьбе, сябра легендарнага Мядзведзя.

— Я ведаў, што гэты шустрык выкіне якісьці сюрпрыз! Такія заўсёды нешта выкідваюць!

Дзесьці далёка, на самым краі неба, мільганулі Ленчыны вочы, поўныя захаплення і... трывогі. «Які адважны!» — зачаравана бліснулі і зніклі.

Санька паспрабаваў устаць, але Міхаіл Юльянавіч яго прытрымаў:

— Не, не, акрабат. І трэба ж такое прыдумаць! Дай пагляджу, што там у цябе... Ціха, ціха, я асцярожна. Тут баліць?

— Ой, — застагнаў Санька.

— Ясна, даскакаўся: ключыцу зламаў. Пацярпі, пацярпі, — Міхаіл Юльянавіч падклаў руку Саньку пад плечы, другую — пад калені. — А цяпер — устаём... Трымайся, чэмпіён, ты ж далей за ўсіх скокнуў.

Дужыя рукі падхапілі Саньку і панеслі ў медпункт. Перад хлопцам зноў адкрылася неба. Але цяпер яно пагойдвалася. То наплывалі, то адплывалі сосны. Зноў паказалася Лена. Санька хацеў усміхнуцца, але не змог. Боль пранізваў цела — здавалася, у зламаную ключыцу загналі цвік. Убачыўшы, што хлопцу зусім дрэнна, Міхаіл Юльянавіч прыспешыў крок...

А Саньку сніўся сон.

Ён стаяў і пакутліва думаў...

— Падымайся, соня, у лагер спознішся, — разбудзіла чэмпіёна мама. — Аўтобус у дзевяць ад'язджае.

## 4. Велік

«Дарожны, вядома, не спартыўны, ды такой бяды, — уздыхнуў Санька, — і за гэта дзякуй Богу! Навюсенькі, чорна-серабрысты, для дарослых, — на ўсё жыццё будзе».

Маме, каб пасля такой пакупкі да канца месяца дацягнуць, давялося ў цёткі Евы пазычаць. Сума ж немаленькая — шэсцьдзесят рублёў! Добра, што ёсць суседзі, якія могуць дапамагчы.

Мама не хацела купляць велік — як прадчувала. І выявілася — як у ваду глядзела. Пакуль з Санькам з'ездзіла ў магазін, пакуль выбралі, заплацілі, прывезлі — ужо й на вечар бралася. На добры лад «каня» трэба было б у кватэру зацягнуць і ўжо зранку пачаць круціць педалі. Ды Санька не вытрымаў. Падняўшы велік ажно на пяты паверх, раптам перадумаў і не пакаціў у кватэру — ну як не пахваліцца такім набыткам? І спусціў яго ўніз, у двор. Ездзіў сам, ездзілі і сябры — па чарзе — да поўначы. Гойсалі б і даўжэй, ды мама пагнала спаць. Санька так знямогся, што зноў валачы велік на пяты паверх паленаваўся. Не доўга думаючы, скаціў сваю радасць па прыступках у сутарэнне: хай да раніцы адпачне. За дзвюма дзвярамі будзе цэлы — адны, уваходныя, абабіты бляхаю, а другія хоць і дашчаныя, але таксама моцныя, з вялікім замком.



Цэлую ноч Санька аб'язджаў новы, з пахам свежай фарбы і змазкі, велік. Прачнуўся — не цярпелася — на досвітку, ціхенька, каб не разбудзіць маму, узяў ключы і спусціўся ўніз. Але ключы не спатрэбіліся: уваходныя, абабітыя бляхаю дзверы былі сарваны з завесаў і валяліся на зямлі. А дзвярэй ад іхняга катушка наогул не было. Не было і навюткага чорна-серабрыстага «дарожніка». Пах свежай заводскай змазкі застаўся, а веліка — ані духу.

Санька не адразу й паверыў. Мільганула была думка: гэта сон, усё адбываецца ў сне, ён яшчэ не прачнуўся. Прачнецца — і велік будзе на месцы, і дзверы — таксама. Галоўнае — прачнуцца, прачнуцца... Ды пякла, смаліла агнём ява: нічога не будзе, дурань! Гэта не сон! Дзверы выламлены! Велік — прапаў! А доўг у мамы — застаўся. Яго мама будзе сплачваць па частках, як і дамовіліся, — каб не так моцна адбівалася на сямейнай касе.

Санька тады ці не ўпершыню гэтак бязлітасна і жорстка сутыкнуўся са злодзеямі. Папраўдзе, не з імі, а з вынікам іх подлага ўчынку. Ён быў прыгнечаны, раздушаны ўшчэнт. Слёзы самі сабой каціліся па шчоках.

«Не! — спрабаваў спыніць іх Санька. — Хай гэта не сон, хай. Тады — жарт. Нейчы злы і дурны жарт. Жартаўнік недзе ездзіць па двары і чакае, каб пасмяяцца з мяне: “Ну што, намачыў штаны? Ха-ха-ха!”» Ды ява вяртала да рэальнасці: «Жартаўнік? А выламаныя, сарваныя з завесаў дзверы? Гэта што — таксама жарт?»

Як вылез з сутарэння, Санька не помніў. Выбраўся, абвёў вачыма двор: а раптам? Веліка нідзе не было. Нікога не было. Двор яшчэ спаў: быў выходны, нядзеля.

Участковы міліцыянер, які наведаў іх пад вечар, быў надзіва спакойны. Санька і мама ажно абурыліся: веласіпед жа ўкралі, не гузік нейкі ці іншую дробязь! А міліцыянер супакоіў:

— Велік свіснулі? Ну і што? Іх кожны дзень крадуць. Сцерагчы трэба «колы», вока не спускаць... Сам вінаваты, хлопец, знайшоў дзе ставіць. — На развітанне параіў: — Пахадзі па дварах. На веласіпедзе — не на машыне, далёка не заедзеш.

Аднак Санькаў велік «заехаў», пэўна, далёка, бо так і не знайшоў ён свайго «дарожніка», хоць месяцы два старанна абыходзіў блізкія і далёкія двары.

Участковы сказаў: «Знойдзеце — званіце».

Навука пайшла на карысць. Ніколі ў жыцці ні гэтаму, ні іншым міліцыянерам Санька не званіў.



## 5. Пра выкрунтасы першага кахання

У няпоўных пятнаццаць трапіў Санька на турбазу «Юнацтва», пабудаваную на схіле сталага сацыялізму недалёка ад знакамітай пясчанай касы на возеры Нарач. Там і закахаўся ў найхарашэйшую ў лагеры дзяўчынку з дзівосным імем — Наташа. Закахаўся не па-дзіцячы, а па-сапраўднаму! І галоўнае — яна адказала ўзаемнасцю.

Яны былі на сёмым небе ад шчасця, баяліся разлучыцца нават на хвіліну. Варта было апынуцца ўдваіх у зацішку, як страчвалі галовы: ліплі адно да аднаго, абдымаліся, цалаваліся! Бегалі на спатканні ўначы, хоць і ведалі, чым гэта магло скончыцца. Але — дзіва! — праяўлялі незвычайную цвярозасць і асцярожнасць, ахоўваючы свае сустрэчы ад пільнага вока дзяжурных выхавацеляў. Нават суседзі па палатах не ведалі, што апоўначы Санька і Наташа блукаюць уздоўж берага, плаваюць, пракладваюць курс ад каўша Вялікай Мядзведзіцы да Палярнай зоркі і — летуценяць, летуценяць, летуценяць. Божа, пра што толькі яны не марылі! А найперш — каб хутчэй скончыць школу, стаць дарослымі, самастойнымі, згуляць вяселле і нарадзіць шмат-шмат дзяцей! Чым болей — тым лепей! Весялей! Хіба ж не так?

Як жа нясцерпна было чакаць, пакуль усе ў дамку паснуць! Роўнае ціхае дыханне суседзяў было сігналам да пад’ёму. Наташыны сяброўкі — дзяўчынкі ёсць дзяўчынкі! — засыналі хутка і дружна, і да намоўленага месца — старога паўразбуранага пірса ля касы — Наташа заўсёды прыходзіла раней за Саньку.

У першую ж начную сустрэчу там, ля пірса, Наташа нечакана скінула з сябе ўсё, нават купальнік, нейкі час глядзела праз Саньку, быццам не заўважаючы, што ён тут, а тады з разгону кінулася ў ваду! Самы час быў аслупянець. Урэшце Санька таксама, наўрад ці што разумеючы, пазбыўся майкі, плавак і — да яе.

З таго часу яны толькі так і рабілі: скідалі адзенне і акуналіся ў бяздонную начную прахалоду Нарачы. Якая цудоўная была Наташа ў месяцовым святле! Кроплі зіхацелі срэбрам на яе бронзавай ад загару, невыказна пяшчотнай і цёплай скуры, але скочвацца не спяшаліся...

Санька і Наташа плавалі, давалі нырца, ганяліся адно за адным, абдымаліся і йшлі на дно, разнімалі абдымкі і ўсплывалі.

Выходзілі з вады таксама паводле іх, з першага разу, завядзёнкі: Наташа крыху адставала, абхоплівала Саньку ззаду за плечы, і так, паравозікам, паволі, нага за нагу, яны брылі да берага. Выйшаўшы, падалі на халодную ад расы траву. Наташа гарнулася да Санькі, грэла, нібыта дзіця, сваім целам, шаптала: «Мой мілы хлопчык!» Салодка туманілася свядомасць ад гэтых п'янкіх слоў.

Рынуўшыся ў адзін з такіх туманоў, яны й адважыліся на самае-самае. Упершыню...

Санька не надта разумеў, як і чаму тое адбылося. Ён быццам аддаўся ў жаданы палон нейчае волі. У тым дзівосным спектаклі рэжысёрам, безумоўна, была Наташа, а Санька — самаахвярным і палкім актором. Яна падказвала, вучыла і ставіла перад Санькам задачы і звышзадачы, а ён, скароны ўладай яе чараў, самазабыўна лунаў у невядомых дасюль вышынях, уздымаючыся і падаючы да смяротна-салодкага замірання сэрца.



Яны былі проста шчаслівыя! У лагеры іх было толькі двое. Для Санькі і Наташы не існавала нікога і нічога. І яны забыліся, ды і наўрад ці ведалі, што там, дзе двое, заўсёды ёсць трэці — лёс.

Аднойчы, зайшоўшы далей, чым звычайна, Санька і Наташа выпадкова трапілі ў пастку, якая была расстаўлена зусім не для іх: рыбнагляд з міліцыяй наладзілі аблаву на браканьераў. Там быў і ўчастковы. Ён праявіў уладу — затрымаў «піянераў»: займаліся, маўляў, не тым, чым дазволена. Санька быў раздушаны яго грубасцю і пошлымі разважаннямі пра раннія палавыя кантакты. Урэшце Санька з Наташай апынуліся ў аддзяленні міліцыі, дзе і мусілі чакаць раніцы. Але ў Наташы ў бруднай бетоннай камеры з жалезнымі кратамі дзвярэй сталася істэрыка, і ад «малалетак» надумалі пазбавіцца. Праз гадзіну іх даставілі да вагончыка начальніка лагера. Той, паміргаўшы соннымі вачыма, адклаў разбор да раніцы і адправіў начных гуляк спаць. Праўда, перастрахаваўся: загадаў выставіць варту з важатых каля іх дамкоў.

Прысуд прачыталі на ранішняй лінейцы:

— За парушэнне рэжыму — знаходжанне па-за тэрыторыяй у начны час — адлічыць Наталлю К. з лагера і адправіць дадому найбліжэйшым аўтобусам.

«Адну?! — здзівіўся Санька. — А мяне? Мы ж былі разам! Я ж — мужчына! Гэта мяне першнаперш павінны пакараць!»

Ірвануўся са строю:

— Таварыш начальнік лагера! Дазвольце...

— Паслухай, Рамэа, — з нечаканай сілаю тузанула Саньку за руку старшая піянерважатая. —

У цябе сумленне ёсць? Забыўся, што твая маці прапанаваная на ордэн? Хочаш зняславіць перадавіка вытворчасці?

Маму ён няславіць не хацеў.

— Станавіся ў строй! — загадала злосна. — Пытанне вычарпана. — І дадала з’едліва: — От герой знайшоўся!

Наташу адправілі ў той самы дзень перад ціхай гадзінай пад пільным наглядам фізрука-культурыста. Яна сядзела ў кабіне старой палутаркі (на гэтай ламачыне, як называў яе кухар, у лагер прывозілі прадукты) і ціха плакала. Санька глядзеў на яе праз мутнае шкло і ледзь стрымліваўся, каб самому не расплакацца. Горкі камяк падкаціў да горла, калі машына кранулася з месца. «Усё, — падумаў, глытаючы ўзняты ёю пыл. — Жыццю майму — канец».

Да сканчэння змены заставалася яшчэ амаль два тыдні. Яны здаліся Саньку годам. У апошнія дні, як абуралася старшая піянерважатая, ён зусім адбіўся ад рук: знарок хадзіў за тэрыторыю лагера, заплываў за буйкі, не спаў у ціхую гадзіну. Начамі, схаваўшы пад падушку чорна-серабрысты «ВЭФ», па радыё «Бі-Бі-Сі» слухаў Севу Наўгародцава. Карацей, нарываўся на скандал. Але Саньку быццам не заўважалі. Відаць, дзеля мамы.

У дзень ад’езду ён першы ўварваўся ў адзін з аўтобусаў, што прыехалі забраць гэтую змену.

— Ранавата месца браніруеш! — падняў на Саньку вочы пажылы кіроўца. — Выезд па абедзе. Ваш начальнік абяцаў нас юшкаю накарміць.

«Якая там юшка! — Санька не знаходзіў месца ад абурэння. — Няўжо не бачыце, што не магу я больш трываць?! Наташа, мілая мая дзяўчынка, як ты там? Я так даўно не бачыў цябе! О, як я хачу цябе абняць!»



Здавалася, прайшла вечнасць, перш чым аўтобусы нарэшце рушылі.

Усе тры гадзіны дарогі Санька бачыў за акном Наташу: валасы, якія даставалі амаль да таліі, пяшчотныя падушачкі шчок, вялікія, заўсёды здзіўленыя блакітныя вочы, мяккія падатлівыя вусны.

«Наташа!» — кліча Санька.

Не чуе! Усміхаецца, бяжыць да вады. Нешта кажа, паказвае, тлумачыць.

Рэхам далятае нейчы смех. Чый?

Хлопцы і дзяўчаты раскатурхалі: прачніся, соня, прыехалі!

Высадзілі іх там, адкуль забіралі, — каля заводскага Дома культуры. Хоць прыбылі раней, не па графіку — кіроўцы неяк заўсёды выгадаюць час! — сустракала аўтобусы процьма людзей. Шум, смех, радасная гамана: малайчына, папраўіўся, загарэў, падрос!

Санькава мама не прыйшла. Яна загадзя паведаміла пра тое ў лісце: «У мяне ўвесь тыдзень — другая змена. Сам разумееш: лета, шмат хто ў адпачынку, замяніць няма каму. Кладу ў канверт талончык на транспарт і рубель на вінаград. Ключы — у цёткі Евы». Гаворка ішла пра суседку.

Іншым разам адсутнасць мамы засмуціла б Саньку: яны жылі душа ў душу, не мелі адно ад аднаго сакрэтаў і амаль не разлучаліся. Але цяпер ён быў нават рады, што мамы няма. Гэта яму якраз дарэчы: адразу ж, не марнуючы часу, паедзе да

Наташы. Дзякуй Богу, адрас раздабыў. Невядома чаму, з якіх такіх памкненняў, але старшая піянерважатая злітавалася і перапісала з атраднага журнала Наташыны арыенціры: «Вуліца Сонечная, дом 12, кватэра 7».

Зазірнуўшы яшчэ раз у пакамечаны лісток, хоць і ведаў адрас на памяць, Санька выскачыў з аўтобуса. Важкі чамаданчык (мама, збіраючы Саньку ў лагер, уціснула туды амаль увесь ягоны гардэроб) балюча біў па калене, але гэта нават падганяла — наперад, хутчэй!

Вось і Сонечная! Нумар дванаццаты на тым баку! Ёсць! Пад'езд, вядома, першы. Пераскокваў цераз тры прыступкі. Другі паверх. Кватэра сем! Прыехалі.

Светла-карычневая абіўка дзвярэй была падзелена залатымі плешкамі цвічкоў на роўныя ромбы. Прыгожа! Прыгожа і дарага. Гэта крыху астудзіла Саньку, прымусіла адвесці руку ад кнопкі званка. У тыя гады мала хто дазваляў сабе такую раскошу — абіваць дзверы. «А Наташка, відаць, з багатай сям'і! Хто бацькі? Не казала чамусьці. Можа, не варта турбаваць? Хто я такі, калі падумаць?»

Сумеўся, падняўся на паўпаверха. Прысеў на батарэю пад лесвічным акном. «Раптам яе мама адчыніць? Спытае, чаго мне трэба?» Ага, не падумаў пра гэта. А такое ж можа быць, што адчыніць маці. Ці бацька...

Але не сядзелася. «Ну і што, ну і няхай адчыніць мама. Чаго баяцца? Я ж не злодзей. Спытаюць, дык і адкажу: разам з вашай Наташай быў у лагеры, яна забылася хусцінку, а я прывёз, вось, калі ласка... Дый не такія ўжо, відаць, яе бацькі вялікія начальнікі, калі дачку з лагера выкінулі».



Пераканаў сябе. Спусціўся, пазваніў. За дзвярыма пачуліся крокі. Санька не вытрываў, крыху адступіў, напяўся...

Пстрыкнуў замок. Дзверы адчыніліся.

Наташа! І яшчэ прыгажэйшая, чым была! У доўгім яркім халаце — проста ўсходняя князёўна!

— Ты? Адкуль? — ступіла да Санькі. Пра нешта хацела спытаць яшчэ, але, нібыта апамятаўшыся, паспешліва прычыніла за сабою дзверы. Нарэшце пацікавілася: — Збег з лагера?

Хацелася пахваліцца: так, маўляў, збег — каб цябе хутчэй пабачыць! Але хлусіць не ўмеў. Сказаў як было:

— Збегчы не пасмеў: мог бы нашкодзіць маме. Проста змена скончылася. Я адразу з аўтобуса, во — з чамаданам, нават дадому не заходзіў. Вельмі сумаваў па табе. Думаў, памру, — не стрымаўся, ступіў да яе, замёр, чамусьці не адважваючыся абняць. Засаромеўся нечага?

— Усё з вамі ясненька, — злёгку адхілілася Наташа. — Мама для цябе заўсёды была самая-самая...

Унізе ў пад'езд нехта ўвайшоў. Дыхнула свежым паветрам. Скразняк расхінуў няшчыльна прычыненыя дзверы з выбітай жоўтымі цвічкамі лічбай «7».

— Кроха, што так доўга? Бяжы хутчэй да татачкі! Ён цябе яшчэ чаму навучыць... — у праёме паказаўся высокі станісты хлопец у будатрадаўскай форме.

Да Санькі не адразу дайшло, хто гэта і які такі татачка. Стаяў, глядзеў і лыпаў вачыма.

«Не сумавала... — адчуў, як пахаладзела ўсярэдзіне. — Здрадзіла...»

Хлопец убачыў Саньку. Хмыкнуў. Перавёў запытальны позірк на Наташу:

— Што гэта за дзіцячы садок?

— Эдзік, — тонкія Наташыны бровы незадаволена ўзляцелі ўгару, — не трэба! Гэта Санька. Мы з ім у адным лагеры адпачывалі...

— Ды ўжо ж бачу, што не ў рэстаране. Пэўна ж, у нармальныя месцы хлопца яшчэ не пускаюць?

— Эдзік, ну годзе табе! Санька хоць і невысокага росту, але вельмі добры і сумленны хлопчык.

«Хлопчык! — адбілася рэхам у галаве. — Добры і сумленны хлопчык!»

— А ты — несумленная! — гэтыя словы сарваліся з вуснаў самі. На той момант гэта былі самыя крыўдныя і самыя гнеўныя словы, якія маглі прыйсці Саньку ў галаву.

Ён выпаліў іх, павярнуўся і на злом галавы кінуўся ўніз. Целам расчыніў цяжкія дзверы пад'езда. Выкуліўся з ненавіснага дома нумар 12 па вуліцы Сонечнай. Імчаўся, не азіраючыся, не зважаючы, што чамадан моцна б'е па калене. Нічога не бачыў — бег, бег, бег. Уцякаў ад Наташы і ад усяго. Ад першага пацалунка, ад першых няспаных начэй, ад першых пакутаў сэрца.

Тады Санька не ведаў, што ад першага кахання нікому і ніколі не ўцячы!



## 6. Настаўніца ангельскай

Настаўніца ангельскай мовы Ася Іосіфаўна прыязджала ў школу на таксі. Заўсёды! На таксі вярталася і дадому. Грошы, якія яна траціла за праезд на работу і з работы, і яе зарплата былі прыблізна роўныя, але настаўніцу ангельскай гэта не надта турбавала. Яе муж, кандыдат навук і заслужаны вынаходнік СССР, працаваў калі не ў тры, дык у дзве змены дакладна, і Ася Іосіфаўна магла дазволіць сабе гэткую раскошу.

Перадвыпускны 9 «Б» яна прыняла прыблізна з такім запасам ведаў: лепшыя маглі палічыць па-ангельску да дваццаці і з акцэнтам на мяжы разумення сказаць, якая гадзіна і якую частку сушы займае *Soviet Union*, дзяржава рабочых і сялян, апора міру і дэмакратыі ва ўсім свеце (чаму менавіта гэтую тэму з пятага па восьмы клас убівае вучням у галаву тузін англічанак, што змяніліся за гэтыя гады, яны зразумелі якраз у дзявятым); горшыя — два другагоднікі, Дрыжд і Сцяпурка — не ведалі па-ангельску ні слова. Зрэшты, адно слова яны ўсё-такі ведалі, нават два — *fuck you*!

З гэтых бойкіх слоў і мусіла пачацца класнае жыццё Асі Іосіфаўны. Мусіла — ды не пачалося. Калі гэтая прыгожая жанчына, з шыкоўнаю фрызурай і элегантнай пастаццю, у крэмавым касцюме з серабрыстаю аблямоўкаю, зайшла ў клас, Саньку адразу ж падумалася: шкада харашухі! Месяцы два, можа, і пратрымаецца — маладая ж, энергічная, поўная сілаў.

Ася Іосіфаўна пратрымалася да выпускнога вечара, на што аніяк не спадзяваліся два зухі-другагоднікі. Англічанка ўзяла 9 «Б» хард-рокам. Такога ўдару пад дых ніхто не чакаў. Зайшла ў клас на першы свой

урок з невялічкім чамаданчыкам, чым вельмі ўсіх зацікавіла. Гэтым сваім чамаданчыкам яна і зблытала карты другагоднікам, якія рыхтавалі ёй сваю сустрэчу. Дрыжду — прыдурку, істоце без элементарных уяўленняў аб прыстойнасці, сумленнасці і гонары, які мог так «заазоніць» клас, што хоць уцякай, і боўдзілу з брудна-шэраю фізіяй і жоўтымі ад курэння зубамі і рукамі Сцяпурку — вялікаму аматару папрактыкаваць кулакі на малодшых і слабейшых і па-заечаму баязліваму перад дужэйшымі, што маглі абараніць сябе.

Сказаўшы звычайнае *Morning*, Ася Іосіфаўна паставіла на стол чамаданчык, адчыніла.

«Ды гэта ж прайгравальнік!»

Прапусціўшы міма вушэй здзіўленне класа, яна выняла з каляровага пакета з рэкламай элітнай джынсавай фірмы «One» альбом «Led Zeppelin» са знакамітай «Immigrant song» («Песняй эмігранта») і паставіла дыск на прайгравальнік. Пасля невялікай паўзы ў клас, нібы гром з маланкаю, уварваўся Плант і — застагнаў, загаласіў аб няшчаснай, бадзяжнай долі іншаземца, быццам схапіў клас за горла — усіх і адразу:

On we sweep with threshing oar,
Our only goal will be the western shore...[1]

Добра, што вучні 9 «Б» перакладу тады не ведалі. Ды не толькі яны. Бо нішто сабе мэта, ды яшчэ і запаветная!

Следам у «Friends» (у «Сябрах») не дала апамятацца Пэйджарава гітара. Прарвалася, улезла ў душу і давай яе вярэдзіць, ірваць на кавалкі:

[1] Пад стукат вёслаў мы імкнём да запаветнай мэты — берага Захаду (*англ.*).



Bright light almost blinding, black night still there shining,
I can't stop, keep on climbing, looking for... [1]

Непараўнальная і непераймальная «Since I've been loving you» («Таму, што кахаю»), якая стала класікаю блюза, увяла ўсіх у транс. Клас скамянеў, нібы прысуджаны да пакарання смерцю.

How I love you, darling...
Since I've been loving you, I'm about to lose my worried mind...
Said I've been crying, my tears they fell like rain,
Don't you hear, don't you hear them falling,
Don't you hear, don't you hear them falling?[2]

Дабілі ўсіх маркотная «Tangerine» («Мандарын»):

I was her love, she was my queen,
And now a thousand years between...[3] —

і завадная, вясёлая «Bron-Y-Aur Stomp» (і як яе перакласці?):

Well if the sun shines so bright, or on way it's darkest night
The road we choose is always right, so fine...[4]

[1] То слепіць яркае святло, то цемра моцна рэжа вочы,
Ды я спыніцца не магу, я ўсё ўзбіраюся й шукаю... (*англ.*)

[2] Ты не ведаеш, як я кахаю цябе, дарагая...
Каханне даводзіць мяне да вар'яцтва...
Я плачу, і слёзы мае капаюць, нібы кроплі дажджу.
Няўжо ты не чуеш гэты дождж?
Няўжо ты не чуеш гэты плач? (*англ.*)

[3] Я быў яе каралём, яна — маёй каралевай,
Але цяпер паміж намі — тысячагоддзі... (*англ.*)

[4] Яркае сонца ці апраметная цемра чакаюць нас у дарозе...
Але выбраны шлях — правільны... (*англ.*)

Усе былі агаломшаныя. Па-першае, «жыўцом», з кружэлкі, гук было не параўнаць з тым пашоргваннем і парыпваннем, якое ўдавалася вылавіць з прыёмніка, гатовага захлынуцца пад гул і выццё глушылак. Плант паўставаў перад вачыма як жывы. Стаяў і гіпнатызаваў, загадваў, рабіў з вучнямі ўсё, што хацеў. Сказаў бы ён: замрыце! — і ўсе замёрлі б, сказаў бы: памрыце! — і ўсе памёрлі б. Па-другое, так адкрыта — ды яшчэ ў школе! — слухаць забароненых лідэраў хард-рока «Led Zeppelin»! Здавалася, зараз уварвецца міліцыя, кадэбісты, салдаты — хто яшчэ? — і ўсіх арыштуюць. Усіх!

Калі скончылася кружэлка, клас з палёгкаю ўздыхнуў: можна было перавесці дух пасля такой нечаканай атакі. Ажылі, павесялелі і два «фальшчыкі»: хутка ўрок скончыцца, а яны новую настаўніцу нават на тры літары не паслалі. Так можна і аўтарытэт страціць.

Але ім не шэнціла і далей. Англічанка моўчкі раздала вучням аркушы з тэкстам шчымлівай «Since I've been loving you», растлумачыўшы, што гэта і ёсць іхняе хатняе заданне — вывучыць словы песні, — зачыніла сваю музычную шкатулку і пад крохкую цішыню выйшла з класа.

Дрыжд і Сцяпурка ачухаліся толькі тады, калі за настаўніцай плаўна зачыніліся дзверы. Скрывіўшы вусны, каб выдаць свой каментар на такі выбрык англічанкі, яны ўжо гатовыя былі адкрыць раты, ды тут у клас увайшоў дырэктар.

— Дзявяты «Б», прашу ўвагі. У якасці эксперыменту я дазволіў новай настаўніцы даць вам паслухаць, як ангельская мова гучыць у вуснах саміх ангельцаў. Але толькі што мне далажылі, што ў класе адбыўся ледзь не цэлы канцэрт чужой нам заходняй музыкі. Гэта праўда?



Усе маўчалі.

— Ды пайшла яна... — па-змяінаму, неяк у падлогу прашыпеў Дрыжд, але дырэктар пачуў яго. Пачуў і супакоіўся. Ён лічыў, што ў школьнікаў не можа быць сяброўскіх адносін з педагогамі. Гэта значыць, настаўнікі павінны трымацца на пэўнай дыстанцыі ад вучняў, нават наганяць на іх страх. Фразу, кінутую двоечнікам, ён зразумеў па-свойму: не спадабалася класу новая настаўніца — ну і хай. Настаўнік мусіць вучыць, а не падабацца.

Да наступнага ўрока ангельскай мовы клас падрыхтаваўся як мае быць. Ды і зададзены на дом хіт «Led Zeppelin» усе цяпер успрымалі па-іншаму. Мелодыя — добра, але калі ведаеш, пра што пяецца... «Since I've been loving you, I'm about to lose my worried mind...» Каханне даводзіць мяне да вар'яцтва... Гэта табе не жартачкі!

Толькі двое не вывучылі тэкст — Дрыжд і Сцяпурка. Але для іх гэта была не навіна. Незвычайным было іншае: другагоднікі не прыйшлі на заняткі. Пасаромеліся, ці што? Дасюль ім падабалася, не зважаючы на «двойкі» і «адзінкі», хадзіць у школу. У ёй яны адчувалі сябе каралямі, сяды-тады зрываючы сваю злосць на малодшых. А тут няйначай пабаяліся паказацца недарэкамі і дурнямі, спалохаліся задання маладой настаўніцы. Бо нават дваровыя, старэйшыя за іх хуліганы паважалі і сёе-тое ведалі з «Led Zeppelin».

І гэта сталася штуршком да перамен. Калі на наступным пасля ангельскай мовы ўроку Сцяпурка стукнуў кулаком у спіну выдатніка Валерку Крычалава, які сядзеў перад ім, той не адказаў

ударам на ўдар, але кінуў нязвыклае для сябе слоўца:

— Адвалі!

Яно нібы апякло ўсім вушы і прымусіла павярнуцца да таго, хто яго сказаў. Бамбіза Сцяпурка спачатку разгубіўся, ды, апомніўшыся, кінуўся біцца да ніжэйшага за яго на галаву Валеркі — каб абараніць свой падмочаны аўтарытэт. Але — дарма! Справа і злева ад Валеркі і ззаду за Сцяпуркам як па камандзе сталі іншыя хлопцы. Яшчэ двое не далі выбрацца з-за парты Дрыжду. Адзін супраць чатырох — у такіх варунках Сцяпурка здрэйфіў. Мала таго, неяк адразу звяў і пасля паўзы прамямліў не сваім голасам:

— Пусціце... паку-курыць...

Пусціце? Пакукурыць? Глядзі ты, новае слова прыдумаў! Ідзі! Атручвай органы. Дыхай ядам, грам якога каня забівае.

З таго часу і не стаў клас баяцца другагоднікаў. А неўзабаве і зусім пазбыўся іх.

А пачалося ўсё з Асі Іосіфаўны і рокераў з «Led Zeppelin». Нездарма, відаць, сталі яны класікамі пры жыцці.

Ды гэта яшчэ не канец гісторыі.

У красавіку 1975 года Ася Іосіфаўна збіралася ад'язджаць на зямлю запаветную. Але, нямала патраціўшы грошай за здадзеныя авіябілеты, яна ўсё ж засталася са сваім класам да канца чэрвеня — канца экзаменаў. А па апошнім экзамене выпускнікі накіраваліся да Асі Іосіфаўны дадому: яна пайшла трохі раней, пераканаўшыся, што ў класе ўсё о'кей.

Напярэдадні вучні склаліся, купілі добрага віна, цукерак, пернікаў, пакунак папяровак — любімых



яблыкаў Асі Іосіфаўны. Заўсёды вясёлая, кампанейская, яна таго вечару была ў нейкай прастрацыі, а пры развітанні расплакалася — слёзы так і цяклі па яе мілым твары. Потым Санька зразумеў, што гэта былі слёзы шчасця, слёзы радасці за сваіх выхаванцаў. Тады яны не на жарт размахнуліся: гаварылі між сабою і з Асяй Іосіфаўнай толькі на ангельскай.

Калі на развітанне загучала пранізлівая «Since I've been loving you», Санька, ужо трохі захмялеўшы ад малдаўскага «Вішнёвага», асмеліўся запрасіць любімую настаўніцу на танец. П'янкі пах яе парфумы, блізкасць прыгожага і добрага твару, адчуванне праз вопратку яе пышных грудзей ледзь не закружылі яму галавы. На шчасце, мелодыя скончылася, і ён не паспеў пацалаваць настаўніцу, на што ўжо быў адважыўся.

Муж Асі Іосіфаўны, усмешлівы, рухавы і добры, з класічнаю, як у большай частцы вынаходнікаў, капою чорных валасоў, на развітанне паляпаў Саньку па плячы і сказаў:

— Спраўны ты хлопец, аж занадта, далёка пойдзеш. — І дадаў, бы ўдакладніў: — Калі будзеш асцярожны.

Наконт «далёка» вынаходнік стаўся празорцам. А наконт усяго астатняга...

Праз шмат гадоў ангельская мова, вызубраная пад прыглядам Асі Іосіфаўны, выратавала Саньку жыццё ў далёкіх Арабскіх Эміратах. Бездапаможна распластаны на гарачым, як патэльня, асфальце, што пад пякучым сонцам страціў свой колер, Санька ўжо адчуў кашчавую руку, якая спрабавала загрэбці яго. Адчуў, але паспеў прашаптаць старому няголенаму арабу, які схіліўся над ім:

— Help me... Heart... Tablets from in a breast pocket...[1]

Праз тры тыдні, толькі-толькі вырваўшыся з бальніцы, а разам і з учэпістых рук Яе Вялікасці смерці, Санька зайшоў у цэнтральную мячэць Дубаяў і аддаў належнае здароўю рабы Божай Асі Іосіфаўны Шчаглячык, сваёй настаўніцы, свайго кахання і выратавальніцы. У арабскай мячэці ён жадаў шчасця і доўгіх гадоў жыцця габрэйскай красуні.

Санька не ведаў, што тая, з кашчавай рукою, якая ўжо спрабавала дакрануцца да яго, зноў глянула ў ягоны бок.

## 7. Закон Ома

— Не знаеш закона Ома — сядзі дома! Помніш прымаўку?

Выкладчык, які прымаў у Санькі экзамен, відаць, належаў да аматараў пацешыцца з чужых пакутаў — да такіх добрай душы суб'ектаў, што яшчэ дзецьмі бедных коцікаў з балконаў скідалі. Ён ажно аблізаўся, уяўляючы, як хуценька будзе праглынуты-з'едзены яшчэ адзін абітурыент. І глядзеў на яго, як удаў на трусіка.

Але не заўжды як на дзяды, гаворыць народная прымаўка. Санька знарок не адказаў пісьмова на другое пытанне білета. Прынадку паставіў, хатнюю хітрынку ў ход пусціў. Бо гэта ж закон Ома, а папраўдзе — Закон Жыцця. Сіла проста прапарцыянальная напружанню і адваротна прапарцыянальная супраціўленню. Так яно і напраўду...

[1] Дапамажыце... Сэрца... Таблеткі ў нагруднай кішэні... (*англ.*)



— Помню! — не даў Санька лішне нацешыцца свайму кату. — Толькі ўдакладніце, калі ласка: маецца на ўвазе для ўсяго ланцуга ці для яго часткі?

Глядзеў на выкладчыка як мага весялей. Ты мне — я табе, — так бы мовіць, усмешка за ўсмешку. Той на момант застыў, нібы яго здымалі на картачку, але праз секунду ажыў, заварушыўся. Спрактыкаваны быў інквізітар, са стажам.

— Што, весела? Жартаўнік? На пытанне пытаннем адказваеш? Зараз і я пажартую. Прабяжымся, даражэнькі, па ўсім курсе фізікі. З шостага па дзясяты клас. Як табе, дасціпненькі, такая сустрэчная прапанова?

— Цікавая, але не сказаць каб нечаканая, — выкруціўся Санька. — Ад Паскаля да Эйнштэйна, кажаце? Ад узаемна спалучаных сасудаў і механікі Ньютана да радыё Папова і не толькі — і тэорыі адноснасці? Большая хуткасць — меншая маса, а пры хуткасці святла маса ўжо фактычна і не маса, а так... Праўда, тэорыя гэтая не зусім каб Эйнштэйнава, здаецца, Гук у сваіх лістах...

— Ах, дык ты, выходзіць, яшчэ і ўсявед! — усміхнуўся выкладчык. — Фізік-лірык-гумарыст! Добра, пераканаў, не буду траціць часу, пастаўлю табе «чатыры», няхай сабе, лічы, пашэнціла, дый трэба ісці рыхтавацца да наступнага экзамену. Ідзі і ты, адпачывай. Што? Не згодзен? Хочаш пазмагацца, выпрабаваць лёс? Рызыкнуць?

— Рызыка вымушаная: тупіковая сітуацыя, — уздыхнуў Санька. — Калі атрымаю «добра», то ў выніку набяру: «чатыры» за сачыненне плюс дзве «пяцёркі» — вусны і пісьмовы экзамены па матэматыцы, ды плюс ваша «чацвёрка» за фі-

зіку — усяго васемнаццаць, а гэта, амаль пэўна, непраходны бал. Будзем змагацца...

— Значыць, надумаў рызыкнуць? — здзіўлена павёў вачыма выкладчык. — Пан ці прапаў? Глядзі, не спудлуй, пакуль маеш шанец і без бою ўзяць вышыню. І добры, скажу табе, шанец — васемнаццаць балаў. Сярэдняя ацэнка — «чатыры з паловай», калі акругліць — будзе «пяць». Толькі трэба трохі пачакаць.

— А вось чакаць я не магу і не ўмею, — амаль перапыніў дабрадзея Санька. — Ненавіджу чакаць! Баюся звар'яцець. Цяпер або ніколі, усё або нічога, прабачце за высокія словы. А не здам — значыць, не наканавана, не лёс. Але ж буду спадзявацца на лепшае...

І Санька прыняў бой: адказваў, адказваў, адказваў. У нейкі момант яму нават захацелася пахваліць свайго візаві. Санька толькі-толькі пачне адказваць, як той, схопліваючы ўсё з паўслова, задае наступнае пытанне, потым яшчэ і яшчэ... І ўрэшце не вытрываў, здаўся. Пахваліў Саньку. Сярдзіты следчы ператварыўся ў добрага і спагадлівага адваката, калі так можна сказаць пра аматара скідаць мурлыкаў з балконаў.

— Дарма ты кінуўся гуляць у рызыкоўныя гульні. Васемнаццаць балаў уга як хапіла б. Яшчэ перад экзаменам я атрымаў з прыёмнай камісіі інфармацыю: сярэдняга «чатыры з паловай» сёлета цалкам стае — во! — зрабіў выкладчык характэрны жэст рукою ля горла. — Бачыш, не толькі ты, але і я не спаў у шапку.

«Вось і рызыкаваў, каб не залежаць ад таго, спіш ты ці не спіш, — усміхнуўся Санька. — Каб не залежаць», — паўтарыў, як заклінанне, сам сабе.



## 8. Настаўнік фізікі

Два бамжы счапіліся насмерць, люта мясілі адзін аднаго. Пераможца (ці той, хто застанецца жывы) рабіўся адзінаўладным гаспадаром смеццевага бака на тэрыторыі дарагой аўтастаянкі ў цэнтры горада.

Санька ведаў абодвух.

Высакаваты, у шэрым, досыць паношаным касцюме, у светлай, некалі белай кашулі, пры гальштуку няпэўнага колеру — былы настаўнік фізікі, удавец, пенсіянер. На пенсію яго выпхнулі. Новая дырэктарка, прысланая з гарана для ўмацавання кадраў, вырашыла, што стары занадта мяккацелы для сучаснай школы. За апошнія гады настаўнік і праўда не паставіў ніводнай «двойкі». Лічыў: хто хоча ведаць фізіку, той і пасля «тройкі» задумаецца. Каму ж фізіка да лямпачкі, таго і «адзінкаю» не напалохаеш. Не выратавала настаўніка нават тое, што для многіх пакаленняў вучняў ён быў прыкладам сумленнасці і прыстойнасці.

Пазбаўлены любімай работы, якой прысвяціў усё жыццё, ён першым часам не выходзіў з дому. «Як глядзець дзецям у вочы? — задаваў сабе ўсё тое самае пытанне. — Выхоўваў, казаў: трэба імкнуцца вучыцца і жыць па-ленінску, і дагаварыўся — выгналі, як сабаку». Паціху настаўнік прызвычаіўся тапіць тугу і перажыванні ў горкай. Піў спачатку пакрысе, але з кожным днём арганізм патрабаваў спіртнога ўсё болей, што і давяло былога куміра дзяцей да жабрацтва. А пасля ён страціў і дах над галавою: падчарка не захацела жыць з «дармаедам» і літаральна выштурхнула яго за дзверы. Судзіцца? Не ўжо, выбачайце, — пайшоў бамжаваць.

Другі прэтэндэнт на права калупацца ў «прэстыжным» сметніку заявіўся сюды быццам з супраціўнага лагера. Усё жыццё (з невялікімі і рэдкімі перапынкамі) ён праседзеў у турмах, «косячы», як сам хваліўся, пад дурня (можа, таму і выжыў). І хоць быў зэкам са стажам (асабліва небяспечны рэцыдывіст, як ні кажы) і пакінуў след амаль на ўсіх зонах былога Саюза, на ролю рэкеціра, бандыта, верхавода злачыннай групоўкі не цягнуў: аслабеў целам і розумам. Не навучаны працаваць, жабраваў.

Цяпер ён біўся за тое, каб не бадзяцца па горадзе ў шуканні ежы, не красці з чужых памыйніц (што заўсёды небяспечна), а мець сваю, да таго ж сытную і недалёка ад сутарэння, у якім начаваў.

Зэку ўдалося падгрэбці праціўніка пад сябе і схапіць за горла. Але забіваць ён не збіраўся: усё ж бамжаваць — не парыцца на зоне. Трушчыў у пальцах кадык настаўніка і хрыпеў: «Сыдзі, падла, гэта маё, сыдзі».

Той маўчаў. Толькі вочы гарэлі, крычалі, як у яго баліць душа.

Санька не вытрымаў, падбег, адапхнуў крымінальніка:

— Пайшоў прэч, падонак!

Зэк кінуў на яго спадылба злы позірк, але біцца не палез, адступіў, павярнуўся да настаўніка:

— Нічога, інтэлігент, нічога. Не кожны дзень за цябе заступацца будуць. Неяк аднаго падпільную! Гарнітурчык і фэйс так адпрасую...

Ён прабубнеў нешта яшчэ і знік.

Да болю ў сэрцы Санька шкадаваў настаўніка, але, успомніўшы, як не любіў той спачування, зрабіў выгляд, быццам не пазнаў яго:

— Пацярпіце крыху, збегаю выклічу «хуткую».



— Не варта турбавацца, малады чалавек, усё нармальна, — перапыніў настаўнік, выціраючы насоўкаю кроў з твару. — «Хуткая дапамога», пасля міліцыя... Не хачу звязвацца з гэтай публікай. Ідзіце, прашу вас, калі ласка, а то, чаго добрага, і вас заадно...

Яго «калі ласка» нагадала выпускны экзамен па фізіцы. Тады настаўнік убачыў, што Санька запнуўся, гатовы паплысці, і супакоіў: «Не хвалюйся, збярыся, калі ласка, з думкамі, вазьмі сябе ў рукі. Ты ж ведаеш закон Шарля Кулона, сто разоў выводзіў...» І Санька ўспомніў, дакладней, сфармуляваў той закон адразу, у памяці.

Санька не стаў пярэчыць настаўніку, упрошваць прыняць дапамогу. Пагляд настаўніка прымусіў яго апусціць вочы. «Мы ва ўсім вінаватыя, мы! — дакараў Санька сябе. — Заслужаны настаўнік — бомж, і ўсе маўчаць! Мая хата з краю. Нешта трэба мяняць, развязваць гэты гордзіеў вузел».

— Ідзіце, ідзіце, не хвалюйцеся, — быццам прачытаўшы Санькавы думкі, падштурхнуў яго настаўнік.

Санька адышоў, але ў машыну сядаць не спяшаўся. Стаяў, чакаў: раптам вернецца зэк. Але той не паявіўся...

Калі позна ўвечары пакідаў машыну на стаянцы, ні настаўніка, ні зэка паблізу не было.

Раніцай патэлефанаваў галоўны рэдактар і нагадаў: «Рукапіс трэба здаць максімум праз два тыдні, інакш — вылеціце з плана».

Выйсця не было, і Санька ўзяў адпачынак: трэба нарэшце дапісаць пачатую некалі аповесць, што завяршала кнігу.

Праз два тыдні рукапіс быў гатовы. Можна везці. Дый машына зачакалася на стаянцы.

— Нешта даўно вас не было відаць, — сустрэў Саньку вартаўнік. — Усё пішаце, як той казаў, ствараеце? А ў нас тут іншыя справы ствараюцца. Мянты другі тыдзень шастаюць, спакою не даюць. Бамжа нашага помніце? Таго дзівака, што ў касцюме і пры гальштуку хадзіў, быццам прафесар? Ведалі яго? Дык вось, забілі старога! І ўяўляеце хто? Следчы казаў, што нават ён быў уражаны: праламаў бамжу галаву былы аднакласнік. Не дацягнуўшы да восьмага, кінуў вучобу, пасля ўсё жыццё правёў у турмах і лагерах. І вось сустрэча аднакласнікаў праз пяцьдзесят гадоў. Са спатканнейкам вас, як кажуць. А што гэта вы так збялелі? Бамжа ж забілі, не каго там...

# ЗМЕСТ

## Непамяркоўныя

